## *ЗМЕСТ*


3 **Васіль ТКАЧОЎ. Мы.** Жыццёвінкі.

15 **Алег САЛТУК. ***Дзверы ў хаціне рыпяць… ***Свой у любога з нас Хрыстос… ***Пагаслі ў вёсцы даўно агні… Купалле. Печка. Сон. Табе. Сяброўкі. ***Салодкі смутак ахіне… Мы.** Вершы.

20 **Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ. Ліхалецце. Раман.** Працяг.

84 **Віктар ГАРДЗЕЙ. Легенды.**

92 **Юлія ЗАРЭЦКАЯ. Свет не без добрых людзей…** Апавяданне.

101 **Міхаіл ЛЕРМАНТАЎ. Ліцвінка.** Аповесць. Пераклад з рускай Уладзіміра Скарынкіна.

114 **Уладзімір ЛІПСКІ. Сонца над галавой. Лісты да ўнука.** Працяг.

132 **Тамара НУЖДЗІНА. Споведзь сэрца, споведзь веку.**

143 **Пятро МАЛЯЎКА. Творчая індывідуальнасць паэта.**

150 **Зінаіда ДРАЗДОВА. «Літаратура патрэбна чалавеку заўсёды».**

165 **Васіль СТАРЫЧОНАК. «О родная зямля! Ты — кніга вечнага жыцця».**

181 **Алесь ЯФІМАЎ. Маляўнічы куток Паазер’я.**





ЗАСНАВАЛЬНІКІ — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб’яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Літаратура і Мастацтва»



**Васіль ТКАЧОЎ**

# МЫ

*Жыццёвінкі*

## 1

Яна мала жыла адна, калі не браць у разлік кароткі прамежак часу перад тым, як з'явіўся ў хаце новы муж. Муж — гэта, відаць, гучна сказана. Дакладней — мужчына, у якога альбо памерла жонка, альбо, калі і была, дык выганяла прэч: чым з такім, абібокам, жыць, лепш як-небудзь адной. Яна падбірала, не грэбавала «абібокамі», а іхнім жонкам, кажуць, у такіх выпадках казала дзякуй і абяцала абавязкова іх перавыхаваць. «На маіх працэдурах усе лечацца», — гаварыла яна не без гонару землякам. Тыя ведалі, няго ж: тры агароды мае баба, поўны двор жыўнасці, там не залянуешся. І яшчэ цікава было землякам: навошта ёй, адзінокай, такая вялікая гаспадарка?

На маёй памяці такіх мужчын у яе было пяцёра. Апошні, Косцік, ніколі не браўся шлюбам раней, жыў з маці, быў бабылём да сівых валасоў, а як тая памерла — яго і падабрала яна. Косцік адзіны яе прыёмны мужчына, якога яна сама папрасіла, каб вярнуўся ў сваю стылую хату: тыя ж першыя пайшлі з жыцця самі. Выгнаць Косціка была на гэта прычына — бандыт, украў ажно пятнаццаць тысяч рублёў, а такое беспакарана ў яе не праходзіла. «Хочаш выпіць, дык у чым справа? Ці ж я не частую, ці ж не кармлю? Але красці — божа ўратуй!..»

Яна і сапраўды добра карміла і не шкадавала ім, мужчынам, віна. Чым, канешне ж, і трымала іх каля сябе. Мёртва трымала. А найбольш доўга жыў з ёй прымак з Расіі Лявонцій. Калі ён прыбіўся да яе, яна жыла ў старэнькай, нібы на курынай ножцы, хатцы, а чалавек стрэўся ёй з залатымі рукамі, мог і цяслярыць, і сталярыць. Ён і паставіў неўзабаве на агародзе новы, як звон, дом. Зрабіў прыгожыя аканіцы. Заасфальтаваў двор. Адным словам, жыві ды радуйся. Аднак мелася ў чалавека сур'ёзная загана — як перабярэ гарэлкі,

---

*__Ткачоў Васіль Юр'евіч__ нарадзіўся 1 студзеня 1948 года ў вёсцы Гута Рагачоўскага раёна. Скончыў факультэт журналістыкі Львоўскага вышэйшага ваеннапалітычнага вучылішча (1973), працаваў журналістам, доўгі час з'яўляўся старшынёй Гомельскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў.*

*Аўтар кніг прозы для дзяцей і дарослых «Хітры Данік» (1975), «Партрэт салдата» (1984), «Дзень у горадзе» (1985), «Мой рай зямны» (1997), «Непаразуменні» (1997), «Пахвалі пражыты дзень» (1988), «Тратнік» (2002), «Нехта ходзіць за акном» (2002), «Незвычайны дыктант» (2004), «Снукер» (2009) і многіх іншых. Вядомы і як драматург. Па яго п'есах у тэатрах, на радыё і тэлебачанні створаны шэраг спектакляў.*

тады ўцякай з хаты. Што яна і рабіла. Ратавалася ж не заўсёды — кулакі прымаковы даганялі яе ўсюды. Колькі можна было цярпець? А прагнаць як прагоніш: хату ж ён зрабіў, не падступішся — прычына, як не лічы, важная. Так і жыла яна, пакутніца. Ды і заступіцца за яе не было каму: сама ж бяздзетная, а пляменнікі, якія жывуць у горадзе ды ў суседнім сяле, прыязджалі толькі на свежыну ды па гародніну, а ў такія хвіліны прымак быў — сама светласць. Неўзабаве Лявонцій пачаў кволіцца на здароўе, а затым і сканаў. Кажуць, быццам, хварэючы, прасіў крычма: «Ратуй, жонка! Лепшых дактароў наймай! Не шкадуй грошай! Чуеш?» Яна чула, не глухая, а сама, вядома ж, прасіла Бога, каб хутчэй той пазбавіў яе ад такога праклятушчага жыцця. Гэта пазней сусед раскажа, як прымак рашыў пачаставаць яго вінам, запрасіў у хату. А яна, убачыўшы ў суседа поўную, да краёў, шклянку, выбіла яе з рукі. Не, яна не прызналася вяскоўцам, што падлівала ў віно саляную кіслату… Па кроплях… Каб нічога не зразумеў… Але людзі не былі б людзьмі, каб не здагадаліся пра гэта. Яны яшчэ тыя следчыя, людзі. Адны асуджалі яе, іншыя, наадварот, хвалілі: так яму, вырадку, і трэба.

Нядаўна яе не стала. Без Косціка пражыла яна месяц. Пляменнікі пахавалі цётку па ўсіх правілах. Справілі памінкі. А потым дзве ночы ў хаце гарэла святло — сваякі шукалі грошы. Знайшлі, прызналіся, дваццаць адзін мільён. Падзялілі. Надзвычай хутка прадалі жыўнасць і хату. А Косцік, праходзячы міма знаёмага двара, успамінае, як сытна было яму ў гэтай цёткі… «І навошта браў тыя грошы? Жыў жа як пры камунізме…»

## 2

На імянінах было весела, па-хатняму ўтульна. Яна, віноўніца ўрачыстасці, сядзела на куце, пад абразамі, прыгожая і такая абаяльная, што мала б хто сказаў, што сёння ёй споўнілася столькі год. Віншаванні сыпаліся на кабету з усіх бакоў, людзі хвалілі жанчыну за гасціннасць, дабрыню і вернасць мужу. Хто-хто, а яны ўсё бачаць, усё ведаюць. Яе мужу было прыемна слухаць такія словы пра жонку, і ён вяртаўся назад, у далёкае мінулае…

Было гэта напачатку шасцідзясятых гадоў дваццатага стагоддзя калі ён вучыўся ў Маскве на апошнім курсе ў інстытуце. Вось там упершыню і сустрэў яе, кволенькую, з пасмачкай русявых валасоў, што звісала раз-пораз на лоб, і яна тут жа папраўляла яе тонкімі пальчыкамі, не зводзячы з яго дапытлівага, па-дзявочы пранізлівага і наіўнага позірку. Яны сустрэліся ўсяго некалькі разоў, і яму пара было ў Беларусь, а потом па размеркаванні ў горад Петрапаўлаўск Казахскай ССР. Здавалася б, разбегліся сцежкі-дарожкі. А не. Яна ведала толькі горад, куды паехаў чалавек, у якога закахалася з першага позірку. Так сталася, што яна нават не запісала яго адрас… А дзявочае сэрца прагла кахання. І яна адважылася на пошук свайго любага. Не збегла з дому, як гэта нярэдка бывае сёння, а сказала бацькам, што едзе ў Петрапаўлаўск да каханага. Каб не трывожыліся. Каб не шукалі. Канешне ж, бацькі спярша заўпарціліся, паднялі крык-гвалт, а потом зразумелі яе, дачку, далі дазвол. «Едзь. Што з табой паробіш? Толькі звані, як і што», — папрасілі яны.

Сёння яна і сама здзіўляецца такому свайму кроку — трэба ж было адважыцца паехаць у белы свет. У кішэні ні адраса, ні прадпрыемства, на якім будзе працаваць каханы. Ды і наогул, ці паехаў ён па размеркаванні, можа, махнуў на ўсё рукой і застаўся дома? Усялякае ж магло быць.

Думаў, відаць, пра яе і ён, бо як магло так атрымацца, што ўвечар выглянуў з акна на двор, на якім шалёна гуляла завіруха, і ўбачыў дзяўчыну, падобную

на яе… яна тупацела боцікамі, захінуўшыся ад сіверу рукавом: сагравалася. Адразу мільганула думка: «Яна?! Не, не, адкуль яна можа тут узяцца? Ці не прымроілася мне?» І ён выпырхнуў, у чым быў, з інтэрната на двор… То была яна! Дзівосы ды і толькі. Пазней ён прызнаўся: вельмі таксама шкадаваў, што не ўзяў тады яе адрас. А на пытанне, як ты мяне знайшла, яна тады пакруціла галавой, прызналася: «Я і сама не ведаю».

Там жа, у Петрапаўлаўску, у іх нарадзілася двое дзяцей. Пазней вярнуліся ў Беларусь, пабудавалі дом, абзавяліся і трэцім дзіцём, а як жывуць — пра тое ўсе, хто не ведаў, мог пачуць на імянінах.

Яе, дарэчы, муж пяшчотна, ласкава называе іншы раз: «Масквічка мая». Толькі, прызнаўся мне неяк, ніводнага разу не папытаў у жонкі, ці сумуе па белакаменнай? Усё збіраецца зрабіць гэта, аднак яна пакуль не дае падстаў: увесь час вясёлая, радасная… Таму яно і так усё зразумела.

**3**

Звычайна вясною і восенню яна стаяла каля ўваходу ў прыгарадныя касы чыгуначнага вакзала і прапаноўвала дачнікам саджанцы пладовых дрэў. Там я і сустрэў яе. Але падышоў, каб павітацца, не адразу — не хапала духу: ведаў, якія высокія пасады займала раней, то як адрэагуе, калі застану яе за вось такім заняткам? Ці варта лезці на вочы? Усё ж аднойчы набраўся смеласці. Яна, убачыўшы мяне, і сапраўды адразу ўся запунсавелася, крыху нават разгубілася, адчула сябе няёмка… Ёй у той момант, падалося мне, перашкаджалі саджанцы, яна не ведала, куды іх падзець. Замітусілася, паглядала то на мяне, то на дрэўцы. Трэба ж так сустрэцца! Я заўважыў гэта і пастараўся суцешыць яе, а калі адыходзіў, набыў для сваёй дачы саджанцы яблыні і грушы.

Яна — мая аднакласніца, высокая, прыгожая. Вучылася добра, школу закончыла без троек, а ў інстытут народнай гаспадаркі не паступіла. На другі год пабаялася ісці туды зноў, паехала ў Горкі, паспяхова здала ўступныя экзамены ў акадэмію, скончыла яе, атрымала размеркаванне ў мой абласны горад. Сустракаліся мы рэдка, хоць і жылі паблізу. Неяк не атрымоўвалася.

Прыехаўшы на дачу, я адразу ж пасадзіў саджанцы, што набыў у аднакласніцы. Тады ж і пашкадаваў, што забыўся сказаць ёй самыя галоўныя словы, якія трэба было сказаць: «Сёння ты, як і раней, да выхаду на пенсію, робіш не менш карысную справу — дапамагаеш людзям ствараць прыгажосць вакол сябе. Не саромся гэтага, мая аднакласніца. Будзь вышэй над абставінамі».

Скажу абавязкова.

**4**

У гэтым раённым цэнтры яна з'явілася адразу пасля аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Быў спякотны месяц чэрвень, і яе прывёз сюды на «ЗІЛе» выпадковы стрэчны мажны і прыгожы хлапчына. Хлапчына той працаваў ад цямна да цямна, а яна чакала яго ў гасцінічным нумары, а потым яны кахаліся амаль усю ноч. (І калі толькі той адпачываў?) А потым яна шафёру здрадзіла, пакахала мужчыну больш лёгкай прафесіі, які амаль увесь час таксама, як і яна, праводзіў у гасцінічным нумары, быў суседам: нешта друкаваў на машынцы, а затым насіў паперы на пошту і адпраўляў іх па адным толькі яму вядомым адрасе. Шафёр, мабыць, падумаў, што яна збегла ад яго, а таго не ведаў, што дзяўчына кахаецца з іншым за сценкай. Потым і той пісар, і шафёр з'ехалі, а

яна працягвала жыць у гасцініцы. Спадабалася. Пра гэта ведалі ў адміністрацыі, аднак нічога ёй не казалі: было не да яе, дзяўчыны. А яна пераходзіла з рук у рукі, яе кармілі і паілі, магчыма, і апраналі.

Так жыла яна ў гэтым гарадку амаль паўгода. Па якой прычыне яна з'ехала, ніхто не ведаў. Магчыма, сама зразумела, што прымільгалася тут усім, трэба змяніць, не інакш, месца працы.

Пра яе мне расказала работніца той самай гасцініцы, дзе жыла яна. І, абураючыся, паказала газету, у якой паведамлялася, што яна згубіла пасведчанне ліквідатара аварыі на Чарнобыльскай АЭС і таму прасіла лічыць яго несапраўдным…

## 5

Напярэдадні ёй сказалі, каб заўтра далёка ад хаты не адыходзіла, прыедуць карэспандэнты і будуць распытваць пра жыццё. Яна здзівілася: а чаму адна я, вунь і мае равесніцы, Мар'я ды Ганна, ого як могуць сказаць, яшчэ лепш! За словам у кішэню не палезуць. На гэта ёй адказалі, што нічога не ведаюць, прасілі з раёна папярэдзіць толькі адну цябе. «А пра што ж пытаць будуць?» — карцела спытаць старой, на што яна таксама не атрымала пэўнага адказу. А сама падумала: «Так ужо і не ведаюць. Ведаюць, а сказаць не хочуць. Можа, кепскае што, дык не хочуць хваляваць…»

Не спалася. Яна перабрала ўсё сваё жыццё: што б магло зацікавіць іх, карэспандэнтаў? Можа, што не так зрабіла дзе? Дык не ж, здаецца, увесь час жыла па законах сумлення, нікому не чыніла шкоды. А можа, дзе і праштрафілася? Хіба ўсё ацэніш, хіба ўсё ўспомніш? Хаця — пачакайце! У вайну кватараваў у іх нямецкі афіцэр, то, можа, за гэта? І сёння, бывае, жартуюць землякі, калі вёску залівае дождж альбо часта надараюцца навальніцы: гэта таму, што яна брала за немца кватплату, вось і помсціць той. А мо і сапраўды немец рашыў пацікавіцца, як жыве яна, чым займаецца?.. Немец быў акуратны, спагадлівы і чуллівы: калі яе малодшы брацік раскруціў «цацку», якую прыняў за ручку, і параніўся, то ён адразу ж адвёз яго ў бальніцу, дзе хлопчыку зрабілі нямецкія ўрачы аперацыю і выратавалі руку.

Прыгадвалася шмат што. За яблыні, якія ссек яе муж, калі не было чым плаціць падаткаў, а трэба было за кожнае дрэва хоць душу аддаваць, не павінны ўспомніць. За даўнасцю. Ды і мужа няма — на кладах стары, хоць яна тады і павісла ў яго на занесенай з сякерай руцэ: «Не кратай яблыні, як-небудзь выкруцімся». Не паслухаўся. Мужык у яе быў з характарам, не піў і не курыў, а не стала чалавека — рана прывязалася да яго немач.

Дзеці, можа, што кепскае зрабілі? Дык не, не павінны, яны самастойныя людзі. Дачка ў Мінску жыве, сын — у Гомелі. Звалі яе да сябе, але яна не асмелілася пакідаць наседжанае гняздо. Хоць і нявыкрутна бывае іншы раз — старасць цётка кепская, асабліва вачам рады не даць. Яна так і задумала сказаць карэспандэнтам: «А як жывецца? Вочы зусім не бачаць. Хаджу бліжэй да сцяны, да паркана… Вобмацкам».

Карэспандэнты, хлопец і дзяўчына, былі з тэлекамерай, а з імі і старшыня сельсавета. Яны і сапраўды пацікавіліся пра жыццё. Яна разгубілася і забылася сказаць пра вочы. Яна толькі помніць, што ёй прынеслі пісьмо ад старэйшага брата, які не вярнуўся з вайны. Сказалі, гэтае пісьмо брат адправіў ажно ў тысяча дзевяцьсот сорак першым годзе, аднак усю карэспандэнцыю тады захапілі немцы і тая знаходзілася доўгі час у музеі ў Аўстрыі, і вось цяпер рашылі аўстрыйцы вярнуць пісьмы іх адрасатам. Больш блізкай радні,

чым яна, у раёне не было, і пісьмо вырашылі ўручыць ёй. Яна ўзяла тое пісьмо, рукі трэсліся, баялася, каб не ўпусціць яго, і забылася нават падзякаваць. Толькі папрасіла, каб прачыталі, што ён, брат, там напісаў…

Сярод тых, каму перадаваў франтавое прывітанне брат, было і яе імя…

## 6

Ён рана застаўся без бацькі, а маці, на руках у якой было яшчэ двое дзяцей малодшага школьнага ўзросту, працавала ў харчовай краме, месцам сваім даражыла, таму дзеці жылі самапасам. У той час пасада прадаўшчыцы лічылася прэстыжнай — халадзільнік быў забіты самымі дэфіцытнымі прадуктамі харчавання. І ўсё б нічога, але самы маленькі пачаў адбівацца ад рук, перастаў слухацца не толькі маці, але і старэйшых сястрычку і браціка. Тыя знаходзілі ў яго папяросы і запалкі, а нярэдка заўважалі, што хлопчык прыходзіць дадому надта вясёлы і тады сядзіць за сталом і марыць пра сваё будучае. Абяцаў нават — а чаму, і не зразумела — паступіць у політэхнічны інстытут. Інстытут інстытутам, але восем класаў так-сяк агораў, атрымаў у ПТВ спецыяльнасць токара, і што радавала яго сямейнікаў, на прадпрыемстве, дзе працаваў, хвалілі: «Залатыя рукі ў хлопца». Заняў нават прызавое месца на рэспубліканскім конкурсе сярод токараў. А потым на рабоце пачалі заўважаць, што ён прыходзіць на змену пад хмяльком, рабілі, вядома ж, яму заўвагі, але гэта не дзейнічала. Больш таго, неўзабаве пачаў прапускаць рабочыя дні: запіваў. Звольнілі хлопца. Пэўны час ён бадзяўся па мікрараёне, займеў сабутыльнікаў, і — пакацілася-паехала. Некалькі разоў кадзіраваўся, трымаўся нядоўга… Але за той час, калі не піў, паспяваў набыць новую шыкоўную вопратку і выглядаў, маючы добрыя знешнія даныя, франтам.

Пазней ён пабраўся шлюбам, але жанатым па вядомых прычынах быў нядоўга. Аліменты на ўтрыманне сына больш плаціла маці…

Яна не мясцовая, прыехала ў абласны горад з вёскі. Уладкавалася на працу, там пазнаёмілася з мужчынам, выйшла замуж, нарадзіла сына. І пачала выпіваць: муж чарку, і яна — таксама… А потым стала прыходзіць дадому на добрым падпітку і раптам прапала. Праз тыдзень вярнулася, павінілася. Муж дараваў. Але пасля пачала знікаць з дому ўсё часцей і ўжо не на дзень, не на тыдзень, а на месяц і болей. Мужу казалі, што бачылі яе там і там, п’яную, з падбітым вокам… Ідзі, маўляў, забяры, а то зусім прападзе баба. Муж не ішоў, гадаваў сына сам. А калі яна аднойчы вярнулася, не пусціў на парог: ідзі туды, дзе і была, прастытутка!..

…Яны не помняць, як прыйшлі на кватэру да ягонай маці. Спалі ўпокат, не распранаючыся, на канапе. Раніцай, як толькі заварушыліся, маці, склаўшы рукі на грудзях, пахітала галавой, ціха мовіла:

— Якая прыгожая пара! І трэба ж вам было недзе сустрэцца, любыя мае! Ці вас хто пазнаёміў? Дык запрашайце кумоў-сватоў, ды вяселле справім! У чым справа?

— Мама, адстань!

— Не, не адстану. Я сур’ёзна. Вы ж так падыходзіце адно аднаму, што і не перадаць! Ну, дык што, калі вяселле будзем спраўляць?

Бываюць жа дзівосы на свеце. Маці прымусіла сына і жанчыну, якая прыбілася да яго, перш за ўсё памыцца і пераапрануцца (жанчыне дала свае транты), а потым пасадзіла за стол, наліла па сто грамаў і адразу ж схавала графінчык. А тады добранька пасарамаціла тых: «Пара, пара, дзеці мае, брац-

ца за розум. Паглядзіце на сябе: вы ж такія прыгожыя, а што гарэлка зрабіла з вашымі тварамі? На каго вы падобныя? Бог, каб ведаў, аддаў бы вашу прыгажосць іншым людзям…»

Так яны і жывуць у кватэры ягонай маці. Яна нарадзіла дачку, ён купіў легкавік. Бачылі б, якія шчаслівыя.

Пастукаем па дрэве.

**7**

Ён і яна — выпускнікі тэатральна-мастацкай акадэміі (на той час — інстытут), пакахалі адно аднаго яшчэ на першым курсе. Вяселле было сціплае: студэнты, і гэтым усё сказана. Хаця бацька жаніха прапаноўваў (ён быў палкоўнікам у адстаўцы), не спяшацца, падназбіраць грошай ды адзначыць гэтую падзею як след — усё ж адзін сын у сям'і. Яго не паслухаліся: чаго чакаць, калі няма калі!.. Хутчэй у ЗАГС!.. Размеркаваліся ў абласны драматычны тэатр: ён стаў працаваць па спецыяльнасці — рэжысёрам, яна — актрысай. Даволі хутка атрымалі кватэру. Нарадзілася дзіця. А потым яна сказала: «Хачу дамоў! Сумую па бацьках! Ды і што мы сядзім тут, калі ў Маскве віруе сапраўднае тэатральнае жыццё! Там жа кіно, тэатры. А што мы тут не бачылі?» Ён толькі разводзіў рукамі, не ведаў, што адказаць жонцы. А потым яму прапанавалі пасаду галоўнага рэжысёра ў іншым абласным тэатры. Ён ахвотна пагадзіўся. І пачаў апантана працаваць, перад ім, як кажуць, было шырокае поле дзейнасці. Ты — галоўны, табе і карты ў рукі. Стаў спектаклі, якія пажадаеш. А яна зноў успомніла пра Маскву, дзе нарадзілася і вырасла, бацькоў, брата. «А дзе мы там будзем жыць? У нас жа тут жыллё — лепш не прыдумаеш — два пакоі насупраць тэатра». — «Нас цётка возьме да сябе, яна, ты ж ведаеш, адзінокая…» — «А праца? Хто нас там, у белакаменнай, чакае?» — «Былі б мы, а працу знойдзем. З Сібіры вунь ажно едуць, каб пакараць Маскву. І пакараюць. А мы што, горшыя? Тым больш Масква — мой горад. Стане ён і тваім. Павер».

Ён здаўся. І тут трэба нагадаць, што на двары быў пачатак дзевяностых гадоў мінулага стагоддзя. Распаўся вялікі Саюз. У Маскве мітынгі, на вуліцах танкі… Тэатры не фінансуюцца. Кіно не здымаецца. Прыезджыя рэжысёры і акцёры нікому не патрэбны, сваім няма чаго рабіць. Ён не працуе, яна — таксама… Дзіцё на руках. Як жыць, што рабіць? Больш страшнай сітуацыі не прыдумаеш. Вярнуцца, можа, назад? Але хто ж іх, уцекачоў, там сёння чакае ў Беларусі? Ранейшае месца галоўнага рэжысёра занята, нават няма вакансій чарговых.

Сёння яны дзівяцца: і як толькі выжылі? Ды і радасці ад працы няма, таму што робяць не па спецыяльнасці. Для творчых людзей — гэта спрэс стрэсавая сітуацыя, іначай не скажаш. Ён іншы раз, праўда, вяртаецца, ставіць спектаклі… Але не так часта, як хацелася б.

**8**

Апошні раз я бачыў гэтага чалавека, калі ён падмятаў свой двор. Рабіў гэта з перадыхам: шаркне раз-другі — адпачне, і так далей. Сусед быў зусім слабы. Неўзабаве сын забраў яго ў горад. Аднак на гарадскім хлебе пабыў нядоўга — адтуль яго прывезлі назад у вёску ў труне, пахавалі побач з жонкай, якая раней пайшла з жыцця. Дзеці паставілі ім агульны помнік, на якім яны — як два галубкі…

Ён — з суседняй вёскі, яна — мясцовая. Пабраліся шлюбам яны адразу ж пасля вайны, і хоць час быў няпросты, расшчодрыліся на дзяцей: дачка, сын, дачка, сын, сын, дачка… Дзеці былі ў іх прыгожыя, як і самі бацькі. Жылі дружна, рабілі і на сваім агародзе, і на калгасных палетках, а ў сезон збіралі буякі на балоце, што пакідалі сабе, а што неслі на базар у мястэчка. Толькі было адно «але». Цешча. Яна таксама жыла ў гэтай дружнай сям'і, і таму іншы раз «падсыпала зяцю перцу»: то выпіў з хлопцамі на дворні (ён працаваў там механікам), то стаяў і размаўляў на вуліцы з сімпатычнай суседкай, а то і проста не так глянуў на яе, цешчу. Адным словам, тады-сяды ўспыхвалі сямейныя канфлікты, якія заканчваліся іншы раз тым, што аконная шыба, а то і адразу дзве былі заткнуты куфайкамі альбо ватнікамі, і тады праходжыя каля такіх вокнаў спачувалі зяцю, казалі, што ў прымах жыць — ну яго!..

А неяк пасля чарговага «канцэрта» ён цвёрда вырашыў з'ехаць куды вочы глядзяць. Тады была ўжо «пратаптана» дарога з вёскі ў Карэлію, павёз і ён сваё сямейства туды. Цешча засталася адна, шкадавала дачку, кляла шалапутнага зяця. У Карэліі ім чамусьці не спадабалася — вярнуліся. Але адразу ён пачаў будавацца. Тут, побач з цешчынай хатай, вырасла неўзабаве і зяцева. А калі трохі пабагацеў, надумаў цешчыну хату знесці, а на яе месцы пабудаваць мураваны асабнячок. Але цешча няхай вяртаецца ў іхнюю, а ў гэту заходзіць толькі па святах. Так і зрабілі. І жылі, кажуць, вельмі шчасліва. Ды што кажуць — я сам бачыў… Ён і яна часта вечарам, узяўшы адно аднаго пад ручку хадзілі па вуліцы і дыхалі свежым паветрам. На манер гараджан.

І на помніку, здаецца, яны… ідуць, узяўшыся пад ручку, шчыльней прытуліўшыся галовамі адзін да аднаго. Сапраўды — як два галубкі.

**9**

Сёння яна больш сядзіць на лаве перад пад'ездам, у кватэру заходзіць рэдка: сумна там пасля таго, як не стала дзеда. Яму было восемдзесят сем, франтавік, стары атрымліваў добрую пенсію і любіў віно. Па яго далёка хадзіць не трэба — проста ў іхнім доме зрабілі нядаўна маленькую, але хвацкую краму. Яна іншы раз бурчэла: «Колькі можна жлукціць? І грошай не шкада табе, стары ёлуп?» А ён адказваў: «Пражыві ты столькі, баба, тады рот разяўляй. Гэта — папершае. А па ўсё астатняе — я б мог і не вярнуцца з вайны. Ды і мне, адчуваю, не багата засталося… Адступіся, дай схадзіць па віно…»

Яна скардзілася на старога суседзям. Амаль усе яны згаджаліся з дзедам. Бо бачылі, як разбэсціла яна сваіх дзяцей і ўнукаў, адшчыпваючы ім грошы ад дзедавай пенсіі. Яны, дзеці і ўнукі, у дзень пенсіі і яшчэ дні два-тры не выходзілі з кватэры, шасталі туды-сюды: дзверы амаль што не зачыняліся. Але ж і дзедавы грошы канчаюцца. Тады яны, сваякі самых розных узростаў і рангаў, не прыходзяць, чакаюць наступнага месяца. А яна вохкае і ахкае, што сын хворы, не бяруць нікуды на працу. Ды і ўнучка няшчасная, яе кінуў муж, а не ўладкоўваецца яна на працу, бо «хто малое будзе глядзець?» — «Іншыя ж і працуюць, і дзяцей гадуюць». — «Ат!» Толькі што суседзям хлусіць, калі яны больш ведаюць пра іхняе жыццё, чым думае пра гэта яна? Ведаюць, чаму дзед цвёрда стаіць на сваёй пазіцыі і чаму шкадуе «апошняга» рубля. Ён, стары, якраз і супраць таго, каб бэсціць сына, унукаў і праўнукаў. Сёння можна зарабляць і самім грошы, а ні ў кога не кленчыць. Ідзі, працуй. Хто жадае, той і мае. А патураць было не ў ягоным характары. Жонцы ж казаў: «Што ж ты будзеш рабіць без мяне?» Яна весела адказвала: «Мяне дзеці не кінуць, што ты! Яны мяне любяць, хіба ж не бачыш?» — «Ды бачу, як жа. Яны любяць

не цябе, а грошы — вось што я табе скажу, пара паразумнець ужо». «Што ты такое пляцеш, стары? Пакайся!..»

Ён памёр напачатку года. Акрамя старэйшага сына, п'яніцы і гультая, да яе ніхто не заходзіць. А што возьмеш? Усё, што было можна ўзяць, бярэ сын, які раней яшчэ ездзіў на заробкі ў Расію, а потым, як толькі скончыў выплачваць аліменты на сына, і зусім махнуў рукой на працу: старыя пракормяць. Яны і кармілі яго. Пасля раздзелу маёмасці сыну дасталася малагабарытка, і маці часта насіла туды ежу, а больш прыходзіў сын сам, прасіў грошай на папяросы і піва. Яна ж, утойваючы гэта ад дзеда, бо «забіў бы», плаціла і за сынаву маласямейку. І вось цяпер, калі памёр дзед, у кватэры замест яго стаў старэйшы сын. Ён! Пан-атаман! Заўсёды на падпітку, альбо з цяжкага пахмелля, сын патрабуе, каб маці прадала кватэру і кажа, што ёй добра будзе з ім. «Я старэйшы сын, я застаўся за бацьку, таму кватэра — мая!..»

Яе шкадуюць суседзі, таму бачаць — не сляпыя ж! — як здала бабка: пацішэла, запалі шчокі, калі ходзіць, соўгае нагамі… Іншы раз яна гаротна ўздыхне-выдыхне: «Меў дзед рацыю, меў… А я, дурніца, не слухалася яго… шкадавала і віна… Добра было мне з ім жыць, што не кажыце…»

І калі ў яе не хапае да пенсіі на хлеб, грошы даюць суседзі, чужыя людзі, а сваіх — не чуваць…

## 10

У бальнічным пакойчыку на чатыры ложкі яна была самая старэйшая. Назвалася суседкам: Пятроўна. Ну, калі ты Пятроўна ды яшчэ і бабулька — тут і ў пашпарт глядзець не трэба — то і павага з боку маладзейшых. Калі што падаць ці паўтарыць недачутае — няма пытанняў. Суседкі тут як тут. Пра сябе няшмат расказвала да пары да часу Пятроўна, а потым неяк разгаварылася... І вось што пачулі ад яе жанчыны:

— Гэта ж уцякла я з дому. Схавалася ў бальніцы. Дачка ў мяне, Верка, жыве на Сахаліне. Даўно з'ехала, яшчэ пры савецкай уладзе. Чатырох дзяцей выгадавала там, унукі пайшлі... І вось яны, унукі, прыехалі да мяне ў госці. Амаль усе. Ніколі, кажуць, не былі на радзіме маці, прымай, бабуля. Я, вядома, спярша абрадавалася, а пазней і захвалявалася: як жа я тую араву пракармлю? У іх жа апетыт — уга! А што я за сваю пенсію купіць змагу? Тут хоць бы сабе хапіла, а яны ўплятаюць за абедзве шчакі, толькі падавай. Сасіску я адну, яны — па дзве, а то і па тры. Не паспяваю гатаваць ежу. Дык я во і ўцякла... А няхай там як хочуць!.. Хто іх зваў?.. Зваліліся на маю галаву...

Жанчыны пераглянуліся паміж сабой: гэта яна што — сур'ёзна кажа ці жартуе? Быццам бы сур'ёзна. Адна з іх заўважыла:

— Дык як жа ж можна ўцячы ад унукаў? Гэта ж — унукі... Свая кроў...

— А так! Уцякла — і ўсё. Хто іх зваў? Ды я ўжо і Верку ў твар асабліва не помню. Адзін раз прыязджала, калі яшчэ можна было, калі білеты танныя былі. Забылася, якая з твару яна. А цяпер узяць: знайшлі ж грошы на дарогу ўнукі, а свет няблізкі, то могуць знайсці і сабе на ежу. А то рассядуцца за сталом, і чакаюць, калі я іх накармлю. Не, каб узяць ды ў краму збегаць самім... Уцякла, жанчынкі. Адных пакінула. Два хлопцы і дзеўка. Ладныя ўжо. Жаніхі і нявеста.

У палаце стала ціха. Мусіць, кожная з жанчын думала, што б рабіла яна, калі б да яе прыехалі ў госці ўнукі. Ды яшчэ з Сахаліна. А Пятроўна грызла пернік і шчаслівымі вачыма глядзела на суседак: а што, скажаце, я няправільна зрабіла?

Цішыня ў палаце вісела і далей...

## 11

Вёска. Хоць да абласнога цэнтра ад яе больш за сотню кіламетраў, аднак старшыня калгаса меркаваў так: трэба прадаць гараджанам машыны дзве бульбы, глядзіш, і будзе капейка, а яна ў гаспадарцы не лішняя. Хоць, вядома, канкурэнцыя. Прыгарадныя калгасы і саўгасы, мусіць жа, усе месцы на кірмашы захопяць, бо яны бліжэй, ім, як кажуць, і карты ў рукі. Але пралезем.

Насыпалі бульбу ў мяхі ў пятніцу, і дзве машыны гатовыя былі адправіцца назаўтра ў горад. Хоць той-сёй з вяскоўцаў сумняваўся, што прададуць яе. Бульба ж амаль уся нясмачная, і, калі зварыш яе, яна — як мыла. Была б сопкая, тады іншая справа. Ды і заскарузлая. Нехта суцешыў скептыка: «Гарадскія з’ядуць!»

Горад. Былы інжынер Пятро Іванавіч, а цяпер пенсіянер, на дачным участку больш не корпаецца: няма здароўя, а запасацца гароднінай на зіму трэба. Добра, што зяць з машынай. Пятро Іванавіч і папрасіў яго, каб выручыў. Даў грошай і адправіў зяця з дачкой на кірмаш, а сам прыглядаў за ўнукамі. Дачка з зяцем і прывезлі яму ажно тры мяхі бульбы — з той вёскі, дзе бульба, як мыла... У гэтым яны ў той жа дзень і пераканаліся. Наварылі каструльку і ўсё зразумелі: пралічыліся, грошы, як на вецер выкінулі. Але што паробіш — трэба ўжываць, раз набылі, хоць бульбіна тая не лезла ў рот...

А пазней Пятро Іванавіч наведаўся ў вёску, адкуль прыехала ў горад тая бульба. Ён быў адтуль родам. За вячэрай у сваякоў расказаў, як схібіў з бульбай на гэты раз, маўляў, даверыў зяцю з дачкой, а яны далі маху.

Выказваў Пятро Іванавіч сваю крыўду якраз таму чалавеку, які і сказаў тады: «Гарадскія з’ядуць!»

## 12

Учора мой сусед паехаў на мяжу Гомельскай вобласці з Магілёўскай. У яго свой легкавік, клопат такі — сеў за руль і пакаціў.

А чаму ён паехаў туды — раскажу.

Сусед пабраўся шлюбам з дзяўчынай з-пад Магілёва, якая трапіла ў Гомель пасля медвучылішча. Дома ў яе засталіся адны бацькі. Непрыкметна падкралася глыбокая старасць, два гады назад маці памерла, а бацька застаўся адзін. Няпроста чалавеку ягонага ўзросту аднаму ў вёсцы, таму ўгаварылі дзеда на зіму пераехаць да дачкі ў Гомель, а на лета будуць яго адвозіць у вёску, без якой старому няма як жыць: сумуе — і ўсё тут. Зяць каля яго і так, і сяк, ледзь не скача, а ён усё роўна заладзіў адно і тое ж: адвязіце мяне назад! Тады і знайшлі гэты кампраміс: зімаваць стары будзе ў горадзе, а на лета яго даставяць у вёску, няхай па траўцы патупае, ну, а наглядаць за ім будзе тая дачка, што жыве ў Магілёве. Блізка ж. Падзялілі, адным словам, дзеда пароўну. Каб не было крыўдна.

У магілёўскага зяця таксама ёсць легкавік. Кожны раз на мяжы яны і перадаюць цесця адзін аднаму.

## 13

У яго цяпер свая сям’я, у яе — свая. Гадоў колькі назад яны былі мужам і жонкай усяго пяць хвілін. Пяць сапраўдных хвілін. Так-так, не здзіўляйцеся. Толькі распісаліся ў Доме шлюбаў, роспіс падмацавала і бутэлька з шампанскім, якая стрэліла коркам угору, і... канфуз атрымаўся. Ужо на прыступках

малады муж наступіў на фату маладой жонкі, і тая, нядоўга думаючы, адвесіла яму аплявуху. Прысутныя зніякавелі. А муж развярнуўся і пайшоў прэч, пакінуўшы ўсіх перад ганкам Дома шлюбаў. «Каця, вярні яго!», «Папрасі прабачэння!» Каця так і засталася стаяць нерухома... Маці жаніха кінулася ўслед, схапіла таго за рукаў, пачала папракаць, маўляў, людзі ж сабраліся на вяселле, чакаюць у рэстаране. Што ж ты робіш, блазнюк?! Жаніх так і не вярнуўся да нявесты, ці, дакладней сказаць, малады муж да маладой жонкі.

Вяселля не адбылося. Людзі, праўда, пасядзелі ў рэстаране, выпілі, закусілі. Але тое вяселле нагадвала хаўтуры.

Праз колькі часу ў тым жа Доме іх шлюб скасавалі.

Амаль усе сведкі таго канфузу былі на баку жаніха... Малайчына, казалі. Сапраўдны мужык. Мо яно і праўда?

## 14

Мікола нікому не сказаў, чаму з'ехаў з нашага горада. Іншы б плакаўся перад знаёмымі і сябрамі, а ён — не, ні слова. Ціхенька сабраў рэчы — і знік. Няпроста чалавеку пакінуць было, вядома ж, жонку, сына, кватэру, у рэшце рэшт, зробленую сваім мазалём. А ён — адважыўся, рашыўся.

Але шыла ў мяху не схаваеш, праўду кажуць людзі, неўзабаве даведаўся і я, чаму так атрымалася.

На рабоце Міколавай жонцы прапанавалі дзве пуцёўкі на экскурсійны цягнік у Карэлію, і яна ўзяла іх, прынесла дадому. Мікола ўзрадаваўся, бо і сам ён даўно марыў хоць вокам глянуць на тамашнія хвалёныя азёры, грыбныя і ягадныя мясціны. А калі наспеў час выпраўляцца ў дарогу, яго жонка раптам занядужала. Што рабіць? Як быць? А тут якраз завітала ў госці жончына сястра, ёй і прапанавалі пуцёўку. Тая ахвотна пагадзілася.

Ну, а там адбылося тое, што адбылося. Жончына сястра, відаць, пасля чаркі моцнага напою расказала Міколу як паводзіць сябе ягоная палавіна. Сказала прыкладна так: «А ты думаеш, чаму яна расце па службе так хутка, як на дражджах? Граматная такая, скажаш? Ды не! Каханак ў яе — сам шэф. Ён і спрыяе. Яна мне сама хвалілася...»

На што спадзявалася сястра, адной ёй вядома, але ж здагадацца можна... Усё ж Мікола — прыгожы мужчына, і ў яе, падобна на тое, ёкнула сэрца, калі яны засталіся ў купэ цягніка сам-насам...

А Мікола сабраў рэчы і пераехаў у іншы горад. Там ён абзавёўся новай сям'ёй, у яго нарадзілася дачка, а былая жонка жыве з сынам, нявесткай і ўнукам... Кажуць, быццам хадзіла да варажбіткі і тая прадказала ёй, што Мікола вернецца. Яна і сапраўды яго вельмі кахала, мусіць жа, кахае і сёння.

Прайшло шмат гадоў, ён тэлефануе ў Гомель, але толькі сыну. Іншы раз бачацца.

Былой жонцы Мікола не дараваў. Сёстры не размаўляюць і не сустракаюцца.

## 15

У Васілевічах сеў на дызель, каб вярнуцца дадому — у Гомель. Людзей у вагоне было мала, і кожны з іх займаўся хто чым. Некаторыя пасажыры сядзелі моўчкі, паглядаючы на краявіды за акном, іншыя чыталі, а нехта проста драмаў. Я дастаў газету, толькі разгарнуў яе, і ў гэты самы момант да мяне падсеў дзядок са слоікам у руках.

— На дзіва глянуць не пажадаеце? — ён прыўзняў слоік, у якім ляніва плаваў рак. — А?

Сапраўды, гэта было дзіва. Так ужо ў нас атрымалася, што ракі, а яны, як вядома, надта далікатныя рачныя і азёрныя асобы, надоўга зніклі, мабыць, вельмі ж мы забрудзілі прыроду. Вось амаль і звяліся ракі. А тут — дзядок са слоікам, у якім плаваў рак…

— Ну, як? — весела, шчасліва глядзеў ён на мяне.— Паменела ўгнаенняў, і ракі з'явіліся. Значыць, вада ў Дняпры чыстая. Калі ракі жывуць, то яе і піць можна.

Да нас пачалі падыходзіць некаторыя пасажыры, і дзядок са слоікам з ракам апынуўся ў цэнтры ўвагі. Ён хваліўся, што рака злавіў сам, і не аднаго — астатніх пакінуў унукам, а гэтага, самага большага, вязе ў горад напаказ.

Больш шчаслівага чалавека, чым той стары з ракам, я доўга потым не бачыў.

## 16

Прыгадался неяк…

Малочнатаварная ферма. У мяне тут літаратурнае выступленне, ці, як бы мовіць — сустрэча з чытачамі. Чакаем разам са старшынёй у цесным пакойчыку — чырвоным кутку — калі збяруцца даяркі. Прыходзяць, садзяцца. Старшыня калгаса дастаў тым часам з кішэні невялічкі карабок, паклаў перад сабой на стол, сабраўся, як мне падалося, з думкамі, крэкнуў, пастараўся ўсміхнуцца, ціха сказаў:

— Жанчыны, сёння ў нас імянінніца. Хто б вы думалі? Не здагадваецеся?

На тварах даярак з'явілася ажыўленне, яны пераглянуліся, некаторыя паціснулі плячыма: а хто, сапраўды?

— Вера Сяргееўна…

Усе адразу паглядзелі на бабульку, шчупленькую, маленькага расточку, з густымі дробнымі маршчынкамі на твары: яна забілася ў куток, здзіўлена паглядала то на старшыню, то на сяброўак — таксама, відаць, не разумела. Якая яна імянінніца. Толькі ж вунь, праўда, карабок на стале… Медаль хіба старшыня прывёз? Хадзілі чуткі. Ёй, значыць…

Пад воплескі старшыня прышпіліў Веры Сяргееўне медаль да жакеціка, паціснуў руку.

— Малайчына ты, Вера Сяргееўна, — сказаў старшыня.— Малайчына. Даўно працуеш на ферме. Тваім рукам, дарагая ты наша, цаны няма. Маладзейшыя не помняць, як працавалася тады на ферме. Цяпер — што? Апарат падключыў… Ведаеце самі, як цяпер… Ну што ж, дазволь цябе яшчэ раз павіншаваць з медалём «Ветэран працы», Вера Сяргееўна…

Бабулька ж, на маё здзіўленне, не радавалася. А потым і зусім захлімкала, сарамліва выціраючы далонню твар. Старшыня адчуў сябе крыху ніякавата, пераглянуўся з даяркамі: медаль уручылі, святочная хвіліна, а што гэта з нашым ветэранам? Радавацца б!

А бабулька дрыготкімі вуснамі шаптала:

— Гэта ж, старшынёк, кароўка адна мая згубілася… ага… У лесе… Лыска… З малаком ходзіць, бедненькая… Шукала, шукала… Ага… Не адгукаецца…

## 17

Ліст ад сына адзінокі дзядзька Мітрафан атрымаў на нейкае свята. Стары быў пад добрай «мухай» і, паколькі жыў адзін і не было яму каму пахваліцца радасцю, хадзіў з хаты ў хату, трос перад суседзямі кашчавай рукой:

— Пісьмо! Ад Сашкі! Жэніцца, каб яму! Гарадскую, відаць, мымру там абкруціў! Вось вам і Сашка! А вы з садоў яго ганялі! А-а-а! — і жартаўліва грозіў аднавяскоўцам жоўтым ад папяроснага дыму пальцам. — На вяселле заве. Паеду! А як жа — абавязкова-а!.. Паеду-у!..

На вяселле Мітрафан не паехаў, на другі дзень ён і ўвогуле пра яго не ўспамінаў. Так і цягнуліся дні. І раптам прыходзіць яшчэ адно пісьмо. Мітрафан на гэты раз быў цвярозы і ўжо не хадзіў па хатах, а толькі бурчэў сабе пад нос:

— Ён жа халасцяк, Сашка. А як зразумець — «павіншуй з унукам»? Цьфу!

Пазней Мітрафан знайшоў выпадкова тое пісьмо. І жахнуўся: «Яна ж, гарэлка, і не тое можа зрабіць з чалавекам. Адзінага сына па-людску ажаніць не атрымалася…» Выцер слязу.

З таго дня не п’е. Ні кроплі.

## 18

Марфу Мікалаеўну я ведаю даўно. Жыве яна з мужам, Васілём Трафімавічам, сынам, нявесткай і ўнукамі. Не ў Беларусі жыве цётка Марфа — у далёкай ад нас Удмурціі, пад Іжэўскам. Я нярэдка бываю там у жончыных сваякоў і абавязкова заходжу да Глездзянёвых — такое прозвішча ў гэтай дружнай сям’і. Гасцінныя яны людзі. Мёд на стол, чырванабокія яблыкі, ягады са свайго агародчыка і абавязкова круглы бохан хлеба. З печы. І колькі я ні бываў у іх, ніколі не бачыў, каб падавалі хлеб да стала з крамы, а крама насупраць, вокны ў вокны, і хлеб туды прывозяць рэгулярна. А вось Марфа Мікалаеўна аддае перавагу свайму.

Аднаго разу да Марфы Мікалаеўны, пахвалілася яна мне, завітаў кіраўнік раёна.

— Ехаў побач і чую духмяны пах хлеба. Сама, значыць, Марфа Мікалаеўна, выпякаеш? Малайчына. А мне дзяцінства ўспомнілася. Мама… А мы, малеча, каля печы таўчэмся, чакаем, калі дастане яна боханы. Смачны быў хлеб. Сонцам на стале ляжаў. Дзякуй вам…

У нас, у Беларусі, я ніводнага разу не сустрэў такую вось Марфу Мікалаеўну. Усё спадзяюся. А раптам?..



## Алег САЛТУК

* * *

Дзверы ў хаціне рыпяць —
Значыць, яшчэ жывыя.
Ветрыкі маладыя
Выбеглі пагуляць.

Можа, ліне залівéнь,
Або пастаіць пагода.
Я тут не быў паўгода,
Годам мне здоўжыўся дзень.

Ганак прысеў стары
Стомлена прад дзвярыма.
— Гэта твая радзіма, —
Гром прагрымеў угары.

Што ж, не сляпы, не глухі:
Чую яшчэ і бачу…
Ліўнем ад слёз гарачым
Змыюцца ўсе грахі.

---

*__Салтук Алег Уладзіміравіч__ нарадзіўся 25 жніўня 1946 года ў вёсцы Рыжэнькі Шумілінскага раёна Віцебскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Магілёўскага педагагічнага інстытута (1967). Служыў у Савецкай Арміі. Працаваў адказным сакратаром ушацкай раённай газеты «Патрыёт», уласным карэспандэнтам абласной газеты «Віцебскі рабочы», сакратаром Віцебскага абласнога аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў, рэдактарам аддзела па пытаннях культуры «Віцебскага рабочага».*

*Аўтар паэтычных зборнікаў «Пачатак дня» (1974), «Працяг» (1977), «Святло зямлі» (1982), «На далонях жыцця» (1988), «Трывога лёсу» (1996), «Не разлюбі...» (2003), «На вейцы веку» (2006), «Дзве зары» (2011) і інш.*

*Лаўрэат прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі (2007) і Літаратурнай прэміі імя Уладзіміра Караткевіча (2000).*

* * *

Свой у любога з нас Хрыстос
І сад з прысадамі ля хаты.
У небе зорак цэлы воз
Плыве апоўначы, бухматы.

Вясёлкі вечны абярэг
Стаіць у хмарах над зямлёю.
І адступае даўні грэх,
Як ступіш ты да аналоя.

Уранні — песня салаўя.
І вечаровы сум спакою…
Зямля мая — любоў мая —
І Бог над гэтаю зямлёю.

* * *

Пагаслі ў вёсцы даўно агні.
Зарніц усплёскі ўдалечыні.
Спіць у падстрэшшы мая каса,
Пад жоўтай поўняй цвіце раса.
Не спіцца — свежыя мазалі
Пад поўнач самую дапяклі.
Хай ныюць рукі, хай твар гарыць,
Няхай жартуюць з мяне сябры,
Што рарытэтнай машынкі стук
За ўсё на свеце мілейшы гук.
Яно-то праўда, ды мне мілей
Сцяжынка ў полі і салавей,
Суседзяў шчырасць, іх поціск рук
І развітальны буслiны круг.
Тут засталася мая любоў,
Тут пот з крывёю маіх бацькоў.
Пакуль жыву шчэ на свеце я,
Хаціна з краю тут не мая.

## КУПАЛЛЕ

Вясёла загудуць кастры.
Гарэць ад смагі будуць губы.
Агонь пакоціцца з гары
На шчасце некаму ці згубу.

А потым зоймецца зара
Ад кветкі-папараці, пэўна.
І сярод соннага двара
Шалёна загарланяць пеўні.

І свята скончыцца, яно
Расой асыплецца з купавы…

Дапіта радасці віно,
І прачытаны ўвесь Купала.

Аднекуль дожджык прыбяжыць,
Абмые паплавы і гоні.
І павуцінкі тонкай ніць
Пабеліць мне дачасна скроні.

## ПЕЧКА

Уздыхнула печка цягаю —
Комін выдыхнуў дымок,
Што пайшоў гуляць бадзягаю,
Нібы п’яны, з боку ў бок.

Перахоплены туманамі,
З пахам высмяглых катлоў,
Над азяблымі палянамі
Вышыню сваю знайшоў.

Туманы, яны вяртаюцца,
Не вяртаюцца дымы,
І па свеце разлятаюцца,
І губляюцца, як мы,

Да крывінкі ссірацелыя —
Ажно хочацца завыць!..
Печ без коміна збялелая
Ў садзе прывідам стаіць.

## СОН

Сон аднойчы прысніўся вясёлы
У самоце начное маёй:
Ці то лебедзі, ці то анёлы
У сінечы плылы над зямлёй.

Я глядзеў што было ў мяне сілы
І не бачыў нічога, акром
Іх, таемных, такіх белакрылых,
Над маім паўзабытым жытлом.

Яны ў небе бяздонным луналі,
Пасылаючы ў цемру святло.
Потым стоена прападалі,
Быццам іх і зусім не было.

Я ўглядаўся, ірваўся за імі,
Я спасцігнуць хоць троху жадаў
Гэты цуд у завоблачным дыме,
Покуль самы малы не прапаў.

Не магу я пра сон той забыцца:
Нада мной — белакрылая раць…
Мне здаецца: жыццё толькі сніцца.
Дзе яно, трэба ў неба спытаць.

## ТАБЕ

Атуляючы грудзі рукой,
Ты спалохана-нечакана
Асвятліла сабою пакой,
Як зара асвятляе ранак.

Шчасце множылася і расло,
Сонца шчодрыла свае промні.
Тое ўсё яшчэ не прайшло,
Што без болю ніяк не ўспомніць.

Прыгадаць таямнічую ціш,
Неспатольныя вусны, і словы,
І бяздонне, ў якое ляціш
Апантана і стрымгалова.

Мы ляцелі, луналі, плылі
У блакітнае і залатое.
І на ўсёй неабдымнай зямлі
Толькі мы і былі — толькі двое.

Маладзік цікаваў з-за ствала
Нашай яблыні райскай…
Ты прыснілася ці была,
Не адкажаш, як ні старайся.

## СЯБРОЎКІ

Закружылася ў садзе лістота,
Вецер пыл на дарозе ўзвіхрыў.
Углядаюцца ўдалеч з пяшчотай
Дзве сяброўкі, нібы дзве сястры.

У каліны — наперадзе восень.
У дзяўчыны — сустрэча з вясной.
І стаяць яны побач, і просяць
Не аднойчы ўжо высненых сноў.

І прысніцца чырвонай каліне
Кветак бель у зялёнай касе,
А русявай і мройнай дзяўчыне —
Той, хто ў свет на руках панясе.

* * *

Салодкі смутак ахіне,
Калі прымроіцца такое:
Паром драўляны на Дзвіне,
Царква з блакітнай галавою.

Рыпіць паром, вада цячэ
Свабодна, плытка, першародна.
Усё наперадзе яшчэ,
І сам — бязгрэшны і свабодны.

Куды ўцякла мая Дзвіна,
Мне і дагэтуль невядома.
Адно вядома, што віна
Гняце прад ёй і родным домам —

За тое, што ты ўцёк з яго
І гэтым сам сябе адрынуў
І што да родных берагоў
Вядуць не сцежкі, а ўспаміны.

## МЫ

Дзе нас пасееш,
Там і ўродзімся.
Смяёмся, плачам,
Карагодзімся…

Якая светлая зямля,
Якія ветлыя суседзі:
Сустрэнуць шчэ цябе здаля
І не пакінуць без адведзін.

А талака — яна ва ўсім:
Адзін другому памагаем.
На тым стагоддзямі стаім,
Сябе ў народах не губляем.

Кахаем аж да забыцця,
Працуем так, што стогнуць жылы.
Нас з нашай прагаю жыцця
Не запалохаць злою сілай.

Нам вечна сеяць, і збіраць,
І жыць у радасці і ў скрусе…
Калі слязінка задрыжыць,
То скоціцца на Беларусі.



Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ

# ЛІХАЛЕЦЦЕ

*Раман**

## XVII

Пра спілаваныя слупы прускаўцы даведаліся на наступны дзень на раніцу. З гэтай весткай прыбег да бацькоў Васіль. Ён толькі што вярнуўся з пушчы, куды Хрысан паслаў на вывазку дроў. Адчытаўся перад солтысам — прывёз накладную на трыццаць кубоў.

Лявон з Фёклай, калі забег Васіль, былі якраз дома, збіраліся церці каноплі. А пакуль што снедалі, на стале стаяла міска з бульбай, ад якой паднімалася гарачая пара, кубкі з малаком.

Нядаўна Кужалі пераж
ылі непрыемнасць, і не малую: нехта данёс (хутчэй за ўсё сусед Латушка), што ў Лявона ёсць прыхаваны ровар, які ён не аддае ўладам. Паліцыя з Пырам на чале дапытвалася, рабіла вобыск. Перавярнулі ўсё — у клуні, у хлявах, у хаце і ў каморы. Ровара не было. Злосныя, бо ён бы ім надта спатрэбіўся, вярнуліся ў Ратайчыцы. І Фёкла, і Лявон жылі яшчэ пад страхам таго, што адбылося.

Васіль, запыхаўшыся ад хуткай хады, даў «добры дзень».

— Чулі?

— Што? Што такое? Што здарылася? — захвалявалася маці. Яна ўжо даўно, з пачаткам вайны, жыла прадчуваннем, што нешта павінна здарыцца і здарыцца нечакана, у гэты дзень ці назаўтра.

— Ноччу нехта паспілоўваў тэлеграфныя слупы, ад Ліпнай і амаль да могліц!

— Слупы? — здзівіўся Лявон і паклаў лыжку.

— Ну! І слупы, і дрот парваў.

— Гэта нешта новае, такога яшчэ не было. Хто ж гэта мог быць?

— Ніхто не ведае.

— А што кажуць?

— Кажуць, што гэта Саветы дэсант выкінулі.

— Хто?

— Саветы.

Яшчэ больш захвалявалася Фёкла, пляснула ў далоні і ў здзіўленні пахітала галавой, не ведаючы, што з гэтага ўсяго чакаць.

— Чудзяса твае, Госпадзі, — як гаворыць Лаўр Яўсеевіч, — сказала яна, успомніўшы Кухту, які зрэдзь наведваўся да Кужалёў.

* Працяг. Пачатак у № 6, 7 2012 г.

— Наўрад ці, каб спілаваць каля нейкай Ліпны тэлеграфныя слупы, хтосьці будзе выкідаць дэсант, — пасміхнуўся Лявон. — Гэта нехта іншы…

Так ці інакш, але вайна нагадвала аб сабе пастаянна, рознымі выпадкамі і здарэннямі.

За акном пачулася песня:

Синенький скромный платочек
Падал с опущенных плеч…

Гэта прачнуўся Санька — ішоў снедаць. З тых часоў, як ён пасяліўся ў Кужалёў, настрой яго значна палепшыўся. Чалавек акрыяў, падужэў, вярнулася ранейшая сіла і смак да жыцця. Казалі, што ўжо нават і на дзяўчат пачаў заглядацца. Музыкаў не прапускаў.

Ён зайшоў у хату, трымаючы ў руках бярэмак сухіх дроў (шанаваў гаспадыню), кінуў іх ля печы, павітаўся.

— Прысядзь! — запрасіў Лявон.

Санька сеў на столак, прыслухоўваючыся да размовы.

— Амаль цэлы кіламетр, — сказаў Васіль.

— А можа, гэта вашы? — спытаў Лявон, павярнуўшыся да свайго «прымака». — Слупы на Бабіцкай гары паспілоўвалі, дрот парвалі. Значыць, сувязь у немцаў парушана. Насалілі немцам.

— Нашы — гэта хто?

— Ну, акружэнцы. Можа, гэта яны немцам шкоду ўчынілі?

Сібірак пачасаў за вухам, ён быў асцярожны.

— Нічога, папаша, не магу сказаць, ва ўсякім выпадку не я. Я спаў на сенавале і ніякіх адносін не маю. Мае таварышы таксама ні пры чом. Адзін у хазяіна і другі.

— Гэта немцам не столькі ўрон, колькі — выклік, як бы напамінак нейкі, і невядома, на каго яны могуць падумаць, — Васіль уздыхнуў. — Будуць шукаць вінаватых і помсціць пачнуць.

— Вядома, на працяг вайны тыя паваленыя слупы не паўплываюць, — згадзіўся айчым. — Але пра нешта гэта гаворыць.

— Я, у сушнасці, калі вярнуўся ад дзядзькі Хведара, адразу ж палез на сенавал, — даводзіў сваё «алібі» Сашка, быццам хтосьці хацеў яго ў чымсьці западозрыць. — Дзядзька Хведар можа гэта засведчыць. Вярнуўся і на сенавал палез.

— Палез — і добра, — пасміхнуўся Лявон, каб супакоіць акружэнца, які гэтак неспакойна зрэагаваў на пачутае. Санька і сапраўды час ад часу наведваўся ў Свішчова да дружка свайго Пятра Мачалава, якога ўзяў дзядзька Хведар.

— Ну і як там дзядзька Хведар? — пацікавіўся Лявон.

— Нармальна. Прывітанне перадаваў.

— Дзякуй.

— Выйшла, праўда, непрыемнасць. Малацілі яны з Пятром, ды ў таго цэп сарваўся і хазяіну па галаве, аднак ён у шапцы быў, так што ўсё абышлося.

— Абышлося?

— Нічога сур'ёзнага. Дзядзька Хведар смяецца, калі ўспамінае.

— Ну, то добра, што абышлося. Гэта не жарты — цэпам па галаве.

— А вам, маманя, ад яго жонкі прывітанне.

— Хай бы прыехалі калі, — азвалася Фёкла.

— Людзі харошыя, — пахваліў Санька. — Я свайму корашу Пятру гавару:

«Ну і ад’еўся ты на хазяйскіх харчах, морда кірпіча просіць». Ён абіжаецца. «Не абіжайся, кажу, я шучу». Словам, паразумеліся. Як-ніяк, свае.

Васіль думаў пра паваленыя слупы. «Хто б гэта мог?»

— А можа, гэта Свісціян?

— Не, — запярэчыў айчым, — Свісціян да такога не дадумаецца. Ён недзе пад Дзям’янчыцамі хаваецца. Казалі, што там яго бачылі.

— Гора ў чалавека, — паспачувала Фёкла. — Ой, што ж цяпер будзе? — непакоілася яна, але на гэтае пытанне ні ў кога не было адказу.

— Халадно цяпер у лесе, — задумліва прамовіў Лявон. — Халадно. — Цяжка было зразумець, што ён мае на ўвазе. А можа, Свісціяна ці яшчэ каго?

Памаракаваўшы пра тое, што адбылося, яны разышліся. Васіль пайшоў да сябе — чакала работа. Кужалі разам з Санькам паселі снедаць. Паснедаўшы, Санька падзякаваў і пайшоў расчышчаць снег каля хаты.

* * *

Немцы ўспудзіліся ў той жа дзень, к вечару іх наляцела шмат, з Камянца, Высокага, Ратайчыцаў, разам з паліцаямі. Пачаліся допыты: хто арганізаваў дыверсію? Допыты вяліся ва ўсіх навакольных вёсках. Хутка было ўстаноўлена, што дыверсію ўчынілі незнаёмыя, якія невядома адкуль з’явіліся. Хутчэй за ўсё з лесу. Знайшлі тых, хто даваў пілы, сякеры ды бусакі. Іх арыштавалі і адвезлі ў Высокае. Слупы стаўлялі ўжо назаўтра. Гэтым пад наглядам паліцаяў займаліся сяляне з навакольных вёсак. У лесе пілавалі гонкія сосны, ачэсвалі ад кары і сучкоў і вазілі на Бабіцкую гару, на гасцінец.

Выкопвалі пянькі, што засталіся ад спілаваных слупоў, ставілі свежыя слупы. Работа цяжкая — не ўкапаць. Зямля, скаваная першымі маразамі, стала як брук. Нямецкія сувязісты, што з’явіліся на акрытай брызентам машыне, хутка нацягвалі дрот.

Вынікі партызанскай дыверсіі неўзабаве былі ліквідаваны. Ужытыя нямецкай адміністрацыяй карныя меры прускаўцаў, на шчасце, не зачапілі.

Дні ішлі. Насядалі маразы, і бясконца валіў снег. Пруска стаілася пад тоўстымі снежнымі сумётамі, якія ўжо не думалі раставаць, а заляглі на ўсю зіму. Гаспадары жылі ў хатах, нібы ў барсуковых норах. Парабілі хады ад хат да клуні ды хлявоў, каб дагледзець жывёлу. Аднойчы перад Калядамі ў дзверы да Кужалёў нехта пастукаў — гэта быў Кузёмка. Апошнім часам гэты дзівак наведваўся ў Пруску радзей, чым калісьці, да вайны. Небяспечнымі сталі вандроўкі. Але Кузёмка — вандроўнік па прызванні, па спосабе жыцця, не мог, каб не рухацца, не мяняць месцажыхарства. Хадзіў ад вёскі да вёскі, ад гаспадара да гаспадара. Шыў кажухі. Адкуль ён звычайна з’яўляўся — гэтага ніхто не ведаў. Прыйдзе, зніме сваю кучомку (ці бравэрку, як ён называў сваю шапку), перахрысціць узапрэлы лоб, павітаецца з гаспадарамі. Так было і на гэты раз.

— Добры дзень!

— Добры дзень!

Ядлоўцавы кій паставіў ля дзвярэй.

— Адкуль? — папытаў Лявон.

Замест адказу госць кінуў вачыма на свае боты — на адну халяву і на другую, абмахнуў іх ад снегу шапкай.

Пасярод хаты стаяла сноўніца. Малы Валодзік разам з Віталікам сукалі на круцёлцы цэўкі. «Бах-бах!» — стукалі набільніцы ў кроснах. Фёкла з нявесткай сядзелі за імі, ужо была нарыхтаваная каляровая аснова.

— Прыціскай мацней! — вучыла свякроў нявестку. — Шчыльней збівай! Прыгажэй будзе.

Падарожны глыбока ўздыхнуў, адчуўшы цеплыню хаты. Відаць было па ўсім, што яму не церпіцца пра нешта расказаць.

Прускаўцы называлі Кузёмку «брадзяшчым філосафам», дзівак і сапраўды часам любіў «пафіласофстваваць» — гэта значыць, паразважаць і гаварыў блытана, але цяпер выглядаў чымсьці надта ўзрушаным, меў нейкія канкрэтныя навіны.

— Не ўвесь той свет, што ў акне, — павучальна пачаў, як бы заважнічаў «філосаф», пасля чаго глыбока засунуў руку за халяву і дастаў адтуль складзеную ў чатыры столкі паперку. Асцярожна разгарнуў.

Забегла Хомчыха пазычыць круп. Зіма, а яна босая. Ды гэта ўжо нікога не дзівіла, бо ўсе даўно ўжо прывыклі бачыць яе круглы год босай. І ў гарачыню, і ў мароз. Яна і сама прывыкла абыходзіцца без абутку. У доўгія падарожжы, вядома, не пускалася, а да калодзежа, да суседзяў, яшчэ куды па вёсцы хадзіла заўсёды подбегам і неабутай. Ступні шырокія і касцістыя, чырвоныя ад холаду. Пераступіўшы парог, яна пацерла нагу аб нагу і, цікаўная, спытала:

— Што гэта?

— На, чытай! — Кузёмка працягнуў паперку Лявону. Той моўчкі стаў чытаць.

Гэта была лістоўка, у якой паведамлялася пра падзеі пад Масквой, разгром немцаў.

— Адкуль гэта ў цябе? — здзівіўся Лявон.

— На базары купіў.

— На якім базары?

— У Берасці.

— На базары? Жартуеш.

— Далі без грошай, нейкі чалавек у кішэню сунуў. Ну, я і прыхаваў. За халявай ніхто не знойдзе.

— Пра што ж там пішацца? — не выцерпела Фёкла.

— Саветы пад Масквой перайшлі ў наступленне! — гучным голасам, каб усе чулі, абвясціў госць. — Тыя хацелі ўзяць Маскву ў клешчы, а Саветы ім у рыла! Я і думаў — чагосьці трэба чакаць. Так яно і сталася. Нашаткавалі там іх, ушчэнт скапусцілі.

— Няўжо гэта праўда? — засумнявалася Хомчыха, якая ўжо ўладкавалася на лаўцы ля занавешанага акна.

— Я не маню, — пакрыўдзіўся Кузёмка, зняў світку і павесіў ля парога на цвік.

— Цішэй! — Лявон падняў угору палец. — І сцены маюць вушы…

У сенях зноў пачулася шорганне, адчыніліся дзверы і зайшоў яшчэ адзін госць — Лаўр Яўсеевіч. Павітаўся. Цяпер ён ізноў вярнуўся ў духоўнае званне — на пасаду дзяка ў прускаўскую царкву і, адпаведна новаму свайму становішчу, адпусціў невялікую, клінком, бараду і вусы. Не складаліся ў яго адносіны з прускаўскім кавалём Цішкам Пахолкам і солтысам Хрысанам, і ад гэтага Лаўр Яўсеевіч перажываў. Гаспадары запрасілі яго прысесці.

— Вось Кузёмка кажа, што немцаў ад Масквы пагналі, — сцішана паведаміў Лявон.

Лаўр Яўсеевіч недаверліва паглядзеў на вандроўніка.

— Гэта праўда?

— Пагналі! — пацвердзіў той.

— Пагналі! — кіўнула галавой Хомчыха.

Лаўр Яўсеевіч здзіўлена пахітаў галавой.

— Ну, гэта, калі так, я вам скажу, знакавая падзея. Эге…

Лявон падаў Лаўру Яўсеевічу лістоўку.

Чуткі, што немцы дапялі да Масквы, хадзілі даўно. Адзін час газеты пісалі, што яны ўжо ў Маскве, і многія паверылі. Аднак, як вынікала з лістоўкі, якую Лаўр Яўсеевіч прабег вачамі, усё было інакш. Немцы не толькі не ўзялі Масквы, але былі разгромлены на падыходзе да яе, адкінуты на многа кіламетраў назад. Пад глыбокім снегам засталіся дзясяткі тысяч забітых і параненых, многія сотні танкаў, машын, гармат.

Усе ў хаце былі вельмі ўсхваляваныя, нейкі час маўчалі. Цішыню парушыў Кузёмка:

— А ўжо думалі, што немцы непераможныя, ажно не!

Лаўр Яўсеевіч уздыхнуў, а Кузёмка працягваў:

— Каб ведалі, што на свеце дзеецца! Ой, яшчэ не тое будзе! Немцы помсцяць за сваю няўдачу пад Масквой. У Берасці на вакзале незлічоную колькасць трупаў выкінулі. На свае вочы бачыў. Незлічоную колькасць!

— Якіх трупаў? — не зразумеў Лявон. Вырашыўшы, што Кузёмка дапускае, пэўна, нейкае перабольшанне.

— Палонных чырвонаармейцаў везлі на захад, цэлы састаў таварных вагонаў, ад голаду і холаду памерлі. Вось якіх! Можа, дзве тысячы, а можа, і больш…

— Ой! — жахнулася пачутаму Прося, адарваўшы рукі ад кроснаў.

— Такое ўпаўне можа быць, — задумліва сказаў Лаўр Яўсеевіч. — Гэта яны, наверна, помсцяць за тое, што, як стала вядома, пад Масквой адбылося. Беражы Гасподзь!

— Ашалець можна! — азвалася Хомчыха і роспачна сціснула далоні.

Лявон нічога не сказаў. Гарэла грубка, і ён кінуў лістоўку ў агонь.

— Правільна зрабіў! — сказаў Кузёмка, пазіраючы, як гарыць паперка. — Бо мала ці што…

Фёкла таксама была глыбока ўражаная Кузёмкавым аповедам, ажно змянілася з твару, пабляднела, але, нарэшце, як бы апомнілася. Тым часам Кузёмка перавёў размову на іншае:

— А Пац лаўку ў Камянцы мае! — сказаў ён.

— Пра гэта вядома, — азваўся Лявон.

— На прылаўках хамуты, шлеі, махорка, запалкі, крупы, сахарын… Столькі, можа, нават калісьці і ў Шпронькі не было!

— Кожнаму сваё, — адзначыў Лаўр Яўсеевіч, агладзіў клінок бародкі, развітаўся і выйшаў.

— А кім ён у вас зараз? — спытаў Кузёмка, маючы на ўвазе Лаўра Яўсеевіча.

— Дзяк, — адказала Хомчыха.

— Гаворыць, як чытае.

— Умее гаварыць, — згадзілася жанчына.

Фёкла высыпала суседцы ў мяшэчак міску ячных круп, і тая, падзякаваўшы, таксама пайшла.

— Госця пакармі! — напомніў Лявон.

— Есці будзеш? — Фёкла зірнула на Кузёмку.

— Ну, давай!

— Ёсць бульба і капуста гарачая.

— Тое, што трэба! Люблю гарачае, каб у лыжцы кіпела! — узрадаваўся Кузёмка і прысунуў столак бліжэй да стала.

Фёкла паставіла на стол бульбу, міску капусты, ад якой узнімалася пара, Лявон дастаў з-пад настольніка буханку хлеба і адрэзаў тоўстую скібіну.

— На што іншае выбачай — пост!

— А то я не ведаю?

Згаладнелы падарожны пачаў сілкавацца, аднак працаваў лыжкай не спяшаючыся, спаважна.

Ткаллі зноў узяліся за працу, нібы ўспомніўшы, што на працы трымаецца свет. Зноў застукалі набіліцы, забегаў чаўнок. Рабілася адвечная справа жанчын-сялянак. Хутка яны даткуць кужаль і вынесуць з хаты кросны, а сатканае палатно скачаюць у сувой і будзе яно чакаць летняй расы і сонца, будуць яшчэ над ім працаваць — мяць, мачыць у рэчцы, кляпаць пранікамі, бяліць і сушыць.

— А дзе ваш сібірак? — пацікавіўся Кузёмка.

— Гуляе на музыках, — адказаў гаспадар.

— Раздво хутка, — напомніў госць, даеўшы капусту і хлеб і пасля ўсяго паклаўшы лыжку на стол.

— Можа, яшчэ капусты? — прапанавала гаспадыня.

— Не, дзякуй, душа меру знае. — Ад сытасці Кузёмка палагаднеў і, склаўшы на жываце рукі, ціха заспяваў:

Над табою дзева-маці
Цябе будзе калыхаці,
Спі, Ісусе, спі!..

Фёкла ўслухалася ў словы песні.

— Хораша спяваеш, — пахваліла певуна.

— Раздво хутка і Новы год, — удакладніў гаспадар.

Ражство — свята надзей і спадзяванняў на лепшае. Новы год — таксама. Які ён будзе — Новы, 1942 год?

Ні ў кога не было адказу на гэтае пытанне.

Фёкла распаліла грубку, але начаваць у хаце Кузёмка не згадзіўся. «Душна», — патлумачыў ён. Начаваў на вышках разам з Санькам, які позна вярнуўся з музыкаў. Тут утульна і цёпла. Кузёмка і яму расказаў пра апошнія падзеі пад Масквой. Гэтая навіна моцна скаланула сэрца акружэнца, і ён вырашыў заўтра ж схадзіць у Свішчова да сябра Мачалава, перадаць яму навіну. «Пераначуем, больш пачуем», — сказаў Кузёмка на заканчэнне і адразу ж заснуў, як бы націснуўшы на нейкую кнопку.

Санька яшчэ доўга думаў пра тое, як нечакана і непрадказальна ўсё склалася ў яго жыцці, пра радзіму і бацькоў, якія былі цяпер для яго недасягальныя, пра Маньку, якая ўсё больш падабалася.

На раніцы Кузёмка пайшоў сваёй дарогай — шыць кажухі і расказваць людзям навіны. «Нагрэтага куточка шкада пакідаць, але трэба ісці», — сказаў на развітанне.

Па-іншаму тлумачыў тое, што адбылося пад Масквой, солтыс Хрысан.

— Па загадзе адступілі, — паўтараў ён, — каб маразы перабыць у добрых кватэрах, у цяпле. Бо нашто немцам перціся ў самы мароз? Калі бензін замярзае!..

— Ці далёка ж гэтыя кватэры? — цікавіліся мужчыны.

— Ну, мне сказалі, так, кіламетраў, можа, сто ад той Масквы…

* * *

Хто ў Прусцы ні на што, здавалася, не звяртаў увагі, дык гэта баптысты. Яны паводзілі сябе так, як быццам бы нічога не здарылася. Пад Новы год, на Раздво, у Натолія Галёнкі (у яго найпрасторная хата) ставілі ёлку. Размясцілі яе ў кутку, на покуце. Побач з ёлкай, упрыгожанай самаробнымі цацкамі, стаяў стол, на якім ляжала Біблія. Да гэтых зімовых свят рыхтаваліся загадзя. Дзеці вучылі на памяць вершы. На гэты раз даручылі расказаць вершык і Лявонаваму ўнуку Валодзіку. Малога паставілі на столак, каб усе бачылі і чулі «артыста». Гарацьсвечкі, пахне ігліцай, і Валодзік чытае:

Вечер был, сверкали звезды,
На дворе мороз трещал.
Шел по улице малютка,
Посинел и весь дрожал.

— Боже, — говорит малютка, —
Я прозяб и есть хочу.
Кто же в мире неуютном
Пожалеет сироту?..

У хаце ўсталявалася цішыня, слухачы сталі дыханне. Чутно, як за акном злуецца зіма, і лёгка ўявіць сабе цяжкі лёс сіраціны-хлопчыка, які апынуўся адзін на вуліцы. Але ўсё ж такі добрыя людзі знойдуцца!

По дорожке шла старушка,
Услыхала сироту,
Приютила и согрела,
И поесть дала ему.

Положила спать в постельку.
— Как тепло! — промолвил он,
Улыбнулся, закрыл глазки
И заснул спокойным сном.

Бог во поле птичку кормит
И цветы кропит росой.
Бесприютного сиротку
Не оставит также Бог.

Слухачы з палёгкай уздыхалі, надта ўсцешаныя такім заканчэннем гэтай драматычнай гісторыі — усё для сіроткі абышлося, скончылася добра, Бог не пакінуў у бядзе. Потым чыталі вершы і іншыя хлопчыкі. Ім таксама пляскалі ў далоні і прыветна пасміхаліся. Асабліва ласкавай і прыветлівай да малых чытальнікаў была гаспадыня — жонка Натолія Макрына. Спецыяльна дзеля гэтага выпадку яна пякла салодкія піражкі. Пасля канцэрта кожны «артыст» трымаў яго ў руцэ.

Назаўтра Натолій спыніў Лявона і меў з ім размову:

— Лявоне, аддай нам унука — да нас ён хінецца, сам бачыш, на ёлцы быў, вершык прачытаў, расчуліў усіх. Мая Макрына ажно заплакала.

Лявон адвёў вочы ў бок, памаўчаў.

— Благому вы не вучыце, я ведаю.

— Ты ж і ў Амэрыцы быў, бачыў, якая яна багатая. Усё ёсць. А адкуль тое багацце? Гэта ж мы, хрысціяне-пратэстанты, і баптысты ў тым ліку, шчырыя і нястомныя працаўнікі, багацце тое стварылі. Мы і цяпер дапамагаем адзін аднаму, трымаемся разам, абшчынай, і твой унук знойдзе паміж нас любоў і спасенне!

Лявон уздыхнуў.

— Не, суседзе, дзякуй за прапанову, але будзем ужо трымацца старой веры — праваслаўнай. Некалі ў Амэрыцы, калі я там быў, квакеры — гэта таксама пратэстанты — казалі: «Ідзі да нас, бачыш, як мы жывём». Шчыра запрашалі. І жылі яны багата, нават, можна сказаць, заможна, без зайздрасці, паважаючы адзін аднаго. Прынамсі, мне так здавалася. Але я пры сваёй веры застаўся. Дык хай ужо і ўнук застаецца.

## XVIII

Жорсткім і лютым як і сама вайна, выдаўся студзень 1942 года. Першая ваенная зіма. Ніжэй за дваццаць градусаў маразы не апускаліся. Моўчкі стаяў анямелы лес. Прагіналіся ад снегу галіны дрэў, дуйка замяла дарогі, цяжкія, сталёвага колеру хмары ішлі нізка над галавой, чапляючыся за вершаліны соснаў і елак. Партызаны Пенкіна сядзелі ў гушчары, у сваім Ласіным Закутку, у зямлянцы, якая, наскрозь прамерзлая, давала зацішак, але не давала цяпла. Навокал ляжаў глыбокі снег — сумёты ў два метры вышынёй. Збудаванне было завалена гэтымі снежнымі гурбамі, так што лепшай маскіроўкі і не прыдумаеш. Хлопцы, каб не выдаць сябе і сваё месцазнаходжанне слядамі, нікуды не хадзілі, трымаючыся гэтага свайго суровага жытла. Часам здавалася нават, што вясна ўжо і не вернецца, што зіме канца-краю не будзе і маразы не адступяць.

Без ужытку ржавела згруджаная ў кутку зброя — некалькі вінтовак, «дзягцяр» Каліснікава і аўтамат Вані-ёжыка. Пенкін свой пісталет насіў пры сабе, на поясе.

Гулялі адно ў карты. Ад пстрычак чырванелі лбы. Жавалі свежыя сасновыя іголкі — гэта, казалі, ратавала ад цынгі.

Галабурда з Мурашкам час ад часу наведваліся ў дальнія прыпушчанскія вёскі і Камянец, турбаваліся пра харчы для сваіх прыяцеляў — Пенкіна з таварышамі, якія вымушаны былі бавіць час у гэтай зямлянцы. Адзін і другі — Галабурда і Мурашка — аказаліся незаменнымі ў гэтай няпростай сітуацыі. Адзін і другі, як мясцовыя, мелі сувязі. Пра Мурашку жартам казалі: «Пракідкі! Гэты і з-пад сучкі яйцы дастане!» Так ці не, але чалавек быў карысны на сваім месцы. Аднойчы пад раніцу, па глыбокім снезе, яны вярнуліся ўтрох — з Галабурдам і Мурашкам быў яшчэ адзін чалавек у лёгкай для зімняга часу паддзёўцы, падпяразанай рамянём, і шапцы-аблавушцы, з вусамі і пры барадзе. Галабурда адчыніў дзверы ў зямлянку, і яны ўвайшлі ўсе трое за адным, як кажуць, скрыпам. У твар, як з парніка, ударыла гарачыня. У густым цемрыве чуўся храп спячых. Некаторыя, учуўшы, што нехта прыйшоў, папрачыналіся, падымалі галовы. Храп крыху аціх. Счакаўшы, Галабурда пачаў:

— Вы, пэўна, нічога і не ведаеце!

— А што? Што такое? — пачуліся галасы.

— Перамога! Немца з-пад Масквы пагналі! На сто кіламетраў адагналі! І забіта шмат! Крэпка ўсыпалі! — шумна абвясціў Галабурда.

— Вызвалена вялікая тэрыторыя, шмат вёсак і гарадоў! — дадаў Мурашка.

— Ух ты! — заварушыліся насельнікі зямлянкі, паўскоквалі з нараў. — Няўжо праўда?

Запалілі лямпу-капцілку.

— Гэта і ёсць атрад Тэльмана? — спытаў барадаты, у паддзёўцы.

— Ну, дапусцім, — стрымана адказаў Пенкін.

— Да, таварышы, пад Масквой састаялася шырокае наступленне, настаяшчая бітва. Вынікі аграмадныя, без пераўвелічэння! Дасталося фрыцам на арэхі! — сказаў барадаты, у паддзёўцы, падаўшы кожнаму руку і прымасціўшыся на калодзе пры сцяне.

— Нарэшце! — загаманілі навокал.

— Усё ж такі далі па зубах!

— Дзясяткі тысяч забітых, — удакладніў чалавек у паддзёўцы, расшпіліўшы каўнер, — тэхніка, панятнае дзела, раскурочана, паламана, разбіта. Разгром! Танкі, гарматы, мінамёты, аўтамашыны…

— І браневікі! — падказаў Галабурда.

— Ну вось, а я што казаў! — падхапіўся Беражняк. — Масква стаіць!

— Стаіць! — пацвердзіў госць. — Аднак Гітлер новыя дывізіі перакідае ў Расію — з Францыі, Бельгіі, Нарвегіі…

— Радыёпрыёмніка няма — вот бяда, — паскардзіўся камандзір. — Навасцей не знаем. А вы хто такой? — звярнуўся ён да чалавека ў паддзёўцы.

— Я, можна сказаць, мясцовы. Прозвішча маё Іваноў. — Да вайны працаваў з таварышамі ў Камянцы па лініі пракурорскага нагляду. Таварышы Галабурда і Мурашка мяне ведаюць.

— Ведаем! — у адзін голас пацвердзілі Галабурда з Мурашкам. — Знаёмыя даўно.

— А цяпер я ўпаўнаважаны Цэнтра.

У зямлянцы прыглушана закашлялі.

— Панятна, — працяжна азваўся Пенкін, натапырыўшы свае белыя бровы і як бы прыняўшы да ведама гэтае пацвярджэнне. — Мы паважаем кіруючых таварышаў. Пра Цэнтр — што гэта і дзе ён знаходзіцца — пытацца не стаў.

Нейкі час, пад уражаннем пачутага, усе маўчалі. Але пачуцці былі настолькі бурныя і захапляючыя, што яны зноў вярнуліся да ранейшай гаворкі.

— Малайцы! Малайцы! — паўтараў Пенкін. — Усыпалі, далажу я вам, па першае чыслішка! Малайцы! Я ведаў, што так яно і будзе!

— Мы таксама не драмалі, — нібы апраўдваючыся, ці хвалячыся, дадаў Ісаеў, — сувязь яму парушылі! Пазбавілі па сутнасці камунікацыі. Харашо на хвост наступілі!

— Я пра вашы ўспехі слышал, — адгукнуўся, каб падтрымаць размову ўпаўнаважаны. — Таварышы трымалі мяне ў курсе. Але гэта, таварышы, толькі пачатак, мелач, для разгону…

— Гэта не мелач, не дробязь! — узвіўся Ваня-ёжык. — Яшчэ невядома! Можа, па гэтым провадзе сам Гітлер са сваімі генераламі размаўляў! А цяпер не размаўляе. Мы яму заткнулі рот!

Афінагенаў, трэба аддаць яму належнае, у спрэчку з яршыстым і наіўным Ванем-ёжыкам не ўступіў.

— Таварышы! — узнёсла сказаў ён, як бы стаяў на трыбуне. — Такая падзея пад Масквой! Дух займае!

— Давайце гэта дзела адзначым, — прапанаваў камандзір, паціраючы рукі. Ён ачысціў кнот ад нагару, лямпа перастала капціць, і святло яе стала ярчэйшым. Глянуў на Афінагенава: — Прысаджвайцеся, таварыш. Далучайцеся да агульнага стала.

— Гляк самагонкі ў нас ёсць, — падтрымаў яго Галабурда, — прынеслі яшчэ той раз.

— Дык гэта жалезны рэзерв! — нагадаў Калеснікаў. — Энзэ, на ўсякі выпадак…

— Вось якраз і выпадак! — ухваліў прапанову Зіпуноў.

— Закуска — сала з цыбуляй, — заварушыўся Мурашка, — яшчэ трохі ёсць. Я думаю, лепш і не прыдумаеш.

Заставалася яшчэ крыху бульбы, якую варылі «ў мундзірах», неачышчанай, але паліць печ не рашыліся, каб здрадлівы дым не выдаў стаянкі. Галабурда паставіў на стол гляк — вялікую бутэльку з цёмна-зялёнага шкла, Мурашка падаў бляшаную конаўку, дастаў з кішэні нож і, зачапіўшы пазногцем вялікага пальца за выраз, выцягнуў лязо, стаў рэзаць хлеб. Потым накрышыў сала, аблупіў і парэзаў на дробныя часткі дзве галоўкі цыбулі.

Першаму Галабурда наліў камандзіру, але Пенкін, па правілах гасціннасці, перадаў конаўку Афінагенаву. Той крыху паморшчыўся, лізнуў край конаўкі і паставіў на стол. Але кругом рашуча загаманілі, і ён выпіў. Затым напоўненую ёмістасць узяў камандзір.

— Ну, будзем здаровы! За перамогу! — абвясціў Пенкін і асушыў конаўку да дна. Выпіў і не паморшчыўся. Правёў рукою па вуснах, але да закускі не дакрануўся, пачакаў, пакуль пройме гарэлка, і толькі тады ўзяў кавалачак сала.

Побач з ім сядзеў Калеснікаў. Пенкін наліў яму і бліжэй падсунуў конаўку:

— Ну, лётчык, давай! За перамогу!

Калеснікаў падняў конаўку над сталом:

— За перамогу! — паўтарыў ён тост камандзіра. — Каб адолець супастата!

Выпіў і наліў суседу — Бражняку. Конаўка пайшла па крузе. Закусвалі тым, што ляжала на стале, запівалі вадой. Хрумстала на зубах цыбуля. Пенкін паглядзеў на былога пракурорскага работніка, а цяпер упаўнаважанага Цэнтра.

— Родам адкуль?

— Ленінградскі. А вы?

— Я з Астрахані.

— Цяпер гэта ўсё за лініяй фронту, — ціха прамовіў Бокша і шумна ўздыхнуў.

Упаўнаважаны нібы між іншым паспрабаваў запярэчыць:

— Дык фронт ужо сюды, да нас, коціцца.

— Па сям’і занудзіўся? — зірнуў на Бокшу Пенкін.

Бокша нічога не адказаў.

— А што?

— Да вот, думаю, палажэнне наша непанятнае…

— А дома нас, напэўна, загінуўшымі лічаць, — скрушна пакруціў галавой Бражняк.

Усе, хто быў у зямлянцы, уключаючы і ўпаўнаважанага, сцішыліся, прымоўклі, кожны, відаць, думаў пра сваіх па той бок фронту. Азваўся толькі былы беспрытульны Ваня-ёжык:

— Мяне не лічаць…

Скарыстаўшы хвіліну перапынку, упаўнаважаны дастаў з кішэні кісет з махоркай і пачаў скручваць цыгарку.

— У нас тут не кураць, — спыніў яго Пенкін, — пакурыць можна наверсе, — ён пальцам паказаў на столь, якую складалі таўставатыя сасновыя бярвенні.

— Добра, курыць не буду, — згадзіўся ўпаўнаважаны.

Крыху счакаўшы, патроху выпілі яшчэ. Конаўка пайшла па кругу.

Бражняк паглядзеў на Галабурду з Мурашкам і на ўсякі выпадак спытаў:

— За сабой нікога не прывалаклі? — Задаваць падобныя пытанні было абавязкам Бражняка, які лічыўся ў Пенкіна адказным за пільнасць і адначасова быў начальнікам штаба, хоць самога штаба пакуль што не было.

— А ты што — баішся? — агрызнуўся Галабурда. — Там жа, наверсе, Калода стаіць, вартавы!

— Калоду трэба змяніць. Ці не заснуў ён там? — усхапіўся Пенкін. — Ён жа ў час мінулай аперацыі нагу адмарозіў. Цягнірадно! Таварыш Цягнірадно, заступай на пост. Жыва!

— Ёсць! — азваўся Цягнірадно.

У зямлянцы сцюдзёна, а наверсе яшчэ халадней. Халадней і надта адзінока, сумна. Але загад ёсць загад, і Цягнірадно знайшоў у кутку сваю вінтоўку і выйшаў.

— А недзе ж Новы год сустракаюць… — уздыхнуў барадаты Задора, які, як зрэшты і ўсе прысутныя, шмат аддаў бы, каб пабачыцца з роднымі.

— Сустракаюць…

Калі той Новы год, ніхто толкам не ведаў, у аднастайнасці ляснога існавання даўно было страчана адчуванне хады часу. Адны лічылі, што яшчэ снежань, другія сцвярджалі, што ўжо сярэдзіна студзеня.

Але на гэты раз спрачацца яны не сталі. Вярнуўся з надворку акалелы, увесь асыпаны снегам, Калода. Пачаў страсаць снег, стаў грэцца, ударыў колькі разоў рукамі па сцёгнах. Замерз на марозе. Пасярод твару ў яго тырчаў маленькі, як піпка, чырвоны нос, а ўсё падноссе і рот закрывалі даўжэзныя, даўно нястрыжаныя вусы ў ледзяшах.

— Стаіш, пазіраеш у цемру, а нічагусенькі не відно. Поўная непрагляднасць. Каб у морду хто даў, дык і не ўбачыў бы — хто, — паскардзіўся Калода і стаў кашляць.

— Не кашляй! Кашляеш тут, панімаеш! — жартам напудзіўся на яго Ваня-ёжык, ахмялелы ад выпітай самагонкі, але Калода не звярнуў на яго ўвагі.

— Такой цёмнай і халоднай зімы я дык, прызнацца, і не помню, — ціха прамовіў ён, пацепаўшы плячыма. — Да касцей дастае.

Навіна ўзрадавала Калоду, яму таксама далі выпіць, і ён, абадраўшы з вусоў ільдзінкі, выліў тое, што было ў конаўцы, у рот. Пасля гэтага і сапраўды перастаў кашляць.

— Калі ад Масквы папёрлі, дык к вясне, можа, і сюды дапруць? — выказаў спадзяванне Беражняк. — Нічога! Будзе і на нашай вуліцы празнік! — дадаў ён на поўны голас.

— Да лета, можа, і прагонім, — няўпэўнена азваўся Дырман.

— Логіка такава, — умяшаўся ў гаворку і павучальна сказаў Афінагенаў, — што і нам нада ўсіліць баявую дзеяцельнасць, нанасіць адзін за другім удары па ўрагу. Тыл з фронтам звязаны напрамую. Таварыш Сталін гаварыў аб гэтым зусім недвусмысленна. Нада, таварышы, пашыраць нашы рады, устанаўліваць сувязі. І дыверсіі, дыверсіі і дыверсіі! Трэба смялей пераходзіць да партызанскіх метадаў, адрэзаць яму базы забяспячэння, не даваць спакою. — Пра тое, што трэба, згодна ўказання таварыша Сталіна, паліць лясы, упаўнаважаны казаць устрымаўся.

— А што? — падхапіў Ваня-ёжык. — Фашыст замерз, самы момант з ім паквітацца. Я б яго з аўтамата! Секанўў бы і канцы! Ты ж панімаеш…

Упаўнаважанаму гэта спадабалася, але ён прамаўчаў.

— Не так усё проста, — заасцярожнічаў Пенкін, паправіўшы фуражку, якую ён, здаецца, ніколі і не здымаў. — Фронт расцягнуўся на тысячы кіламетраў, ад Балтыкі да Чорнага мора, тут сіла патрэбна. Я пра гэта ўжо думаў.

— Праціўнік усё яшчэ сілён, — адгукнуўся Сарокін.

У размову ўмяшаўся Галабурда:

— Партызан не толькі страляць павінен умець, але і затаіцца, чакаць, цярпець, калі трэба. — У голасе яго прагучала засцярога.

— Я гэтага не адмаўляю, — згадзіўся Афінагенаў.

З нараў, з-пад столі, пачуўся застарэлы кашаль. Гэта кашляў Задора.

— Прусакі жыцця не даюць, горш, ніж немцы! — паскардзіўся ён. — І хто іх сюды прынёс?

Загаманіў Калеснікаў:

— Паўгода ўжо знаходзімся ў тыле ворага, а яшчэ, па сутнасці, нічога не зрабілі, апроч таго, што папсавалі сувязь. Малавата!

— Вывелі са строю сувязь і сябе абнаружыць не далі — гэта ўсё ж такі нешта значыць! — паўтарыў Ісаеў.

— Узбраенне няважнае, — зазначыў Беражняк, — вінтоўкі, аўтамат і адзін ручны кулямёт з двума дыскамі. І вінтовачных патронаў па дзясятку на чалавека, не больш. Ну, яшчэ гранаты…

І ўсё ж такі яны не выцерпелі, закурылі. Адчынілі лаз і закурылі, спакусіўшыся на афінагенаўскую махорку. На самакруткі разарвалі нямецкую газеціну. Пры зацяжцы канцы самакрутак успыхвалі чырвоным жарам, асвятляючы шчаціністыя твары. Гэтыя ўсполахі ў цемрыве зямлянкі разам з нягучнай гамонкай і густым тытунёвым дымам стваралі адчуванне чагосьці нерэальнага, прыдуманага. Як бы ўсё, што адбываецца, было не на гэтым, а на тым свеце, недзе ў апраметнай, і знаходзяцца ў гэтай апраметнай не жывыя людзі, а іх цені. Размовы, аднак, вярталі на гэты свет, да сённяшніх клопатаў.

— Вось каб чыгунку пашкодзіць. Рух паяздоў сарваць, — глыбока ўздыхнуўшы, падаў думку Пенкін. — Каб на рэйках дыверсію ўчыніць. Пра гэта нам вось і таварыш упаўнаважаны кажа.

— Каб рэйкі яму пакурочыць, — дадаў Бонк, які да гэтага маўчаў.

— Адвінціў гайку — вось табе і крушэнне, — як бы параіў камусьці Зіпуноў.

У цішыні прагудзеў голас Цягнірадна:

— Проста сказаць — адвінціў. А чым?

— Ключом.

— Чыгунка адсюль далёка, — прамовіў абачлівы Галабурда, — гэта пад Жабінку трэба ісці.

— Вясны трэба дачакацца, — падаў рэпліку Мурашка, — вясной лацвей.

— Калі фартуна будзе на нашым баку, — зноў азваўся Бонк.

— Ні разу не стральнулі, — пасміхнуўся Ваня-ёжык. — Вясны дачакацца! Ты ж панімаеш…

— Таварышы! — зноў падключыўся да размовы ўпаўнаважаны. — Не думайце, што пра вас забылі. Пра вас помняць і ставяць адпаведныя задачы.

— Мы гэта разумеем, — адказаў камандзір.

— Падумайце! — ціха, але з нейкім пагрозлівым папярэджаннем у голасе паўтарыў упаўнаважаны. — Каб позна не было.

— Канешна, падумаем.

— Вы — камандзір, — напомніў госць.

Раздаліся патрабавальныя галасы:

— Нам аліва або вазелін трэба для змазкі зброі. Іржа паела…

— Нешта прыдумаем, — заспакоіў Беражняк.

— Парцянкі памяняць бы…

Упаўнаважаны слухаў, нічога не кажучы.

— Нада нам, відаць, усё ж такі бліжэй да фронту, — сказаў Бокша, — там падкажуць, што рабіць, ды і ўмовы там іншыя, і настраеніе!

Чулі гэта ад Бокшы не ў першы раз, ужо прывыклі.

— Калі куля не адшукае, — дадаў ён, — дык мароз даканае, як тых фрыцаў пад Масквой.

— Ну, марозу не паддадзімся! — запярэчыў Беражняк.

— А ты ўжо і нюні распусціў? — упікнуў Бокшу Калеснікаў.

— Калі б тую танкетку, што каля Бабіцкай гары, заправіць бензінам, дык можна было б і да лініі фронту даехаць, — азваўся Калода, які, мусіць, крыху сп’янеў ад выпітай гарэлкі, таму што гаварыў нешта зусім нерэальнае.

— Яна ўжо без калёс, — адказаў яму маўклівы Несцярук. — Жалеззе па вёсках расцягваюць, у кузні можна прыладу якую зрабіць…

Афінагенаў пакінуў партызанскае стойбішча ў другой палавіне дня, калі пачало цямнець. Суправаджаў яго Мурашка. Дамовіліся пра сувязь, пра тое, каб мець кантакты. «Не забывайце, таварышы, пра бдзіцельнасць!» — напомніў госць на развітанне.

Але прайшло яшчэ колькі часу, і настрой у людзей Пенкіна зусім разладзіўся. Галадалі, і надта даймаў холад. Дранцвелі ногі, а рукі так набракалі холадам, што цяжка было ўтрымаць вінтоўку. Асабліва шмат незадаволеных і нараканняў было на раніцу.

— Ваяваць? А як ваяваць? Скура да затвора прымярзае! — бурчэў Цягніраднo.

— А ты што? Адзін такі? — злаваў Ісаеў. — Усім цяжка.

— Перастань скуголіць! — спрабаваў прысарамаціць таварыша няўрымслівы Ваня-ёжык.

— Таварышы, што ж нам рабіць? — звярнуўся да сваіх падначаленых камандзір. — Давайце памазгуем. Становішча і сапраўды не складанае. У зямлянцы нам проста так зіму не выседзець, трэба нешта рабіць. Аднак, — пазіраючы на дол, ён зрабіў паўзу, — і распускаць атрад нельга. Дэмабілізацыі я, таварышы, не дапушчу!

— Пра якую дэмабілізацыю можа ісці гаворка? — пацісНуў плячыма Бонк. — Нам няма куды дзецца…

— Ты што, Мікалай! — супакоіў камандзіра Калеснікаў. Загаманілі мясцовыя:

— Адагрэцца нада! Давайце куды-небудзь на хутар!

— У цёплае месца.

— Хаця б на некалькі дзён.

— Нары надта мулкія, — не вытрымаў Калода, — у мяне на баках ужо сінякі.

— Валасы сталі, як дрот, — паморшчыўся Дырман, правёўшы даланёю па галаве. — Каб хаця памыць як.

— Нагала нада, — параіў Беражняк.

— І адзяжонку нада падлатаць, — падаў голас нехта яшчэ.

— Месца стаянкі трэба змяніць, каб леснікі не высачылі, — падаў слушную параду Несцярук. — Прынюхваюцца, гады, а пах дыму чуваць далёка. Можа, ужо і ведаюць…

У Галабурды была канкрэтная прапанова:

— Каля Заляшанаў я знаю хутарок. Гэта кіламетраў з дзесяць у бок пушчы. На поўнач. З тыдзень пракантавацца можна. Га? Адзін начны скачок — і там.

— А што за хутарок? — па-камандзірску строга спытаў Пенкін. — Надзейны?

— Надзейны, — заверыў Галабурда. — Жанчына там жыве.

— Адна?

— Адна.

— За хутарамі яны асабліва сочаць. Леснікі, ляснічыя… — завагаўся асцярожны Мурашка, які к гэтаму часу, адвёўшы Афінагенава да Замастаў, паспеў вярнуцца ў атрад.

— Нічога, нас, можа, не шмат, — умяшаўся, пракашляўшыся, абраслы барадой Задора.

Гамана аціхла, чакалі, што скажа камандзір. Пенкін доўга думаў, вагаўся, відаць, рашэнне давалася яму нялёгка. Потым абвёў прысутных вачыма:

— Хто за прапанову Галабурды, прашу падняць руку.

Людзі азіраліся адзін на аднаго і няўпэўнена цягнулі ўверх рукі. Няўпэўнена, бо трэба было ісці ў невядомае, пакідаць гэтае, хай сабе і няўтульнае, але прывычнае жытло, якое гарантавала нейкі «пражытачны» мінімум.

Падняў руку Калеснікаў. Апошнім — сам Пенкін.

— Каб толькі ўсё добра было, — пашкроб за вухам Мурашка.

— А я і не сумняваюся, — кінуў у яго бок Ваня-ёжык. — А што?

— Адтуль пойдзем на заданне, — удакладніў Пенкін, — засаду зробім, на шашы ў Камянюкі. Я прадумаў. Зброю бяром з сабой. Берагчы зброю і гранаты!

Ён крыху памаўчаў, затым патлумачыў, як на тым хутары трэба сябе паводзіць: — Гаспадары не павінны ведаць, што мы ваенныя, армейцы, тым больш — партызаны. Мы проста так, да сваіх дабіраемся. Будаўнікі. Адпачнём і далей пойдзем. Вернемся, карацей кажучы, сюды.

На хутар, які меў на ўвазе Галабурда, рушылі не адкладваючы, у той жа дзень, вечарам, калі добра сцямнела. Зрэшты, гадзіннік у Пенкіна паказваў усяго толькі пачатак пятай, але адчуванне было такое, быццам даўно наступіла ноч.

## XIX

Пенкін з таварышамі пабрылі да таго хутара каля Заляшанаў, пра які казаў Галабурда. Снегу накідала аж занадта. Апранутыя і абутыя — хто ў што: шынялі, бушлаты, ватнікі, шэрыя сялянскія світкі, на нагах у каго боты ці чаравікі з абмоткамі, а ў каго і проста атопкі.

— Эх, каб маскхалаты! — прыцмокнуў Беражняк, ідучы следам за Калеснікавым.

— Абыдземся — ноч! — азваўся той.

Ішлі праз балота па зімніку. Летам гэтай дарогай не пройдзеш — праваलішся ў дрыгву. Цяпер жа ногі правальваліся ў сумёты, чапляліся за тонкія прамёрзлыя карэньчыкі, цяжка было брысці. У асобных месцах снегу было па пояс. Адзін аднаго выцягвалі. Ішлі насустрач свайму лёсу. А лесу, здавалася, не будзе канца. Цяжка абсыпаны снегам, ён стаяў моўчкі, не рухаючыся, як нежывы, быццам акалеў у нябачных, але магутных абдымках зімы. Толькі недзе зверху галёкала завея. Снег церусіўся на сумёты, робячы іх яшчэ больш груватскімі.

Амаль усе былі пры зброі. У Калеснікава — «дзягцяр». Пагойдваўся ў гняздзе і крыху лязгаў вялікі, як талерак, дыск. Пенкін нават зрабіў яму заўвагу. «Такая канструкцыя!» — апраўдваўся былы лётчык. Ваня-ёжык пачапіў на шыю свой «шмайсер», трымаючы яго абедзвюма рукамі напагатове. У астатніх — вінтоўкі, гранаты. У Ісаева яшчэ і плоскі нямецкі штык.

Ішлі ўсю ноч і частку наступнага дня. Зімовы дзень кароткі, прыйшлі пад вечар, замятаючы за сабой след. Гэтаму яны паспелі ўжо навучыцца. Стараліся ісці след у след, а ззаду двое валаклі за сабой ссечаную ялінку — баранавалі пракладзеную ў снезе сцежку. Пад канец надта стаміліся, ужо ледзь валаклі ногі, нылі калені, а падэшвы гарэлі агнём, быццам хтосьці напхаў у абутак гарачага вуголля. Здаралася, спатыкаліся і падалі.

— Я дык замудохаўся зусім, — прызнаўся Галабурда. Ад стомы ён ажно разявіў рот і шумна дыхаў, на ілбе выступілі буйныя кроплі поту. Відаць было, што чалавек зусім знясілеў.

Хутар стаяў воддаль ад вёскі, на ўзлессі, — хата, калодзеж, які выдзяляўся на фоне бялюткага снегу, невысокая клуня, хлявы з акуратна складзенымі ля сцен дровамі, мураваны склеп. Ціха скрыпеў пад ветрам калодзежны журавель. Пад вокнамі мерзла развешаная на вяроўках бялізна, над страхою снаваўся дымок. Абсаду акружаў густы замшэлы плот з высокай драўлянай брамай.

— Дзіўна, што няма сабакі, — заўважыў Пенкін.

— Павінен быць, — адказаў Галабурда, і ў доказ яго слоў сабака, які знаходзіўся па другі бок хаты, залівіста забрахаў.

— Чуйны!

Гаспадарыла на хутары ўдава — жанчына з прыпухлым канапатым тварам. Яна адчыніла начным гасцям дзверы; у сенях, усе пачулі, прыемна запахла кменам і каноплямі. Гаспадыня запаліла лямпу і, ашчаджаючы газу, укруціла кнот. Галабурда, мяркуючы па ўсім, быў з ёю добра знаёмы. У хаце панавала цішыня, толькі праз замарожаныя, белыя ад інею акенцы даносіліся ўсхліпы і скавытанне зімовага ветру. Гаспадыня шчыльна іх пазанавешвала.

Першым запытаннем Пенкіна было:

— Немцы ў вёсцы ёсць?

— Паліцаі. У солтыса спыніліся, гарэлку п’юць…

— Эх, ударыць бы зараз па іх! — усклікнуў Ваня-ёжык. — Яны там цёпленькія, пікнуць не паспеюць!

— Гарачы ты!.. — цыкнуў на яго Ісаеў.

— Чаму гэта я гарачы?! — не згадзіўся Ваня. — Я не гарачы, але і халодным не буду. Ты ж панімаеш…

— Калі жывы застанешся, — буркнуў сабе пад нос Сарокін.

— Дзе хазяін? — пацікавіўся Пенкін.

— Аграфена адна жыве, — адказаў за гаспадыню Галабурда.

— А тут у нас, ведаеце, няшчасце ад гэтых супастатаў, — паскардзілася гаспадыня.

— Якое няшчасце? — насцярожыўся Мурашка.

— Ды актывістаў пабілі…

— Лютуюць захопнікі! — уздыхнуў Галабурда, стомлена апускаючыся на лаву.

— Вёскі паляць…

— Мамаша, не бойся, ты толька не бойся, — супакойвалі жанчыну нечаканыя госці. — Мы надоўга не затрымаемся. Мы па-быстраму.

Абстаноўка ў хаце звычайная, сялянская: печ з плітою і запечкам, стол, лаўкі ўздоўж сцен, шафа, ложак. На покуце — абраз, аздоблены ручніком. Стомленыя людзі, не распранаючыся, паселі на лаўкі, што стаялі прыслоненыя да сцен. Гаспадыня з высокай бляшанай банкі наліла ім у кубкі малака.

— Мы, далажу вам, мамаша, не ваенныя, — тлумачыў гаспадыні Пенкін, — мы цывільныя, прастыя людзі. Вайна нас крэпка абідзела, пазбавіла

і хлеба, і крова над галавой. Будавалі аэрадром пад Брэстам, ну і папалі ў цяжкае палажэніе. У лагеры былі — выпусцілі. Разабраліся і выпусцілі. Цяпер дабіраемся да сваіх, на родзіну. Родзіна, самі панімаеце, есць родзіна.

— Цяжка ў халады ды яшчэ пры нерэгулярным харчаванні, — дапоўніў камандзіра Ісаеў.

— Ну, а што зброя ў нас, — працягваў Пенкін, зірнуўшы на вінтоўкі, — дык гэта па дарозе падабралі, на ўсякі случай. Ліхіх людзей у наш час дастатачна. Зброя — гэта каб ад іх адбіцца, калі што якое.

Аграфена адводзіла вочы ўбок і з недаверам слухала тлумачэнні Пенкіна, якія дапаўняў Галабурда:

— Мы толькі адпачнём і пойдзем.

— Але ж ты наш, мясцовы, — не магла зразумець жанчына.

— Я пры іх за праваднікà.

— Якой жа дарогай вы ішлі?

— Праз Высокае, Вярховічы, Каленкавічы… — пачаў пералічваць паселішчы Несцярук, насунуўшы на лоб кучомку.

— Ну што ж, адпачывайце. Прагаладаліся, напэўна?

— Да, падкрапіцца не пашкодзіла б, — адгукнуўся Зіпуноў.

Аграфена яшчэ наліла ім малака.

— Ты нам, хазяюшка, гарачага чаго-небудзь! — папрасіў Бережняк.

— Баршчу б! — удакладніў Задора, засведчыўшы свой украінскі густ.

— А калі немцы? — раптам схамянулася жанчына. — У Заляшаны яны наязджаюць за кантыгентам ці гарэлкі папіць і сюды наведваюцца. Ад гэтых супастатаў усяго можна чакаць…

— Не бойся, маманя! — запэўніў Ваня-ёжык. — Мы цябе зашчыцім! З табою, калі я побач, нічога не случыцца, я загавароны!

— Хто ж цябе загаварыў? — недаверліва спытала гаспадыня, корпаючыся ля пліты.

— Было дзела… — загадкава адпавёў хлопец. — Калі-небудзь раскажу.

— Тут ніхто не кране — хутар, — абнадзеіў Галабурда. — І Аграфена — наш чалавек, актывістка.

Сапраўды, Аграфена была такая, што не магла не адгукнуцца на людскую бяду і не падтрымаць тых, хто ступіў на сцяжыну змагання са злом, якое прыйшло аднекуль на яе зямлю. Яна моўчкі адварыла бульбы, падагрэла боршч, разлажыла ў міскі салёныя гуркі і капусту, паклала на стол некалькі пузаткаватых цыбулін. Знайшла нават пляшку самагонкі. Гасцінная была кабета, бо ў дадатак да ўсяго пачала яшчэ з ячнай мукі пячы аладкі.

Госці распрануліся, паздымалі верхнюю вопратку, развесілі яе ўздоўж печы, адклалі ўбок зброю. Па хаце распаўсюдзіўся дух лясной зямлянкі і пах прэлага адзення.

— Люблю гарачае, — прызнаўся Калода, калі паселі за стол. Стол усіх не ўмясціў, некаторыя туліліся ля сцен, чакалі чаргі.

На патэльні пачалі сквірчэць аладкі, гаспадыня варочала іх і скідала ў вялікую міску. Госці патроху каштавалі гарэлку, але болей закусвалі, бо надта прагаладаліся.

— Ну, маманя, пасля такой вячэры жыць ахота! — павесялеў Бокша.

Шмат курылі (у гаспадыні знайшоўся і тытунь — моцны самасад, яшчэ ад мужа). Цыгаркі згортвалі з газетнай паперы.

— А аліва ў цябе, хазяйка, есць? — спытаў Ваня-ёжык. — Ці хаця б вазелін для смазкі?

— Для якой змазкі? — не зразумела Аграфена.

— Для змазкі зброі.

— Не, чаго няма, таго няма.

На досвітку яны заснулі, размясціўшыся на падлозе, на насланай саломе, упокат, адзін пры адным. Галабурда з Мурашкам палезлі на гарачую печ, да іх далучыўся Ваня-ёжык, паабяцаўшы, крыху пагрэўшыся, саступіць месца іншым. Гаспадыня пайшла спаць у камору. Хата пачала аціхаць.

— Найлепшы адпачынак — гэта сон, — узрадаваўся Калода і неўзабаве захроп гучна, на ўсю Засланку.

Іншыя таксама паснулі. Яны не ведалі, што тым часам пачалася аблава. У Пошуках стаяў атрад жандармерыі — часць вермахта з дывізіі «Беласток», якой камандаваў генерал-маёр Ганс Нольтэ. Пасля адпаведнай разведкі немцы і наладзілі паляванне на партызан, блакіравалі ўсе выхады з лесу і тыя вёскі, дзе партызаны маглі разжыцца харчамі. Асабліва цікавілі іх хутары.

Першым ворага заўважыў Мурашка, які раніцай выйшаў з хаты, каб справіць патрэбу. Ранішняе сонца і бляск снегу на момант асляпілі вочы. Прамяніста ззяў на сонцы пакрыты снегам касагор, зелянеў ядловец, што рос проста каля плота. Стаяла цішыня: кругом ані зыку, ані шолаху. Мурашка стаў за плотам ля куста і ўжо амаль выпаражніў мачавы пузыр, як убачыў, што проста на яго стрымгалоў імчаў, высока ўзнімаючы снежныя пырскі, перапуджаны заяц. «Дзіва нейкае! — не паверыў сваім вачам партызан. — Колькі жыву, а такое бачу першы раз. Што за праява, каб заяц бег на чалавека? Здурнеў, ці што? Глядзі ты — бяжыць і нікуды не зверне, так праменька і прастуе…» Заўважыўшы чалавека, заяц рэзка адскочыў убок і пабег далей, не збаўляючы хуткасці.

«Ну і ну! Хто ж яго мог гэтак напалохаць?» Мурашка стаіўся за кустом, прыслухаўся. Недзе над пушчай назойліва гудзеў самалёт. Неўзабаве пачуў і чалавечыя — гаркавыя — галасы. Мурашка яшчэ больш угнуў плечы, стаіў дыханне і на фоне снежнай белі ўбачыў узброеных людзей у брудна зялёных шынялях з карычневымі каўнярамі. Адчуў, як упала сэрца. «Немцы!» — адразу ж мільганула ў галаве, і ён амаль паўзком кінуўся да хаты.

— Немцы! — сцішана гукнуў ён, пераступіўшы парог, і кінуўся па сваю трохлінейку.

Як ні моцна спалі партызаны, а Мурашку пачулі, пачулі і заварушыліся. Першым падхапіўся Галабурда:

— Хлопцы, уставай! Справа — дрэнь! Я не спадзяваўся…

— Колькі іх? — зірнуў на Мурашку Пенкін.

— Шмат! — занепакоена адказаў той.

Начлежнікі забегалі, замітусіліся па хаце, шукаючы свае рэчы і зброю. Пачула і прахапілася гаспадыня, якая спала на кухні ў закутку за плітою.

— Ой, ой, ой! — завойкала яна. — Усё! Канец! Ой, нарабілі! А я ж казала! Ой, людкове! Што ж гэта будзе? Ой!..

— Да не палохайся, маманя! — абуваючыся, гаварыў Ваня-ёжык. — Мы ім січас пакажам! Ну, абнаглелі… Січас, січас пакажам!

Святла не запальвалі. У паўзмроку расхапалі зброю і адзін за адным выбеглі з хаты. Прыніклі да плоту. Трэба было нешта рабіць, прымаць нейкае рашэнне.

Гаспадыня ўпала ў покуце перад абразом на калені і пачала гучна маліцца, а потым не вытрымала і роспачна залямантавала.

Неўтаймоўна грымеў ланцугом, брахаў і выў сабака, адчуўшы, відаць, што дзеецца нешта нядобрае.

— Дзе яны? — мітусліва спытаў Пенкін. Яго ажно калаціла ці то ад холаду, ці то ад страху.

Мурашка, трымаючы ў руках вінтоўку, паказаў вачыма на лес. З боку лесу ўжо чуліся галасы нямецкіх афіцэраў, што падганялі сваіх падначаленых, каб смялей ішлі ўперад, наступалі на хутар. Карнікі набліжаліся. Ужо можна было заўважыць сярод іх двух афіцэраў у белых пальчатках, якія падавалі адрывістыя каманды, паказваючы рукамі. Іх падначаленыя няспрытна валюхаліся ў снежных сумётах, пра нешта гаманілі паміж сабой. Выразна бачыліся на фоне снегу глыбокія шэрыя каскі на іх галовах, балотнага колеру шынялі, ранцы за спінамі. У руках, упоперак грудзей, кароткія аўтаматы.

— Ich will einen Besen fressen, wenn hier Banditen sind![1] — сказаў хтосьці з наступаючых карнікаў.

— Га-га-га!.. — іржалі астатнія. Магчыма, былі на падпітку.

— Жандары! Карнікі! — вызначыў Беражняк. — Многа! Эх, маць тваю!

Такая ж група карнікаў паказалася і з другога боку, адтуль дзе пачыналася поле. Добра відаць было, як матляліся почапкі іх аўтаматаў. Адтуль таксама чуліся рэзкія вокрыкі і каманды. Становішча рабілася пагражальным, насоўвалася бяда. У хаце лямантавала гаспадыня.

«Апякліся! — пахаладзеў ад страху Пенкін. — Эх, чорт! Не падумалі! Не забяспечылі сябе ад нечаканага нападу. Але як забяспечыш! Хто ж ведаў?»

Ваня-ёжык прылёг з краю і, адшукаўшы шчыліну ў частаколе, прасунуў туды свой аўтамат.

Прыбег, прыгнуўшыся і цяжка дыхаючы, Бокша. Каля яго ўмасціліся Дырман і Зіпуноў.

Недзе ў куратніку на ўсё горла заспяваў певень.

Апошнім выскачыў з хаты марудлівы Цягнірадно.

— Па аднаму адхадзі! — ціха скамандаваў Пенкін, адчуваючы напружанасць ва ўсім целе.

— Трэба дзяржацца! — запярэчыў Беражняк. — Стаяць да канца. У нас нядрэнная пазіцыя.

— Патронаў мала!

— Эх, чорт!

— Праб’ёмся! — упарта сказаў Калеснікаў, прыладжваючыся са сваім «дзегцяром».

Між тым немцы заўважылі нейкі рух на хутары. Магчыма, пачулі лямант гаспадыні. Гэта насцярожыла карнікаў, яны прыпыніліся, пачалі гаманіць і раіцца між сабой. І тут здарылася нешта неверагоднае. Баючыся, што карнікі напалохаюцца і павернуць назад, і ён так і не паваюе, нецярплівы Ваня-ёжык даў рэзкую чаргу са свайго аўтамата. Спуджаныя немцы пападалі ў снег і аціхлі.

— Ну што, з’елі? — цешыўся Ваня-ёжык. — З’елі, сукі!

Цяпер карнікі ўжо не сумняваліся, што на хутары нехта ёсць. Кулямётная чарга Калеснікава ўскалмаціла снежны пыл побач з іх галовамі.

— Адхадзіць! — паўтарыў Пенкін, але становішча ўскладнілася. Напалоханыя карнікі апамяталіся і абрынулі на стары прыпушчанскі хутар град куль, нібы хацелі яго поўнасцю распатрашыць і развеяць па ветры.

Як бы ачнуўшыся, заляскатаў кулямёт і з нямецкага боку. Буйнакаліберныя чэргі паласавалі ўсё навокал, неслі няўмольную смерць. Са сцен хлявоў і хаты густа паляцелі трэскі, з вокан пасыпалася шкло, запахла порахам і дымам.

Карнікі зноў падняліся і рушылі на хутар. Спяшаючыся, яны бязладна стралялі і на хаду мянялі ражкі да сваіх аўтаматаў.

---

[1] Праваліцца мне на гэтым месцы, калі тут ёсць бандыты! *(ням.)*

— Donner Wetter! — чулася лаянка.

— Hende hoch![1] — хрыпелі раз'юшаныя карнікі.

Мурашка пачуў, як нехта з карнікаў крыкнуў па-польску:

— Рэнцэ догуры!

Свіст куль прыціскаў да зямлі. Людзі Пенкіна залеглі за плотам, некаторыя пачалі адстрэльвацца, але малаэфектыўна. Мурашка раз-пораз клацаў затворам сваёй трохлінейкі, страляў, амаль не цэлячыся. Беражняк і Ісаеў дзейнічалі больш абачліва, без мітусні. Ваня-ёжык паспеў ужо расстраляць увесь ражок. Спраўна працаваў «дзягцяр» Калеснікава. Кулямётчык памяняў дыск і зноў адну за адной пасылаў кароткія чэргі, прымушаючы карнікаў бухацца галовамі ў снег.

Разгублены Пенкін ляжаў разам з усімі, снег набіўся ў рукавы і студзіў голыя локці. Пры баку, у кішэні, муляла граната. Ён пахапкам дастаў яе адтуль, сарваў запал і з усяго размаху кінуў у наступаючых карнікаў. Павольна асядаў пасля выбуху снежны пыл.

Карнікі працягвалі наступаць. З іх боку запрацаваў, азваўся сабачым брэхам мінамёт. Пругкай хваляй ударыла паветра. Міны рваліся сярод залеглых партызан, і не было паратунку ад іх асколкаў, што веерам сцаліся над самай зямлёй, узнімаючы віхуру снежнага пылу.

— Бэнц-бэнц-бэнц!!! — цвердзіў сваё мінамёт.

Трэба было іх хоць як спыніць, але як? Асколкам адразу ж дастала Ісаева, ён роспачна застагнаў і тут жа перастаў. «Трапна, аднак, кладуць міны!» — адзначыў Пенкін. Тварам у снег бухнуўся Сарокін. Скурчыўся, перавярнуўся на спіну, з вуснаў вырываліся крывавыя бурбалкі пены. Спаткнуўся і не ўстаў Пугач. Каля яго лёг, паранены ці забіты, Цягніраднo. Нехта яшчэ — падняўся і ўпаў. «Першыя страты», — падумаў Пенкін і пачуў, як над вухам дзынкнула куля. Карнікі націскалі ўсё больш. Пра тое, каб іх спыніць, не магло быць нават мовы: «Чым?» Трэба было неяк ратавацца. Марудзіць не было калі.

Узарвалася граната, бліснуўшы жоўтым полымем. Пачуліся стогны. Чорным дымам заняўся саламяны дах над хатай, скрозь дым паказаліся жоўтыя языкі агню. «Запальнымі смаляць!» — здагадаўся Пенкін. Азірнуўся, убачыў, як пачарнеў навокал снег, атручаны порахам і дымам, густа валяліся камякі мерзлай зямлі. Успомніў пра гаспадыню. «Падвялі мы яе!» Шкада стала жанчыну, але што рабіць! Так сталася. Гінуць і невінаватыя. Зрэшты, яны якраз гінуць найбольш…»

— Адхадзі-і! — з усёй сілы закрычаў ён, але крыку свайго не пачуў, адчуў толькі, як вусны хапаюць паветра.

Некалькі чалавек ускочылі ў мураваны склеп, што знаходзіўся на панадворку пры хаце. У ім гаспадыня, мяркуючы па ўсім, трымала бульбу. Астатнія, Ваня-ёжык і іншыя, праламалі плот і кінуліся наўцёкі. Сярод іх быў і Пенкін. Іх прыкрываў Калеснікаў, на хаду адстрэльваючыся са свайго «дзегцяра». Стралялі, здавалася, з усіх бакоў, але і ў карнікаў былі страты. Некалькі з іх цёмнымі купінамі нерухома ляжалі на снезе, пасечаныя партызанскімі кулямі.

Пенкін, бегучы, заўважыў, як нібы спатыкнуўшыся, упаў і застагнаў Дырман. Як бы была каманда легчы. Побач з ім зваліўся Галабурда. Можа таму, што цывільны, але зваліўся вельмі ж нязграбна. Спачатку спыніўся, сутаргава павёў галавой, ногі падагнуліся, і ён рухнуў на зямлю. Упаўшы, яшчэ колькі разоў слізгануў па снезе нагамі і знерухомеў. Шапка звалілася з галавы, і навязеўшы вецер кудлаціў рэдкія валасы.

---

[1] Рукі ўверх! *(ням.)*.

Пенкін бег, стараўся як найхутчэй. Падганяла думка: «Заб'юць!» Папярадзе, падаючы і ўстаючы, уцякаў Беражняк. «Мусіць, не даганю», — перажываў Пенкін. Ззаду зноў бабахнула, і яшчэ нехта ўпаў. Не было часу дазнавацца, хто гэта быў. З боку хутара данёсся ляскат кулямётаў. Пругкімі хвалямі біў у твар вецер. Добра-такі адбегшыся, камандзір усё ж азірнуўся і ўбачыў, як зырка і, здавалася, зусім недалёка, жоўтым полымем гарэў хутар, асвятляючы разам з сонцам усё наваколле. Водсветы пажару дасягалі аблокаў, пакідаючы на іх ірдзеючыя водсветы. Задыханы, Пенкін прыпыніўся, павярнуўся, зрабіў колькі крокаў назад і пачаў разглядацца, каб убачыць каго з падначаленых, але нікога не ўбачыў. У галаву прыйшло даўняе, чутае ў дзяцінстве ад святара: «Упакой, Госпадзі, душы ўбіенных рабоў тваіх», — і ён паўтарыў гэтыя словы ўголас:

— Упакой, Госпадзі, душы ўбіенных рабоў тваіх…

Убачыў Несцерука, якому ўдалося дабегчы да лесу і ўскочыць у малады хвойнік. «Апошні, — падумаў Пенкін, — пашанцавала, выратаваўся…» Пазнаў аднак яшчэ аднаго свайго: Зіпуноў падбягаў ужо да лесу і, павярнуўшыся назад, колькі разоў стрэліў у бок карнікаў і знік за першымі дрэвамі. Непадалёк заўважыў нейкія незнаёмыя, чужыя постаці, што валюхаючыся ў снезе, мітусліва ўзбіраліся на пагорак і ўспорвалі паветра і снег аўтаматнымі чэргамі. «Карнікі! — з жахам падумаў ён. — Даганяюць! А хлопцаў не відаць, няма, пагіблі!..» Абмацаў успацелы твар, жывот, ногі, бо куля ці асколак маглі зачапіць так, што адразу і не пачуеш. Але не, цэлы, і ён зноў, задыхаючыся, кінуўся бегчы. «Дабегчы! Дабегчы! Дабегчы!» — цвердзіў сабе Пенкін і стараўся прыбавіць хады. «Няўжо заб'юць? — яшчэ раз пранеслася ў галаве. — Каб яшчэ хоць трохі пажыць! Няўжо не выкручуся?..»

Вочы ручаямі заліваў ліпкі пот, і Пенкін машынальна аціраў лоб рукавом. Хацеў яшчэ раз азірнуцца, але раптам пачуў, як штосьці моцна штурханула ў плечы і паваліла на дол. Не паспеў зразумець, што гэта такое. У свядомасці на момант усплыла чамусьці Астрахань, прыстань, мутная вада. «Вось і ўсё, і я таксама забіты!» — паспеў падумаць ён і абрынуўся ў пульхны снег.

Атрад імя таварыша Тэльмана, не акрыяўшы як след, перастаў існаваць.

## Частка другая

### I

Пакуль можна было трываць, Свісціян таксама сядзеў у лесе, у сваім схове. Розныя думкі лезлі ў галаву, і большасць — змрочныя, але ён стараўся іх адганяць. Калі зашархацела пад нагамі змерзлая трава і ў паветры з'явіліся белыя мухі, ён выграбся са свайго логава і перамясціўся ў клуню да прускаўскага прыяцеля Хвядзюшкі Шпунта, зрабіўшы глыбокую і звілістую нару ў застаронку, у сене. Днём ляжаў у гэтай нары, ноччу выпаўзаў на ток, размінаўся, чакаў гаспадара або гаспадыню з харчам. Зброю — СВТ і пісталет з наганам — схаваў у снапах, акруціўшы анучамі.

Ад Хвядзюшкі дазнаўся, што ў Пруску вярнуўся Косця Хлябіч — былы капэзэбавец. Таксама ў клуні недзе хаваецца. Кажуць, у Цімошы.

У клуні жыць можна. Гэта не сырая зямлянка ў лесе. Тут добра. П'янкі, духмяністы водар сена нясцерпна казыча ноздры і нагадвае пра гарачае, спякотнае лета. З хлява цэдзіцца цёплы каровін дух, пахне саломай, якую падсцілаюць карове. Ціха.

Пакрысе ад’еўся, пасвяжэў і аднойчы нібы жартам сказаў Хвядзюшку:

— Калі б ты яшчэ бабу якую сюды прывёў! Каб бабу раскірэчыць…

Сказаў, успомніўшы Хвядзюшкаву жонку Нінку, якая вечарам прыносіла есці і маўчала. Зямлячка, з адной вёскі — з тых жа Алешкавіч. Калісьці, пры Польшчы, служыла пакаёўкай у алешкавіцкага пана. Прыгожая была. Ды непрыгожых пан да сябе і не браў. У маладосці замуж не спяшалася — спахапілася тады, калі хлопцы амаль што страцілі да яе цікавасць. Знайшоўся, аднак, Хвядзюшка, кінулася яна яму ў вочы, і ў рэшце рэшт яны пабраліся. «Маўклівая, але вяртлявая», — паблажліва падумаў пра яе Свісціян.

— Ты што, Свісціян, якую бабу? Пагарым абодва — і ты, і я. Ну, ты і скажаш — бабу… — Хвядзюшка не ўтрымаўся, зарагатаў.

— Табе — смех…

— Чаго захацеў!

Хвядзюшка перастаў смяяцца, патлумачыў:

— Не той час.

— Час адзін.

— Нейкія людзі аб’явіліся.

— Што?

— Нейкія людзі, кажу, у наваколлі аб’явіліся.

У вачах Свісціяна бліснулі агеньчыкі зацікаўленасці і адначасова трывогі:

— Што за людзі? Прыпіснікі? Акружэнцы?

— У лесе прыпісаныя. Не ведаю, як лепш сказаць — у лесе ці да лесу. Калі на Бабіцкай гары тэлеграфныя слупы павалілі і дрот парвалі! Шмат гаманы наконт гэтага!

— Ого! — Свісціян здзіўлена варухнуў галавой. — А нашто гэта ім? Дурні!

— Яснае дзела, немцам нашкодзіць хацелі. Кажуць, што гэта акружэнцы. Цяпер, калі немцаў з-пад Масквы пагналі, і яны асмялелі.

— Акружэнцы?

— Яны. У лесе недзе сядзяць, партызанамі парабіліся. Я чуў, што ўсе партызаны камуністы. Ці праўда гэта?

— Магчыма і так. Камуністы заўсёды на сваім стаялі.

— Хаваюцца ад немцаў.

— Відаць, добры схоў маюць!

— Напэўна.

— Такім марозам, ліха яго матары, у лесе не вытрываць, нават у добрым кажуху. — Свісціян ажно сцепануўся плячыма і крэкнуў, як бы адчуўшы той лясны холад. — Халадно!

— Праўду кажаш, — згадзіўся сябар, адчуваючы, як праз шчыліны ў шчыце павявае начны холад.

— Нават у тваёй клуні, без кажуха халадно, ды і мой кажушок не надта грэе.

— Бо ён стары ў цябе, амаль зліняў. Дзе ж ён будзе грэць!

— Гэта праўда, ліха яго матары, стары і аблезлы, яшчэ бацькаў.

— Бацькаў?

— Ад яго застаўся.

— Ну, дык трэба свайго прыдбаць.

— А як ты яго прыдбаеш? Цяпер не пашыеш. Камянецкіх краўцоў, кажуць, у гета загналі.

— А нашто шыць? Яшчэ, можа, бараніцы надумаешся збіраць? Можна і пазычыць у каго. Ну, у таго, скажам, у каго іх два і вісяць без патрэбы ў каморы. Калісьці рэвалюцыянеры якраз так і рабілі. Пазычалі, калі трэба было.

А ты чым горшы? Вунь у Пакупчыках у Макара кажухоў тых не палічыць колькі! Навалам!

— Гэта ў якога Макара?

— У Якавука.

— У Якавука?

— І са стаячым каўняром, і з ляжачым… А галоўнае, што ён з табой аднаго росту будзе — высокі. Пакупчыкі ўвогуле вёска багатая, уся ў садах — грушы, яблыні, вішні. Куркулі!

Побач, у хляве, гулка ўздыхнула карова, як бы не ўхваляючы гэтую гаспадарову параду.

Свісціян задумаўся, таксама чмыхнуў сваім мясістым носам і змоўк. Памаўчаўшы, сказаў:

— Дачакаюся вясны, і зноў у лес.

— Пакуль яшчэ тая вясна прыйдзе!

— Ну, пакуль прыйдзе, у цябе пасяджу. Толькі каб ціха! Усёк?

— Каму ты кажаш? А то я не ведаю! Ды і ты каб не курыў! А то ведаеш, што можа быць…

— Дзіва што! Я не малы.

Хвядзюшка прыслухаўся да начной цішыні, якая, здавалася, спрэс заўладарыла ўсёй навакольнай прасторай.

— Ноч якая цёмная ды глухая!..

Свісціян на гэта меў сваё меркаванне:

— У такую ноч толькі гарэлку гнаць.

Сябар запярэчыў:

— Рызыкоўна! Калі хто данясе, паліцыяператрус зробіць, і ў клуні будуць шукаць,ператрасуць усё! Тады і цябе за ногі выцягнуць. У Пруску яны часта наязджаюць.

Наступіла працяглае маўчанне.

— Але ж без самагонкі, браце, у гэтым жыцці таксама прападзеш.

Хвядзюшка ўздыхнуў:

— Гэта праўда. І так дрэнна, і гэтак дрэнна.

— Курыць хочацца.

— Пацярпі.

— Я ўсё жыццё цярплю! — ускіпеў Свісціян. — Ад усіх! І ад тых, і ад гэтых. Надаела! Колькі можна? Колькі можна здзекавацца з чалавека? Я вось ляжу і пра гэта думаю. Аж млосна становіцца. Адна несправядлівасць!

— Нічога, браце. Горш, чым у «Свентым Кжыжы» не будзе, — суцешыў сябар, успомніўшы турму, у якой калісьці яны сядзелі разам.

Пагаманіўшы, Хвядзюшка накіраваўся дахаты, а Свісціян, счакаўшы, палез у сваю нару.

Размова з сябрам ні да чаго не абавязвала, але Свісціян зноў і зноў пачаў думаць пра тое, у якім кепскім становішчы ён, Свісціян, невядома па якой прычыне апынуўся і дзе шукаць выйсце. «Хвядзюшка што — ён, ліха яго матары, дома, пры бабе, ніхто яго не шукае і нішто не пагражае. Нікому ён не патрэбны. Жыві сабе без клопатаў! А я? А я, каб цябе пярун ляснуў, жыццём рызыкую! З немцамі не пажартуеш! Не дай бог трапіць ім у лапы — будзе тое ж, што і з Палагай…»

Уздыхнуўшы, адчуў, як ад хвалявання моцна загрукала сэрца.

— Эх! — зноў уздыхнуў ён, а потым шырока пазяхнуў, прымошчваючы пад галаву прынесеную Нінкай змятую падушку. Думкі міжвольна перакінуліся на гэтую маўклівую, але не пазбаўленую прывабнасці маладзіцу. Успомніў,

як у сутонні бялелі яе абутыя ў чаравікі ногі. І сама яшчэ нішто сабе. Цёплым малаком пахне. Зноў захацелася навобмацак адчуць яе цёплае і па-жаночаму мяккае цела. «От каб зараз прыйшла, ды каб на гэтым сене і раскірэчыць!» — падумаў ён пра Нінку. Падумаў і яшчэ раз уздыхнуў: «Цяжка аднаму. Хоць нават і з гэтым дурнем Хвядзюшкам. Вярзе абы-што! Нічога пэўнага не ведае. Акружэнцы… А можа, і сапраўды акружэнцаў тых пашукаць? Але зімой дзе ты іх знойдзеш? Зашыліся куды-небудзь у леснічоўку ці ў які іншы схоў і сядзяць. Мароз! Ды і небяспечна гэта — хадзіць па лесе і шукаць. Не таго знойдзеш! Ды і адзення няма ў мяне адпаведнага, нават кажуха сапраўднага — і таго няма». Ён вылаяўся.

«А можа, Хвядзюшку паслухаць і схадзіць у Пакупчыкі да таго Макара? Куркуль. Усяго хапае. Не збяднее, ліха яго матары, без аднаго кажуха».

Назаўтра ён сказаў Хвядзюшку:

— Слухай, Хведар, а я ўсё ж такі, мусіць, да Макара наведаюся…

— Ну, а чаму б і не? — разважыў сябар. — Тут ёсць над чым падумаць.

— Ноччу.

— Ну, вядома, не днём. Такія рэчы днём не робяцца. А ці ведаеш, дзе ён жыве?

— Дзе?

— Сядзіба яго ў сярэдзіне вёскі, за паваротам, на рагу, абгароджаная плотам, а хата ў глыбіні саду.

— Знайду. Не такое знаходзіў.

Дачакаўшыся апоўначы, калі ўсе палеглі спаць і пагасілі святло, Свісціян тужэй зацягнуў на жываце дзягу, дастаў і закінуў на плячо СВТ і крадком, азіраючыся, пакінуў сваё сховішча. Пайшоў, прыгінаючыся, па-за клунямі, праз поле, кіруючыся ў Пакупчыкі. Навокал, у сутонні зімовай ночы, слаба бялелі палі. Снегу было аж занадта, даставала да пояса. Пад гэтымі белымі сувоямі зімавала азіміна. «Пакутуе, як і я», — думаў Свісціян. Ідучы, часам амаль патанаў у вялікіх, па пахі, гурбах, па якіх кruціліся і паўзлі гнаныя ветрам сувоі снежнага палатна. Вецер хапаўся за што папала, рваў і трапаў каўнер і полы Свісціянавага аблезлага кажушка.

Пакупчыкі недалёка, кіламетры чатыры ўсяго, але па снезе, па цаліку, дабрацца няпроста. Выгнанку, што размясцілася паміж Прускай і Пакупчыкамі, абагнуў з боку поля. Перайшоў рачулку, што цякла ў яры, цяпер занесеным снегам, спатыкнуўся аб камень і ўпаў. СВТ саслізгнула з пляча, і ён доўга цялёпкаўся і мацюкаўся, намацваючы яе ў снезе, пакуль не знайшоў. Дапяў нарэшце да бярэзніка, што чарнеў на гары, калышучы аголенымі вершалінамі. Унізе, пад гарой, як у яме, месціліся Пакупчыкі. У начным цемрыве нічога не відаць. Ён напружыў слых і павадзіў носам, нібы абнюхваючы паветра. Выйшаў на дарогу — яна была злева, спусціўся з гары і ўпёрся ў першыя хаты. Прыкінуў, дзе магла быць Макарава хата і як да яе падысці. Зарыентаваўся ўжо на вясковай вуліцы, знайшоў той паварот і плот на рагу, пра якія казаў Хвядзюшка. Пералез праз плот і ўзышоў на ганак, асцярожна пастукаў у намерзлыя дзверы. Раз, другі, трэці. Потым паўтарыў стук. Па часе ў сенях нехта затупаў, пачуўся кашаль, а затым і голас:

— Хто тут?

— Свае, адчыні!

— Хто — свае?

— Адчыняй!

Нясмела і глуха бразнула засоўка, і дзверы прыадчыніліся. Макар доўга ўглядаўся ў постаць і ў твар начнога госця, пакуль пазнаў:

— Свісціян?

— Можа, і я, — адгукнуўся Свісціян і, не абабіўшы з ботаў снег, рассунуў дзверы шырэй, пераступіў парог. Убачыўшы, хто да яго заявіўся, Макар ажно закалаціўся і зніякавеў, нічога добрага ад гэтага візіту не чакаючы. Сямейнікі спалі.

Грукаючы ботамі, госць следам за гаспадаром прайшоў на кухню, сеў, не здымаючы шапкі, у кутку на столак. Пры баку вісела вінтоўка, Свісціян зняў яе, паклаў на калені, моўчкі пагладзіў. Шапкі не здымаў, а наадварот, запарушаную снегам, яшчэ глыбей насунуў на галаву. Гаспадар запаліў лямпу, але разгарэцца не даў, укруціў кнот, і сам неяк прыгорбіўся, змарнеў, на скронях забялела сівізна. Пагляд «госця» спыніўся на яго напалоханых вачах.

— Змерз? — папытаў, каб нешта сказаць, Макар.

— Ой, браце, не тое слова! Акалеў! У мяне ж хату спалілі, жонку забілі, адзін я цяпер. Адзін, на марозе. Зіма ж!

— Спачуваю, браце.

— Многія спачуваюць.

З другога пакоя пачуўся голас, мусіць, жончын:

— Макар! Хто там?

— Ды свае! Спі!

Свісціян неспакойна, парывіста пацягнуў носам, як бы да чагосьці прынюхваючыся. Твар яго зрабіўся падобны на сціснуты кулак, з якога тырчэў глюгаваты нос.

— Можа, у цябе кажух лішні знойдзецца дзе-небудзь у каморы, то пазыч. На мне бачыш што — стары, выцерты, такі, скажу я табе, што больш студзіць, а не грэе. Датумкаў?

Макар прыцмокнуў языком, запусціў руку ў патыліцу і доўга шкроб.

Свісціян шумна выдыхнуў паветра:

— Усё роўна немец забярэ! Немец, або яшчэ хто.

Макар маўчаў.

— Часу ў мяне, ведаеш, не шмат, я ісці павінен, — дадаў Свісціян, шморгнуў носам і нецярпліва пляснуў далонню па затворы сваёй СВТ, што ляжала ў яго на каленях. Потым чамусьці абмацаў вушы, адно і другое. — Хутчэй! — прыспешыў гаспадара. — Поўзаеш, як асенняя муха!

— Дык ты пазычыць хочаш? А калі вернеш?

Свісціян сярдзіта кашлянуў, яму, відаць, не падабалася гэтае Макарава неразуменне, і ён ужо хацеў абарваць гаспадара, сказаць нешта рэзкае, але ўстрымаўся.

— Вясною забярэш! — паабяцаў ён.

У камору пайшлі разам. Макар, трымаючы ў левай руцэ лямпу, адчыніў дзверы. Ззаду — «госць», ускінуўшы на плячо сваю СВТ. У каморы свяжэй, чым на кухні. Запахла збожжам, сушанай садавінай, звалькамі льнянога палатна, што ляжала, відаць, недзе ў куфры, і яшчэ чымсьці прыемна-няўлоўным. Слабое святло лямпы з укручаным кнотам выхоплівала з начнога цемрыва розныя рэчы: засек са збожжам, куфар, нейкія скрынкі, мяшкі, кубел з салам… Чуйны Свісціянаў нюх улавіў пах аўчыны. І сапраўды, на жэрдцы пад столлю вісела пара кажухоў, пафарбаваных у светла-карычневы колер, якія гаспадары апраналі, пэўна, у святочныя дні.

— О-о! — павесялеў ён, пакратаўшы адзін з кажухоў, той, што быў даўжэйшы, за рукаў і пачаў здымаць яго з жэрдкі. У вачах загарэліся радасныя іскрынкі. Прыткнуў СВТ да сцяны засека, расшпіліў дзягу, хуценька зняў з

сябе свой, палатаны кажушок і, доўга не думаючы, насунуў на плечы новы набытак, прыціснуў дзягай.

— А якраз! — здзівіўся Макар.

— Я ж ведаю, ліха яго матары, што раблю, — прабубнеў задаволены Свісціян. — Што кажух, то не вата! — дадаў ён, аднак «дзякуй» не сказаў. Відаць, забыў ці не палічыў патрэбным. Замест гэтага пацікавіўся:

— А дзе твае каўбасы?

— Якія каўбасы? Іх мала засталося, — памяўся Макар, развёўшы рукамі ў надзеі, што «госць» адчэпіцца, — некалькі лічаных пар…

Кубел, дзе захоўваліся каўбасы, стаяў крыху воддаль, прыткнуты да сцяны.

— Ну то пару-другую дай! Шмат я ў цябе браць не буду — пару кружкоў толькі. — У Свісціяна з'явілася думка пачаставаць Нінку.

Макар уздыхнуў, паставіў на куфар лямпу, падышоў да кубла, падняў вечка, дастаў два колцы каўбасы і, перасіліўшы сябе, працягнуў гэтаму нечаканаму прыхадню.

Свісціян узяў, сціснуў колцы, неахайна распіхаў іх па кішэнях і ўскінуў на плячо вінтоўку. Снег на шапцы абтаў, пара было збірацца ў адваротны шлях. Стары свой кажух вырашыў не пакідаць, скруціў, сунуў пад паху.

— Ну, я пайшоў! — буркнуў ён на развітанне. — А тое, што я ў цябе быў, — нікому ні слова. Дачуюся, дык дрэнна будзе! Зразумеў, ядрона вош?

Пакіраваўся той жа дарогай, якою ішоў сюды, па цаліку. Не спяшаўся, цешыўся ўдачай, бо і сапраўды ўсё склалася як нельга лепш. А зімовая ноч доўгая, да раніцы было яшчэ далёка. Сляды заносіла завіруха. Ісці зноў давялося па сумётах, якія нібы варушыліся на вачах ад ветру. Вецер і на гэты раз рабіў сваю справу, старанна раўняў снежны покрыў, трапаў поламі новага Свісціянавага кажуха. У новым кажусе Свісціян адчуваў сябе ўтульна і ўпэўнена, нават сам сабе спрабаваў усміхацца: «А дарэмна кажуць, што чужы кажух не грэе. Грэе!» Касматы каўнер добра засланяў ад ветру.

Дабрыў нарэшце да Шпунтавай клуні. Зняў засаўку і туды-сюды агледзеўся, ці не сочыць чыёсьці ліхое вока. Не, здаецца, нікога няма. І раптам за алешнікам, па той бок Плісы, што цякла праз гэты алешнік, убачыў зыркае полымя. Клуня стаяла на пагорку, і адсюль праз рэдкія бязлістыя вольхі добра было відаць усё, што рабілася за рэчкай. У Кучэўскага на полі (непадалёк знаходзіўся яго хутар) гарэла сціртa саломы.

«Хто б гэта мог падпаліць?» — здзівіўся Свісціян і яшчэ здзівіўся з той прычыны, што ніхто не бег тушыць. У вёсцы панавала цішыня. Ён яшчэ пастаяў колькі часу (агонь ужо меншаў) і знік у чорным зеве свайго жытла. Калі заходзіў у клуню, адтуль выпырхнуў верабей і пранёсся ля вуха. Свісціян ад нечаканасці і построху ажно прысеў і мацюкнуўся. Зачыніў за сабою дзверы на завалу і ўладкаваўся на сон, прыхаваўшы вінтоўку, якая адыграла гэтай ноччу належную сваю ролю. Акрыўся Макаравым кажухам. З кішэняў дастаў каўбасу і колца з'еў. Другое ткнуў у сена.

На раніцу пабудзілі гаспадары. Чутно было, як Нінка даіла карову, а Хвядзюшка сек у цэбры бульбу, нарыхтоўваў жывёліне корм. Падышоў да застаронка з сенам, дзе знаходзілася Свісціянава лежбішча, і асцярожна паклікаў. Счакаўшы, яшчэ раз паклікаў.

— Што? — пачулася нарэшце з нары.

— Ну, як?

— Нармалёва.

— Кажух прыдбаў?

— Прыдбаў.

— Пакажы!

Свісціян высунуў з нары кажух, а потым вылез і сам.

— Кажух як кажух.

— Дабрэнны! — ухваліў Хвядзюшка. — Пэўна, не хацеў аддаваць?

— Хай бы, ліха яго матары, не аддаў! — грозна і самазадаволена прабурчэў Свісціян і шморгнуў носам. — Я б яго там і ахаладзіў…

Хвядзюшка пакруціў кажух у руках, агледзеў і, пахваліўшы аўчыну, вярнуў новаму ўладальніку.

— А што тут у вас гарэла? — спытаў той.

— У Кучэўскага стог саломы нехта падпаліў.

— Згарэла?

— Згарэла. А што будзем рабіць далей? — задаў пытанне Хвядзюшка.

— Трэба падумаць, памаракаваць, — павучальна прамовіў Свісціян. — Вінтоўка, я табе скажу, нядрэнная рэч, робіць уражанне.

— Дзіва што!

— Ты схадзі на вёску, пасланяйся туды-сюды, паслухай, пра што людзі гамоняць! Ну, датумкаў?

Пастаяўшы, гаспадар панёс корм карове, а пастаялец паглядзеў яму ўслед. Замест мужа прыйшла Нінка. Невядома, што ёй у клуні спатрэбілася. Зачыніла за сабой дзверы, і ў памяшканні крыху пацямнела. Свісціяна нібы і не заўважыла.

— Хадзі, Нінка, сюды! — паклікаў ён жанчыну. — Я табе нешта пакажу! — І дастаў каўбасу, даў панюхаць.

Каўбаса прыемна пахла. «Мусіць, з кменам?» — вырашыла маладзіца.

— А пакаштаваць можна?

— Пакаштуй, калі так ужо хочаш.

Нінка адкусіла з самага канца кавалачак, пачала няўпэўнена жаваць. Свісціян прагна на яе пазіраў, і маладзіца, мусіць, гэта адчула, крыху пачырванела.

— Прыгожая ты…

— Гэта толькі так здаецца.

— Гарэзніца!

— Ой, скажаш…

— Хочацца залезці ў цябе, — прызнаўся Свісціян. Відаць было, што ён не маніў, што чалавек надта знудзіўся па жанчыне і што ім абуяла такая звада, што ўжо не мог кантраляваць свае ўчынкі. — Чуеш, га? Чуеш?

— Што — чуеш?

— Гару. Нутро палае…

У яго скронях сапраўды нешта гулка стукала, як бы ў галаве знаходзіўся гадзіннік, які няўмольна прыспешваў падзеі.

— Не трэба…

— Пашкадуй! Я ж у лесе быў, адзін, а ў лесе чыё сэрца не закарэе! А цяпер, чую, памякчэла. Да цябе! Да цябе памякчэла! Гарэзніца!.. — Ён жвава ўстаў, учэпіста абхапіў яе рукамі і ўпіўся ў вусны.

— Ой, не трэба, гэта ж грэх! — Яна тузанулася, хацела вырвацца, але ён не адпускаў.

— Ты ўва мне агонь распаліла!

У яго свядомасці, а можа, больш у падсвядомасці, адбывалася нешта нястрымнае і некіруемае. Ён і сам не цяміў, што робіць і што з ім робіцца, а яна цвердзіла адно:

— Не трэба!..

Дыхала яна з шумам, перарывіста. — А Хвядзюшка? А калі раптам з'явіцца? Ой! — яшчэ больш захвалявалася яна.

— Дурны ён у цябе, як бот!

— Ой!

— Я яго ў вёску паслаў, — нейкім грубым, як бы не сваім голасам прагудзеў Свіцціян, жадаючы яе супакоіць, — хай паходзіць…

Жанчына ўжо не супраціўлялася…

…Нічога не сказаўшы, яна, моўчкі завязала на галаве хусціну і, стомленая, пацягнулася дахаты.

Свіцціян маракаваў пра свой будучы лёс: «Нічога, я яшчэ сваё вазьму».

## II

Той пажар, калі гарэла ў Кучэўскага сціртa саломы, бачыла і моладзь, калі разыходзіліся з вячоркаў. Нягледзячы на ваеннае становішча, маладосць брала сваё, хацелася пагуляць, на каго паглядзець і сябе паказаць. На гэты раз вячоркі былі ў хаце Сяргея Сталетніка.

Выйшаўшы з хаты пасля музыкаў, усе бачылі, як у цішыні зімовай ночы занялася тая сціртa, даносіўся нават трэск саломы.

— Хто б гэта? — пытаўся Жэнік Пахолкаў, ідучы разам з усімі.

Адказу на гэтае пытанне ні ў кога не было.

Пад нагамі рыпеў снег. Санька ішоў ззаду, побач з Манькай. Яна рухалася сваёй няспешнаю, марудліваю хадою, часам як бы прыпыняючыся і пасміхаючыся. Постаць прыгожа аблягаў фасоністы, пафарбаваны ў чырванаваты колер і аздоблены вышыўкамі кажушок. Ён, ідучы побач, адчуваў яе свежае, маладое дыханне і хваляваўся яшчэ больш, чым у мінулыя разы, але, заўважыўшы, як прыязна ўсміхаюцца яе вочы, крыху пасмялеў. Пачаставала яго чорнымі сланечнікавымі семкамі.

— Бяры во жменьку!

Ён узяў, падзякаваў. Голас яе гучаў прыветліва, па-свойску.

Ля калодзежа, насупраць Маньчынай хаты, яны спыніліся. Высока над імі ззяла зорнае неба. Сярод зорак красавалася поўня, пабялелая ад марозу і падобная на кавалак слюды. Пяшчотны марозік казытаў шчокі. Прайшлі яшчэ колькі крокаў і сталі пад старой бярозай, каля хаты Фэдара-японца, які даводзіўся Маньцы родным дзядзькам. Бяроза — старая, з тых, якіх называюць ніцымі. Нізка над плотам звешваліся яе тонкія галінкі.

— А ты не курыш? — спытала Манька.

— Не. А што?

— Бачыш, а нашы хлопцы кураць, смокчуць тую горач.

— Ну, уцягнуліся, гэта іх справа.

Яна з цікаўнасцю зірнула на яго цёмнымі ў вячэрнім змроку вачыма, высока падняўшы заінелыя вейкі. Чымсьці няўлоўным нагадвала артыстку Зою Фёдараву, якую ён бачыў у кіно. Такая ж усмешлівая, мілавідная, з ямачкамі на шчоках, і, як яму здавалася, «курносенькая».

— Табе ідзе тваё імя — Санька.

Гэта прагучала як камплімент.

— Чаму?

— Простае, зразумелае.

— Усе імёны добрыя і па-свойму прыгожыя.

— Ну, не скажы. Ёсць такія, што і не вымавіш. Як у нашага Гамона. Ён жа па-сапраўднаму Агамемнан называецца, але ўсе прывыклі — Гамон ды Гамон. Або Дзякрэта — як бы жаба крэкча…

— Ну, ты надта патрабавальная. Імёнаў у свеце шмат. Тваё імя таксама прыгожае…

Нейкі час яны стаялі моўчкі, а потым яна спытала:

— А сам ты адкуль? Кажуць, быццам бы сібірак?

— Сібірак. Новасібірскай вобласці.

— Гэта, мусіць, надта далёка.

Санька пасміхнуўся:

— Далёка, адсюль не відаць. — Каб выглядаць больш упэўненым, ён стараўся жартаваць, быць дасціпным.

Над імі ціха звінела бяроза — навіслым бязлістым голлем, іскрыўся ў месячным святле марозны іней. Надышоў час развітвацца з зімовай халадэчай — снегам, маразамі, завеямі, але яны не спяшаліся пакідаць зямлю. Тым не менш, бярозавы ствол пабялеў ужо і як бы напружваўся, набухаў: дрэва рыхтавалася да таго часу, калі трэба будзе пускаць сок.

— Шмат ты, відаць, перажыў?

— Давялося. Я шафёрам служыў, на палутарцы. У Брэсце. Познім вечарам 21 чэрвеня прыехаў з чарговага задання, пакінуў машыну ля казармы і лёг спаць. Чакалі, што вайна будзе, але ніхто не думаў, што так скора. Пачалося на раніцу. Артылерыйскі налёт. Ну, думаем, у немцаў вучэнні пачаліся. Аднак — не. Якія там вучэнні! Адбылося ўсё ў сушнасці не так, як думалі. Неразбярыха поўная. Усе пабяжалі. Ну, у яго ў тэхніцы перавага. Самалёты, танкі…

— Хай бы ты тады ў Пруску бег!

— Ага! Ногі ў рукі і да вас, — жартам на жарт адказаў Санька.

І абое засмяяліся з маладой бесклапотнасцю. Пасля паўзы ён сказаў:

— Так сталася, і не ад мяне гэта залежала, у плен я папаў. Сілаю ўзялі. Цэлую калону такіх, як я, сабралі і пагналі на захад. Усе знясіленыя, запыленыя, мокрыя ад поту. Я быў малодшым камандзірам. Многія зрывалі з сябе пятліцы і знакі адрознення, нашыўкі з рукавоў, я не зрываў, я толькі процівагаз выкінуў, а ў сумку на яго месца каласкоў напіхаў. Есці што-та нада! Я з таварышамі дзяліўся. Ідзём з апушчанымі галовамі, рукі складзены за спінай. Загад такі, каб не збеглі. Некалькі дзясяткаў загінулі ў дарозе. Падае чалавек, і ўсё. Часам прыстрэляць, а часам і сам сканчаецца. З немцамі шуткі плохі. Калі што — у расход. Прыгналі аж за Буг. Там лагер пад адкрытым небам. Вакол — лініі калючага дроту, па якім прапушчаны электрычны ток. Ахова з сабакамі. Жуць! Вось такія, у сушнасці, умовы.

— Ой! — войкнула дзяўчына. — І як гэта вытрымаць!

— Баландай кармілі — у супе, у сушнасці, дзве гарошыны. Потым пастроілі калону і пагналі далей на захад. Зноў тая ж карціна: адстаў — хлоп! — і ўсё. Я чакаць не стаў, выбраў падхадзяшчы мамент і — ходу. Усёроўна, думаю, я тут пагібну, дык лепш пагібнуць на волі.

— Збег? — здзівілася дзяўчына, стрыкнуўшы брывамі.

— Так точна. Убяжал.

— Пашанцавала. Пэўна, у сарочцы нарадзіўся.

— Не ведаю.

— Хто ў сарочцы нарадзіўся, таму шанцуе.

— Пераправіліся мы цераз Буг і рушылі ў напрамку Белавежскай пушчы, а там — ад месных услышалі — аблавы, адна за адной. Словам, цяжкавата даводзілася.

— Ой, я б такое не пераҗыла.

Падзьмуў аднекуль вецер, і бяроза азвалася лёгкім пошумам навіслага веццяі тонкім звонам настылых ільдзінак. Гэта было як нейкая ледзь улоўная, пяшчотная музыка. Час ад часу яна паўтаралася.

— Жыццё, — працягваў расказваць Санька, — складанае, поўнае нечаканасцей, асабліва ў вайну. Ніхто не ведае, куды, у які бок, паверне лёс. Мне сапраўды пашанцавала. Хаваўся, знясілеў моцна, аднойчы выйшаў на дарогу і хазяіна сустрэў. Лявонція Міхайлавіча. Ну, ён мяне да сябе забраў. Харошы чалавек! Ды яшчэ ўнучок пры ім — Валодзік. — Санька сашчаміў кулак і падняў угору вялікі палец, каб паказаць свае адносіны да гаспадара.

— А па радзіме не сумуеш?

— Я пра гэта стараюся не думаць.

— Халадно там надта, кажуць.

— Я б не сказаў.

— А я чула, што для чалавека надта халадно.

— Не халадней, чым тут, у вас. Паветра ў нас сухое, так што і холад лягчэй пераносіцца. А лета ў Сібіры гарачае. І прырода ў нас багатая. Лугі, рэкі, сопкі!.. Прыгожы край. Ой, каб ты пабачыла!..

Гаворачы, ён стараўся надаць свайму голасу пяшчотны тэмбр, каб тое, пра што ён гаварыў, ёй спадабалася.

— У нас ужо, бачыш, на вясну пацягнула. Ужо ўсё прачынаецца. Карчы пахнуць, — лянiва, адно на адно, нанізвала яна словы. — Лазнякі, алешнікі…

— Гэта дрэва смалу пускае, — патлумачыў ён, — вясну чуе. У нас лясоў многа — тайга!

— Тайга? Якая такая тайга?

— Лес! Ні канца, ні краю — лес! Дзень ідзі, ноч ідзі — лес і лес. І трава ў рост чалавека, і кветкі! А які пах!

Санька змоўк, быццам раптам уявіў сабе тое, пра што казаў Маньцы, — свет сібірскай прыроды, лес, кедрачы, таёжныя ўромы, куды часта адпраўляўся на паляванне, заімкі, дзе можна было адпачыць, набрацца свежых сіл.

— Я чула, што каго заарыштуюць, дык у той лес вязуць, у тайгу. Раскулачаных…

— Ну, не абавязкова ў тайгу вязуць. Месц хапае: і ў шахты вязуць, і на будаўніцтва, і золата шукаць… Расія — вялікая.

— У вас жа, пэўна, калгасы?

— У нашай дзярэўне калгас. Ужо даўно, і ніхто, у сушнасці, не скардзіцца. Кожны сваёй справай займаецца — хто на полі працуе, хто па жывёлаводстве, хто будуе, хто на пасецы. Працы хапае.

Па вуснах дзяўчыны заблукала сарамлівая ўсмешка. Яна прамовіла:

— Кажуць, у калгасах разам спаць кладуцца — і мужчыны, і жанчыны, і адной коўдрай акрываюцца. Коўдра вялікая, і нацягваюць яе трактарам.

Санька засмяяўся, расцягнуўшы дужку кволых вусікаў на верхняй губе:

— Злосныя выдумкі.

— А бацькі ў цябе хто?

— Звычайныя сяляне. Баця на ўсе рукі майстар, а мама — даярка.

Галіны бярозы варушыў вецер, і яна ціха шамацела, як бы адгукаючыся на яго заляцанні.

— Мусіць, там і дзяўчына чакае? Сібірачка?

Санька ўздыхнуў:

— Не.

— Чаму?

— Не да дзяўчат было. А потым і ў армію забралі. Вось я ў вашых краях і аказаўся. А тут і вайна пачалася. Цяпер, відаць, мяне загінуўшым лічаць. Дамашнія мае. А я жывой. Вось такія дзялы, Маняша. Хацелася верыць, што будучыня светлая і прыгожая, а яно інакш сталася. Ну, што ж…

Ёй здалося, што твар яго паблядне́ў, а ў праніклівых шэрых вачах з'явілася нешта вельмі сумнае і жаласлівае. Хлопец спахмурнеў, угнуў галаву.

— Спачуваю табе. Табе цяжка, — ціха сказала яна. Ён на гэта нічога не адказаў, а замест адказу пачаў пра іншае:

— Ну вось, цяпер ты пра мяне, у сушнасці, усё ведаеш: і хто, і адкуль, і хто бацькі…

— Адразу ўсяго не ўведаеш, ды і нашто ведаць? Даруй мне маю цікаўнасць — гэта я проста так. А прозвішча тваё як?

— Ды Растатуеў я. Санька Растатуеў.

— Растатуеў? У нас такіх прозвішчаў няма. Рас-та-ту-еў, — паўтарыла яна па складах і засмяялася.

— А ў школе ты вучылася?

— Дзве зімы, пры палякках.

Ён нічога не адказаў.

Уверсе, у бясконцай касмічнай прасторы, у густа фіялетавым небе, вадзілі свае карагоды зоркі. Саньку здалося, што зоркі падміргваюць яму, жадаюць удачы. Яны рассыпаліся на асобныя зіхоткія іскры, шырокімі пасмамі ляцелі ўдалячынь, трымцелі, мянялі колер, гаслі і зноў ззялі, самаахвярна асвятляючы касмічную прастору і знікаючы ў ёй.

Звычайна на неба ён не заглядаўся, лічыў гэты занятак не вартым увагі, бо нічога цікавага не чакаў там убачыць, а тут раптам задзівіўся. Задзівіўся і тузануў пад бок Маньку.

— Глянь, што на небе робіцца! — гукнуў ён, задраўшы галаву.

— Ой! Колькі зорак! — услед за ім здзівілася дзяўчына. — На гарох ураджай будзе. Кажуць, калі на небе шмат зорак, дык гарох уродзіць. І яшчэ ў нас кажуць, што лепш лічыць грошы, а не зоркі.

— А яны ж, паглядзі, танцуюць!

Яны сталі разам з цікаўнасцю пазіраць на яркае ад зорак неба.

У небе ўсчалася сапраўдная зорная завіруха, якая бушавала, шугала з краю ў край, імкнулася кудысьці за далягляд і зноў абрыньвалася на зямлю. Зорны карагод дрыжэў агнямі, пераліваўся святлом, ірдзеў, іграў сваёй стыхійнай і грознай, як усякая стыхія, касмічнай сілай. Гэта быў шалёны, неўтаймоўны танец зорак, спрадвечнае свята небнага агню. Касмічная містэрыя была ў самым разгары. Сусвет жыў і аздабляўся цэлымі суквеццямі зорных россыпаў.

Яны доўга любаваліся зорным карагодам і не заўважылі, як шчыльна прытуліліся адно да аднаго.

Ён далікатна дакрануўся да яе рукой, хацеў пагладзіць.

— У цябе шорсткія рукі, — сказала яна, як бы здзівіўшыся, і ўскінула свае доўгія павекі. Не адыходзячы ад плота, адступіла на крок у бок.

— Рукі як рукі.

— А ты, відаць, не зломак…

— У нас, у Сібіры, ёсць прымаўка: не па харошаму міл, а па мілу харош.

— Я не веру ў каханне з першага погляду, — сказала яна.

— Ну, не з першага, а, можа, з другога…

— Дык мы з табой розныя людзі, ты вунь адкуль, а я мясцовая.

— А хіба гэта галоўнае?

— Позна, пайду ўжо дадому, маці чакае.

— Можа, яшчэ пастаім?

— Не. Хутка пеўні закукарэкаюць. Ужо ўсе спяць, толькі мы адны. — Яна зірнула на дол: — Даўно ўжо стаім, паглядзі, снег вытапталі.

Пасля зарападу, зорнай завірухі, якая так уразіла іх, неба, хоць да світання было яшчэ далёка, пачало святлець.

— Давай будзем часцей бачыцца, — прапанаваў ён, развітваючыся і адчуваючы, што дзяўчына расчуліла і замілавала яго канчаткова.

У Кужалёў чакала вячэра, ужо халодная. Спаў Санька ў клуні, і пасля вячэры падаўся туды. Акрыўшыся коўдрай, удыхаў густы пах сена, які вяртаў да ўспамінаў аб бацьках, родным доме. Гэты пах быў аднолькавы — і тут, і там, на далёкай радзіме. Будучае цяпер для яго было ахутана ў туман. «А можа, гэтае каханне для мяне ключ у будучыню? — думаў ён. — Жанюся ды будзем жыць. А яна такая мілая, курносенькая…»

Маньку дома сустрэлі бацькі, яны яшчэ не спалі, чакалі дачку. Пачала Вера:

— Ну дык што ты, усё з ім, акружэнцам тым, што ў Кужаля жыве?

— З ім.

— Неяк я бачыла яго, дык ён жа старэйшы за цябе!

Міхаль падтрымаў жонку:

— Табе ж, Маня, яшчэ і дваццаці няма! Дзяўчук яшчэ.

— Ну і што з таго, што старэйшы? Галоўнае, каб чалавек быў. А дваццаць мне ўжо ёсць, у тым годзе споўнілася.

На стале стаяла вячэра. Манька падкруціла ў лямпе кнот, дабавіла святла і села падмацавацца.

— Дык ён жа «васточнік»! Кіне! Праз цябе і нам сорамна будзе на вуліцы паказацца! — даводзіла маці.

— Апроч таго, палонны — ён бяспраўны, — дадаў Міхаль. — Ніхто з ім і лічыцца не будзе.

— Ой, тато, яшчэ невядома, як усё павернецца! — сказала дачка, каб хоць штосьці прывесці ў сваё апраўданне.

Заможных Шведаў ведалі далёка, і сватацца прыязджалі хлопцы з навакольных вёсак, але бацька, стары Міхаль, не даваў згоды, бо прэтэндэнты здаваліся яму беднымі. Аддаваць у бедную сям'ю не ўваходзіла ў яго планы. Маньцы хацелася, каб кавалераў было шмат, але, атрымаўшы адмову, яны знікалі, неяк невідочна рассейваліся.

Заседзецца ў дзеўках таксама дрэнна.

— А дзе тыя мясцовыя, нашы? — у адказ бацькам загаманіла Манька. — Нешта я іх даўно ўжо не бачу.

— Падумай! — працягвала настаўляць маці.

— А хіба я не думаю? Не такая я ўжо і дурная, каб не думаць. Лішняга я не дазволю. Паміж намі яшчэ нічога такога не было.

— Глядзі, дзеўка!

— Мамо!

— Каханне не блінцы, а закахаўшыся — канцы.

— Што за свет дзіўны пайшоў! — азваўся Міхаль.

— Нічога, яшчэ паспееш замуж, — нібы супакойваючы сябе і дачку, сказала Вера. — Тавар такі, што не заляжыцца.

Пасля гэтай размовы з бацькамі Манька доўга думала і ўжо хацела адпрэчыць ад сябе сібірака, каб не прыставаў, але сталася інакш. Яе як бы нават

пацягнула да яго. Хлопец спадабаўся ёй аповедамі пра свой край, пра тое, што ён у свеце бачыў. Яны пачалі сустракацца, і паступова ён перастаў быць для яе чужым чалавекам.

Каханне, як і кашаль, не ўтоіш. У Прусцы ўжо ведалі, што Шведава Манька і Лявонаў «пленны» «любяцца». Некаторыя, праўда, пазіралі на гэта больш скептычна: «Гэта яшчэ не любоў, а залюбкі», — казалі яны.

## III

Вясна 1942-га не спяшалася ў сваёй хадзе, халады трымаліся амаль да самага красавіка. Але затое потым хутка пачало цяплець. Вышэй і вышэй узбіралася на неба сонца, разганяючы зімовыя хмары, закапала з саламяных стрэх, у снезе ўтварыліся праталіны і ціха зазвінелі ручаіны. Сонца прыгравала ўсё больш, на палях агаліліся з-пад снегу чорныя загоны ворыва, лагчыны запоўніліся вадой, а на аблогах зарунела трава.

У хлявах зараўла скаціна, чуючы водар свежай травяной руні і надыход той пары, калі жывёле патрэбныя прастора і гурт. Фёкла выпусціла з хлява парсючка, той ад радасці ажно падскочыў і тут жа прытуліўся да плоту, энергічна стаў часаць бок.

Закруціліся ўнутр канцы маладзіка — знак для добрых пачынанняў. Лявон зрабіў абрэзку ў садзе, пазразаў усохлыя і лішнія галінкі. Людзі ў паўсядзённых клопатах — хочаш ці не хочаш — павінны былі прыстасоўвацца да абставін, жыць і выконваць свае абавязкі.

Пакрысе пачалі перасыхаць лясныя і палявыя шляхі. У красавіку ўвабралася ў берагі Лосьна, і выганялі ўжо на пашу кароў, вывозілі на палі ўгнаенне. У прускаўскіх гаспадынь, на падаконніках, ужо даўно рунела памідорная расада.

Заспявалі жаўранкі, яны, як вестуны дабрыні, вяртаюцца раней за іншых птушак. Перад Вялікаднем Лявон пасеяў авёс. Ва ўсім дапамагаў Санька, разам вывозілі гной, аралі, сеялі…

Якраз у гэты час зноў наведаўся да Лявона Косця. Ён хаваўся: то ў клуні ў дзядзькі Цімошы, то ў бабулі Васіліхі. Хаваўся, бо, прайшоўшы праз дэфензіву і НКУС, здагадваўся, чаго можна чакаць ад гестапа. Час ад часу выходзіў, цягаўся па наваколлі, да чагосьці прыглядаўся, збіраў і прыхоўваў кінутую Чырвонай Арміяй зброю. Тайнікі рабіў пад мурашнікамі, каб потым лягчэй было адшукаць.

Косця адчыніў дзверы, па-прыяцельску ўсміхнуўся, пераступіў парог. Павіталіся, пагаманілі пра надвор’е, пра веснавыя клопаты. У падпечку сядзела квактуха і знізу са свайго седала пазірала на госця. Астатнія на падворку на чале з пеўнем, з пачырванелымі грабеньчыкамі і завушніцамі, ласаваліся маладой кволай травічкай, а яна сядзела, выконваючы свой спрадвечны прыродны абавязак. На кухні замяўкаў кот.

— Так ты і не ажаніўся? — паўшчуваў госця Лявон.

— Дык не было калі: то адно, то другое, — быццам просячы прабачэння, апраўдваўся Косця.

— Ні жонкі, ні дзяцей…

Яны памаўчалі.

— Ну, як жыццё, дзядзьку? — спытаў былы капэзэбавец, маючы на ўвазе, відаць, нешта іншае, чым звычайныя веснавыя клопаты.

Лявон махнуў рукой:

— Папытай, дружа, пра што лягчэйшае.

— Так, сапраўды, усё ўскладнілася.

— Якое там жыццё, калі ў страху жывём. Не жыццё — існаванне! Але ніхто за нас жыць не будзе. Трэба неяк жыць. Адзін раз надараецца, у другі раз нарадзіцца, можа, і не давядзецца.

У хату зайшла Фёкла, павіталася, паварушыла кацюбаю жар у печы, прыслухалася да размовы. Расказваў Косця:

— Я, дзядзьку, такое бачыў — колькі жыць буду, не забуду. Ішоў галодны і ў пастаянным напружанні. Заходжу неяк, страшэнна стомлены, у вёску недзе пад Бабруйскам, прашу ў крайняй хаце што паесці. Гаспадыня, помню, вынесла пару бульбін і гурок. Я сеў ля плота і з'еў і бульбу тую, і гурок. Так, седзячы, і заснуў. Колькі праспаў — не ведаю. Разбудзілі мяне стрэлы. Падхапіўся і не магу зразумець, дзе я. «Немцы!» — крычыць гаспадыня. Вёска гарыць, кулі свішчуць, дым. Сярэдзінай вуліцы, плачучы, бяжыць жанчына, за ёй — хлопчык, гадкоў сем яму, а за імі тупаціць гітлераўскі салдат. У руках — карабін з натапыраным шырокім штыком. На хаду ўскінуў карабін, стрэліў. Жанчына быццам бы спатыкнулася і паляцела тварам у пясок. Хлопчык, чутно, закрычаў: «Мама, ма-ама!» Салдат падбег да яго, ударыў штыком, падняў уверх, як снапок саломы на вілах, размахнуўся і перакінуў цераз плячо, а сам паімчаўся далей, тупаючы ботамі. Да гэтага часу стаіць у мяне ў вачах хлопчык, енчыць, поўзае, рве ад болю ручкамі траву.

— А Божа мой! — не вытрымала Фёкла і, як мех, асунулася на столак.

— Кінуліся мы з гаспадыняй да яго, падбеглі, а ў яго, беднага, кішкі з прабітага жывата вылезлі. Памучыўся і сканаў…

— Жорстка паводзіць сябе чалавек, — уздыхнуў Лявон. — Ён сам па сабе жорсткі, па прыродзе сваёй, а тут яшчэ вайна падаграе…

— Гэта, дзядзьку, фашызм.

— Фашызм.

— Што праўда, тое праўда, дзядзьку, але жыць, як вы кажаце, трэба. І не толькі жыць, але і пра іншае думаць.

— Пра што?

Косця па звычцы задраў галаву ўверх, страсянуў рудой чупрынай, уздыхнуў.

— Ну няўжо яно будзе гэтак заўсёды? Расія разгорнецца і дасць яму выспятка ў сраку. От пабачыце! Гэта ж нелюдзі, дзядзьку, прыблуды, якія лічаць нас недачалавекамі, смеццем гісторыі і глумяцца над намі. Трэба ачысціць зямлю ад гэтай брыдоты, ад гэтых грабежнікаў, мярзотнікаў! Расія яшчэ пакажа сябе!

— То, напэўна, пакажа! З-пад Масквы ўжо прагналі.

— Я чуў.

— Адолеюць яго. А шчэ як Амэрыка дапаможа!

— Расіі трэба дапамагчы! — уставіла ў размову свае слова Фёкла. — Ей, беднай, сёння як ніколі цяжка.

— Ад Амэрыкі я дапамогі не чакаю! — з упэўненасцю прамовіў Косця. — Не дапаможа. У Амэрыкі свой клопат — вайна з Японіяй.

Лявон падсунуўся бліжэй і па-сяброўску паклаў яму руку на калена, паляпаў па калене даланёй:

— Дарэмна ты так! Павінна дапамагчы і Амэрыка. У Амэрыкі столькі тэхнікі, што грэх было б ёю не пакарыстацца.

— Ну, хіба што тэхнікі дадуць, узбраення, бо на Гітлера ўся Еўропа працуе. Я бачыў: эшалон за эшалонам пруць на ўсход, гарматы, танкі — што хочаш!

— Сіла не малая.

Фёкла моўчкі ўзяла вядро і выйшла да калодзежа набраць вады.

— Дык вось, дзядзьку, — ціха прамовіў Косця, — каб не атрымалася так, што мы з вамі ўбаку стаялі і збоку на ўсё пазіралі.

Відаць было, што былы капэзэбавец сказаў нарэшце тое, што яго найбольш турбавала і над чым не адну ноч думаў. Лявон заклапочана прымружыў вочы, пашкроб патыліцу, правёў рукой па чубчыку над ілбом.

— У лесе людзі ёсць, — загаварыў ён пасля працяглай паўзы. — Гэта ж, мусіць, яны на камянецкім гасцінцы тэлеграфныя слупы паваліlі і дрот пашкуматалі. Каб сказаць пра сябе: «Мы ёсць, і яшчэ не такое ўчынім!..»

— Напэўна.

— Гэта іх работа. А потым, гэтай зімою, у Кучэўскага хтось скірду саломы спаліў…

— Я ведаю.

— Мусіць, наіўны чалавек той, хто падпальваў: шкоды немцам ад гэтага аніякай. Ды і Кучэўскі не пабяднее, а можа, нават дзякуй скажа, што тая гнілая салома з ветрам пайшла. Нашто яна яму!

Косця вярнуўся да ранейшага:

— Дзядзьку, а дзе яны?

— Хто ж яго ведае, — Лявон пацiснуў плячыма. — Восенню, калі ў панскі лес па лісце ездзілі, дык аднаго бачылі. От як цяпер цябе. Закурыць папрасіў. Вогнішчам ад яго пахла. Пра партызан пытаўся, але што я яму адкажу. Сказаў, што не ведаю. Паесці папрасіў, дык мы яму аддалі, што мелі. Сала трохі, хлеб. Не, людзі ў лесе ёсць! Тут неяк Кузёмка да нас заходзіў, дык казаў, што быццам немцы запусцілі ў пушчу мядзведзя-людаеда, каб партызанам спакою не даваў. Ці праўда гэта, не ведаю, але ж чалавек кажа.

— Знайшлі каго слухаць! Кузёмку! Гэтага блазна…

— Не, ён часам і праўду кажа.

— Страшны звер не на чатырох нагах, а на дзвюх.

— Гэта — праўда, — згадзіўся Лявон.

— Эх, каб іх пашукаць!

— Тых, што ў лесе? Тут, браце, я, на жаль, нічым дапамагчы не магу. Ва ўсялякім выпадку, што магу параіць, варта сапраўднага цяпла дачакацца.

— Доўга чакаць мне не выпадае. Баюся, што падмятуць.

— Хто?

— Немцы. Дазнаюцца і падмятуць.

— Ад іх усяго можна чакаць, — згадзіўся Лявон.

Госць перавёў размову на іншае:

— А ў вас прымак жыве?

— Жыве. Цяпер у Свішчова пайшоў, сябра адведаць. Там такі ж прымак, як і ён.

— Пленны?

— Пленны.

— Яны ж фактычна на ўліку састаяць, пра іх паліцыя ведае, ім лягчэй, на вячорках гуляюць. Ваш, кажуць, я чуў, надта на дзевак заглядаецца, да Шведавай Манькі лёстачкі падпускае.

— Не губляецца, — пасміхнуўся Лявон. — Узрост такі.

Косця разважыў па-свойму:

— Тут, дзядзьку, можа, не толькі ўзрост. Час такі. Вайна. Кожны хоча неяк абараніцца ад страху перад ёй. І ваш акружэнец таксама.

— Можа, і так.

— А Васіль што робіць?

— На гаспадарцы.

Калі гаспадыня вярнулася, прынесла ваду, госць ужо развітваўся, некуды спяшаўся. Выпіў кубак вады, якой пачаставала Фёкла, і пайшоў.

— Шкада яго, — сказала Фёкла.

— Шкада…

Пасля Косці наведаўся Хрысан і, як звычайна, не ўступаючы ў доўгія перамовы, яшчэ з парога сказаў загадным тонам:

— Улады даводзяць нам садзіць тытунь.

— Тытунь? — здзівіўся Лявон і няўцямна паглядзеў на солтыса. — Каму ж гэта так курыць захацелася?

— Каму — не ваша справа. Ваша справа выконваць загад. Каб дзве грады пасадзілі! На агародзе, у зацішку, ён добра расце.

— Трэба падумаць.

— Думайце, але не доўга, бо ўжо вясна.

Хрысан азірнуўся па баках, абмацаў вачыма хату.

— А дзе ваш «прымак»?

— Сябра пайшоў адведаць, у Свішчова. Там такі ж, як і ён, жыве. Сябруюць.

— Глядзіце, каб у лес не збег. Галавой адказваеце!

— Не павінен.

— Я чуў, што ён ужо тут і дзяўчыну мае.

— Малады.

— Шведаву Маньку. Зачараваўся яе вабнотамі. Гы-гы-гы!..

Хрысан, як службовец, доўга не затрымліваўся, пабег аддаваць загад па хатах далей.

— Каб цябе пярунляснуў! — не вытрымаў, вылаяўся Лявон пасля таго, як солтыс выйшаў на вуліцу і ўжо адчыняў веснічкі.

* * *

Косцевы апасенні аказаліся не марнымі і неўзабаве спраўдзіліся. Немцы нейкім чынам дазналіся пра яго і заявіліся проста да Цімошы, ператрэслі ўсю хату, хлявы і клуню. Асабліва стараўся ляснічы Кучэўскі, які быў у шчыльным хаўрусе з паліцыяй і, відаць, меў да Косці асабістую непрыязь. Цімоша з Хрысіяй перапалохаліся да смерці. Цімоша тлумачыў, што тут няйначай як нейкая памылка, бо ён пляменніка з пачатку 1940 года, калі яго арыштавалі бальшавікі, толькі адзін раз бачыў. Паказаўся і знік. Суседзі — Ламака і Давыдзюк — пасведчылі праўду яго слоў. Солтыс Хрысан адно толькі паціскаў плячыма, баяўся, мусіць, звязвацца з Хлябічамі, помніў яшчэ Трахіма. Пляменнік хаваўся ў гэты час на гарышчы ў бабулі Васіліхі. Заўважыўшы немцаў, якія з грукатам, распырскваючы лужыны, праехалі па вясковай вуліцы на грузавым аўтамабілі, вылез з гарышча праз страху і праз агарод адпоўз у карчы, у хмызняковы гушчар. Карчы, вядома, не схоў, але другога не было. Стаіўшыся, назіраў, што будуць рабіць немцы. Зрэшты, не столькі назіраў, колькі ўслухоўваўся, таму што выпаў туман і агарнуў малочнай беллю ўсё наваколле. Востра перажываў віну перад сваякамі — маглі ж расстраляць, у немцаў размова кароткая. Немцы аднак з’ехалі, так нічога і не дазнаўшыся. У бабулі Васіліхі яны, на шчасце, і не шукалі, бо калі б шукалі, то нейкія рэчы маглі б знайсці.

Косцю не было сэнсу чакаць іх у другі раз, і ён у той жа дзень збег у Бабіцкую Бярэзіну. Бабуля Васіліха наладавала ўнуку такі-сякі хатулёк на плечы,

паклала туды хлеб, сала, некалькі спечаных у прысаку бульбін, пару цыбулін і драўляную конаўку, каб, калі спатрэбіцца, зачарпнуць вады. Ну і, вядома, традыцыйную бутэльку з малаком, заткнутую драўляным коркам. «Калі што якое, — вырашыў ён, — буду казаць, што пастух, шукаю карову, якая сышла кудысьці ў лес». Са зброі прыхапіў наган з патронамі. Ускінуў на плечы паддзёўку і пайшоў.

Бярэзіна сустрэла сыраватай прахалодай вясенняга лесу. Лес паводзіў сябе, як звычайна: рос, падаў, гніў і зноў ажываў, аднаўляўся. Тут, як і ўсюды, панаваў прыродны закон. Гэта быў прыгожы лес: бяроза, сасна, дубкі, ляшчына, ядловец. У нізінах лазовыя кусты, асіннік, каліна. Навокал цішыня — нідзе нікога. Пуста. Нават птушак не чуваць, бо яшчэ зарана. Аднак усё больш шчодра прыгравала сакавіцкае сонца. Лес святлеў, напаўняўся настоем хвоі і смалы, перабіваючы пах мінулагодняга прэлага лісця. Дрэвы ажылі, дыхалі і прагна пілі ваду, якую назапасіў лясны дол. На бярозавых пупышках прытаіліся клейкія смаліста-бурштынавыя кропелькі, ад якіх струменіўся свежы густы подых гэтага дрэва. На палянах паміж апалага лісця зацвілі, абуджаныя дзённым цяплом, пралескі. Там-сям паказалася з зямлі кволая травічка. Зелянеў мох. Асабліва густым і зялёным ён выдаваўся на тых мясцінах, дзе сатлелі паваленыя старасцю ці якой-небудзь іншай прычынай дрэвы, пакінуўшы пасля сябе, нібы свой цень, цёмную палоску — сведчанне колішняга існавання пад сонцам.

Але Косця ўсяго гэтага як бы не бачыў і не заўважаў. Заўважыў, праўда, як са зламанай кімсьці бярозавай галінкі, якая ўжо нават паспела ўпрыгожыцца рудымі завушніцамі, амаль цурком цячэ сок. Падвесіў конаўку і пачакаў, калі яна амаль да палавіны напоўнілася, а тады пачаў каштаваць. Бярозавы сок аддаваў вінным водарам. Спіртнога Косця не ўжываў і да віна ніякага імпэту не меў, а бярозавік спадабаўся. Халаднаваты саладжавы сок прыемна студзіў нутро, утаймоўваў нервовую напружанасць.

Ён доўга соўгаўся па лесе, але партызан не сустрэў і стойбішча іхняга не знайшоў. Яшчэ больш адчуў адзіноту. Паблукаўшы па Бярэзіне, падаўся на паўночны ўсход, у бок пушчы. Мінуў Крымянку. Пайшоў далей, пакуль не спыніўся перад глухім, зарослым лазовымі кустамі балотам. Рушыў праз балота і натрапіў на зручную, як яму здалося, для стаянкі выспачку, тут рос лес: алешнік, сосны, бярозы. Выспачка аказалася пустой, і ён вярнуўся ў адваротным напрамку, бліжэй да родных мясцін. Стаміўшыся, прысеў пад сасной, каб адпачыць і крыху перакусіць. Дастаў з хатуля бутэльку з малаком, заткнутую драўляным коркам. Адаткнуў і адпіў. Часам яму здавалася, што хтосьці за ім сочыць, але нікога навокал не было. Працяжна і ціха шумеў лес, як бы ахутваючы і хаваючы ў гэтым адвечным пошуме дрэў нейкую сваю глыбокую таямніцу. Праз лясны шум здалёк данёсся, крыху падобны на сабачы, брэх лісіц. «А можа, вярнуцца? — падумаў ён. — Вярнуцца і затаіцца, схавацца? Але дзе ж ты схаваешся? Знойдуць! Дык што рабіць?»

Расхацелася есці, на плечы навальвалася стомленасць, і ён задрамаў. Але дрымота яго была настолькі чуйная, што кожны выпадковы гук у лесе будзіў, і тады, затаіўшыся, ён напружана чакаў узнікнення нейкай небяспекі. Аднак усё было ціха, ён супакойваўся і зноў пачынаў драмаць. Можа, і заснуў бы, каб не даймаў холад.

Косця ўжо наважыўся быў падняцца і куды-небудзь ісці, як раптам пачуў пошчак зламанай галінкі. Пачуў і інстынктыўна схаваўся за дрэва. Здалося, што гэта чыесьці крокі. Мітуслíва, похапкам, сунуў руку ў кішэню, намацаў наган і ўзвёў курок. «Хто гэта можа быць? Свае, немцы ці, можа, ляснік?

Я нікога не бачу, а за мной, пэўна, сочаць, і ў кожную хвіліну можна атрымаць кулю. Вось з таго хвойніка! Ну, вылазь, гад! Але танна жыццё не аддам. Ну, давай!» Заверашчала, пералятаючы з дрэва на дрэва, ранняя сойка. «Напэўна, недзе паблізу хаваецца звер. Можа, ліса, а можа, і воўк! А можа, яшчэ хто?» З паўгадзіны, напружыўшыся, чакаў, але ніхто не паказваўся. Гэтае месца ў лесе, якое называлася Ласіны Закутак, ён ведаў здаўна. Пазнаваў нават паасобныя дрэвы, зараснікі хвойніку, карчы. Вось тоўстая разгалістая сасна, а побач ужо амаль усохлая елка. Толькі высокага куста ядоўцу на ўзгорку за сасной не мог прыпомніць. Адкуль ён з’явіўся? Не мог жа так хутка вырасці!..

«Будзь, што будзе!» — вырашыў ён, асцярожна падкраўся да куста і ўбачыў за ім нешырокі — як праціснуцца аднаму чалавеку — лаз у падземнае сховішча. Гэта была зямлянка, і пасаджаны кімсьці куст яе як бы маскіраваў. Праз вузкі ўваход залез у нутро, яго сустрэў пах цвілі, цемра і пакінутасць. Пры ўваходзе стаялі рассохлы цэбрык, пачарнелыя ад сажы салдацкія кацялкі, у якіх, відаць, не так даўно нешта варылася, бутэлькі з зялёнага шкла, паламаная фанерная скрынка.

Пастаяў колькі хвілін, патаптаўся на земляным доле, зноў вырашаючы — заставацца тут нанач, не шукаючы іншага прытулку, ці таксама пакінуць, пайсці ўпрочкі, як пайшлі тыя, хто быў тут да яго. Вочы крыху асвойталіся ў цемры і наткнуліся на вінтоўку, што стаяла, прыткнутая да сцяны. Патрымаў у руках: руская, пяцізарадная. Хто ж яе тут пакінуў? Праз той жа лаз выбраўся наверх. Ужо вечарэла. Заходзіла сонца. Яго праменні краналі верхавіны дрэў і па-іншаму, па-вячэрняму, асвятлялі наваколле, карчы і зямлю, усеяную апалым лісцем, глыбей выяўляючы яе рэльеф. Холад студзіў цела, даставаў да нутра. Наперадзе чакала яшчэ больш халодная ноч пад адкрытым небам. Косця зноў прыгледзеўся да ляснога долу і раптам заўважыў паміж сухога лісця і кволай травіцы ледзь прыкметныя сляды, як бы хтосьці яшчэ нядаўна тут хадзіў. Ланцужок слядоў вёў уніз, у далінку, і Косця вырашыў пайсці гэтай сцяжынай. Ішоў асцярожна і за тоўстым лазовым кустом убачыў рэшткі свежага вогнішча. «Пэўна раніцаю нехта паліў. Значыць, нехта ёсць. Ёсць! Бо хто б разводзіў агонь?» Ён стаіўся, сцішыўся, услухаўся ў ціхую гамонку дрэў, потым падышоў да вогнішча і рукою памацаў попел. Попел быў яшчэ нават цеплаваты. «Хто ж паліў вогнішча?» Побач, ля сасновага камля, угледзеў вядро, а на суку вісела торба. «Відаць, хтосьці свой, бо хто ж? Непадобна, каб гэта былі немцы. Значыць, трэба пашукаць, дачакацца!»

І тут ён пачуў свіст. Зычны, прарэзлівы. Не ўтрымаўся, свіснуў у адказ.

— Стаяць! Рукі ўверх! Ні з месца! Страляю без промаха! — выразна прагучала з-за куста на чыстай рускай мове, і неўзабаве адтуль высунуўся чалавек у вылінялым пінжаку з памятымі лацканамі, з пісталетам у руцэ. Высокі, цёмнавалосы. Выгляд меў пагрозліва-недаверлівы. Аброс барадой, як жабрак з-пад царквы.

— Хто ты?! — зноў грозна спытаў у Косці.

— Чалавек.

— Бачу, што чалавек, а што тут робіш?

— Сяброў шукаю. Там, адкуль я прыйшоў, няма мне месца.

— Значыць, ад немцаў хаваешся? — незнаёмы, крыху патрымаўшы, апусціў пісталет. — А чаму без зброі?

— Зброя ёсць, — Косця дастаў з кішэні наган. — Вось!

— Ну, ну! Асцярожна!

— Зброі ў мяне хапае. Рознай! Якой хочаш! І табе не пашкадую, калі трэба!

— А што там у цябе ў мяшку? — незнаёмы кіўнуў на Косцін хатулёк.

— Харчы.

— Дык давай! Чаго марудзіш?

Яны прыселі каля тоўстага вываратня, Косця развязаў хатулёк, дастаў свае сціплыя прыпасы, і яны пачалі сілкавацца. Пазнаёміліся бліжэй.

— Беражняк, — назваў сябе сябра па няшчасці. — Андрэй.

Косця таксама прадставіўся. Адзін і другі расказалі пра сябе. Несуцяшальным прагучаў аповед Беражняка. Пасля той аблавы, калі атрад Пенкіна адпачываў на хутары і быў амаль знянацку заспеты карнікамі, у жывых мала хто і застаўся. Ён, Беражняк, ды яшчэ, можа, некалькі чалавек. Давялося ўцякаць. Беглі ў шалёным тэмпе. Беражняк успомніў, як ён бег, як са скроняў сцякаў, валіўся салёны, ліпкі пот, шчыпаў і сляпіў вочы. Падкошваліся ногі. Бег з апошніх сіл, пакуль ад стомы не грымнуўся на зямлю. Аддыхаўшыся, абмацаў нагу і адчуў, што бот запоўніўся крывёй, нага стала пруцянець і слаба слухалася. Зразумеў, што куля прабіла лытку. Так-сяк перавязаў нагу, адарваўшы край гімнасцёркі, і нейкі час блукаў. Ночы стаялі марозныя, спаў на снезе і зверху церусіўся снег, галадаў, пакуль не прыбіўся да крайняй хаты невялічкай прыпушчанскай вёсачкі. Прынялі сердабольныя гаспадары.

Перахоўвалі ў кароўніку на вышках. Паступова больш-менш загаілася рана. Пад вясну, апрануўшы цывільнае і падзякаваўшы гаспадарам, падаўся ў тую пенкінскую абжытую зямлянку ў Ласіным Закутку ў надзеі сустрэць таварышаў. Але нікога не сустрэў.

— Праз колькі дзён вось напаткаў цябе.

Косця таксама расказаў, як яго застала вайна і што было далей.

— Выходзіць, што мы з табой таварышы па няшчасці, — пасміхнуўся Беражняк.

— Выходзіць, што так.

З большага павячэраўшы, яны закурылі, зацягнуўшыся папяросным, з махоркі-самасейкі, дымам. Пакурыўшы, падыбалі ў бок зямлянкі.

Вогнішча не распальвалі. Пачалі ўладкоўвацца нанач.

— І назву добрую прыдумалі былі для атрада — імя Тэльмана! — успомніў Беражняк.

— Назва добрая! — згадзіўся Косця. — А галоўнае, што цэлы атрад. Адзін у полі, як кажуць, не воін. Аднаго прыхлопнуць лёгка. Як звычайнага камара. Але калі над акупантам хмара камароў навісне, то тады яму не паздаровіцца.

— Камандзір патрэбен.

— Ну, вядома, і камандзір.

Так пачалося іх сумеснае трывожнае жыццё ў гэтым лясным прытулку. Бавілі час у зямлянцы, а найбольш побач — хаваліся ў ельніку, у лазовых кустах. Адзін спаў, другі сцярог, вартаваў. Пасля зямлянкі, на свежым паветры, ямчэй дыхалася, ноздры казытаў лясны настой пахаў. Ноччу, разы са два, хадзілі ў бліжэйшыя вёскі па харчы. Людзі не крыўдзілі, шкадавалі, разумелі іх становішча, давалі такія-сякія харчы. Спажывалі эканомна.

## IV

У лесе ўсё больш сцвярджала сябе вясна. Дрэвы выкінулі дробныя чырванаватыя лісточкі і пахарашэлі. Падсыхаў лясны дол. Усё вышэй, вышэй дрэў, паднімалася над лесам неба. Пажаўцелі, запрашаючы пчолак, лазовыя кусты, палагаднела паветра, напоенае пахам смалістай жывіцы.

— Грыбамі пахне!.. — сказаў Бережняк, прагна ўцягваючы ў сябе паветра.

— Якія грыбы! Сакавік! — пярэчыў яму Косця. — Рана.

— Не, ужо красавік! А хутка травень…

Аднойчы вечарам яны рыхтаваліся да начнога супачыну, хоць класціся спаць яшчэ не збіраліся. Вечар, гадзін шэсць, а яшчэ відна. Ціхі шолах дрэў як бы суцяшаў і заспакойваў. Косця чысціў пяском салдацкія кацялкі, праціраў іх пахучымі хвойнымі галінкамі, Беражняк ляжаў пад сасною, адцягнуўшы ўбок прастрэленую нагу і курыў махорку-самасейку. У бліжэйшай балоціне квакалі і кракталі жабы, па-свойму ўслаўляючы гэтую пару года. Кракталі рэзкімі, пранізлівымі сугалоссямі, з усіх сіл заяўляючы пра сябе, сцвярджаючы сваю прысутнасць у свеце, як бы хтосьці гэта адмаўляў.

Спаць не хацелася.

— Ну, як там сёння твая нага? — звярнуўся Косця да таварыша, адмахваючыся галінкай бярозы ад насядаўшых камароў.

Беражняк бадзёра паляпаў рукою па назе:

— Нічога! Да Берліна дайду! Яшчэ, дам Гітлеру пад сраку!

— Можа, перавязаць?

— Пакуль што не трэба. Зажывае памаленьку.

— Калі так, дык добра. Тады заўтра па зброю пойдзем. У мяне пару снарадаў на прыкмеце, спецыяльна прыхаваныя. Са снарада можна тол дастаць.

— Я ведаю, пра гэта і Пенкін гаварыў не раз — наш камандзір. Талковы быў. Невядома, ці жывы.

Дзесьці далёка закукавала зязюля, лічачы гады, — колькі каму застаецца яшчэ пражыць. Закукавала і змоўкла. Якраз у гэты момант яны абодва пачулі далёкі пошчак, што пайшоў па лесе ад неасцярожна зламанай сухой галінкі. Сябры пахапаліся за зброю і насцярожыліся.

— Можа, казуля ці дзік? — ціха загаманіў Косця, углядаючыся ў лясны гушчар.

— Яно б і ўпаляваць няблага было б, — адгукнуўся Беражняк, мацней сціскаючы вінтоўку і водзячы перад сабой дулам, каб адразу стрэліць, калі хто пакажацца з кустоўя.

Але праз хвіліну зноў запанавала цішыня.

— Ты застанься тут, — скамандаваў Беражняк, — а я адбягу ўбок метраў на сто. Так лягчэй нам будзе абараняцца, калі што. Будзем рабіць уражанне, што нас тут многа!

Ён лязгнуў затворам, загнаў патрон у патроннік і, накульгваючы, хуценька пабег уніз, мільгаючы паміж дрэў сваёй прыгорбленай постаццю і, нарэшце, знік. І тады выразна пачуліся галасы людзей, але невядома было, хто гэта, свае ці чужыя. Косця ўслухаўся. «Свае ці немцы? — хапатліва білася сэрца. — Сядзець тут ці ўцякаць? А як Беражняк? Ён яшчэ кульгае, яму бегчы цяжэй…» Ён ужо хацеў кінуцца даганяць сябра, як з глыбіні лесу данеслася:

— Здарова, хлопцы! Гэта я, Беражняк!

— Андрэй?

— Ён самы.

— Здароў!

— Жывыя?

— Як бачыш.

«Значыць, тыя Беражняковы сябры, пра якіх ён казаў, жывыя!» — павесялеў Косця і пайшоў на галасы. Зблізку ўбачыў, як яны абдымаюцца — моцна, крыж-накрыж. Узброеныя людзі — іх было трое — насцярожыліся, убачыўшы новага, незнаёмага чалавека.

— А гэта хто? — спытаў адзін з іх, сярэдняга росту, круглаплечы, з жоўтымі кацінымі вачыма, якія ён прымружыў, углядаючыся ў незнаёмага. На шыі ў яго, напагатове, вісеў «дзягцяр».

— Усё выкладвай, не таісь! — не то падбадзёрыў, не то прыгразіў самы малодшы з іх. Яго ўзрост выдавалі густа выступіўшыя на носе вяснушкі.

— Гэта — Косця, свой брат-лесавік, разам бадзяемся, — патлумачыў Беражняк. — З тутэйшых. Ад немцаў уцёк, меліся арыштаваць. Каб не ён, таварыш Калеснікаў, я б ужо даўно гніў бы пад нейкім кустом. Ён мне дапамог. Міравой таварыш!

Але гэта не задаволіла таго, каго называлі Калеснікавым, і ён сам пачаў цікавіцца ў Косці, хто ён і адкуль. Давялося расказаць, як трапіў у акружэнне, як хаваўся ад гітлераўскіх улад, як збіраў зброю і шукаў сувязі з партызанамі, што павалілі тэлеграфныя слупы каля Бабіцкай гары. Пра тое, што сядзеў у савецкай турме, каб не ўскладняць сітуацыю, не сказаў.

Паведамленне пра зброю зацікавіла Калеснікава.

— Ну, добра! — вырашыў нарэшце ён. — Цяпер мы нікуды не пойдзем, бо трэба адпачыць, а заўтра пaглядзім.

З Калеснікавым было яшчэ двое, танкіст Бокша і Ваня-ёжык. Іх імёны Косця ўведаў пазней, калі бліжэй пазнаёміўся. Гэта былі тыя, хто ацалеў пасля таго крывавага бою на прыпушчанскім хутары, калі яны былі акружаны карнікамі.

Пачаў накрапваць дождж. Адпачываць і хавацца ад дажджу ўсе разам накіраваліся ў знаёмую зямлянку, выставіўшы наверсе павартаваць Ванюёжыка як маладзейшага.

Назаўтра ўсе разам абмяркоўвалі план дзеянняў, а ўжо ў наступны тыдзень разведалі і спалілі маёнтак у Бушмічах. Упраўляючы ледзь уцёк. Затым спалілі смалакурню за Ясенеўскай.

Косця адчуў сябе прыналежным да агульнай справы і стаў трымацца больш упэўнена.

Праз нейкі час адшукаўся Мурашка. А з надыходам цёплых дзён іх стала яшчэ больш. Адшукаліся Зіпуноў і Бонк. Апошнім аб'явіўся Задора. Расказваў, што перазімаваў на хутары каля вёскі Юўсічы.

— Фартуна! — сказаў Бонк.

Вельмі шкадавалі загінуўшых, асабліва камандзіра Пенкіна.

У маі аб'ядналіся з другой групай, якой камандаваў Несцер Фёдаравіч — мясцовы чалавек з-пад Кляшчэляў. Яго называлі «бацькам». Да вайны, казалі, ён працаваў старшынёй сельсавета, а на пачатку вайны, пераканаўшыся, як бязлітасна акупанты распраўляюцца з былым савецкім актывам, адвёз сям'ю — жонку з дзецьмі — у дальнюю вёску да сваякоў. Сам жа падаўся ў лес. Дазнаўшыся пра гэта, немцы на хаце Несцера Фёдаравіча прымацавалі шыльду:

**ТУТ ЖЫЎ БАНДЫТ**

Несцер Фёдаравіч з таго моманту бавіў час у лесе. Аблічча яго — шырокае квадратнае тулава і тоўстыя кароткія ногі — сведчыла пра немалую сілу. Такое ўражанне дапаўнялі цяжкі падбародак, зарослы, як мохам, густым шчаціннем, круглая шыя і моцныя сківіцы. З-пад шэрых навіслых броваў пазіралі маленькія чырванаватыя вочкі, а пад носам тапырыліся шырокія вусы. Розны люд, сябры па лёсу, сабраўся вакол свайго лідара — уцекачы з нямецкага палону, салдаты-акружэнцы, жыхары навакольных вёсак з ліку былых удзельнікаў падполля КПЗБ і савецкіх актывістаў, якім пагражала смерць ад акупантаў. Гэта была ўжо, можна сказаць, не група, а цэлы атрад з шаснаццаці чалавек.

Вайсковыя гімнасцёркі, цывільныя пінжакі, тужуркі і ватнікі, курткі, падпераzаныя рамянямі, рамяні наўскос праз грудзі, пісталеты ці наганы на папругах, вінтоўкі за плячыма — усё гэта для Косці здавалася незвычайным, неверагодным, але было рэальным. Такіх атрадаў па Белавежскай пушчы і вакол на пачатку бадзялася некалькі. Некаторыя кідалі пушчу, спазнаўшы слабую яе прыдатнасць для партызанскага бытавання, ішлі на ўсход, а некаторыя ўсё ж такі заставаліся, калі не ў самой пушчы, дык паблізу. Цяжка партызанам даводзілася, бо кожны квартал пушчы і мясціны навокал строга кантраляваліся нямецкімі службамі, войскамі аховы, але партызаны даволі хутка наладжвалі паміж сабою сувязь. Ніякай тэорыі партызанскага супрацiву ў іх не было, усё даводзілася спазнаваць на ўласным вопыце. З наступленнем цяпла яны сталі больш актыўнымі: паляцелі пад адхон (вясной 1942-га) на чыгунцы Гайнаўка—Бельск, Беласток—Ваўкавыск першыя нямецкія транспарты. Дзейнічалі часцей за ўсё такім чынам: лапамі выцягвалі з шпалаў кастылі, ключамі адкручвалі гайкі. Пры набліжэнні цягніка кідаліся да насыпу, прыхапіўшы з сабою вяроўку ці, часцей, тэлефонны провад і прывязвалі яго да рэйкі, затым адпаўзалі. Калі цягнік амаль упрытык набліжаўся да таго месца, дзе была падрыхтавана дыверсія, пара мацакоў бралася за другі канец провада і цягнула рэйку да сябе. Паравоз і вагоны з трэскам ляцелі пад адхон. У сакавіку гэтак кульнулі поезд за Кляшчэлямі, каля Дзернякова. Прымаразак тады быў, намяло снегу. У вагонах печкі гарэлі, і многія немцы папаліліся. Шмат было трупаў і абпаленых. Вагоны пашчапала і пакруціла. Дзернякоўцы думалі, што Дзернякова ўжо не будзе, спаляць, а людзей расстраляюць. Такое пагражала нават за забойства аднаго немца, а тут — цэлы цягнік. З дзернякоўцаў многія на чыгунцы працавалі, іх і ўсіх астатніх у бункер сагналі і меліся расстраляць. Але пусцілі сабаку, і той следу ў вёску не знайшоў, а толькі ў супрацьлеглы бок, у лес. І так вёска ацалела.

Здаралася, перагароджвалі дарогу спушчаным дрэвам ці калодай і чакалі. Ноччу такое здалёк і не заўважыш, і часта атрымлівалася так, што аўтамабіль, наехаўшы на калоду, спыняўся ці куляўся ў адхон і партызанам даставалася лёгка здабыча.

На баку Несцера Фёдаравіча была большасць. Таму, на гэтай падставе, ён і стаў камандзірам. Але не толькі на гэтай. Было ў ім нешта такое, што прыцягвала да яго людзей і што можна было б назваць не інакш, як харызмай — сукупнасцю якасцей, якія ўласцівы лідару. Жорстка дамагаўся выканання загадаў. Падначаленыя верылі ў свайго камандзіра, шукалі ў яго абароны і ва ўсім яму падпарадкоўваліся. Называлі яго не інакш, як «бацькам». «Бацька сказаў», «бацька загадаў», «бацька так лічыць». Уладны характар Несцера Фёдаравіча патрабаваў свайго. «Я жывым немцу ў рукі не дамся!» — часта паўтараў ён.

На той час ён меў ужо немалы вопыт партызанкі. Першы атрад, які сабраўся вакол Несцера Фёдаравіча, карнікі паспелі знішчыць. Здарыўся недагляд. Спыніўся «бацька» са сваімі людзьмі ў вёсцы Такары за Высокім на начоўку, але, на жаль, не выставілі варты і не ўберагліі сябе ад нечаканасці. Хтосьці паведаміў немцам, тыя акружылі хату. Толькі двое вырваліся: «бацька» ды яшчэ адзін партызан — ардынарац камандзіра Фядотка.

Але вось зноў набраўся атрад. Аб'яднанне адбылося на агульным сходзе, і цяпер атрад складаўся з дваццаці двух чалавек. «Перабор!» — жартаваў Несцер Фёдаравіч, не схільны надта ўзбуйняць сваю баявую адзінку. Несцер Фёдаравіч цікавіўся кожным, гутарыў.

— Трацкіст? — спытаў ён Косцю, калі той у агульных рысах расказаў пра сябе.

— Не.

— Каб не завёўся ў нас які-небудзь трацкіст! У мяне ў атрадзе, каб ты ведаў, будзе сталінская дысцыпліна. Адшчапенцаў я не пацярплю! З імі размова будзе кароткі.

Пытанняў ніхто не задаваў, хоць і цяжка было зразумець, якіх гэта «трацкістаў» і «адшчапенцаў» Несцер Фёдаравіч меў на ўвазе.

— «Прымакі» з намі шукаюць сувязі, — не раз дакладваў камандзіру Фядотка, які ведаў абстаноўку ў навакольных вёсках. Але ў Несцера Фёдаравіча, мяркуючы па ўсім, не ляжала сэрца да акружэнцаў.

— Ненадзейныя — гэтыя «прымакі»! — пагардліва махаў ён рукой. — Сярод іх усялякія ёсць! Афіцэры трапляюцца. Прыйдзе які і пачне табой камандаваць. Гэта — раз. А па-другое, там напэўна і правакатары ёсць, трацкістаў і адшчапенцаў да халеры!..

Фядотка не спрачаўся.

Дваццаць два чалавекі — не так і мала. Калектыў, які патрабаваў да сябе ўвагі і клопатаў. Трэба было перш за ўсё іх накарміць. Дапамагалі вяскоўцы. Летам ісці па харч у самую вёску не было патрэбы. Ля вёскі, на выгане, забівалі япрука ці авечку, і на тыдзень хапала. Соллю запасліся на маслазаводзе ў Мілейчыцах. Хлопцы падпалілі гаспадарчыя будынкі, паламалі, раскурочылі тэхніку, паразбівалі вялікія чаны для малака, а вяршкі вылілі на падлогу. Забралі з сабой бітоны з маслам. Праўда, масла хутка сапсавалася і яго давялося выкінуць. Бітоны аднак на ўсякі выпадак узялі з сабой. Пастаяннага лагера Несцер Фёдаравіч са сваімі людзьмі не меў і не будаваў. Спыняліся звычайна там, дзе менш надакучалі камары. Арыентаваліся ў асноўным на Воўчыя Брады — у заходняй частцы пушчы — і час ад часу наведвалі гэтае сваё як бы сталае лежбішча, базу. Побач бруілася крыніца, задавальняючы людзям патрэбу ў вадзе. Камароў, праўда, хапала і тут, але да «сваіх» яны былі як бы больш літасцівыя.

Даводзілася, шчыра кажучы, часцей хавацца, чым ваяваць, але надзею на больш актыўную дзейнасць не трацілі, раіліся, што рабіць. Найлепш было б схадзіць на чыгунку. Толькі з чым? Патроны ёсць, зброя таксама, але толу няма, няма з чаго зрабіць міну. А можа, рэйкі раскруціць? Патрэбны ключы, і работа вельмі марудная і працаёмкая. Гітлераўцы загадвалі сялянам вартаваць чыгунку. Пачнеш раскручваць — заспее варта. Словам, без толавай міны не было сэнсу выбірацца на такое заданне. Чакалі.

Аднойчы раніцай, калі людзі паснедалі, падмацаваўшыся свежымі праснакамі, спечанымі на кастры, і запіўшы іх гарачым кіпенем, «бацька» абвясціў, лыпнуўшы чырвонымі вачыма:

— Хлопцы, ёсць прапанова павіншаваць фрыцаў з Першым маем!

— Добрая прапанова! — ухваліў Фядотка, які, як заўсёды, знаходзіўся побач з камандзірам. На гэты раз ён раскрыў планшэт і штосьці ў ім разглядаў.

Несцер Фёдаравіч падкруціў свае пышныя вусы, спачатку адзін, потым другі і дадаў, акінуўшы вокам партызанскую грамаду:

— Пара, хлопчыкі мае, ісці ў рэйд!

Нехта перапытаў:

— У рэйд?

— Адпраўляемся да гэтага нямецкага ляснічага з Прускі. Хопіць сядзець! Пара праветрыцца, каб нам вінтоўкі не паржавелі!

Ніхто не пярэчыў. Наадварот, у кожнага былі свае рахункі да ворагаў і ажно рукі свярбелі, каб як мага хутчэй адпомсціць за ўсе нанесеныя крыўды.

Прапанову наведацца да прускаўскага ляснічага Кучэўскага падаў Косця, памятаючы, як зімою спаліў у Кучэўскага сцірту саломы, і той, нібы здагадваючыся пра гэта, пачаў яго праследаваць. Апроч таго, Косця добра ведаў, як ляснічы надакучаў прускаўцам і жыхарам суседніх вёсак, пастаянна чыніў розныя прыцясненні, а ўрэшце ўвогуле забараніў карыстацца лесам — ні дроў сабраць, ні карову папасвіць. Людзі скардзіліся нават партызанскім разведчыкам. Бережняк перадаваў іх словы: «Хоць як, кажуць, прыбярыце гэтага гада, то мы вам два літры самагонкі паставім».

Самагонку, вядома, ніхто ў разлік не браў, але дзейнічаць пачалі неадкладна. Рэйдам камандаваў Несцер Фёдаравіч. Пабралі зброю і без лішняга абдумвання, як сказаў камандзір, пайшлі краем пушчы, рассыпаўшыся па сцяжыне ланцужком, адзін за адным на адлегласці, каб усім разам не трапіць у варожую засаду. Ішлі моўчкі, абмінаючы лясныя паляны. Пад нагамі хрумсцеў пясок і сасноваяігліца. Косця ішоў разам з усімі, прадчуваючы блізкасць небяспекі: «Ці пашанцуе? А калі што, дык давядзецца ўцякаць і дзесьці хавацца. А дзе схаваешся? Хіба што ў лесе. Зноў трэба будзе шукаць кампанію…» Непадалёк, угнуўшыся, крочылі Бокша, Бонк і Задора.

Крыху паперадзе хваравіта накульгваў Бережняк. Ён таксама сумняваўся ў поспеху гэтага іхняга паходу, бо ён фактычна быў непадрыхтаваны (ні плана, ні разведкі), але начальству не пярэчыў.

Ззаду з аўтаматам за плячыма ішоў Несцер Фёдаравіч, на грудзях у яго целяпаўся палявы бінокль. Побач з камандзірам ардынарац Фядотка — увішны, абчапляны рамянямі і планшэтамі чалавечак у доўгім, не па росце яму, зялёным бушлаце. Да пояса з аднаго боку ціснулася кабура з наганам, з другога — граната. Ішлі больш як дзве гадзіны. Выбраўшы палянку, зрабілі, у цяньку, прывал. Бережняк, стаміўшыся, апусціўся на сухую траву, выцягнуў хворую нагу і ляжаў нерухома, маўчаў, пра нешта, відаць, думаў. Каля яго ўмасціўся Ваня-ёжык, прытрымліваючы рукой свой «шмайсер». Непадалёк на сухадрэвіне прысеў Косця. Побач, расшпіліўшы каўнер гімнасцёркі, сядзеў Калеснікаў. Трымаліся разам.

Для Косці гэтыя мясціны былі добра знаёмыя. Гадоў з дзесяць назад тут пад кіраўніцтвам КПЗБ і з яго ўдзелам, бо Косця з'яўляўся тады партыйным функцыянерам, штрайкавалі лесарубы. Гераічны быў час — час рызыкі і надзей, і адчайныя былі людзі! Успомніў, як і сам у зімовую сцюжу, босы, у адных падраных шкарпэтках (абуцца не было калі), уцякаў ад паліцыянтаў. Ушчэнт адмарозіў бы ногі, каб на могілкі не натрапіў. Пашанцавала. Зняў з крыжоў пару ручнікоў і абматаў імі ногі. Так і выратаваўся. «Зрэшты, сёння, — падумаў былы капэзэбавец, — хіба не такі ж час? Таксама цяжкі і таксама гераічны. Што ж, трэба змагацца…»

Адпачывалі з паўгадзіны і рушылі далей. Несцер Фёдаравіч зняў боты (відаць, яны яму ціснулі) і, сунуўшы ў халявы анучы, аддаў іх несці Фядотку, а сам пайшоў босы.

Зноў мінулі гадзіны дзве, а можа, і болей, як раптам пачулі не лясны гук: недзе зусім блізка праляскатаў вагончык вузкакалейкі. Несцер Фёдаравіч пачаў спешна намотваць на ногі анучы і абуваць боты. Спераду падалі сігнал спыніцца. Усе з дарогі кінуліся хавацца за дрэвы і заціхлі ў напружаным чаканні. Косця дастаў з кішэні наган, прытуліўся да старога, заімшэлага дуба, пачухаў сваю кудлатую (і рудую, як у бацькі Трахіма) бараду аб тоўстую, шурпатую кару, углядаючыся ўважлівым позіркам у шчыльны лясны гушчар.

Ад Несцера Фёдаравіча праз Фядотку па жывым ланцужку паляцела каманда: «На чыгунку!» І ўсе кінуліся ў напрамку вузкакалейкі. Здабыча ака-

залася невялікая: лясныя рабочыя, чатыры чалавекі, уручную пхалі звычайны таварны вагончык. Іх спынілі, пачалі дапытваць, аднак тыя мала што ведалі. Адно толькі, што неўзабаве па вузкакалейцы павінен вяртацца назад у Белавежу цягнік, у саставе якога знаходзіцца вагон з нямецкімі салдатамі.

— Шмат іх? — дапытваўся Несцер Фёдаравіч. Гаварыў ён сіплым, як бы ад прастуды ці яшчэ ад чаго, голасам і падазрона хмурыўся, аглядаючы незнаёмых.

— Колькі іх? — паўтарыў пытанне Фядотка.

— А хто яго ведае, — пацiскалі плячыма рабочыя. — Мы не лічылі, бачылі толькі, што ехалі ў вагоне. Хіба чалавек дзесяць, не болей.

— Дзесяць?

— Відаць.

Удача, здавалася, сама плыла ў рукі, і вочы Несцера Фёдаравіча ажно заблішчэлі ад прадчування жаданай здабычы. Дзесяць новенькіх аўтаматаў, а да таго ж яшчэ і запас патронаў — гэта ж лепш не прыдумаеш! Ой, як прыдадуцца яны яго хлопцам! Гітлераўцы, як вядома, не лезуць у пушчу без звышштатнага запасу зброі.

— Ну, як, хлопцы, прывітаем фашыстаў?! — нібы запытаў, нібы распарадзіўся, аддаючы загад, «бацька».

— Прывітаем! — пажвавеў Ваня-ёжык, даючы сваю згоду, і для парадку мацюкнуўся.

Тут жа селі ў засаду. Чакалі з гадзіну, а можа, і болей. Нарэшце пачулі грукат. Гэта каціўся па рэйках цягнік, і кожны падрыхтаваўся, каб сустрэць яго агнём.

— Пасажырскі вагон! — гукнуў нехта з партызан, хто залёг бліжэй да вузкакалейкі. — Самы першы!

— Па фашыстах — агонь! — напятым голасам гукнуў камандзір, высунуўшы з-за карча галаву і не чакаючы, калі вагон наблізіцца.

Застракаталі аўтаматы і вінтоўкі. Косця бабахнуў з нагана. Цягнік спыніўся. Партызаны яшчэ раз паўтарылі залп. Запахла порахам. Але з вагона ніхто не адстрэльваўся. Пачакалі хвіліну. Цішыня. Што такое? Толькі крыху пазней пачулі жаночы лямант. Хтосьці прасіў ратунку і літасці, нейкая жанчына галасіла, каб не стралялі. «Ой, людко-ове-е! Ой, божачкі-і!!! Ой, ратуйце-е!!!».

— Упярод! — натужна і рэзка скамандаваў Несцер Фёдаравіч, і партызаны кінуліся да вагона, адчынілі дзверы. У вагоне знаходзіліся жанчыны. Адны жанчыны. Здзівіўся і камандзір:

— Ай, што за халера такая! — Несцер Фёдаравіч са злосцю плюнуў сабе пад ногі. — Адны бабы! Памылка выйшла! Што за халера! Цьфу!

— Цьфу! — следам за камандзірам плюнуў і Фядотка.

— На халеру вы ў гэты вагон пазалазілі! — не то спачуваў, не то ўшчуваў незадачлівых пасажырак Несцер Фёдаравіч.

— А куды было лезці? — апраўдваліся жанчыны. — Хто ж ведаў?

— Ніхто, ты ж панімаеш, не ведаў! — здзіўлена матляў галавой Ваня-ёжык. — Прыгажуні! Ядры яго ў корань!

Няўдача раззлавала ваякаў. Спалілі ўсе дошкі, якія вёз цягнік, разбурылі, наколькі маглі, палатно і пайшлі далей, бо заставацца на гэтым месцы было небяспечна. Найдаўжэй як за гадзіну прыпруць сюды карнікі.

Перайшлі глыбокі лясны роў, на дне якога бруілася ручаіна. Нейкі час рухаліся паскораным маршам, пакуль Несцер Фёдаравіч не падаў каманду спыніцца. «Стой!» Спыніліся, убачыўшы наперадзе лесніччоўку. Косця выбраў сухое месца за тоўстай сасной і лёг на мяккую падсцілку з моху, зноў

дастаўшы з кішэні наган. Абапёрся на локцях і стаў чакаць развіцця падзей. Камандзір, як і трэба, выслаў наперад разведку дазнацца, хто ў той леснічоўцы і як зручней да яе падступіцца. «Каб так было, — праінструктаваў Несцер Фёдаравіч разведчыкаў, — вы ўсё бачыце, вас ніхто не бачыць». Разведчыкі — два чалавекі — пайшлі.

Пакуль чакалі вяртання разведкі, хтосьці стрэліў. Стрэл раздаўся над самым Косціным вухам, куля зачапіла шапку і зрабіла ў ёй невялічкую дзірку. Гэта было так нечакана, што не паддавалася ўразуменню. Хто? Стрэліў, як аказалася, Ваня-ёжык. Відаць, не выцерпеў, не хапіла вытрымкі. Дула яго аўтамата яшчэ дымілася блакітным воблачкам. Косця зняў шапку і прасунуў у дзірку палец. Прыбег узбуджаны і раззлаваны Несцер Фёдаравіч:

— Хто? Хто страляў?! — затрос ён пісталетам і наставіў яго на вінаватага. — Ты хацеў папярэдзіць немцаў! Застрэлю, як сабаку!

— Я н-не хацеў, я не хацеў, яно само атрымалася, — адпіраўся Ваня-ёжык.

— Ну ж я табе пакажу!..

— Яно с-само сабой атрымалася…

— Не апраўдвайся! Ты хацеў сарваць мне аперацыю!

Невядома, чым бы гэта ўсё скончылася, але ў гэты момант хтосьці з партызан крыкнуў:

— Немцы!

— А дзе яны? — адразу ж наструніўся Несцер Фёдаравіч.

Усе сталі туды-сюды мітусліва азірацца і нарэшце ўбачылі: уздоўж дарогі па трыбе ішоў нямецкі салдат у зялёным шынялі з аўтаматам напагатове. Знаходзіўся далекавата — метраў за дзвесце, не менш, таму Несцер Фёдаравіч прыставіў да вачэй бінокль і пачаў яго разглядаць. Хтосьці ўдакладніў:

— Адзін…

Немец ішоў асцярожна, часта азіраўся па баках, не выпускаючы з рук аўтамата.

— Будзем браць жывым! — вырашыў Несцер Фёдаравіч, адняўшы ад вачэй бінокль. — Хлябіч, упярод! — загадаў ён. — Вядзі яго сюды!

Косцю нічога не заставалася, як выконваць загад, і ён пабег, і праз колькі хвілін ужо амаль зраўняўся з немцам, не ведаючы, праўда, як ён будзе браць немца жывым, але тут здарылася непрадбачанае: затрашчала сухое галлё пад нагамі і немец адразу ж даў чаргу з аўтамата. Косця бачыў, як пасыпалася з дрэў зялёнае, яшчэ няспелае лісце. Можа, і ўлажыў бы ён Косцю, каб не партызаны, якія адразу ж пачалі страляць па немцу. Той з усіх ног скочыў у карчы, і толькі яго і бачылі. Ніхто за ім нават не пабег. Косця, праўда, зрабіў некалькі крокаў, але спыніўся, прысеў, стрэліў з нагана па карчах, азірнуўся і раптам убачыў нешта зялёнае, пярэстае, што ляжала на дарозе. Гэта немец ад перапалоху ці, магчыма, каб увесці ў зман, кінуў сваю плашчпалатку. Косця ажно ўзрадаваўся, згарнуў і сунуў пад паху: надта прыдатная рэч у беспрытульным партызанскім жыцці!

Вярнулася разведка і далажыла, што ў леснічоўцы нікога няма, а можа, хто быў ды схаваўся, і партызаны распачалі гамонку, як быць далей: ісці да ляснічага Кучэўскага ці пасля тых прыгод, якія мелі месца, вяртацца дадому. Нехта наткнуўся на веласіпед, што ляжаў каля леснічоўкі. Цалкам спраўны і яшчэ зусім новы. Каб мець такую рэч дома, ніхто б, відаць, не адмовіўся, а тут, у пушчы, што з ім рабіць? Раз'юшаны Несцер Фёдаравіч ухапіў веласіпед за раму і пару разоў з усяе сілы шмякнуў аб дрэва. Адпалі калёсы, і ўсе часткі паразляталіся.

— За мной! — загадаў ён пасля таго, як расправіўся з веласіпедам, і, адышоўшы колькі крокаў, коратка, па-камандзірску, дадаў: — Трымаць дыстанцыю! Не збівацца ў групы!

Рушылі ў бок Прускі.

Дарога падымалася на ўзгорак, скончыўся гушчар, і сярод старых дубоў ды елак жоўта-карычневым колерам шалёўкі бліснуў нейкі двухпавярховы будынак. Першым згледзеў яго нецярплівы Ваня-ёжык, які не ведаў Камянецкай пушчы, дык падумаў, што ўжо дайшлі да той Прускі, дзе звіў гняздо нямецкі ляснічы, за галаву якога абяцана два літры самагонкі. Але не, да Прускі было яшчэ далёка. Будынак выглядаў загадкава. Ад тэлеграфнага слупа, што стаяў паблізу да аднаго з вокнаў на другім паверсе правісалі разнакаляровыя правады.

— Гэта абавязкова трэба знішчыць! — сказаў Несцер Фёдаравіч.

Бяражняк прапанаваў узяць «языка», каб дазнацца, што можа сустрэць іх у гэтым будынку. Каб не напароцца на нейкую неспадзяванку. Аднак жа як ты яго возьмеш? Назіралі і чакалі, што хтосьці выйдзе з гэтага дома ці ўвойдзе, але дарэмна. Ніякіх прыкмет жыцця навокал. Так працягвалася даволі доўга. Нарэшце, на дарозе каля ляснога асабняка паказаліся нейкія па-мясцоваму апранутыя людзі ў світках. Іх было трое.

— Браць іх! — загадаў Несцер Фёдаравіч, і, калі яны адышліся ад асабняка, тут жа апынуліся ў партызанскіх руках.

— Хто вы? — строга запытаў камандзір.

— Мы тутэйшыя, рабочыя, са спаленых вёсак, жывём вось у гэтых гаёўках, — адказаў той, што па ўзросце быў старэйшы за астатніх, і паказаў на буданы, што стаялі непадалёк, у лесе.

— А там хто? — Несцер Фёдаравіч кіўнуў на будынак пад дубамі.

— Там немцы, — вінавата адказалі ўсе трое.

— Шмат?

— Хіба ўчатырох.

— І цяпер яны там?

— А толькі што было, з нейкімі бабамі забаўляліся. Спявалі, па-свойму раўлі песні, нават былі страляць пачалі. Не чулі?

— Відаць, каб партызан папалохаць, — дадаў яшчэ адзін з траіх — чарнавалосы дзяцюк і нервова сцепануў плячыма. Паглядзеўшы на зброю лясных людзей, ён адразу замоўк, як бы перапалохаўшыся, што зашмат сказаў, бо, сапраўды, хто яго ведае, што гэта за людзі, адкуль яны тут знайшліся і чаго хочуць. Можа, чаго добрага, самі немцы іх і пераапранулі ды і накіравалі ў пушчу? І тут ён спыніў пагляд на нямецкай плашчпалатцы, якую паспеў ужо на сябе нацягнуць Косця. Твар чорнавалосага дзецюка палахліва задрыжэў:

— Мы нічога не ведаем і нічога ніколі нікому не скажам, — заскавытаў дзяцюк. — Адпусціце нас, мы не ў чым не вінаватыя…

Сапраўды, гэтыя трое былі лішнія ў дадзенай сітуацыі.

— Ну, добра. Адпусціць гэтых людзей! — распарадзіўся Несцер Фёдаравіч. — А мы паспрабуем пастукацца ў гэты асабняк! Хлябіч і Ванька, упярод! Зазірніце, што ў ім там!

У Косці моцна застукала сэрца. Лёгка сказаць — зазірніце. Зазірні і атрымаеш кулю ў лоб ці яшчэ ў якое-небудзь месца. Страшнавата!.. Але загад трэба выконваць. Разам з Ванькам-ёжыкам даскочылі да дзвярэй, прыціснуліся да вушакоў і сталі чакаць. Ніхто, аднак, не страляў і не адзываўся. Косця ўхапіўся за клямку, паддаў плечуком, але дубовыя дзверы не зрушыў. «Відаць, яны там зачыніліся, іх дваіх прапусцілі, а калі рушыць атрад, тады секануць

з кулямётаў ды яшчэ гранатамі закідаюць! І застануцца ад атрада кроў ды шапкі…» Ён зноў, цяпер ужо з дапамогай Ванькі, разам тузанулі дзверы, і зноў безвынікова. «Была — не была!» — падумаў Косця і ўбачыў, як сябры бягуць на дапамогу, а з будынка па-ранейшаму не было аніводнага стрэлу. Тут трэба было дзейнічаць. Знайшлі на падворку цяжкую калоду, ударылі ёю ў дзверы і ўварваліся ў асабняк. На першым паверсе — нікога. Косця, па прыступках, доўга не думаючы, кінуўся наверх, для бадзёрасці стрэліў — раз, другі, — але ніхто не адстрэльваўся. Пхнуў нагой у першыя дзверы і, задыхаўшыся, ускочыў у пакой. Агледзеўся і ўбачыў нешта прыкрытае брызентам. Гэта быў станкавы кулямёт, побач некалькі скрынак патронаў. Кулямёт нацэлены ў акно, якраз у той бок, адкуль рухаліся партызаны.

У суседнім пакоі, куды заглянуў Косця, знаходзілася некалькі маладых жанчын. Яны, пэўна, былі на добрым падпітку, бо калі ён заглянуў да іх, жанчыны, хоць і былі напалоханыя, але зарагаталі нейкім штучным, знарочыстым смехам. На стале стаяла гарэлка і закуска. З акруглелымі ад страху вачыма жанчыны пачалі запрашаць Косцю да кампаніі.

— Не лякайся ты! — загаманіла адна з асабліва густа намаляванымі вуснамі, хоць сама, відаць было, лекацела ад страху. — Хадзі да нас! Прыгажун які! Не прагадаеш!

Косця зняважліва адвярнуўся, вымавіў:

— Лахудры! Глядзець брыдка!

На сцяне ўбачыў нямецкі аўтамат. Узрадаваўся, зняў і закінуў за плечы. Ён ужо зразумеў, што немцы пакінулі асабняк і кудысьці раптоўна зніклі.

Так яно і было. Пачуўшы недарэчны стрэл Ванькі-ёжыка, яны паслалі на веласіпедзе аднаго са сваіх «камратаў», каб разведаў, хто гэта стрэліў, а калі той не вярнуўся ды завязалася яшчэ большая страляніна, яны вырашылі, што лепш уцячы.

Тым часам партызаны пачалі нішчыць маёмасць акупантаў. Коней пастралялі, брычкі запхнулі ў вазоўню і падпалілі, павыцягалі ўсё, што было з падвалаў і паграбоў, павыкідалі з шафаў і камодаў.

— Бярыце, хлопцы, колькі каму трэба! — апантана крычаў Косця, шпурляючы з другога паверха цераз акно вопратку, бялізну, сарочкі з кальсонамі, шарсцяныя і шаўковыя тканіны ды іншыя рэчы. Потым збег уніз і жахнуўся: Несцер Фёдаравіч з Фядоткам хадзілі па калідоры і па пакоях з каністрамі і разлівалі па падлозе бензін, чуўся яго моцны пах.

— Што вы робіце?

— А зараз падпалім! — спакойна адказаў Несцер Фёдаравіч. — Хай і следу не застанецца!

— Пачакай! — перапыніў камандзіра Косця. — Там жа чатыры жанчыны наверсе! Згараць!

— А хрэн з імі, з гэтымі нямецкімі падсцілкамі! Паскудства! — вылаяўся Несцер Фёдаравіч, сэрца якога, мяркуючы па ўсім, паспела ўжо закарэць у лесе. — Знайшоў каго шкадаваць!.. Хай згараць! Курвы!

— Не, пачакай, я збегаю туды! Я мігам!

— Га-га-га! Што? І табе захацелася лізнуць таго мёду? Разумею! Га-га-га! — насмешліва зарагатаў «бацька», а разам з ім і Фядотка. — Давай! Бяжы, але хутчэй, бо зараз падпальваю! Я чакаць не буду! Хутчэй, маць тваю такую!

Косця, не даслухаўшы яго, кінуўся наверх. Знізу чутно было, як ён закрычаў:

— Уцякайце, бо зараз усё тут будзе ў агні! Ну, шалавы! Хутчэй! Хутчэй! Страляць буду!

Жанчыны зноў павыскалялі зубы і зарагаталі няшчырым, робленым смехам, быццам ім на ўсё было напляваць. Косця ўскінуў аўтамат, яму стала настолькі крыўдна і брыдка, што і сапраўды захацелася даць па іх чаргу — ажно рукі засвярбелі. Але ён усё ж такі знайшоў у сабе сілы адумацца і сілком выправадзіў «прыгажунь» на вуліцу.

— Прастытуткі! Лахудры! Нягодніцы! Дурніцы! — бэсціў гэтыя стварэнні «бацька», стоячы каля каністры з бензінам, калі жанчыны, спусціўшыся з лесвіцы, праходзілі каля яго. — Курвы!

— Хутчэй! — прыспешваў Фядотка.

Над пушчай узвіўся стоўб агню. Партызаны пазбіралі, што было ім патрэбнае, што маглі панесці, а ўсё астатняе пайшло з дымам. Некаторыя рэчы параскідалі па карчах, каб мясцовыя людзі маглі падабраць. А нарабавалі гітлераўцы шмат. Кожны партызан запасся бялізнай і абнавіў вопратку. Косцю трапіліся нагавіцы, якія зусім не прапускалі вады. Шчыльныя, як бляха. Гады два насіў ён іх потым, як і плашчпалатку, безупынку, і не рваліся.

— Фядотка, палічы людзей! — распарадзіўся Несцер Фёдаравіч.

Абышлося без страт, і, нягледзячы на тое, што не ўсё было добра, вылазка пакінула ў душы суцяшэнне: «І мы можам! Голай рукой нас не возьмеш!..» Даганяць, праследаваць партызан у лесе жандармерыя не рашылася.

На начоўку, у сваё стойбішча, вярталіся з добрым настроем. Забралі і той кулямёт, які стаяў на другім паверсе, выцягнуўшы рулю ў акно. Неслі яго двое, бо аднаму было не пад сілу. Цяпер трэба было схавацца і нейкі час пасядзець ціха, каб карнікі не пранюхалі, дзе яны падзеліся. Ну, і арсенал варта было якімсьці чынам папоўніць.

## V

Зіму Афінагенаў перабыў у Камянцы, працаваў прыхваткам на мясцовым тартаку — сек абрэзкі на дровы. Работа не складаная: сякера і калода. Стаў на калоду палена ці кавалак гарбыля і разбівай сякерай. На пачатку не надта ладзілася, нават намуляў быў руку, а з часам прыйшоў і спрыт. З усіх бакоў абкідаўся дрывамі. Працаваў быццам у яме, адкуль яго і не відаць было. Свежае дрэва прыемна пахла. Асабліва любіў гаркаваты водар асіны. Абрэзкі з асіны здаваліся мяккімі, пяшчотнымі на дотык, з аксамітнай карой. Тут жа пры тартаку ў старожцы і жыў, не паказваючыся нікому на вочы. Зарос, загадаваў для канспірацыі бараду і вусы. Сувязь з атрадам Пенкіна была страчана яшчэ з зімы, і Афінагенаў ніяк не мог яе аднавіць, не мог дазнацца, куды яны падзеліся, бо ў Ласіным Закутку іх не было.

Неяк ноччу з’явіўся Мурашка і распавёў пра бяду на хутары, на якім Пенкіна з хлопцамі акружылі карнікі, і мала каму пашанцавала. «Падобна, што ацалеў толькі я і, можа, яшчэ пара чалавек, — дакладваў Мурашка. — Хаваўся ў знаёмага, у глухой вёсцы». Некалькі дзён Афінагенаў перажываў, хадзіў як сам не свой. Папрасіў Мурашку па-сяброўску інфармаваць яго аб тым, што, можа, ён пачуе пра лёс атрада. «Але ж вайна ёсць вайна, — разважаў ён. — На вайне ўсё здараецца. Нічога не падзелаеш, нічога не падзелаеш, нічога не папішаш».

Не пакідала яшчэ Івана Мітрафоравіча і думка пра архіў. Ён дазнаўся, што ўсё ж такі да немцаў паперы не трапілі, а разабралі іх мясцовыя людзі, што шукалі сабе спажывы ў першыя дні вайны, у час безуладдзя. Гэта крыху як бы і суцяшала, але не вельмі: архіў знік, растварыўся. Трэба будзе шукаць канцы…

У сакавіку да яго прыйшоў чалавек ад Крыштафорыка, які выклікаў Афінагенава да сябе ў Ружанскі раён. Чалавек назваў пароль і паведаміў аб стварэнні міжраённага камітэта барацьбы з нямецкімі акупантамі. Сказаў пра тое, што не забыты і ён, Афінагенаў, што яму даручалася адказнае заданне па інспектаванні Камянецкай зоны, дзе ўраздроб дзейнічалі групы і атрады партызан-акружэнцаў. Крыштафорык патрабаваў да сябе на справаздачу і інструктаж. Пасыльны прапанаваў ісці разам. Магчыма, думаў, што адзін ён не з’явіцца, паспрабуе ўхіліцца. Пад вечар яны пайшлі.

Адлегласць невялікая — кіламетраў якіх пад дзевяноста, але шлях не просты, поўны небяспекі, бо навокал вораг, жандарскія гарнізоны, паліцыя. На мастах стаялі вартавыя пасты. Афінагенаў разлічыў так, каб к ночы трапіць у вёску Вялікі Бор, дзе жыў знаёмы з даваеннай пары. Счакаўшы ў яго і агледзеўшыся, можна было б рушыць далей. Па вёсках цяпер хадзіла начная варта, прызначаемая з сялян, — па два, тры і болей чалавек, у залежнасці ад таго, малая вёска ці вялікая. Абавязкам вартаўнікоў было, сустрэўшы падазронага, узняць трывогу і паведаміць у бліжэйшы гарнізон. Завіталі ўсё ж такі да знаёмага велікаборца, які жыў наводшыбе ад вёскі, суткі праседзелі ў яго, у клуні, абсушыліся, падмацаваліся і пайшлі далей.

Прабіраліся балоцістай мясцовасцю, пераскокваючы з купіны на купіну, паміж якіх праступала іржавая вада. Спачатку ўсё ішло як бы добра, але за Чарнакамі, перайшоўшы ўброд Лосьну Правую, натрапілі на паліцаяў. Амаль двое сутак, хаваючыся, давялося праляжаць у балоце, у халоднай талай вадзе, учапіўшыся за разгалісты лазовы куст. Потым ішлі цёмным, як ноч, лесам. У каторы раз Афінагенаў адчуў, як сціскаюць душу бязлітасныя абцугі страху. «А што, калі мяне заб’юць? Гэта ж не каго-небудзь, а мяне! Вось так — і стрэлу не пачуеш — увап’ецца ў грудзі куля, асядзеш на зямлю і навекі застанешся ў гэтым смярдзючым балоце. І ведаць ніхто не будзе!.. А як жа інакш? Яны паляўнічыя, а ты звер. А калі нават параняць, ды цяжка, што тады? Дзе падзецца? Хто будзе лячыць?» Ад хвалявання кінула ў пот, потым зноў працяў холад. Са злосці ён ціха мацюкнуўся. Пераседзелі аднак паліцаяў і выбавіліся нарэшце з таго балота, пасля чаго доўга тупалі на грудку, пераміналіся, вылівалі з ботаў ваду, ціха ўздыхаючы, грэлі анямелыя ногі. Зверху скрозь кроны дрэў міргалі рэдкія зоркі, ужо згасаў коўш Вялікай Мядзведзіцы. Ранішні, перадсвітальны вецер хадзіў у вершалінах дрэў.

Гэта быў ужо Шарашоўскі раён. Крыштафорык чакаў у вёсцы Байкі Ружанскага раёна. Быў выпадак, калі затрымаліся каля чыгункі, прысеўшы ў маладой густой хваіне. Цягнікі ішлі часта. Кожныя дваццаць мінут — цягнік: танкі, аўтамашыны, гарматы, цыстэрны з гаручым. Ішлі на ўсход. І столькі ж вярталася з усходу. Афінагенаў пакінуў лічыць, зняў боты, пераматаў парцянкі. Трэба было ісці. Яшчэ праз дзве ночы былі на месцы прызначэння.

Гасцей сустрэлі зычліва, памылі ў лазні, накармілі, далі адпачыць. Нягледзячы на моцную стомленасць, ён доўга не мог заснуць. За адну ноч перадумаў столькі, колькі раней не здолеў бы за тыдзень. У думках пачаў перабіраць мінулае, успомніў сям’ю. «Як склаўся іх лёс? Дзе яны цяпер — жонка, дачка? Ці жывыя? Паспелі эвакуіравацца ці не? А можа, не ўдалося? Ленінграду цяпер цяжка…» Потым пераскочыў на іншае, на час, калі працаваў у органах НКУС. «Залішне крута павялі мы сябе. Арышты, высылкі, тройкі. Аднак што ж, указанне было такое. З самага верху! Многае ламаць давялося…» Яшчэ праз колькі часу ў свядомасці ўзнікла супрацьлеглая плынь: «Аднак жа ведзь і па-другому нельга. Класавая барба. Ана ведзь штука такая: калі не мы вас, тагда вы нас…»

На раніцу Крыштафорык запрасіў на размову. Прымаў у нейкай майстэрні, бо побач стаяў варштат. Спытаў, сеўшы на лаву, пра навіны. Афінагенаў прысеў на столак і далажыў пра лёс атрада Пенкіна, з якім у яго была сувязь, пра тое, што ў жывых з атрада застаўся адзін Мурашка — былы камянецкі міліцыянер. Аднак, па слухах, людзі ў лесе ёсць. У асноўным — з акружэнцаў. Некаторыя прыстроіліся каля гаспадароў па вёсках.

— Вось яны нам і трэба, — зазначыў Крыштафорык і пачаў свой інструктаж. Расказаў пра ўтварэнне міжраённага антыфашысцкага камітэта па наладжванні барацьбы з нямецка-фашысцкімі акупантамі. Затым павіншаваў з асобым даверам: Афінагенаў прызначаўся адказным за Камянецкую зону, за работу па актыўным супраціве нямецкім акупантам, інакш кажучы, упаўнаважаным па арганізацыі цэнтралізаванага партызанскага руху.

Іван Мітрафоравіч расшпіліў каўнер. Кончыкі пальцаў апанавала здрадлівая дрыготка. Чакаў, што ў яго абавязкова спытаюць пра архіў ці нешта непрыемнае скажуць на гэты конт, але пра архіў гаворка не заходзіла. Заўважыў, як з-за варштата бясшумна выбеглі дзве мышкі, пасталі адна перад адной і пачалі як бы пра нешта перашэптвацца, ціха папіскваючы і круцячы востранькімі носікамі. Адчувалі, відаць, небяспеку, хоць ніхто іх, здаецца, не збіраўся чапаць. Потым зноў шмыгнулі кудысьці пад варштат.

— На тэрыторыях раёнаў трэба стварыць раённыя камітэты, — працягваў Крыштафорык, пазіраючы сабе пад ногі. — У вёсках — ячэйкі. Уключыць туды лепшых людзей, найбольш свядомых. Навучыць іх канспірацыі. Забяспечыць інфармацыяй. З гэтага магла быць карысць. Як думаеш?

— А вы як думаеце? — асмялеўшы, пытаннем на пытанне адказаў Афінагенаў.

— Я думаю, што гэта забяспечыла б сувязь з масамі. Мы людзі парцейныя, і наш абавязак — кіраваць масамі. Але рабіць гэта абачліва і асцярожна. Партыйна-палітычная работа патрабуе асаблівага падыходу.

— Трэба непасрэдная сувязь з атрадамі і групамі.

— Ну, гэта само сабой, — згаджаючыся, Крыштафорык узняў абедзве рукі. — Па гэтым пытанні мы цябе, уласна кажучы, і выклікалі. У нас ад цябе ніякіх сакрэтаў няма.

Яны закурылі, Крыштафорык пачаставаў мясцовым самасадам. Пры савецкай уладзе садзіць тытунь не забаранялася, і запасы гэтага зелля вадзіліся. Зрэшты, курыў гаспадар як бы толькі дзеля прыліку і не забываў весці гаворку:

— З гэтымі атрадамі, пра якія вы казалі, абавязкова неабходна мець сувязь, устанавіць наша ўліянне, калі хочаце — аўтарытэт, падпарадкаваць іх цэнтру. Члены ячэек, антыфашысцкія групы павінны збіраць зброю, боепрыпасы, перадаваць партазанам і ўзбройвацца самі.

— Ну, а, собственна гавара, самім нашто ўзбройвацца?

— Мала ці што!

— У першую чаргу трэба ўзбройваць партызан.

Крыштафорык пярэчыць не стаў.

— На франтах пакуль што зацішша, — ён перайшоў на іншую тэму і дадаў: — Па-геройску абараняецца Ленінград. Горад у блакадзе, але дух цвёрды. Калыбель рэвалюцыі! Растоў, Крым, Данбас, Мурманск таксама дзяржацца. Масква па-за небяспекай…

Ленінград — родны горад Афінагенава. Ён нарадзіўся там, якраз у тым 1917-м. Хто б калі падумаў, што вайна забрыдзе і туды.

— Красная Армія, — працягваў Крыштафорык, — цалкам вызваліла Маскоўскую і Тульскую вобласці і рад раёнаў другіх абласцей. Мы ўплатную падышлі да Вялікіх Лукаў, Ржэва і Гжацка.

Госць моўчкі слухаў.

— А ў нас тут, браце, каб ты ведаў, няўдача здарылася. Самалёт прыляцеў з Вялікай зямлі. Радасці было столькі! У самалёт занеслі раненых — 22 чалавекі, прыцягнулі тры мяшкі савецкіх грошай, золата некалькі кілаграмаў у манетах яшчэ царскай чаканкі і розных ювелірных вырабах. Насельніцтва спецыяльна збірала на будаўніцтва танкаў. Потым прынеслі дзве бочкі з салам і нешта яшчэ, не помню ўжо што. Карацей кажучы, перагрузілі машыну. Ад зямлі лётчык яе адарваў, але шасі за бярозу зачапілася і самалёт данізу пайшоў. Добра яшчэ, што ў балота пляснуўся, а то б і горш было, раненых вынеслі і ўсё астатняе. Лётчыкі знялі рацыю і кулямёт, у нас цяпер.

Афінагенаў выслухаў, паспачуваў.

— Саюзнікі абяцаюць адкрыць другі фронт, але пакуль што далей абяцанкаў не ідуць.

— На саюзнікаў у мяне надзеі няма, — варухнуў главою Афінагенаў.

— І ў мяне няма, — прызнаўся Крыштафорык. — Капіталісты! Яны з рабочым класам прывыклі ваяваць, а з ворагам, ды яшчэ ўзброеным да зубоў, — не.

Наступіла паўза.

— Вось, здаецца, і ўсе навіны, — падвёў вынікі гаспадар. — Праўда, наш радыёпрыёмнік ужо тыдзень як маўчыць — селі, на вялікі жаль, акумулятары. Трэба падзарадка. Вот такія дзяла.

Крыштафорык махнуў рукой, даючы зразумець, што тэма вычарпана. Адно толькі дадаў:

— Гітлер брэша пра вясенняе наступленне, але гэта, я думаю, блеф.

Пара было вяртацца на месца. Ён яшчэ з дзень пабыў і з тым жа праваднікам рушыў назад, у свой Камянец, думаючы пра тое, як знайсці Мурашку, наладзіць больш надзейную сувязь.

* * *

Пасля той атакі на вузкакалейку і асабняк Несцер Фёдаравіч са сваім атрадам зноў схаваўся ў пушчанскіх нетрах, недзе ажно за Каралёвым Мостам. Дазволілі сабе «расслабуху». Трэба было адпачыць, перавесці дух, падлатаць адзенне, пагаліцца. Галіліся па чарзе трафейнай брытвай. Латалі адзенне, бо адкуль яму быць цэламу, калі даводзілася бегаць па лесе. Пасля нервовага ўздыму на людзей напала санлівасць. Адсыпаліся хто-дзе, пад кустом, прытуліўшыся да якога камля ці проста ў траве на палянцы. Нарэшце ўсё ж такі ачунялі. Склалі буданы, выкапалі калодзеж. Ад'ядаліся рэквізаванымі харчамі. Варылі суп, сёрбаючы варыва кароткімі партызанскімі лыжкамі са знарок абломленымі тронкамі. Адпачывалі некалькі дзён, спалі, драмалі, ажно стаміліся ад адпачынку.

Па-вясенняму буяла прырода. Ноччу п'яніў пах кветак, востра пахнуў чабор і дзівілі сваёй песеннай ашалеласцю салаўі. Косці чамусьці не спадабалася гэтая жывёльная захопленасць жыццём: «Вайна, а ім хоць бы што. Спяваюць, заліваюцца. Але што ж, кожнаму сваё…» Ён міжвольна прыслухоўваўся да салаўінага хору, і яму раптам здалося, што яны не спяваюць, а плачуць. «Сапраўды, плачуць! Па кім?» Ён яшчэ доўга ўслухоўваўся, але так і не вырашыў, пяюць салаўі ці плачуць, бо пяянне і плач у жыцці нярэдка зліваюцца ў адно…

Людзі займаліся сваім, чысцілі зброю, вучыліся, як з ёю абыходзіцца. Прыносілі з бліжэйшых вёсак самагонку.

Да іх прыбіліся яшчэ двое: адзін шыракаскулы, з усходнім тыпам твару — па ўсім відаць акружэнец, другі, па ўзросце зусім малады, падобны быў на мясцовага. На галаве зашмальцаваная кепка ў клетку, насунутая на вушы, на нагах брызентавыя туфлі. Партызаны абступілі іх паўкругам, задалі некалькі пытанняў і прывялі да «бацькі» ў камандзірскі будан.

— Малодшы лейтэнант Кубартаеў! — прадставіўся акружэнец з усходнімі рысамі ў абліччы — шырокім тварам і раскосымі вачыма. Нізкарослы, але шыракаплечы. Вялікая стрыжаная галава яго сядзела проста на гэтых шырокіх плячах, быццам у чалавека не было шыі.

Несцер Фёдаравіч падаў руку, зірнуў на шыракаскулы, парослы шчаціннем твар Кубартаева, выпадковае адзенне, худы, запалы жывот, адразу ж папярэдзіў:

— Зброі я табе не дам, бо лішняй яе ў нас няма. Раздабудзеш…

Гаворку перарваў нечаканы вінтовачны стрэл. Усе занепакоіліся.

— Нічога страшнага! — падняў руку і суняў хваляванне падначаленых Несцер Фёдаравіч. — Адзін стрэл мала што значыць, вось каб два — тады аб’яўляй трывогу, а адзін — гэта так сабе, нічога страшнага. — Фядотка! — загадаў ён ардынарцу.— Скоч, паглядзі, што там.

Фядотка пайшоў і хутка вярнуўся:

— Грышка Пішчык вінтоўку чысціў і параніў сабе пальцы на левай руцэ, куля па скуры чыркнула.

— Ну, а я што сказаў! — Несцер Фёдаравіч абвёў вачыма прысутных. — Лухта! А ты, — звярнуўся ён да другога, што стаяў побач з Кубартаевым, — ідзі дадому. Ідзі!

Відаць, надта маладым і кволым паказаўся ён «бацьку». Яшчэ і барада не расла, твар пяшчотны, як у дзяўчыны.

— Я дужы! — горача запэўніў хлопец.

— Які ты там дужы?! Тут жа страляюць!

Але хлопец стаяў на сваім.

— Прычапіўся, — «бацька», ажно хітнуў галавой. — Ну, ладна, заставайся.

Камандзіру, пэўна, спадабалася яго гарачнасць, і ён даў згоду.

— Толькі шапку змяні, — пасміхнуўся ён, — а то за кіламетр відаць.

— Змяню.

— Выгляд мае значэнне!

Кожнаму новенькаму належала расказаць пра сябе — хто, адкуль, чым займаўся.

— Пагранічнік, — расказваў пра сябе Кубартаеў. Па-руску гаварыў даволі карава. — З Калмыкіі я. Быў палітруком у роце. Першы бой правёў на граніцы. Мяне выбухам снарада выкінула з траншэі, але ачуняў. Кантужаны я. Ад заставы ў жывых засталося некалькі чалавек, у тым ліку і я. Чакалі загаду на адыход, а яго не паступала. Тады самі сталі прабірацца на ўсход. Не пайшлі ў Белавежскую пушчу, вырашылі ісці ў Ружанскую. Па дарозе адны гінулі, другія адставалі. Мы пяшком, а немец на матацыклах, на танках!..

— А што ты хочаш? — гукнуў Несцер Фёдаравіч. — З усёй Еўропы сабраў тэхніку! Усе на яго, акаянца, працуюць. Каб яму калаццё ў бок уперлася!

— І вось аднойчы ў аблаву трапіў. Загрэблі мяне і разам з дзеравенскімі актывістамі ля ямы паставілі, а насупраць узвод эсэсаўцаў з аўтаматамі. Ну, думаю, канцы табе, Кубартаеў. Чую — «фойер!» — афіцэр скамандаваў. І тут, паверыце, я, не чакаючы стрэлаў, і рухнуў у тую яму, на самае дно. Пасеча-

ныя кулямі, паваліліся і астатнія. Хто адразу быў забіты, хто яшчэ курчыўся ў смяротных канвульсіях, — усе пападалі ўніз і ўжо чую, як сыплецца пясок. Закопваюць! Мяне агарнуў жах. Усё! Мёртвыя целы прыціснулі так, што не то што шавяльнуцца — дыхаць не было як! А зверху ўсё прасочваецца пясок ды дробныя каменьчыкі. Ад страху я страціў прытомнасць і ачуняў толькі ноччу, ад холаду. Холад скаваў, быццам я на паўночным полюсе аказаўся. Панымаеш, дарагой, а жыць ахота, ну так ахота жыць!..

Расказчык змоўк, агледзеў твары новых сяброў. Усе ўважліва слухалі, згаджаліся: каму не хочацца жыць? Жыць хочацца ўсім.

— Але ж і перажыў ты, чалавеча! — пахітаў галавою «бацька». — Адчаяны ты!

Перавёўшы дыханне, Кубартаеў працягваў:

— Вось так. А што далей? Адчуў, што дыхаю, што рукі-ногі цэлыя. Што рабіць? Пачаў напружвацца, каб як выбавіцца з гэтай магілы. Стаў упірацца плячамі, локцямі, плюхаўся ў нейкай макрэчы…

— Відаць, кроў! — з жахам удакладніў Ваня-ёжык.

— Кроў, — пацвердзіў Кубартаеў. — Я туды, я сюды, рассоўваю бедных мерцвякоў, асыпаецца зямля, чую, дыхаць становіцца лягчэй, значыць, паднімаюся да паверхні, вызваляюся! Чую, каля мяне нехта таксама дыша. Я працягнуў руку і намацаў гузік на грудзях у яго. Стаў тармашыць: давай, братка, разам выбірацца будзем! Але ён, відаць, ужо абяссілеў і не рэагаваў. Пэўна, задыхнуўся. Тады я сам палез. Ташніла. Здавалася, не хопіць сіл, але нарэшце ўгледзеў чорнае неба ды нейкую мігатлівую зорачку. Гэта прыдало сіл, і я выкарабкаўся. Вызваліў плечы і вылез сам. Падняўся і пабрыў, не ведаючы куды, у які бок. У лесе ўбачыў хату. На гэтым хутары мяне прытулілі, усю зіму ў хазяіна жыў. Хар-рошы чалавек!

— А мяне завуць Валерка Саўчук, — назваў сябе хлопец у кепцы, якому, відаць, не цярпелася напомніць пра сябе, — з Брэста я. Дачуўся, што ў сяле ёсць партызаны, пайшоў да вас. Вось па дарозе яго сустрэў, — паказаў ён на Кубартаева. — Хрыстафора.

— Ну, а як там Брэст? — спытаў Косця.

— Брэст цяпер за мяжой. Новы парадак. Па тратуарах толькі акупанты ходзяць, людзі — па бруку.

Аднойчы Мурашка, вярнуўшыся з Камянца, куды ён хадзіў па газеты, далажыў камандзіру:

— У Камянцы жыд да нас просіцца.

— Хто? — быццам не зразумеў ці здзівіўся Несцер Фёдаравіч.

— Яўрэй, кажу, просіцца.

Несцер Фёдаравіч зірнуў на Мурашку, мацюкнуўся і дадаў, акінуўшы суровым паглядам усіх:

— Калі хто з вас прывядзе сюды яўрэя, то я разам з ім і яго расстраляю!

Мурашка прымоўк, з камандзірам дыскутаваць не стаў.

Становішча атрада — кожны пра гэта ведаў — было надта ж няпэўнае і вельмі рызыкоўнае. За мінулую аперацыю амаль дарэшты быў выдаткаваны боезапас. Пра гэта варта было падумаць неадкладна. Несцер Фёдаравіч павёў наспелую гаворку:

— Таварышы! Давайце, хлопчыкі мае, думаць, адкуль нам дастаць боеприпасы? Трэба нешта рабіць, бо так і бакі адлежаць можна. Меру ва ўсім трэба ведаць. Гэта, па-першае. А па-другое, трэба шукаць стаянку ў большым лясным масіве — тут могуць высачыць і накрыць як міленькіх. А можа, і ў якой глухой вёсцы пажыць. Не забываючы, вядома, на аперацыі.

Усчалася бязладная гамана, кожны хацеў выказацца, падаць прапанову.

— Галасно ў вас, як у жыдоўскай школе, — незадаволена прабурчэў Несцер Фёдаравіч, лыпаючы сваімі заўсёды чырвонымі вачыма, — Фядотка, камандуй на пастраеніе!

Атрад пастроіўся каля буданоў на лясной палянцы. На поясе ў камандзіра целяпалася нямецкая граната на доўгай жоўтай ручцы. Учора хлопцы няблага выпілі, і цяпер з пахмелля трашчалі галовы. Ды і пытанне было няпростае, таму ўсе маўчалі.

З-за дрэў пачуўся зычны і незадаволены голас:

— Фядотка, так тваю маць! Колькі можна чакаць, чаму не змяняеш?!

Гэта быў голас вартавога, якому, пэўна, надакучыла стаяць на сваім пасту. Несцер Фёдаравіч азірнуўся:

— Што такое? У чым справа? Гэта ты, Мікіта? Чаго ты там верашчыш, як баран луплены! Яшчэ жандараў у Камянцы разбудзіш! Іван! — Несцер Фёдаравіч звярнуўся да аднаго з партызан. — Ідзі ты, падмяні яго на варце, бо не вытрымаю і заткну яму глотку наганам!..

Той, каго назвалі Іванам, пайшоў змяніць на варце свайго прыяцеля.

Косця выступіў крок уперад і з рукой пад казырком азваўся:

— Таварыш камандзір, дазвольце далажыць!

— Дакладвай!

— Патроны ёсць! Дзве тысячы штук!

— А дзе ж яны? — спытаў Несцер Фёдаравіч, падышоўшы бліжэй. Ляпнуў сябе далонню па лбе, забіў камара. Пачала ўжо лютаваць заедзь — розная машкара, у лесе яе асабліва шмат.

— Схаваныя ў маіх, так сказаць, родных мясцінах. І без мяне ніхто іх не знойдзе да канца свету!

— Да канца свету, кажаш? А не хлусіш? — камандзір недаверліва і нават падазрона паглядзеў Косцю ў вочы. — А можа, табе да сваёй бабы захацелася?

Сярод партызан раздаўся дружны рогат, грамада аддавала належнае «бацькавай» дасціпнасці. Косця таксама пасміхнуўся:

— Калі не верыце, давайце пойдзем разам.

«Бацька» моўчкі стаяў, церабіў патыліцу. Відаць, думаў. Стоячы, пахістваўся з пятак на наскі, уперад-назад, потым спыніўся, знерухомеў.

— Ну, ладна! — падабрэў ён нарэшце. — Бяры колькі трэба людзей і ступай! Ідзі! Даю табе тыдзень часу. Ясна?

— Так точна!

Косця падабраў групу з пяці чалавек: Мурашку ўзяў як мясцовага, Калеснікава з Зіпуновым (Беражняка не ўзяў, бо ў яго яшчэ балела параненая нага), Грышку Пішчыка. Упрасіўся Ваня-ёжык у надзеі разжыцца кулямётам, «як у Калеснікава». Сам быў шосты. Усе шасцёра паселі пад разгалістай сасною і пачалі абмяркоўваць шлях, які ім трэба было адолець некалькімі начнымі пераходамі, шлях на поўдзень, у той бок, дзе знаходзілася Пруска. Усе — пры зброі, за плечы прыладзілі рэчмяшкі.

— Дарогу адолеем за тры ночы, — выклаў свой план Косця. — Пяройдзем Пастуховыя Балоты, да раніцы пераправімся цераз рэчкі Белую і Крывулю на той бок, спынімся дзе-небудзь у гушчары, заднюем, а яшчэ праз ноч будзем на месцы.

— У мяне за Робанкай на хутары знаёмыя жывуць, радня, можна сказаць, — пахваліўся Грышка. — Спагадлівыя да нашага брата людзі, у іх можна будзе і заначаваць, і падсілкавацца.

Грышка — мясцовы, пушчанскі: чорныя валасы, бровы, чорныя, бы патухлыя вугельчыкі, вочы, цёмны, асмужаны твар.

— А вось гэта не трэба! — абсек яго Косця. — Хоць сярод нас і няма такога, каго варта было б асцерагацца, усе людзі свае, правераныя, аднак няма чаго малоць языком без патрэбы, асабліва аб сувязных і сімпатыках. Я добра ведаю, чым гэта канчаецца.

— А хто такія сімпатыкі? — спытаў Зіпуноў.

— Як — хто? Хто да нас прыхільны, той наш сімпатык! Ясна?

— Ясна.

— Апроч таго, я камандзір групы, — напомніў Косця, — і вам, таварыш Пішчык і таварыш Зіпуноў, слова не даваў. Лішніх пытанняў прашу не задаваць. Прашу гэта мець на ўвазе.

— Таварыш камандзір! — падняў руку Мурашка. — Дазвольце ўсё ж такі сказаць? Я гэтыя мясціны ведаю…

— Гавары!

— А можа, мы за дзве ночы праскочым да Прускі? Гэта ж не больш як пяцьдзясят кіламетраў! І час сэканомім! Раз, два — і там!

Грышка Пішчык не вытрымаў, хіхікнуў:

— Няйначай Мурашка бабу там мае, не церпіцца за цыцкі патрымаць…

— Знайшоў за што трымаць, — засмяяўся Ваня-ёжык. — Ты ж панімаеш, за цыцкі!

— Вайна — вайной, а каб бабу цяпер — дык і не пашкодзіла б, — пасля некаторай паўзы ўздыхнуў Мурашка.

— Маўчаць! — абурыўся Косця. — Не, таварыш Мурашка! Я таксама думаў аб гэтым. Не здолеем. Наперадзе і вялікія рэчкі, і прытокі. Дарогі нам заказаны. Брысці давядзецца палямі ды сенажацямі, балот шмат, лясныя гушчары! Праз вёскі не пойдзем, бо там варта, гарнізоны, масты таксама ахоўваюцца. Так што на першую ноч дзесяць—пятнаццаць кіламетраў. Болей не здолеем.

— Згодзен, — азваўся Мурашка. — Каб толькі ўсё добра было, каб удалося…

— А што ж тут складанага? Упершыню ці што? — пацiснуў плячыма як заўсёды аптымістычна настроены Ваня-ёжык.

— Значыць у дарогу! — як бы падвёў вынік Косця. — Мурашка — першы, за ім Калеснікаў, трэцім Ваня-ёжык, потым Зіпуноў і Грышка. Замыкаючым — я. Захоўваць дыстанцыю бяспекі, адлегласць — каб другі бачыў таго, за кім ідзе. Зразумела?

Усё было зразумела і без тлумачэнняў, але Косця вырашыў паўтарыць прывычны інструктаж, каб яго сябры яшчэ раз сабе ўцямілі, што ён цяпер камандзір групы, і толькі ён мае права выдаваць загады і правяраць іх выкананне.

Несцер Фёдаравіч сядзеў непадалёк ад калодзежа пад разгалістым дубам, курыў цыгарку, густа пускаючы дым, і сачыў за падрыхтоўкай групы да адпраўкі па зброю і боепрыпасы. Высока над лесам плыў арол, вышукваючы здабычу. Дакурыўшы адну цыгарку, Несцер Фёдаравіч узяўся за другую, прыкурыўшы яе ад трафейнай запальнічкі. Косця выцягнуўся перад ім на «смірна» і ўзяў пад казырок:

— Дазвольце ісці?

— Ідзіце! — коратка кінуў Несцер Фёдаравіч, а калі той крута павярнуўся, каб ісці да сваёй групы, яшчэ раз спыніў яго: — Толькі помніце, што я чакаю са зброяй, своечасова і менавіта ў гэтым месцы. Ясна?

— Так точна! Прыбудзем своечасова! Калі, вядома, усё будзе добра і не напорамся на засаду. Праз тыдзень — паўтара будзем тут.

— А раней не зможаш? — прымружыў вочы Несцер Фёдаравіч. — Твая зброя вось так нам патрэбна! — працягнуў ён далонню па горле. — Пазарэз! — Ён прагна і шумна зацягнуўся цыгаркай і, зрабіўшы вусны трубкай, выдыхнуў цэлае воблака шызага палу.

— Буду старацца як найхутчэй, марудзіць не стану. Але раней наўрад ці змагу, бо дарога, самі ведаеце, якая.

— Ведаю, хадзіў гэтымі сцежкамі не раз. Ну, давай, не баўся! Дзейнічайце па абстаноўцы! Чакаем!

— Група-а! На заданне шагам марш! — падаў каманду Косця і пастаяў, пакуль яго людзі не расцягнуліся ў лесе ў ланцужок у патрэбным парадку. Потым павярнуўся, казырнуў на развітанне тым, хто заставаўся, і рушыў сам. Акрыты ў плямістую нямецкую плашчпалатку і са «шмайсерам» на шыі. Напрамак група ўзяла на поўдзень, рухаліся ляснымі і палявымі дарогамі.

Сустракаліся нізінныя балоты з раскіданымі на іх невялікімі астраўкамі, — на такіх астраўках-выспачках адпачывалі. Праймала дрыжака. Ноч ішлі і надта прамоклі. З кустоў і дрэў — зачэпіш галінку — валілася раса. Прамок і Косця, хаця і апнуўся трафейнай плашч-палаткай, здабытай у тым пушчанскім рэйдзе. Нарэшце дабраліся да таго хутара каля Робанкі, дзе жылі Грышкавы знаёмыя. Падсілкаваліся і крыху адпачылі. Пад вечар рушылі далей.

Косця добра помніў, дзе захаваў боепрыпасы і зброю — шэсць тысяч вінтовачных патронаў, дзве цынкавыя скрынкі аўтаматных, некалькі пехацінскіх вінтовак, ручныя гранаты. Усё гэта мілітарнае багацце знаходзілася ў Бярэзіне, прыхаванае ў ямах.

## VI

Мандрашчакова абяцанне ўсё ж такі спраўдзілася: панскую зямлю пачалі дзяліць у канцы красавіка. Немцам, вядома, выгадна было, каб зямля не пуставала, каб было з чаго браць большы падатак. А селяніна зямля, трэба сказаць, заўсёды цешыла, бо лішняй ні ў кога не было. Многіх душыла малазямелле. А як там далей — пра гэта ніхто не задумваўся.

Назіраў за падзелам зямлі сам Мандрашчак — оберперакладчык Ратайчыцкай гміны, які на гэты раз заявіўся ў Пруску на брычцы, запрэжанай паркай коней. Кіраваў коньмі Аўстрыец, які быў за фурмана і сядзеў паперадзе. Спіс складаўся загадзя. У яго трапілі малазямельныя, тыя, у каго была вялікая сям'я і не хапала гектара на душу. Адмовілі ў надзеле Лаўру Яўсеевічу як чалавеку нетутэйшаму, прыблышу. Казалі, што солтыс Хрысан гэтак зрабіў з падказкі Цішкі Пахолка, з якім вёў сяброўства, але Лаўр Яўсеевіч і сам не надта настойваў, таму што, як дзяк, лічыў сябе асобай духоўнай. Па Пісанні духоўным хіба што рыбу лавіць дазвалялася, а мірскія турботы не іх клопат. Ды і за зямлю, калі падумаць, падатак давядзецца плаціць.

Значыўся ў спісе сярод іншых Васіль Платонаў. Сям'я ж не малая: сам, жонка, двое дзяцей, а ворнай зямлі два гектары, не больш. Вайна — вайной, а жыццё — жыццём. Прырода брала сваё, і Прося хадзіла ўжо трэцім дзіцем.

Падзел зямлі — заўсёды важная падзея. Дрэнна, праўда, што зямлёю, вось, надзялялі немцы. Крыху супакойвала хіба тое, што былыя гаспадары — паны Падгурскія ўжо, лічы, перавяліся, і зямля па сутнасці нічыя.

— Дзялю зямлю я! — самазадаволена гаварыў Хрысан, надуваючы шчокі і пазіраючы сабе пад ногі, дзе, на доле, ужо ляжалі свежазавостраныя калкі, каб адзначыць новыя межы. — Як хачу, так і зраблю. Мая цяпер улада! Адзін Бог на небе, а я — на зямлі!

Гэта, аднак, было не зусім так, таму што Хрысан меў сваіх давераных сяброў-раднікаў — Цішку Пахолка і Хвядзюшку Шпунта. Збіраліся быццам паводле колішняй рэўкамаўскай звычцы, келейна, як казаў Цішка, і давалі солтысу парады. Доўга абмяркоўвалі, ці наразаць Платонаву. Вырашылі паўгектара даць, бо раптам скардзіцца пачне.

На панскае поле прыйшлі тыя, хто значыўся ў спісе, і проста цікаўныя. Хто апрануты, хто ў адной кашулі і босы, у шапцы і без шапкі. Прычыкільгаў, абапіраючыся на кавеньку, Фэдар-японец.

— Зямля тут дабрэнная, — гаварыў ён, тыкаючы кавенькай сабе пад ногі, — панская!

На суседнім полі, за гасцінцам на Ратайчыцы, зырка зелянела, збіраючыся пайсці ў рост, азіміна.

На другім канцы, унізе, віднеліся выган і сенажаць, па якой ужо хадзілі буслы, што паспелі прыляцець з поўдня. Хадзілі, асцярожна ступаючы сваімі нязграбнымі нагамі, часам прыпыняліся, станавіліся на адну нагу, высочвалі спажыву. Буслы гэтай вясной здаваліся нейкімі змарнелымі і худымі, але здабычу хапалі лоўка — доўгімі чырвонымі дзюбамі. Скублі рэдкую травіцу каровы. Гуртам каля іх сядзелі пастушкі, але кастра, як звычайна, каб абагрэцца, не палілі. Быў на гэты конт строгі загад Люльке. Камісар не дазваляў пастушкам, пад страхам расстрэлу, паліць кастры, бо лічыў, што гэта можа быць знакам для савецкіх самалётаў, каб скінуць дэсант.

Солтыс Хрысан з важнай мінаю на твары дастаў з кішэні спіс — каму належала атрымаць зямлю — і пачаў выкрыкваць прозвішчы, правяраючы яўку. Сярод іншых Васіль пачуў і сваё.

— Ёсць, хто дапаможа? — Хрысан, скалячы зубы, звярнуўся да натоўпу.

Мікіта Галёнка ўжо стаяў, трымаючы ў руках збіты з тонкіх жэрдак сажань-трохкутнік.

— Каму першаму?

— Жэрабя будзем цягнуць! — азваліся ў натоўпе.

Пачалася работа, дзяльба. Мікіта лоўка махаў сажнем. Дапамагалі яму Цішка Пахолак з Хвядзюшкам Шпунтам. На межах абухом убівалі калкі, і кожны стараўся запомніць, дзе яго «дзялка». Тыя, хто атрымаў, распісваліся ў спецыяльнай кнізе, якую насіў Гамон.

Мандрашчак назіраў за ўсім здалёк, не злазячы з брычкі, не паказваючы нават і выгляду, што ён з кімсьці з прускаўцаў знаёмы. Але да Васіля — свайго былога вучня — пад'ехаў. Павіталіся. Не забыў, напэўна, і таго, як дапамог вызваліцца з гестапа.

— Ну што, як жывеш?

— Патроху, як і ўсе, — адказаў Васіль.

Круглы, пабіты аспінамі, твар Мандрашчака знерухомеў, стаў падкрэслена сур'ёзным і сухім.

— Не хацеў быць палякам, дык цяпер будзеш немцам.

— Чаму? Вы ж, пане Адольф, немцам не сталі…

— Палавіна беларусінаў будзе анямечаная. Ад гэтага нікуды не дзенешся. Такая палітыка.

Васіль стаў слухаць, што гаварыў яго былы настаўнік. А той працягваў:

— Катынь немцы раскапалі, шмат польскіх афіцэраў знайшлі, расстраляных бальшавікамі, пся крэў!

— Дзе?

— Пад Смаленскам. Газеты пра гэта пішуць…

Тое, што казаў Мандрашчак, былы настаўнік, не ўмяшчалася ў свядомасць і не паддавалася разуменню. Васіль уздыхнуў і нічога не адказаў. Мандрашчак тузануў фурмана ў спіну, і брычка ад’ехала.

Васілю дасталіся амаль паўтара гектара ў адным кавалку. Палоска вузкая, але доўгая, ад сенажаці да гасцінца на Ратайчыцы.

Глеба падсохла і ўжо чакала плуга. Яшчэ дзень-другі, і ўжо можна было сеяць ярыну.

За маёнткам, у якім цяпер гаспадарыў Лявар са сваім прыдуркаватым сынам Стахам, пакінулі сад і агарод, а таксама палявой зямлі пяцьдзясят гектараў, якія павінны былі абрабляць прускаўцы.

Калі дзялёж панскай зямлі быў скончаны і оберперакладчык Мандрашчак з’ехаў у адваротным кірунку, солтыс Хрысан Гальяш сказаў:

— Ну, вось, каб ведалі! Саветы хваліліся, а зямлі не далі. Германія дала. Абрабляйце і спраўна плаціце кантыгент! А чаго больш трэба! Калі хто жадае, дык можна ехаць у Германію. Там заробкі вялікія. Германія — вельмі багатая і прыгожая краіна, суцэльны зялёны парк. Хто там быў, хваляць. Рэйху якраз патрэбная рабочая сіла.

— Дзіва што! — адгукнуўся Гамон, але на яго ўжо мала хто звяртаў увагу.

Хрысан акінуў вачыма сходку і дадаў:

— Можа, пад Германіяй і мы лепей будзем пачувацца…

Людзі маўчалі, і толькі Гамон самаўпэўнена сказаў:

— Мяне чапаць не будуць, бо я нічога благога не рабіў і тыя нагавіцы я ўжо не нашу.

Прускаўцы зарагаталі.

Аднойчы разам з газетамі і чарговымі загадамі Хрысан прынёс кніжку пад назвай «У кіпцюрах ГПУ» нейкага Аляхновіча, пра якога прускаўцы дагэтуль нічога не чулі. З гэтай кніжкі, якую ўслых чыталі ў Мікіты Галёнкі ў хаце, выходзіла, што аўтар яе, пісьменнік Аляхновіч, сам сядзеў у Салаўках, надта там нацярпеўся і ўсё апісаў. Прускаўцы жахаліся ад гэтага апісання, ад жорсткасці вохраўскай варты, якая — крок улева, крок управа — страляла без папярэджання. Невыносная праца на лесапавале, зморанасць, голад, адчай ад безвыходнасці. Некаторыя вязні не вытрымлівалі. Спадзеючыся нейкай палёгкі, падстаўлялі пад сякеру рукі, адцінали пальцы. Але ў лесе ніхто табе не спагадае, дапамогі — аніякай. Трэба вяртацца ў барак. У барак без пропуску не пускаюць, а паперы ў лесе няма. Пісалі пропуск на свежай драўлянай калодцы, хімічным алоўкам. Вось вяртаецца такі самаруб у лагер — дзесяць кіламетраў трэба ісці. Змерзне ды ў дадатак яшчэ і «пропуск» той згубіць. У барак не пускаюць, бо, маўляў, невядома, хто ты. Ідзі назад, адкуль прыйшоў.

Сярод прускаўцаў такому мала хто верыў. «Няўжо такое і сапраўды можа быць?» — хітаў галавою Ламака.

А яшчэ праз нейкі час у Пруску прыехала нямецкая санітарная машына-фургон з намаляванымі чырвонымі крыжамі па баках. Машына спынілася за вёскай, на выгане, паміж Прускай і Выгнанкай, і вакол яе сабраўся навакольны люд — прускаўцы, палякі-каланісты, сяляне з Выгнанкі і Зінькоў. Двое немцаў у белых халатах рабілі прывіўкі ад нейкай хваробы. Казалі — ад слупняку і

тыфу. Людзі распраналіся, задзіралі сарочкі, падстаўлялі спіну, атрымлівалі ўкол пад лапатку і адыходзілі ўбок, апраналіся.

Саньку-акружэнцу таксама зрабілі прывіўку, але ён не надта быў давольны і тлумачыў:

— Думаеце, яны нас аберагаюць? Гэта яны, у сушнасці армію сваю аберагаюць! Уявіце сабе, што ў тыле нямецкіх войск узнікне эпідэмія! Спачатку ў тыле, а потым і на ўсіх фрыцаў перакінецца, на армію! На ўсе франты!

— Усё можа быць, — пацвердзіў Мілецій.

— З гэтым жартаваць нельга! — падаў голас Восіп Дзванарык, які таксама атрымаў укол. Жыў ён цяпер незаўважна, трымаўся адасоблена і ціпла. Сядзеў у хаце на тапчане і ціха граў на скрыпцы. Па гаспадарцы Восіп быў і застаўся поўным няўмекам. Калісьці, яшчэ юнаком, ён па няўважлівасці заараў гоні азімага жыта, за што яго вельмі дакараў бацька. З той пары Восіп страціў усялякую цікавасць да зямлі і да гаспадаркі. Зямлю здаваў у арэнду; калі трэба было што зрабіць, наймаў. Па сутнасці, не быў гатовы ні да якай рэальнай справы. Калі неспакойная сястра Амелія гукала яму ў акно: «Восіп! У цябе яблыкі крадуць!» — Восіп аніяк не рэагаваў, працягваў размаўляць са сваёй скрыпкай. Музыку слухала жонка — цёмнабровая Софа.

Што датычыць Санькі-акружэнца, то жыў ён па-ранейшаму ў Кужалёў. Гаспадары, Лявон і Фёкла, не надта яго апякалі і не крыўдзілі. Аднойчы ён падабраў нейкую паперку. Вяртаўся са Свішчова ад свайго сябрука Пятра Мачалава і падняў на дарозе. Прачытаў і прынёс дадому, паказаў гаспадарам. Гэта была лістоўка, і, як аказалася, на дзвюх мовах. Санька пачаў чытаць гаспадарам. Спачатку тэкст ішоў па-беларуску, які акружэнец чытаў па складах:

*«Таварышы беларусы, не верце нямецкім сабакам і іх прыслугачам, яны брэшуць! Яны абманваюць прыгнечаны народ, забіваюць тысячы нявінных людзей, моладзь, старыкоў, жанчын і дзяцей. Вы бачыце самі на фактах, што яны адступаюць і знішчаюць усё, паляць хлеб, будынкі, каб не пакінуць Чырвонай Арміі. Чырвоная Армія ідзе ўпярод. За апошнія два тыдні Чырвоныя войскі прасунуліся наперад на 130 км, забралі шмат ваеннай маёмасці і вызвалілі звыш трох тысяч беларусаў. Знішчылі 232 танкі і збілі 174 самалёты. Нашы войскі забралі горад Варонеж і Вязьму і падыходзяць да Магілёва і Смаленска. У канцы 1943 года нашы войскі будуць ваяваць на нямецкай тэрыторыі. Хто ў паліцыі, ім усё роўна не будзе месца на нашай рускай зямлі. Уничтожат всех как изменников родины, так что не идите в полицию, они вас сами побъют. Идите в леса, в партызаны и уничтожайте немцев.*

*Партизанский штаб № 102.*

*май 42».*

Апошнія радкі, напісаныя па-руску, сібірак чытаў з асаблівым уздымам. Лявон з Фёклай дзівіліся, хіталі галовамі, хоць поўнай веры не давалі, бо ў лістоўцы адчуваліся прапагандысцкія намеры аўтараў. У вялікіх, ужо не цёмна-блакітных, а крыху выцвілых вачах Фёклы адлюстраваліся і надзея, і трывога.

Вясной 1942 года немцы аб’явілі аб тым, што ўсе савецкія ваеннапалонныя павінны прайсці рэгістрацыю. Хрысан прынёс загад: палонным кожнага панядзелка адзначацца ў Ратайчыцах, у паліцыі.

— Лявонцій Міхайлавіч, што рабіць? — звярнуўся да гаспадара Санька. — Рэгістравацца ці не?

Лявон таксама думаў над гэтым пытаннем.

— Давядзецца, мусіць, рэгістравацца. Без рэгістрацыі каб благога чаго не выйшла. А як твае сябрукі па іншых вёсках?

Былі палонныя і па іншых вёсках: у дзядзькі Хведара ў Свішчове, у Бранавічах у Габрыля Шчура, у саміх Ратайчыцах і там-сям яшчэ.

— Будуць, відаць, рэгістравацца. З немцамі шуткі плохі. Значыць, трэба і мне.

— Зарэгіструем цябе як наёмнага работніка.

— Што ж, сагласен.

Каб зарэгістравацца, трэба было наведаць гміну, паліцэйскі пастарунак, дзе праходзілі рэгістрацыю такія, як Санька, акружэнцы. Немцы адносіліся да іх ужо не так, як калісьці амтскамісар Люльке да Гамона за яго вайсковае галіфэ, а быццам нават паблажліва, ставячы толькі ўмову ў абавязковай рэгістрацыі ў паліцыі.

У адзін з дзён, паснедаўшы, Лявон запрог каня, і яны паехалі. Дарогай маўчалі. Ля гміны іх сустрэў паліцай і паказаў, куды ісці. Рэгістраваў Фелікс Пыр па мянушцы Бутля — жыхар Ратайчыцаў, які адным з першых пайшоў служыць у паліцыю. Цяпер ён быў ужо обер-паліцаем. Таму Аўтуху, які служыў калісьці, яшчэ з царскіх часоў, цівуном у пана Падгурскага, ён даводзіўся ўнукам. Гэтаксама, як і дзед, закапыльваў верхнюю губу і гаварыў, чвякаючы, нібы смакаваў паветра. Змоладу хацеў служыць у паліцыі, але пры Польшчы беларусаў у паліцыянты не бралі і пры Саветах міліцыянерам не стаў. Пашанцавала толькі ў апошні час, пры немцах.

Пыр сядзеў за сталом, апрануты ў чорную казённую куртку з шэрым каўняром і такога ж колеру абшлагамі. Два рады металічных гузікаў і раменны пояс. На левым рукаве бялела павязка — адзнака таго, што чалавек знаходзіцца на службе ў паліцыі. Твар поўны і ажно сіняваты ад прытоку крыві і сталай дружбы з самагонкай. У ваўкаватым паглядзе адчувалася каварства і жорсткасць. Літасці ад такога не чакай — за спінай стаяў прыткнуты да сцяны карабін.

— Даўно ты ў гаспадара?

— Так точна, з восені.

Лявон пацвердзіў.

— А дзе да гэтага быў? — грозна зіркнуў на акружэнца.

— Скітаўся, у сушнасці, па лясах, — адказаў Санька.

— А сам адкуль?

— З Новасібірскай вобласці.

— Дык вось, у лагерах для ваеннапалонных ужо месца няма, там вашага брата, як селядцоў у бочцы. Будзеш жыць у гаспадара, гэта шчасце для цябе, бо не за калючым дротам!

Санька маўчаў, у галаве снаваліся думкі: «Вось у чым справа: у лагерах ужо месца няма. Але ж з цягам часу яно з’явіцца. З’явіцца для мяне… Саступіць нехта, там хутка саступаюць…»

— Каб кожнага тыдня праходзіў мельдавацца! — строга папярэдзіў Пыр, рыпнуўшы хромавымі ботамі. — Кожны панядзелак! Немцы любяць парадак. Зразумеў?

— Што значыць мельдавацца? — запытаў акружэнец.

— Адзначацца ў спецыяльнай кнізе! — напудзіўся на яго паліцай. — Каб не ўцёк! Рэгістрацыя! Каб рэгістраваўся! Гэтак паложана ўсім асобам немясцовага паходжання.

«Рэгістрацыя — гэта яшчэ адзін палон», — падумаў Санька, але разгубленасці не паказаў. Як вайсковец, узяў пад казырок. Знешне ў яго паводзінах, як ні дзіўна, не адчувалася аніякага хвалявання.

— Слушаюсь! — адказаў ён, як таго патрабаваў статут.

— Не забывай, што ты прыпіснік, прыпісаны да гаспадара Кужаля Лявона, да яго гаспадаркі. Каб слухаўся, бо ён за цябе адказвае.

Развітаўшыся з Пырам, Лявон і Санька выйшлі на свежае паветра.

— Ну то яшчэ можна жыць, — сказаў Лявон.

— Так точна, можна, — згадзіўся павесялелы прыпіснік, — цяпер, папаша, за мяне гэты Пыр у атвеце.

* * *

А з Манькай Санька бачыўся часта. Гэта была, па ўсім відаць, не проста гульня ў заляцанкі, а нешта больш сур'ёзнае. З кожнай сустрэчай ён адкрываў у ёй нешта новае, цікавае. І ёй хвіліны, праведзеныя з ім, помніліся. Сам Санька лавіў сябе на адчуванні, што свет навокал стаў іншы, перайначыўся, зрабіўся нават весялейшым, нягледзячы на тое, што трэба было хадзіць «мельдавацца» ў Ратайчыцы.

— Зачараваў ты яе, відаць? — жартам пыталася ў Санькі Хомчыха, зайшоўшы да Кужалёў па нейкай гаспадарчай патрэбе. Да суседзяў яна заходзіла часта.

— Не памогуць і чары, як хто каму не да пары! — бараніла сібірака Фёкла.

— Мажа, праўду, суседка, кажаш, — згаджалася Хомчыха. — Мой Апанас з Дзякрэтай неяк зжыліся і жывуць. Мажа, і кахаюць адно аднаго, — хто яго ведае?

Каханне — дзіва, цуд. Звычайна яго заўважаюць, бо яно хвалюе навакольны свет сваімі пачуццямі і прыгажосцю, бо што можа быць прыгажэй за каханне, якое прыйшло ў юнацтве, у маладыя гады!

На музыках яна сядзела побач з ім. Ён час ад часу пазіраў на яе, на ямачкі на шчоках, хвалістыя валасы, заплеценыя ў тоўстую касу, яркія вусны, буйныя рознакаляровыя пацёры на шыі і грудзях. Думаў: «Як такую можна не кахаць?» Ветрыцца хадзіў толькі з ёй.

Пасля музыкаў праводзіў дадому. «Пайшлі, — казаў, — пад бярозай пастаім». Стаялі да другіх пеўняў. То гаманілі, то маўчалі. У зорным святле відаць было, як Маньчыну сукенку злёгку тапырылі востранькія дзявочыя грудзі. У стасунках з ёю ён стаў больш фамільярным, асмялеў.

— Эх, Маняша-Маняша! — уздыхаў ён.

— Што?

— Прыгожая ты. Такіх, як ты, я не сустракаў і, відаць, не сустрэну.

— Беларускія дзяўчаты — самыя прыгожыя. Гэта даўно вядома, — з пераканаnасцю адказвала яна, а часам проста пасміхалася. Адчувалася, што ёй прыемна і цікава слухаць яго кампліменты.

Развітаўшыся, ішоў у клуню спаць на свежай саломе. Жартам запрашаў і Маньку, але тая ўпарцілася, адмаўлялася, нават жахалася ад такой прапановы.

— Што людзі скажуць? — дзяўчына ажно дрыжэла ад супярэчлівых пачуццяў, жаданняў і страху. — Ты што, здурнеў?

— А ніхто і ведаць не будзе.

— У вёсцы? Назаўтра ж гамана пойдзе. І ўвогуле надта проста ты глядзіш на рэчы.

— Чаму?

— А таму! Я не перастарка якая-небудзь, якая дае ўсім. Бачыш, чаго захацеў!

— А што?

— Усяму свой час.

Ёй ужо даўно хацелася, каб ён прыгарнуў і пацiскаў яе, але яшчэ не магла дазволіць і не давалася.

Ён страшэнна раўнаваў, калі яе хтосьці з хлопцаў запрашаў на танец і яна згаджалася. Аднойчы пасля музыкаў яна пайшла не з ім, а з Валодзькам Хлябічам. Санька моцна перажываў, ледзь не стагнаў ад роспачы, ніяк не мог заснуць. «Але што зробіш! — думаў ён, пазіраючы на струменьчыкі месяцовага святла, што цадзіліся ў самым вільчыку. — Я тут не свой, я тут чужы…»

Назаўтра сустрэліся нібы выпадкова, пасля працоўнага дня, пад той самай Фэдаравай бярозай. Нейкі час маўчалі, стоячы паводдаль адно ад аднаго.

— Ну як справы? — спытаў ён, крыва пасміхаючыся.

— З бацькам лён сеялі. Я дапамагала, загоны лешыла.

— Што значыць — лешыла?

— Загон пазначала, каб насенне два разы ў адно месца не кінуць.

— Аказваецца, ты ўсё ўмееш. Хвацкая і да работы, і да гульні! Як сібірачка.

— Гэта вашы сібірачкі такія?

— Такія.

Яна падсунулася да яго бліжэй.

— А ў цябе як справы?

— Добра, — ён зноў усміхнуўся. — А што? Я сыты, на мне чыстая сарочка. Кожнага панядзелка хаджу да Пыра ў Ратайчыцы мельдавацца. Адзначуся, і Пыр павадок адпускае… Я тут на птушыных правах, а на птушыных правах далёка не ўзляціш.

Яна паглядзела на яго і сказала:

— Нешта сёння ты мне не падабаешся? Кіслы ты нейкі. Звычайна вясёлы, а сёння не надта.

Ведала: пакрыўдзіўся сібірак за ўчарашняе, за тое, што пайшла з Валодзькам Хлябічам.

— Я ж не вінаватая, што ён запрасіў на танец, а потым пацягнуўся за мной.

— Крута ён танцуе.

— Толькі што танцуе, бо на што іншае дык і не здатны.

— Як сказаць…

— Дык што, — пацiснула яна сваімі пакатымі плячыма, — ужо і прайсціся ні з кім нельга, і загаварыць?

Ён нічога не адказаў, але потым, апусціўшы галаву, прамовіў:

— Часта так бывае. Нездарма кажуць: хто цябе любіць, дык табе не падабаецца, а хто табе падабаецца, дык на каго іншага паглядае.

— Можа, і так.

«Бестурботная гарэза, — падумаў ён, — але на язык вострая!»

Вецер падзьмуў на бярозу, і яна ўстрапянулася, узмахнула ўсімі сваімі ніцымі галінамі, захвалявалася. Крыкнула ў карчах нейкая птушка. Потым зноў стала ціха. У высокім небе завіс шчарбаты сярпок месяца.

Ёй раптам шкада стала Саньку, надта адзінокім і беспрытульным ён ёй здаўся. Яна апусціла вочы.

— Прабач мяне, прабач. Я вінаватая, я дрэнная. Сама не ведаю, як гэта здарылася. Але паміж намі нічога не было. Нават не пастаялі, і размовы не было. Я адразу дахаты пайшла. Ты верыш мне? — яна ўзняла на яго позірк.

Маньчыны светлыя вочы часта мянялі колер: калі дзяўчына апранала зялёную сукенку, яны мякка зіхцелі ізумруднымі іскрынкамі; бурштынавыя завушніцы залацілі іх, а адвячоркам яны цямнелі, станавіліся больш глыбокімі. Цяпер яны здаліся яму шэрымі.

— Ты мая сераглазка курносенькая, — сказаў ён, углядаючыся ў яе шэрыя вочы і адчуўшы да яе яшчэ большую пяшчоту.

Гэта быў момант прымірэння. Яна ўсміхнулася, зірнула на яго яшчэ рэдкія і мяккія рудыя вусы.

— А ты нейкі рыжы, а вочы ў цябе таксама шэрыя, як у мяне.

Ён узяў яе за руку.

— Адносіны паміж мужчынам і жанчынаю павінны быць такія, як паміж сонцам і зямлёй. Адно пры другім.

Яго словы яе ўразілі:

— Дык, а хто сонца і хто зямля?

— Я і сам над гэтым думаў. А ты кім бы хацела быць?

— Сонейкам.

— Сонца абавязана грэць, аддаваць цяпло.

— Што ж, я з гэтым згодная. Ой, ты так на мяне пазіраеш, што ажно дух займае. Не трэба так.

— Ведаеш, а мне здаецца, што я знаю цябе, у сушнасці, вельмі даўно, яшчэ з дзяцінства. Ты ўжо даўно як бы жывеш у маёй свядомасці. І голас твой я чуў. — Ён не адводзіў ад яе вачэй, прыкмячаючы і мілавіднасць яе твару, і тое, як пад светлай сукенкай прыгожа пукліліся яе дзявочыя грудзі. Прызнаўся: — Люблю на цябе глядзець, Маняша.

Яна бесклапотна засмяялася, а потым сказала:

— Якая я табе Маняша? Я — Манька. Ну, у крайнім выпадку, Маруся, але ж не Маняша. Нашы пачуюць, дык дражніць пачнуць!

— А ў Расіі гэтак кажуць.

— Дык я ж не руская, не сібірачка.

— Эх, дарагуша ты мая! — ён пяшчотна дакрануўся да яе рукі. — Вось пальцы твае ягадамі пахнуць, марошкай! Я чую…

— Якой яшчэ марошкай? — не зразумела яна.

— Нашай, сібірскай. Ягада такая ёсць, у тайзе.

— А я пра такую нават і не ведаю.

— Будзеш ведаць! — запэўніў ён.

Яны абое змоўклі, уражаныя, пэўна, той гаворкай, якая паміж імі адбылася. Нарэшце яна сказала:

— Ты мне здаешся вельмі разумным, а я простая, вясковая. — Сказаўшы, яна засяродзілася на нейкіх сваіх думках.

— Дык, у сушнасці, і я прастой, — сказаў ён і пагладзіў яе па спіне, яна спраўна крутнулася ад яго ўбок.

— Ты што?

Ён засмяяўся:

— Няма кахання без прытуляння, — хіба не гэтак у вас кажуць?

— Не трэба! — У яе вачах з'явілася нешта такое, што ў даўнія часы называлася зацнасцю, гэта значыць, высакародствам і цнатлівасцю. — Які цваны! Не абдымай мяне!

Падзьмуў лагодны ветрык. Кажуць, што мужчыну трэба шмат слоў, каб давесці пра сваё каханне, — жанчына скажа пра ўсё адным позіркам. Так было і ў Санькі з Маняшай. Яе позірк хваляваў.

— Любезная ты мая! Любоў, кажуць, ад Бога. Гэта божаснае ап'яненне. Сам чалавек тут як бы ні пры чым.

— А ты ў Бога верыш?

— Радзіцелі веруюць. Маняша, мы ж з табою пасля вайны гэтай акаяннай на родзіну ка мне паедзем! У шоўку будзеш хадзіць, нічога для цябе не пашкадую! Эх, дарагуша ты мая! — Ён зрабіў нязграбную спробу абняць яе, абхапіць рукамі, але дзяўчына вёртка адхінулася.

— Но-но! Які смелы!

— А што такое? Я ж цябе да сэрца прыціскаю, паслухай, як яно б'ецца!

— Гаварыць вы ўсе майстры. Наабяцаеце, а потым…

— А што потым?

— Усе вы такія… Сама чула, як Сяргей Сталетнік дакараў сваю Лізку, — яна ў стозе нарадзіла: «Стог не дакідала — нарадзіла». А як гулялі, дык таксама залатыя горы абяцаў.

— Ну, я не такі. Паглядзіш! Жанчына — уладычыца свету, да яе адпаведным чынам і адносіцца трэба. Адзену цябе — шамрэць будзеш! Але гэта, канешна, не раней, чым фрыца прагоняць.

— Дык жа не проста яго прагнаць!

— Да, Маняша, ён яшчэ сілён. Пад Масквой па зубах далі, але яшчэ мала.

Яны зноў прымоўклі, і ён з усмешкай пачаў пра іншае:

— А соладка ты, напэўна, цалуешся?

Шчокі яе заліліся чырванню, апусціліся доўгія павекі на вачах.

— Нешта ты не тое кажаш, я яшчэ не спрабавала…

— Дык чаму ж?

Яна напомніла, што пара ўжо разыходзіцца: «Позна, маці чакае…»

— Давай яшчэ крыху пастаім.

— Не-е.

— Разважлівая ты.

— Табе так здаецца.

— Ты ведаеш, — нейкім глухім, панылым голасам сказаў ён, — калі я вяртаюся ад цябе, я паміраю ад думкі, што гэта была наша апошняя сустрэча, што болей мы не сустрэнемся.

— Чаму?

— Адчуванне.

Яна нечакана абняла яго за галаву, раскудлаціла чупрыну, цмокнула ў шчаку і пабегла. Ён бачыў, як яна ўзбегла на ганак.

Даўно ўжо сцямнела. Пара была вячэраць.

Пасля вячэры на вёску не пайшоў, а накіраваўся на адпачынак у клуню.

***Працяг будзе.***



Віктар ГАРДЗЕЙ

# ЛЕГЕНДЫ

## СКУЛЬ УЗЯЎСЯ БУСЕЛ

Сёння пачнецца зямлі красаванне.
Буйнаю сілай набраклі сады.
Ранняй вясною на Звеставанне
Бусел вяртаецца з поўдня заўжды.

Хтосьці на хаце ўладкоўвае кола,
Хтосьці на дрэва занёс барану.
Вылет пчаліны, і — радасць наўкола.
Трактар пад лесам вядзе баразну.

Добра было б, каб і дожджык вясновы
Змыў гэты леташні бруд на траве.
Га́ды пакінулі цёмныя сховы,
Жабы закрумкалі дзесьці ў дрыгве.

Бусел пачуў і памчаўся што духу,
Мерае цыбамі выган і плёс.
Зловіць вужаку, падхопіць рапуху,
Нішчыць плюгаўства — такі ў яго лёс.

---

***Гардзей Віктар Канстанцінавіч*** *нарадзіўся 19 жніўня 1946 года ў вёсцы Малыя Круговічы Ганцавіцкага раёна Брэсцкай вобласці. Скончыў факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1984). Працаваў у часопісах «Беларусь», «Родная прырода», «Маладосць», «Полымя», «Вожык», у выдавецтве «Мастацкая літаратура». Цяпер — у газеце «Літаратура і мастацтва».*

*Аўтар зборнікаў паэзіі «Касавіца» (1975), «Верасное палясоўе» (1978), «Засевак Радзімы» (1983), «Незабудкі азёр» (1985), «Узрушэнне» (1988), «Дзікая пчала» (1994), «Зялёныя дажджы» (1997), «Межань» (1999), «Трыадзінства» (2010), кніг прозы «Дом з блакітнымі аканіцамі» (1984), «Карані вечнага дрэва» (1988), «Уратуй ад нячыстага» (1992), трылогіі «Аселіца ў басейне Чорнага мора» (2000), рамана «Бедна басота» (2003), шматлікіх паэтычных кніжак для дзяцей.*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Івана Мележа (1994), Літаратурнай прэміі «Залаты Купідон» (2008).*

Сёння дзядулю на вуліцы цёпла.
Тут жа і ўнук сустракае вясну.
Здзіўлена глянуў дзядуля на поплаў:
— Бусел, аднак, сваю помніць віну!

Сёння двара пільнавацца нягожа,
Выйшлі стары і малы на мяжу.
— Што за віна? — папытаўся Сярожа.
— Слухай, унучак, як ёсць, раскажу....

* * *

— Калісьці развяліся гады
У мейсцах змрочных і глухіх.
Ад гадаў тых не стала рады
Ні людзям, ні жывёле іх.

Куслівая бясконца пляга
Падсцеражэ твой кожны крок.
Ад погані і страх, і звяга —
Ступіць з дарожкі бойся ўбок.

Вужакі поўзаюць на поймах,
Гадзюкі круцяцца ў бары,
Ды рознай аваднечы плойма,
Ды крывасмокі камары.

Вось Бог ішоў сваім дазорам
Цераз балоты і палі,
Убачыў тут, якое гора
Запанавала на зямлі.

Не будзе брыдкім гадам зводу —
Кішаць і дзённа, і ўначы,
І Бог, спыніўшыся ля броду,
Рашыў жыхарству памагчы.

Пазносіў Ён мярзоцце ў горбу,
Сабраў між пустак і канаў,
Затым напхаў плюгаўствам торбу
І моцным паскам завязаў.

Тут чалавек бяжыць улоннем,
Паклікаў Бог і даў загад:
— Кінь торбу гэтую ў прадонне,
Тады і вернешся назад.

Нябога з даручэннем строгім
І дзень ідзе, і два ідзе,

І пот цурком, і млеюць ногі,
А мора ўсё няма нідзе.

Ніжэй да долу хіліць стома,
Не дзіўна: гэткі груз успёр!
Не вінаваты ён, вядома,
Што па натуры быў хіцёр.

У торбе зброду да халеры —
Пішчаць і ныюць гады ўсе.
Цікаўнасць узяла без меры:
Урэшце, што ён там нясе?

Дзесь у цяні, ля вербаў ніцых,
Спыніўся, торбу зняў з плячэй,
І ўжо ў чаканні таямніцы
Ён вузел развязаў хутчэй.

Ледзь адхіснуў і нос, і рукі,
Ды бельмы вырачыў праўцом,
Бо жабы, яшчаркі, гадзюкі
На волю хлынулі клубком.

Плюгаўства ўсё палезла ў шаты —
У корч, у мох ды пад абрыў,
Сам чалавек быў вінаваты:
Такое глупства сатварыў!

Цяпер глядзеў бы асцярожней —
За нейкі міг паразумнеў.
Стаіць ён з торбаю парожняй,
І Бог яму сказаў праз гнеў:

— Эх, чалавек! За тое кара,
Што ў моры торбу не ўтапіў:
Цяпер збірай дрэнь у абшарах,
На сенажацях, сярод ніў!

Стаў неслух птушкаю цыбатай,
Якіх раней не бачыў край.
За службу кепскую адплата
Сама прыходзіць, так і знай.

На тых абшарах ён далёка
Не адышоўся ад людзей,
Прамовіў штось, ды толькі клёкат
З ягоных вырваўся грудзей.

Сурдут, счарнелы ад спякоты,
Адзін яму на кожны дзень,

Сарочка белая, а боты
Чырвоныя аж да калень.

Ідзе па лузе забіяка:
Прывык з той самае пары
Карміцца ўсячынай усякай,
А дрэні тут — адно бяры!

За гонар мець такога цыбу,
Які, прачнуўшыся да дня,
Разбудзіць клёкатам сялібу,
Бо чалавеку ён — радня!

* * *

Дзед і Сярожа стаяць каля хаты,
Скончыў аповед дзядуля ў журбе:
— Гэту легенду я знаю ад таты,
Сам як запомніў, так збаяў табе.

— Вось жа цікава! — усклікнуў Сярожа. —
Бусел збірае плюгаўства спрадвек.
Цяжка паверыць, што птушкай прыгожай
Стаў неслухмяны якісь чалавек.

* * *

Церам бусліны на вільчыку даху,
Зрэшты, жыве ён сям'ёй у гняздзе.
Крылы раздыме і сядзе з размаху —
Нават галінка на дол не ўпадзе.

Людзі вясной, ужо добра абжытай,
Сочаць з надзеяй за ім кожны год:
Скіне яйцо — будзе поўнае жыта,
Бусліка скіне — ідзе недарод.

Зла на яго не трымай і ў паміне,
Помсціцца стане — далей ад граху:
Зверху гадзюку ў калодзеж укіне
Ці галавешку запхне пад страху.

Гром у нябёсах — неспадзяванка.
Першыя кроплі сякуць па сцяне.
Дрэва з буслянкай не спаліць маланка,
Хату з буслянкай пярун абміне.

Моляцца людзі і сёння, і прысна:
Хай цёплы дожджык прыходзіць часцей.

Стаў чалавек птушкай дужа карыснай,
Нават у хаты прыносіць дзяцей.

З поўдня вярнуўшыся на Звеставанне,
Бусел агледзеў балотцы і гаць.
Помніць бядак пра сваё пакаранне:
Нечысць, што выпусціў, трэба збіраць!

## АДКУЛЬ ПАЙШЛІ ВАЎКІ

Прыгожы звер з мяном: разбойнік шэры!
Вяроўкай хвост, і карак — як сядло.
У даўні час, яшчэ да новай эры,
Ваўкоў у нашых пушчах не было.

Жылі адвеку прашчуры супольна:
Сяліба, выган, побач лес глухі.
Але жывёла пасвілася вольна,
Не існавала слова — «пастухі».

У хатцы там, за лесам і балотам,
Жыла сям’я, дзе не было бацькоў.
Убачыў Бог — паспачуваў сіротам,
Падумаў Ён ды ўзяў стварыў ваўкоў.

Пайшлі звяры разбойнічаць у сёлы,
У статках красці, і ад той пары
Спатрэбілася варта ля жывёлы,
Дый нанялі сірот гаспадары.

Былі сіроты, пасвячы чароды,
Адзеты і пад’еты, а ваўкі
Нямала ў сёлах нарабілі шкоды
І разбрыліся ў розныя бакі.

Пайшлі яны па сцежках невядомых,
Хаця зімою выюць да жуды.
Іх логава — у змрочных бураломах,
Але заўсёды блізка ля вады.

Як ні мяркуй, ваўкі жывой прыродзе
Усё ж наносяць адчувальны ўрон:
Па шэсць малых і болей у прыплодзе,
Карміць іх трэба не адзін сезон.

І кормяць ваўчанят, канечне, мясам,
З прычыны той бацькі не спяць амаль.
Таму не ходзяць статкі самапасам,
Бо мігам справяць шэрыя свой баль.

Дзясяткі вёрст асіліць валацуга,
Храбрэц на паляванні ўтрох ці ўдвух.
Было ж не раз, калі звычайнай пугай
Яго ад статка праганяў пастух.

Бяруць ахвяр пагоняй ці аблогай —
Загнаны звер не дзенецца нідзе.
У зграі воўчай з дысцыплінай строгай
Сама ваўчыца жорсткі рэй вядзе.

У вывадку падбор заўжды сваяцкі:
З бацькамі — пераяркі, маладняк.
Хоць выгляд у ваўка не забіяцкі,
Дык як зірне — хапае ўміг слупняк.

У чараду, дзе не чуваць аўчарак,
Ён заляціць апоўдні напралом,
Авечку ўскіне на шырокі карак
І — павалок у змрочны буралом.

Драпежнікі паўсюль даліся ў знакі,
Ад іх багата шкоды і бяды.
Ваўкоў пачуўшы, нават і сабакі
Хаваюцца без брэху хто куды.

Зімой, у голад, грозныя прыблуды
Шукаюць корму ў вёсках паначы.
Бывае, дварняка залучаць з буды,
Ледзь гвалт які — паспеюць уцячы.

Ваўкам нішто лясное не прыесца:
Казуля, заяц, маладзенькі дзік.
Пра выпадак, што меў калісьці месца,
Апавядае егер-лесавік:

«У двор да нас аднойчы воўк прытрухаў,
Няма дарослых, двор, як ёсць, пусты.
Ажно глядзім: вялізны воўк за вуха
Павёў свінню праз выган у кусты.

У вокнах мы, знямелыя ад жаху,
Дзівіліся відовішчам такім.
Хвастом ахвяру шлёгаў воўк з размаху,
Яна ж ішла пакорліва за ім.

Там, у кустах, дружкоў было нямала,
На крык са стрэльбай выскачыў сусед.
Пакуль дабег, дык зграя не чакала —
Налётчыкаў ужо прастыў і след».

Напэўна, не хлусіў наш егер-лоўчы:
Малым здарэнне бачыў тое сам.
Канечне, у ваўкоў і спосаб воўчы,
Але ад іх карысці шмат лясам.

За выжыванне на зямных абшарах
Паміж звярамі вечная вайна.
Пра дзёрзкага ляснога санітара
Здавён дайшла легенда не адна.

Ваўкам такую ролю ў тым змаганні
Даверыла прырода нездарма:
У пушчах, дзе ваўчыныя ўладанні,
Паморку, пошасці зусім няма.

Бярэ найперш аслабленых і хворых,
Сярод здаровых мала ўсё ж ахвяр,
Дык справядліва лічаць у канторах:
Трымае раўнавагу «санітар».

Дзе шмат капытных, — спляжаны дарэшты,
Гібее лес і чэзне пакрысе.
Падчысціць воўк замораных, а, зрэшты,
І сам ён падкантрольны, як усе.

Пра шэрага і прымаўкі, і звады
З'явіліся яшчэ ў былых вяках.
Не возьме ён атручанай прынады
І пораху далёка ўчуе пах.

Нічога лішняга ў прыродзе дзікай,
І бедны воўк пры гэтым не ўбаку.
Ці Англіі зайздросціць невялікай? —
Ёсць помнік там апошняму ваўку.

## АДКУЛЬ ПАЙШЛІ СМАЛЯВІЧЫ

Сосны і елкі стаялі сцяною,
Ды адступілі лясы пакрысе.
Толькі з назовам, прапахлым смалою,
Горад застаўся на рэчцы Плісе.

Тут смалакурня (а, можа, і болей)
Небу дыміла і ўдзень, і ўначы.
Людзі, як лес расчышчалі пад поле,
Везлі сюды смаляныя карчы.

Годна трымалі агонь смалакуры —
Печы распальвалі аж дабяла,

І ад высокае тэмпературы
Цеч пачынала з карчэўяў смала.

Звонку смалярня была, як адрына,
Тых жа карчоў — дык пад самую столь.
Кропля да кроплі — пайшла тарпатына!
Ды пацяклі шкіпінар, каніфоль.

Пахла жывіцай тут кожная хата,
І да куродыму горад прывык.
Дзесьці і скрыпка спявала заўзята,
Бо каніфоллю нацёрты быў смык.

Бочкі з жывіцай вазілі за мора,
Ды і па рэчцы сплаўлялі тавар.
Пройдуць вякі, і ацiхне не скора
Попыт на дзёгаць і шкіпінар.

Кажуць, былі і рагатыя з пекла:
Жупел варылі — смалу для катлоў.
Потым чыгунка надвое рассекла
Горад, які ўжо стаяў без лясоў.

Там, дзе бары адступалі патроху,
Галы ў нізінах займала дрыгва.
Жыта наўкол ужо ў нашу эпоху
Золатам свеціцца ў часе жніва.

Мода прайшла на паходні і знічы,
Гналі ж смалу да апошняй пары.
Горад і сёння завуць Смалявічы —
Дыхаць тут лёгка, нібыта ў бары.

Збоку азёры, раўніны, пагоркі
Сочацца ціхай, адвечнай красой,
Тут нечакана адчуецца горкі
Водар смалы па-над рэчкай Плісой.



Юлія ЗАРЭЦКАЯ

# СВЕТ НЕ БЕЗ ДОБРЫХ ЛЮДЗЕЙ...

*Апавяданне*
*(З цыкла «Дунілавіцкія былі»)*[*]

## I

Фляр'ян ужо збіраўся класціся спаць, як у шыбу нехта пастукаў. Стукаў ціха, нясмела, нібыта вагаючыся, ці варта.

— Бацька, хто там? — устрывожылася жонка. Марыля паспела ўжо задрамаць, але чуйным вухам улавіла гукі з двара.

— Пайду пагляджу, — Фляр'ян ужо тупаў да дзвярэй.

— Пільнуйся там, — кінула ўслед Марыля, хоць і ведала, што цяпер ад мужа мала што залежыць. Бог яго ведае, хто там стаіць і з якімі намерамі ён хоча зайсці ў іх хату. Але дзверы адчыняць мусіш…

Крокі гаспадара пачуліся ў сенцах, потым заціхлі. Фляр'ян спыніўся каля дзвярэй на ганак, стаіўся, і тады знадворку мужчынскі голас, дрыготкі ад хвалявання, умольна папрасіў: «Адчыні, добры чалавек. У мяне няма зброі. Ёсць толькі мая сям'я, яе хачу выратаваць».

Фляр'ян нічога не адказаў, узяўся за жалезную засаўку, прыадчыніў дзверы і — вачам не паверыў: перад ім стаяў Давід Гардон. У нейкіх лахманах на плячах, у падраных, зношаных штанах, паўбосы… На худым, зняможаным твары выдаваліся вочы, патухлыя, поўныя болю і крыўды. Але, як заўважыў Фляр'ян пры месячным святле, у іх усё ж цьмяна цеплілася трапяткая надзея. За Давідам, нібы цень, пакалыхвалася нечая невысокая постаць, да якой з бакоў быццам прыліплі яшчэ меншыя, крыху вышэй каленяў, дзве таксама маўклівыя постаці.

— Давід, ты? — спытаў Фляр'ян, не верачы сам сабе. — З Дунілавіч?

— Я, — разгублена адказаў той. — Мы… Ты ведаеш мяне?

— Вядома, ведаю! — гаспадар нават усміхнуўся. Зірнуў у цемру, якая згушчалася вакол падворка, і ціха сказаў: — Заходзьце.

---

***Зарэцкая Юлія Францаўна*** *нарадзілася 8 студзеня 1978 года ў вёсцы Дунілавічы Пастаўскага раёна Віцебскай вобласці. Скончыла Дунілавіцкую СШ (1995), філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка (2000). Працавала рэдактарам, загадчыкам аддзела фельетонаў і пісьмаў, намеснікам галоўнага рэдактара часопіса «Вожык». Цяпер — галоўны рэдактар альманаха сатыры і гумару «Вожык».*

*Аўтар кнігі «Шчаслівыя людзі» (2011).*

---

[*] Дунілавічы — вёска ў Пастаўскім раёне, радзіма аўтара.

Тым часам Марыля, чуйна прыслухоўваючыся да размовы спачатку на ганку, а потым у сенцах, запаліла лямпу, зазірнула за шафу, якой была пераагароджана хата: ці не прачнуліся сыны. Хлапчукі Стась і Юзік спалі.

— Вось, Марыля, хто да нас наведаўся, — Фляр'ян падышоў да жонкі. Кіўнуў на гасцей: — Пазнаеш?

Давід, невысокі, каржакаваты, нерашуча таптаўся ў парозе, а з-за яго спіны спалохана пазірала маленькая, хударлявая жанчына, яго жонка Голда. На яе плячах таксама вісела брудна-шэрае рыззё. Хустка ссунулася набок, адкрыўшы россып сівых валос-павуцінак. Да Голды хінуліся малыя: хлопчык гадоў васьмі і крыху меншая за яго дзяўчынка.

Усё гэта гаспадары хаты на хутары Гараваткі разгледзелі мімаходзь. Распытвацца ні аб чым не сталі: чулі, якія жудасныя падзеі адбыліся нядаўна ў Дунілавічах.

— Ну, хопіць у парозе стаяць, — парушыў маўчанне гаспадар. — Ідзіце за стол.

Марыля кінулася да печы. Пакуль сям'я Гардонаў скідала з сябе лахманы і ўладкоўвалася за сталом, гаспадыня паспела дастаць з печы чыгунок з бульбаю, пакласці ў міску квашанай капусты. Калі паставіла саганок і місу на стол, Давід сутаргава пракаўтнуў сліну, а худыя рукі Голды задрыжэлі.

— Гэта нам? — ціха прагаварыў малы, і яго цёмна-карыя, нібы каштаны, вочы акругліліся. Ён дакрануўся худзенькай — пальцы аж свіціліся — ручкаю да вуснаў. — Есці? — і зірнуў на бацькоў.

Дзяўчынка — дробненькая, ціхая — маўчала, не адводзячы ад бульбы зачараванага погляду. На яе мурзатым тварыку нават з'явіўся лёгкі, ледзь бачны румянец.

— Ну, не глядзіце — ешце, ешце, — сказала гаспадыня і ўздыхнула.

Давід, як нешта неймаверна дарагое, жаданае, асцярожна, нібы баючыся раструшчыць, узяў дрыжачай рукой бульбіну, неслухмянымі пальцамі аблупіў яе і працягнуў малой:

— Еш, Лібачка.

Затым, таксама асцярожна, узяў другую бульбіну, даў яе сыну. Той тоненькімі лёгкімі пальчыкамі хуценька ачабраў шалупіны і прагна прыпаў вуснамі да жоўтай мякаці.

— Бяры, Голда, — падбадзёрыў ён жонку. — Не бойся, людзі ж даюць.

— Хай дзецям, — ледзь прашаптала яна сасмяглымі вуснамі. — Я не хачу.

— Голда, еш: табе патрэбны сілы. Нам усім патрэбны сілы.

— Ешце, ешце, — сказала Марыля і дадала: — І праўда, вам усім патрэбны сілы. Вы ж такія аслабелыя, змораныя.

Голда з удзячнасцю паглядзела на Марылю, беражна ўзяла бульбіну, пачала есці, перш чым праглынуць, доўга трымаючы ў роце. І ўсе елі не спяшаючыся, нібы баючыся таго часу, калі бульба і капуста скончацца. Урэшце, калі сям'я пад'ела, гаспадыня прынесла з сяней драўляныя начоўкі, паставіла ў кутку каля печы, затым дастала з яе вялізны чыгун з вадой.

— Дзетак тваіх памыць трэба, а то закарэюць зусім, — сказала яна Голдзе, наліваючы ў начоўкі вады. — Вядзі іх сюды.

Марыля выцягнула з пячуркі кавалак мыла, дадала:

— Я табе памагу.

— Пакуль жанчыны мылі дзяцей, мужчыны стоена перагаворваліся.

— Гора мне, Фляр'ян, гора, — казаў Давід як заведзены, ківаючы галавою. — Прыйшло гора і ў маю хату.

— Чуў, Давід, чуў. Казалі, што калі яны ў мястэчка ўвайшлі, дык нават ні разу не стрэлілі. Ніхто не паспеў ні схавацца, ні ўцячы, — гаспадар са спачуваннем паглядзеў на Гардона. — Не ўцякалі і потым, мабыць, спадзяваліся на лепшае. Але палявыя часці нямецкай арміі, якія праходзілі праз Дунілавічы, асабліва не лютавалі...

— А што пачалося потым, як другія сталі на пастой! Адразу ж пайшлі па нашых дамах, па лаўках... Што падабалася — забіралі сабе, што не — кідалі на падлогу, білі, ламалі, крышылі. Жах! — Давід, успамінаючы гэта, зморшчыўся, заплюшчыў вочы і ўсё ківаў галавою. — А ўжо калі камендатура з’явілася — зусім жыцця не стала. Загады, загады, загады: нельга тое — расстраляем, нельга гэта — павесім!.. Пагромы, рабункі, здзекі… Расстрэльвалі дзясяткі чалавек на вачах ва ўсіх. Білі нагайкамі, пакуль людзі не трацілі прытомнасць, а затым аблівалі халоднай вадой і зноў білі, пакуль не забівалі да смерці…

А неўзабаве камендант выдаў загад: усім яўрэям мястэчка ўзяць з сабой самыя неабходныя рэчы і сабрацца на цэнтральнай плошчы. Маўляў, паедзеце ў Германію на работы... Мы паспелі ўцячы. Яшчэ раней з Голдай зрабілі ў кустах каля ракі схрон. Там і хаваліся. Як краты.

— Але ж чалавек не крот: доўга пад зямлёй не ўседзіць. Яму трэба паветрам чыстым дыхаць, на неба глядзець, — сказаў разважліва Фляр’ян.

— Ой, каб ты ведаў, як цяжка было ў той нары: суцэльная цемра, імгла, страшэнны смурод… Носа баяліся высунуць. Дык мы ж дарослыя, разумелі ўсё. А як дзецям было?! — і Давід, раптам перастаўшы ківаць галавой, паглядзеў на малых.

Хлопчык, ужо чысценькі, свежы, апрануўшы штонікі, зашпільваў гузікі на кашульцы і з цікавасцю азіраўся вакол сябе. Яго вачаняты радасна блішчэлі. Дзяўчынка, таксама ўжо апранутая, сядзела на зэдліку, а маці расчэсвала яе светлыя, мяккія валасы.

— Дзеля іх, Лібачкі і Абрашы, і жыву. Яны таксама павінны жыць, — сказаў Давід.

Голда, расчасаўшы дачушцы валасы, падышла да мужа, кранула яго за плячо:

— Трэба ісці, Давід. Нельга тут заставацца. Раптам хто прыйдзе? Бяда будзе.

Давід паглядзеў на гаспадароў і зноў заківаў галавою:

— Праўда-праўда. Наробім вам бяды. Пойдзем.

— Бяда цяпер усюды, — сказаў гаспадар. — Усім бяда. А вам, яўрэям, асабліва. Ну што ж, усе мы людзі, прыйшло гора, дык будзем разам яго гараваць, — і звярнуўся да жонкі: — Знайдзі якое цёплае адзенне. Завяду іх на вышкі, усё ж далей ад граху. А заўтра будзем думаць, што рабіць далей.

…Дзеці спалі. Дыхалі яны роўна, ледзь чутна, толькі, калі прыгледзецца, было бачна, як час ад часу ўздрыгвалі худзенькія ручкі, нібы хто тузаў іх за нябачныя ніці. Голда прыціснулася шчакою да галавы дачушкі, шаптала словы малітвы. Давід абняў сына і горасна ўздыхнуў: што іх чакае наперадзе?..

Гэтая сям’я, якая цяпер ляжала ў сене, у хляве, куды іх прывёў Фляр’ян, нагадвала своеасаблівы вялікі шар — дзеткі ляжалі пасярэдзіне, падціснуўшы ножкі да грудзей, а бацькі, абняўшы іх, — па баках. І гэты жывы шар спакойна круціўся разам з Зямлёю ў Сусвеце…

…— Шнэль! Шнэль! Швайн!

— Залман, дзе наша Песя? Дзе наша дачушка?

— Што будзе? Што будзе? Ой, нешта будзе!

— О, не! Цыля, трымайся за мяне! Трымайся!..

Натоўп яўрэяў, якія па загадзе нямецкага камандавання сабраліся на цэнтральнай плошчы мястэчка каля школы, хістаўся з боку ў бок. Людзі, калі па загадзе немцаў ішлі сюды, думалі, што іх павязуць у Германію, а тут… Тут — пекла. Тут — жудасць. Паліцаі гвалцяць дзяўчат і жанчын... Вырываюць з рук мацярок немаўлят і разбіваюць ім галовы аб сцены дамоў, аб каменне, брук... Маці сівеюць увачавідкі і ў жаху рвуць на сабе валасы...

Давід здрыгануўся і прачнуўся. Дыхаў ён перарывіста, цяжка. «Няўжо гэты жахлівы сон будзе праследаваць мяне ўвесь час?» — падумалася яму. Гэты сон сніўся яму, здаецца, штоночы вось ужо некалькі тыдняў.

Давід ціха паклікаў жонку:

— Голда, ты спіш?

— Не, — адразу адазвалася тая і спагадліва спытала: — Зноў?

— Зноў, Голда, — уздыхнуў ён. — Зноў гэты жудасны сон. Тады, калі ўсё гэта здарылася, Бог пашкадаваў мяне, я там не быў. Але адкуль усё гэта ведаю, нібы сам кідаўся ў тым натоўпе? Бачу Рахіль, дачку Шымона, які гандляваў рыбай. Яе схапіў нейкі немец і спрабуе паваліць на зямлю. Дзяўчына адбіваецца, плача, але ніхто не можа ёй дапамагчы… Бачу Цылю, якая стаіць на каленях і галосіць, а немец трымае за ногі яе хлопчыка… Бачу, як нашы браты і сёстры падаюць, як падкошаныя: немцы назабаўляліся, наздзекаваліся і пачалі страляць па іх з кулямётаў. Як у ціры…

— Супакойся, Давід, — адказала Голда, выціраючы слёзы. — Мы нічым не маглі ім дапамагчы. І мы не вінаватыя, што засталіся жыць.

— Жыць… Як нам далей жыць? — прашаптаў ён і зноў заківаў галавой. — Як выжыць?

— Гэтыя добрыя людзі нам дапамогуць. Бачыш, далі прытулак. Яны не кінуць нас у бядзе. Давай спадзявацца на лепшае…

Не спалі ў гэтую ноч і гаспадары хутара Гараваткі Фляр'ян і Марыля. Парадзіўшыся, яны вырашылі, што найлепшае выйсце — выкапаць у лесе для Давіда і яго сям'і зямлянку.

— Не дай Божа, немцы ці паліцаі знойдуць іх у нас — расстраляюць усіх! А ў лесе паспрабуй знайдзі, — разважаў Фляр'ян. — Хоць, кажуць, карнікі і лес прачэсваюць…

— Лес вялікі — схавае ўсіх. А ежу, вопратку ці што яшчэ будзем ім самі насіць. Дасць Божа, так і ўберагуцца, — падтрымала мужа Марыля.

…Зямлянку капалі ўтрох — Давід і два сыны Фляр'яна: хлапчукі Стась і Юзік. Перад гэтым доўга шукалі месца, каб далей ад ліхога вока, каб не ля балота. Меркавалі так і гэтак і ўрэшце вырашылі капаць кіламетры за тры ад хутара на парослай густым ельнікам Лысай гары. Не пад ёю, дзе пападаліся праталіны, а наверсе.

Першым узяўся за рыдлёўку Давід. Зямля была цяжкая, ужо добра кранутая першымі замаразкамі.

Стась, старэйшы Фляр'янаў сын — хударлявы высокі маўклівы чатырнаццацігадовы хлопец — прыстроіўся побач. Спачатку не капалі, а дзяўблі зямлю, здымалі цвёрдую скарынку і рабілі неглыбокія нарэзы, затым пайшло лягчэй. Меншага дзесяцігадовага Юзіка, усё яшчэ гарэзу і неслуха, пакінулі ўнізе наглядаць, ці не ідзе сюды хто чужы. І ён, хоць хацелася дапамагчы капаць, цярпліва нёс «службу». На шчасце, ніхто сюды не ішоў…

Дапамагаць ім капаць Фляр'ян не мог. Гэта магло быць падазрона для людскіх вачэй: чаму ён у такую пару штодня цягаецца ў лес?.. А на хлапчукоў, якім не сядзіцца ў хаце, ніхто асабліва зважаць не будзе: бегаюць па лесе — ну і хай!.. Капалі спяшаючыся: марудзіць было нельга.

Зямлянка атрымалася невысокай: у ёй нельга было стаяць ва ўвесь рост, толькі сядзець ці ляжаць. Але пасля ўсяго ўбачанага і перажытага яна здалася Гардонам надзейным, спакойным месцам.

— Нічога, мы і пасядзім. Сядзець добра. А не — ляжам, — прыгаворвала Голда, калі яны ўпоцемку ішлі да зямлянкі. — Затое дзеткі хадзіць змогуць.

Яна падхапіла дачушку на рукі:

— Табе не зімна, Лібачка?

— Не, мамачка, — адмоўна пахітала галавой дзяўчынка і яшчэ мацней прыціснула да сябе невялікую лялькү, апранутую ў пярэстую сукеначку. — Янінцы зімна.

— Нічога, мы зараз прыйдзем, адагрэем яе. І цябе, — прашаптала маці і вочы яе сталі вільготнымі.

З таго часу, як Марыля знайшла на гарышчы ляльку, з якой некалі гуляла яе дачка Данута, калі была малой, Лібачка амаль не выпускала яе з рук. То давала суслу, згорнутую з насовачкі, то расказвала казкі, то спявала песенькі. Калі Лібачка клалася спаць, то клала побач ляльку. Гладзіла яе па белых штучных валасах і супакойвала: «Спі, дачушка, не бойся. Немцаў няма. Мы яшчэ трошкі тут пабудзем, а потым пойдзем у свой домік. Ён у лесе. Нас там ніхто-ніхто ніколі-ніколі не знойдзе…»

Сапраўды, зімовы лес — добрая схова, нешматлюдны. Гэта ж не лета, калі можна і ягаду сабраць, і грыб знайсці. Але і зімовай парой у лесе не-не ды ўбачыш чалавечыя сляды. А ці добры, ці ліхі чалавек іх пакінуў — Бог ведае… Можа, які вясковец па сухастоіну прыклыпаў, ці партызаны ішлі па сваіх сцежках, або якісь злыдзень-паліцай з мясцовых віжаваў.

Але адна справа — мець хату, а ў ёй — печ: як-небудзь, ды расстараешся дроў. Іншая справа — зямлянка. Хоць наверсе яе і зрабілі шалаш, уцяплілі густымі яловымі лапкамі ўваход як маглі, але самі надзявалі на сябе ўсю апратку, якая толькі была, захутвалі малых чым толькі можна — Марыля дала і ватоўкі, і коўдры, здаецца, усё, што мела, ды холад усё адно прабіраўся ў земляное жытло. Іншы раз, калі стаялі лютыя маразы, так даймаў рукі і ногі, што, здавалася, ажно ледзянела сэрца.

Марыля надта клапацілася пра чужых дзяцей, іншы раз, можа, не горш, чым пра сваіх, казала мужу: «Лібачка і Абраша яшчэ такія маленькія, такія кволенькія і ў такім холадзе, што хоць ты іх запазуху схавай…» Фляр'ян моўчкі згаджаўся.

## II

Неяк Фляр'ян, управіўшыся па гаспадарцы, стаяў каля акна, распісанага мудрагелістымі ўзорамі, пазіраў удалячынь, якая сліпуча іскрылася на марозным сонцы, сказаў Марылі:

— Усё цісне ды цісне. Але не бядуй, маці, нешта прыдумаем. Сагрэем…

Марыля сказала:

— Як можна сагрэць азяблых гаротнікаў, што сядзяць у зямлі? Вось каб печка якая…

А праз колькі дзён яе і прывёз Фляр'ян з суседняй ад хутароў вёскі Пятровічы, пазычыўшы ў добрага знаёмага і рупліва закрыўшы ў возе сенам, каб ніхто, крый Бог, не ўбачыў.

— Стась, ты ўжо вялікі, сілы ў цябе хопіць, — паклікаў бацька старэйшага сына да сябе. — Трэба занесці Гардонам печку. Яна невялікая, сам бачыш, павінен здужаць.

— Добра, бацька, — згадзіўся той. — Я зараз.

— Не, пакуль рана: светла яшчэ. Пачакай, хай сцямнее. Трэба, каб ніхто цябе не бачыў. Зразумеў? Ніхто. Інакш будзе бяда і нам, і ім…

Але доўга ўседзець у хаце падлетак не мог. Яму нецярпелася як мага хутчэй выправіцца ў лес. У думках ён уяўляў, як прыцягне жалезную печку Гардонам, як яны здзівяцца і ўзрадуюцца, як нацепляць у зямлянцы і малыя нарэшце вылезуць з рыззя і пачнуць усміхацца… Ледзь толькі пачало шарэць, Стась, ускінуўшы печачку на плячо, выйшаў з хаты.

Хутар Вайцяшонкаў стаяў воддаль ад лесу, на невялікім узвышшы. А яшчэ вышэй, метраў за дзвесце, месцілася хата Каліцкіх. Адлегласць паміж хутарамі была немалая, і спінамі суседзі не церліся. А тут…

— Стась, куды гэта ты нанач гледзячы печку цягнеш, га? — голас Януся Каліцкага прагучаў як гром з яснага неба.

Ад нечаканасці Стась ледзь утрымаў на плячы печачку, ажно прысеў. Затым азірнуўся на голас, які пачуўся збоку, і ўбачыў Януся. Сусед — высокі, рыжаваты мужчына бацькавых гадоў, якога ўсе — і дзеці, і дарослыя дражнілі за вочы «Гакаўка» — меў звычку ці не пасля кожнага слова казаць «га», стаяў на пратаптанай у снезе сцяжынцы, якая вілася ад хутара ў лес.

«Убачыў, што я спужаўся. Падазраваць пачне. Яшчэ скажа каму. Што яму адказаць? Што спужаўся? А чаму? Скажу, што бацькоў баюся. Паверыць», — шалёна праносіліся ў галаве хлопца розныя думкі. І раптам знайшоўся:

— Дзядзька Янусь, прашу, не выдавай мяне бацьку. Я табе прызнаюся як на духу: у лес печку нясу. А ведаеш, навошта?

Гакаўка насцярожыўся. Здаецца, нават вуха павярнуў у той бок, дзе стаяў Стась.

— Ну, кажы, га!

— Толькі пабажыцеся, што не выдасце мяне!

— Не бойся, малы, не выдам. Ну, кажы хутчэй, га!

Стась затаіў дыханне і рэзка выпаліў:

— Самагон гнаць буду!

Янусь хмыкнуў, крыва ўсміхнуўся:

— Ну ты і жук! — і паабяцаў: — Добра, га, не выдам. Толькі дзе ты возьмеш солад, дзе дабудзеш дрожджы? І ці ведаеш ты ўвогуле, як самагон гоніцца?

Стась зразумеў, што сказаў глупства, што ў гэтую прыдумку Янусь не паверыў, і яшчэ доўга баяўся, што той выдасць яго, выдасць немцам ці паліцаям, але ўсё абышлося. Можа, Янусь усё ведаў і Стася сустрэў невыпадкова, хацеў таксама дапамагчы, а можа — выпадкова. Хто ведае…

Так жалезная печачка і выратавала сям’ю Гардонаў у суровую сцюдзёную зіму.

Колькі разоў бегалі потым, хаваючыся, па гэтай лясной сцяжынцы ў лес то сур’ёзны, маўклівы Стась, то гарэза Юзік, не злічыць.

— Сынок, занясі Гардонам хлеба. Я толькі з печы дастала...

— Блінкі яшчэ не астылі. Пакуль цёплыя, няхай дзеткі з’ядуць…

— Бульбачкі вазьмі. І солі ў пушачку насып….

Схаваўшы за пазуху то хлеб, то цёплыя гарохавыя бліны, то бульбу ў шалупінах, то іншы просты сялянскі харч, хлопцы часта наведваліся ў зямлянку да Гардонаў.

А калі пачаў сыходзіць снег ды падсохла зямля, Давід з Голдаю сталі шукаць так званы падножны корм...

— Цяжка, Давід, нам жыць, але нічога — жывём, — супакойвала мужа Голда. — Дасць Бог, і лета прычакаем.

— Жывём, —ківаў галавою Давід. — А колькі нашых братоў, сясцёр ды іх дзетак ужо на той свет пайшло!.. Памятаеш Гірша? Шаўца, які жыў на рагу Пятроўскай вуліцы. У яго яшчэ брат, Мойшам звалі, пякарню трымаў.

— Памятаю, Давід, чаму не памятаю?

— А помніш, як ён загінуў? Гэтыя нелюдзі расстралялі яго. А перад тым загадалі выкапаць дзве ямы — для сябе і для суседкі. І за што?! За тое, што ён дапамог гэтай жанчыне выкаціць тачку ўгару, калі яны на прымусовых работах рамантавалі дарогу. І гэтыя вылюдкі тым часам ігралі на губных гармоніках! О Божа, пра што ён думаў, калі капаў тыя ямы?..

— Лепш не ведаць… Супакойся, Давід. Не мучай сябе, не трывож душу, не верадзі раны. Мы не вінаватыя ў тым, што выжылі. І — не ведаем, колькі пражывём яшчэ…

Тым часам у ваколіцах станавілася неспакойна. Усё часцей па вёсках і хутарах шнырылі немцы, віжавалі паліцаі.

— Нічога не будзе — трэба Давідаву сям'ю з лесу выводзіць некуды далей, — сказаў Фляр'ян жонцы пасля таго, як аднойчы на хутар зноў наведаўся мясцовы гіцаль і прахвост, паліцай Мішка Вырвіч.

Дзейнічаў ён нахабна. Таўхануўшы дзверы нагой, уваліўся ў хату і адразу прыстаў да Фляр'яна, які сядзеў за сталом і круціў самакрутку:

— Ну, кажыце, дзе жыдоў схавалі!

Марыля спалохана замерла з шыццём у руках. Фляр'ян паслінявіў самакрутку, сунуў яе ў рот, спакойна сказаў:

— Адкуль ім у нас брацца, Міхась Бацькавіч? Не было і не будзе. Няхай бы толькі тыя шэльмы на мой парог ступілі! Я б іх — ого!..

— Чаго гэта? — недаверліва прыжмурыў вока паліцай, якога да вайны ніхто за дранае лыка не лічыў, а тут — Бацькавіч!..

— Каб мяне з-за іх расстралялі? Ты што, жартуеш, Міхаіл Восіпавіч? Але ж за іх, кажуць, і шмат грошай даюць. Скажы, гэта праўда?

— Няпраўда! — паспакайнеў Вырвіч. — Калі ты што пра іх ведаеш, то без усялякіх грошай павінен у камендатуру данесці! Ты бачыў, грошай яму дармовых захацелася, — і, абвёўшы хату пахмурным позіркам, пасунуўся да парога…

Другі раз Мішка Вырвіч, ідучы на падпітку з Янусёвага хутара, выпадкова сустрэў на дарозе Юзіка. Той, запыханы, бег з лесу дахаты. Яму карцела расказаць бацькам, як Гардоны цешыліся таму маломy слоічку мёду, які маці перадала для іх разам з ежай. Пасля доўгай нуднай зімы маленькія Лібачка з Абрамам зусім аслабелі. Іх празрыстыя худыя тварыкі, на якіх блішчэлі сумныя, невясёлыя вачаняты, выклікалі шкадаванне. І калі Стась расказаў дома пра іх кепскі выгляд (а браты бегалі ў лес па чарзе, каб менш мільгаць перад чужымі вачамі), маці завохкала і дастала аднекуль з шафы слоічак мёду, прыпасены для самай пільнай патрэбы.

— Стой! — спыніў Юзіка паліцай. — Куды ляціш? Адкуль?

Хлапчук рэзка спыніўся. І хоць у галаве яшчэ круціліся прыемныя згадкі, адразу напаструніўся.

— Дахаты, — адказаў Юзік і чамусьці апусціў рукі па швах. — Есці хачу. Бегаў у лес, глядзеў, можа, дзе пятлю на зайца паставіць. Гойсаюць паўсюль, яблынькі грызуць.

— А-а, — паблажліва працягнуў Вырвіч і падышоў да малога бліжэй. — Ну, бегай, бегай. Пакуль зайца возьмеш, можа, цукерак хочаш? — і запусціў руку ў кішэнь штаноў.

Юзік зглытнуў сліну, якая аднекуль узялася ў роце, і ўтаропіўся ў кішэнь.

— Дык чаго маўчыш? Цукерак хочаш ці не? — вывеў яго з утрапення грубы голас Мішкі.

— Угу, — прагаварыў Юзік.

— Ну, дык так і казаў бы, — лісліва-міралюбіва прагугнявіў паліцай і дастаў з кішэні «падушачкі», якія зліпнуліся ў адзін камяк. Да іх дзе-нідзе папрыліпалі хлебныя крошкі, махорка…

Вырвіч сунуў гэты ком ледзьве не пад нос хлопцу і тут жа адвёў руку назад.

— Забыўся папярэдзіць: цукеркі за так не даюць. Але табе я іх аддам задарма. Кажы, дзе вы хаваеце жыдоў?

Юзік напяўся, скрыпнуў зубамі, але стрымаўся.

— Якіх жыдоў? — нібыта не зразумеў малы. Не ведаю я ніякіх жыдоў.

— Ну, тады і цукерак няма, — працяжна прагаварыў паліцай і засунуў салодкі камяк назад у кішэню.

Юзік не зварухнуўся.

— Пятлі на зайцоў будзеш ставіць, можа, і жыдоў убачыш. Шапні мне, я тады праз нейкі час прыйду, — Вырвіч пасунуўся далей, відаць, да іншых хутароў…

Прыбегшы дахаты, Юзік усё расказаў бацькам.

— Нешта западозрыў, злыдзень. Не дасць ён нам спакою, — сказаў Фляр’ян. — Трэба ратаваць Гардонаў.

— Што ж рабіць? І так пад зямлёю сядзяць як праклятыя, свету белага не бачаць, — уздыхнула Марыля. — Куды ж ім дзецца?

— Трэба ісці зноў, далей адсюль.

— Дык як гэта зноў застацца без вугла, без ежы, без цяпла?

— Галоўнае — выжыць. Нічога, сяк-так перазімавалі, вясны прыждалі. Дадзім ім з сабою харчу на першы час, колькі зможам. Ды і зазелянее неўзабаве ўсё, будзе што ў рот укінуць, — разважаў Фляр’ян. — Дасць Бог, усё неяк уладзіцца…

У тую ноч Фляр’ян сам выправіўся ў лес, да зямлянкі Гардонаў. Размова мусіла быць сур’ёзнай.

— Разумееш, Давід, баюся, не будзе вам тут больш спакою. Мабыць, паліцай нешта пранюхаў. Высочваць будзе… Ды і пацяплела ўжо, сонца прыгрэла. Хутка людзі па лесе пачнуць хадзіць. Чаго добрага на будан напарацца. А людзі розныя бываюць…

— Мы вам верым, — нячутна падышла да мужчын Голда. — Як сабе. Нават больш, чым сабе. Калі вы кажаце, што трэба ісці — мы пойдзем.

Давід з удзячнасцю паглядзеў на жонку.

— Беражыце дзетак, — сказаў Фляр’ян і замілавана, па-бацькоўску паглядзеў на малых, якія спалі непадалёк. — Яны павінны жыць...

Давід праводзіў Фляр’яна ледзь не да хаты. Ішлі, раіліся, што і як рабіць далей, прыгадвалі даваеннае жыццё:

— Не ведаю, што я рабіў бы, калі б не ты, Фляр’ян. Загінулі б мы...

— Бог даў — выжылі. Нічога, і далей усё абыдзецца. Ніколі не варта губляць надзеі, — сказаў Фляр’ян. — Жыве надзея — жыве чалавек, — і, крыху памаўчаўшы, сумна ўсміхнуўся, успомніўшы выпадак са свайго даваеннага жыцця: — Я тады, Давід, таксама спадзяваўся. На цябе.

Гардон прыпыніўся, усхваляваным голасам спытаў:

— Калі тады?

— Калі замест медзякоў золатам з табой разлічыўся. Памятаеш?

— Калі тое было?

— Значыць, забыўся… Даўнютка тое было, да вайны яшчэ. Паехаў я тады на кірмаш. Крыху выпіў, захмялеў. Залатыя манеты з сабою ўзяў, каб на польскія злотыя размяняць. Ды зайшоў нечага ў тваю лаўку. Не памятаю ўжо, што я ў цябе за тавар узяў, а ты, цябе Голда паклікала, сказаў, каб я паклаў грошы на прылавак, а сам пайшоў да яе ў бакоўку. Ну, я золата замест медзі — плясь, і ў двор, да каня. Толькі ў дарозе, працверазеўшы, агледзеўся. Думаў, звар'яцею, гэта ж на тую залатоўку столькі гарбаціўся. Падумаў, што з воза ўпала — тое прапала, але ўсё-такі вярнуўся. А можа… Пакуль ехаў, чаго толькі не перадумаў. Зайшоў у лаўку, а ты стаіш, ківаеш галавой ды кажаш: «Ой, Флёрка, дзе ж была твая галава? Ты што, гэтак усюды разлічваешся?.. Я ўжо людзям наказваю: «Хто ўбачыць таго Флёрку з хутара Гараваткі, хай скажа, што галавой трэба думаць, а не чым іншым. Хай едзе да мяне ды забярэ свае грошы…»

— Дальбог, не памятаю, — разгублена прагаварыў Давід. — Можа, і з табой так было. З Вінцусём Шчасным з Пятровіч, помню. Той у мяне ў лаўцы кашалёк з грашыма забыў, дык жонка чуць не з'ела: «Прапіў!..» Ці Фэлька Чорны. Плакаў, што ўкралі грошы на базары. Так і ўкралі! Таксама ў мяне забыў, дакладней, выпалі з кішэні дзіравай. Наказаў яго бацьку: «Купі нітак, іголку, зашый сыну кішэнь!..»

Ён крыху памаўчаў, потым уздыхнуў:

— Ты мяне не за гэта ў хату ўпусціў? Не за гэта не даў загінуць маёй сям'і?

— Не, Давід, бронь Божа, не таму, — сказаў Фляр'ян. — Хоць, кажуць, і трэба за дабро дабром плаціць. І ласкі тваёй я давеку не забудуся. Як жа не ўпусціць, калі ў чалавека гора яшчэ большае, чым у мяне?

— Слухай, Флёрка, а ўсё ж свет — не без добрых людзей, га? Хаця і не без кепскіх. Вунь, як немцы прыйшлі ў Дунілавічы, мой сусед Мікола прыйшоў у маю хату і сказаў: «Аддай, Давід, мне свой гадзіннік, ён табе ўсё роўна больш не спатрэбіцца!..»

— І аддаў?

— Аддаў.

— А ён што?

— Забраў і пайшоў.

— Н-да-а, — няпэўна сказаў Фляр'ян. — І тут нічога не зробіш. Людзі — розныя…

Мужчыны замоўклі. Думалі кожны пра сваё, а можа, і пра адно — пра чалавека, пра вайну, пра сумленне…

— Дзякуй табе, Фляр'ян, за ўсё. Няма такіх слоў на гэтым свеце, каб аддзячыць табе. Але калі буду жывы…

— Не трэба, Давід. Скажу табе так: я стараўся па-людску жыць і далей так буду. А вы пільнуйцеся, глядзіце адно аднаго і, дасць Бог, усё будзе добра. Перажывём гэту трасцу. Пераможам.

Фляр'ян моцна абняў Давіда:

— Ну, з Богам. Бывай, братка!..

Назаўтра Гардоны рушылі далей, у мядзельскія лясы. А Фляр'ян застаўся з сям'ёй на хутары. Яны, гэтыя людзі, так ніколі больш і не ўбачыліся. Перажылі яшчэ шмат гора і нягод, але — выжылі, бо свет сапраўды не без добрых людзей…



Міхаіл ЛЕРМАНТАЎ

# ЛІЦВІНКА

*Аповесць*

***Прапаную чытачам «Полымя» свой пераклад паэмы геніяльнага рускага паэта Міхаіла Юр'евіча Лермантава «Ліцвінка», у якой з незвычайнай страснасцю і рэалістычнасцю адлюстраваны крывавыя моманты нашай гісторыі, чым яна і прывабіла мяне, хоць напісаў ён яе, калі было яму толькі 18 гадоў. Дзеянне гэтай паэмы адбываецца прыблізна ў канцы XV— пачатку XVI стагоддзя каля руска-літоўскай мяжы і, можа, нават каля майго старажытнага Гарадка. Героі паэмы — горды і магутны рускі баярын Арсень і яго паланянка ліцвінка Клара, якая з'яўляецца шчырай патрыёткай і абаронцай сваёй радзімы, чые пранікнёныя песні выклікаюць у яе моцныя патрыятычныя пачуцці. Перакладаў я гэтую паэму лёгка і натхнёна. Рука нібыта сама лётала над аркушамі паперы. І спадзяюся, што мой пераклад гэтай паэмы знойдзе нямала ўдзячных чытачоў.***

Уладзімір СКАРЫНКІН

**1**

Чый гэта хорам на гары крутой
Малюецца з зубчатаю сцяной?
Нязменны цар сінечы палявой —
Што беражэ ён цвёрдасцю сваёй?
Хто цёмным зводам давяраць прывык
Шэпт малітоўны і вясёлы крык?
Імя магната назаву я вам:
Быў як Арсень вядомы ён сябрам
І ворагам зайздрослівым сваім
І ганарыўся іменем такім.
Яго правы аспрэчваць не пасмеў
Яшчэ ніхто — ён болей не хацеў!
Не ведаў ён суда і ўладара
І рэдка выязджаў куды з двара.
Магнат багаты і славуты вой —
Ён цешыць слых бязладнай гаманой
З суседзямі сваімі не любіў,
Бо недаверлівым, зацятым быў.
Ён нават ласкай госця прыніжаў,
Хоць, можа, сам таго не заўважаў,
Бо кіраваць натоўпам з першых дзён
Свайго жыцця змог навучыцца ён.

**2**

Любіў з гадоў юначых мой герой
Як ложак асалоды, так і бой.
Калі гучаў удар яго мяча
І чырванню гарэла апанча,
Бег ад яго татарын і ліцвін.
Быў часта варты войска ён адзін!
У ранах цела ваяра было,
А ганарлівае яго чало,
Як упрыгожанне, як амулет,
Перасякаў літоўскай шаблі след!

**3**

Калі з вайны дамоў ён завітаў,
Дык вусны жонкі цалаваць не стаў.
Ён не прывёз парчы ёй дарагой,
Адбітай у татаркі качавой,
Ні жэмчугу, ні дарагіх спадніц,
Ні залатых бліскучых завушніц.
Пра тое, што ў чужых краях рабіў,
Ён роднай жонцы расказаць забыў.
Зацяты і маўклівы паладзін
Не ўспомніў нават, што ў яго ёсць сын.
І вочы вернай жонкі ў момант той
Пакутліваю бліснулі слязой.
Але раней, чым выцечы змагла,
Слязой пакут ужо яна была.
Ён здрадзіў ёй, бо толькі асалод
Ён прагнуў і зямных узнагарод.
Хмурынкі ў небе, быццам хадакі,
А ў вольным сэрцы шал найтрапяткі.

**4**

Два дні мінула — жонкі маладой
І след прастыў; з бабуляю адной
Яна рашыла збегчы найхутчэй
У манастыр — падалей ад людзей
(А, значыць, не бліжэй і да нябёс).
Малітваю там будзе іхні лёс!
Але, хоць ёй абрыдзеў гэты свет,
Забыць таго, хто столькі зім і лет
Дарыў ёй асалоду і святло,
Забыць адразу сэрца не магло.
Ён здрадзіў ёй! На жаль! Але чаму
Адпомсціць трэба помстаю яму?
Журбу ахвяры беднай і закон

Пераступіў для новай страсці ён.
Каб дагадзіць літвінцы маладой,
Палонніцы з зямлі для нас чужой,
За пару цёплых і салодкіх слоў
З няшчырых вуснаў быў Арсень гатоў
Ахвяраваць, каб дагадзіць тым ёй,
Айчынай, дзецьмі, жонкаю сваёй!

**5**

Чырвонае свяціла праз туман
Садзіцца ганарліва за курган.
І, завяршаючы дажджлівы дзень,
Па долах слізгае яго прамень,
Нібы халоднае яго святло
Ўпрыгожыць свету змрочнае чало.
У хуткім часе ён з даліны знік,
І церам, і гары высокай пік
Сваім святлом апошнім азарыў,
І полымя халоднае разліў
Па яркіх вітражах святліцы той,
Дзе так нядаўна з радасцю жывой
За столікам маленькім ля акна
Чакала мужа жонка дацямна.
Дзе сын з матуляю? На месцы іх
Сядзіць дачка палёў і гор чужых,
Разлучаная з вотчынай сваёй.
Разладжаная лютня перад ёй.
І абарваная яе струна
Вячэрняю зарой азорана.
Стамілася ліцвінка ад агід...
І вочы вабныя, нібы блакіт,
На захад скіраваны, дзе зара
Не дагарэла, — да свайго двара,
Да вотчыны любімай, дарагой!
Там бард і вой паклоны білі ёй!
Там не пасмеў бы аніхто сказаць
Нахабна ёй: «Хачу цябе кахаць!..»

**6**

Яна кахаць з пакорнасцю нямой
Таго цяпер павінна, хто вайной
Стаптаў усе палі яе бацькоў;
Ёй трэба гукамі няродных слоў
Выказваць і каханне, і адчай
І ўпотай згадваць пра бацькоўскі край.
Яна павінна грудзі прымушаць
І хваляваца часам, і кахаць,

Тлумачыць страсцю слёзы, што з вачэй
Цякуць парой у цемрадзі начэй.
Імітаваць каханне кожны раз
Ёй трэба... але помсты прыйдзе час!

**7**

Вячэра на сталах, рабы шумяць.
Лампады ў пышных залах зіхацяць.
У срэбраным каўшы кіпіць віно;
Арсень, прывыклы да яго даўно,
Бурштынныя струмені прагна п’е,
Каб утапіць сумненні ў іх свае.
Піць, весяліцца і спяваць загад
Дае палонніцы яго пагляд —
І смех, і ўсмешка вуснаў маладых
Падманваюць яго гасцей усіх.
І, верачы наіўна ўсмешцы той,
Арсень ліцвінку прытуліў рукой.
І пасмы залацістых валасоў,
Што руж духмяней і мякчэй шаўкоў,
На грубы твар, пазначаны вайной,
Скаціліся з ліцвінкі ў момант той.
«Скажы, ты праўда пакахаў мяне, —
Ліцвінка запыталася, — ці не?»
«Што за пытанне? — ён ускрыкнуў. — Лёс
Так захацеў, каб безліч гора знёс
Я з-за цябе і безліч бед спазнаў.
Скажы, хто так цябе яшчэ кахаў?
І, чалавек, няўжо я мог абняць
Цябе, калі б не здолеў пакахаць?
Ты жартамі мяне не спакушай.
Зямны гам пекла для мяне, а рай
Ля ног тваіх! Калі ты не са мной
І рук маіх не кратаеш рукой,
Дык для мяне ўсё роўна — ці палац
Перада мной, ці з шыбеніцай пляц.
Пяшчотны, ціхі ля тваіх грудзей —
Я дзікі, грубы для другіх людзей.
Я, як дзіця, гатовы кожны дзень
Чалом схіляцца да тваіх калень —
І водар вуснаў маладых тваіх
Прыемней мне за тытунёў усіх.
Ты ўказы нам народжана даваць —
І гэта мне няцяжка даказаць.
Я твой, на шчасце, а не лёсу раб.
Мо недастойны, ды павер мне, каб
Мяне стварыў бы нехта, а не Бог,
Цябе ў свет гэты б ён паслаць не мог».

**8**

«О, каб мяне кахаў ты сапраўды, —
Схіліла Клара галаву, — тады
Я не жыла б у цераме тваім.
Ты кажаш, што ён мой. А што мне ў ім?
Багаццем дзіўным, гордай вышынёй
Вачам ён любы, але ён не мой.
Тут воды ў чыстую раку цякуць,
Але яе не Віліяй завуць.
І вецер, што тут гойдае траву,
Мне песень не прыносіць пра Літву.
Без волі і не ў роднай старане
Твае дары навошта, рускі, мне?»
Пагарды не хаваючы і зла,
Пагляд ад князя Клара адвяла.
Арсень панурым, нерухомым стаў,
Бо ён бы волю толькі не аддаў,
Каб атрымаць хаця б адзін пагляд
Вачэй прыгожых, чыя сутнасць — яд.

**9**

Што там за госць у цемрадзі начной
Грукоча ў браму дужаю рукой?
І вартаўнік, прачнуўшыся, крычыць:
«Хто там?» — «Прашу я браму адчыніць.
Ноч цёмная — і бура з усіх сіл
Раве, як звер, і крые небасхіл:
Пусціце нас хоць на нядоўгі час,
А заўтра зранку мы пакінем вас.
Але ў малітвах праведных сваіх
Павек гасцінны дах палёў чужых
Мы не забудзем!» Вартаўнік не стаў
Адказваць, ды замок заскрыгатаў
І гучна загрымеў цяжкі затвор.
Раскрыліся вароты — і на двор,
Азораныя яркім ліхтаром,
Заходзяць два бадзягі. Пад крысом
Плашча шырокага штосьці зіхаціць
У кожнага і ціхенька звініць.

**10**

Арсень іх запрашае да стала,
І вось ужо размова загула.
Але бадзягі, на вялікі жаль,
Гавораць мала і не п’юць амаль.
Адзін з іх найпрыгожы, малады,
Другі сухі, гарбаты і худы.

І зразумела, што яго язык
На іншай мове размаўляць прывык.
Больш смелы быў малодшы з тых гасцей.
Ён ад ліцвінкі не адвёў вачэй.
Але тым вечарам яго пагляд
Мог насцярожыць некага наўрад.
Але для Клары не чужым было,
Відаць, яго высокае чало!
Магчыма, ён ёй аб мінулых днях
Нагадваў штосьці! Не жаночы страх
Прымусіў Клару ўздрыгнуць, уздыхнуць
І галаву паспешна адвярнуць,
А вочы белай засланіць рукой,
Што здрадліваю бліснулі слязой.

**11**

«Ты пабялела, Клара? Што з табой?» —
«Я хворая!» І ў свой пайшла пакой.
Акно адкрыла, села перад ім,
Каб асвяжыцца водарам начным.
Туман у полі, а ўдалечыні
Міргаюць адзінокія агні.
І толькі ветру подыхі адны
Шумяць і слізгацяць уздоўж сцяны.
Сабачы брэх і вечаровы звон
Разносіць па палях вакольных ён.
Іх чуе Клара. Думак і трывог
Змясціць нямала розум Клары змог.
О! Каб хто-небудзь мог убачыць з вас
Яе трывог палову ў гэты час,
Дык ён бы ўзважваць іх павек не стаў
І на сябе ўвесь іх цяжар усклаў,
Каб зноў яе шчаслівае чало,
Як колісь, выпраменьвала святло
І каб зайграла чырвань на шчаках
Вясёлкаю ў вячэрніх воблаках...
Што так магло яе расхваляваць?
Вандроўнікі, што леглі спачываць?
А мо ўспаміны пра свой родны кут
Яе душы прынеслі шмат пакут?
Што ў час апошні неба ёй дало,
Суцэльнай мукай для яе было.

**12**

Рассунуў месяц хмары над гарой,
Як херувім — варожых духаў рой,
Як радасныя згадкі, неўпрыкмет

Ад сэрца гоніць боль мінулых лет.
Ён раўнадушны сведка тайных спраў,
Якія дзень пазнаць не пажадаў,
А змрок — схаваць. Вандруе паміж хмар
Ён як нябесных стэпаў валадар.
Абмаляваў ліцвінкі юны лік
Яго прамень і праз акно пранік
У спаленку палонніцы ўначы,
Бляск незвычайны шклу надаючы,
І азарыў падлогу і дыван,
Што вытканы рукамі персіян.
Ды што за гук раздаўся за сцяной?
Працяглы стогн, народжаны журбой,
І нагадаў ёй песню... Мог вось так
Спяваць ёй надта дарагі спявак.
Хто так спявае дзіўна за сцяной,
Палонніца пазнала! Гэта той,
Хто позіркам пахмурным і чалом
Ёй нагадаў пра родны край і дом.
І з мараю нязбытнай ля акна
Ўначы сядзіць і думае яна:
Так соладка ў адной Літве пяюць!
Мяне ліцвіны ў родны край завуць!
І песня адгукаецца ў грудзях
Ліцвінкі марай аб шчаслівых днях!

**13**

Мінулае гучала ў песні той,
Як вольнасць — вольнай, простай і святой.
У песні той палонніца знайшла
Ўсё, чым радзіма для яе была.
Ды ў песні гэтай чуўся і папрок,
Што апынулася тут незнарок.
Усё, што ганьбу гонару магло
Прынесці, у напеве тым было.
Не ведаючы, ў чым яе віна,
Яна схапіла лютню, і струна
Звініць, звініць... Ліцвінка песні той
І голасам туруе, і душой.
Але, на жаль, праз некаторы час
Памерла песня нечакана ўраз,
Бо зразумеў той, хто яе спяваў,
Што Бог жывое пачуццё нам даў.
Ды надта для зямлі стварыў нас Бог,
Каб хтось запомніць тую песню мог.

**14**

Зара ўзышла — і ад нябёс наўскрай
Сцяной зубчастай аддзяліўся гай.
Але чаму ля брамы вартаўнік
У звон не б’е, нібы кудысьці знік?
Чаму ён не абходзіць панскі дом?
Няўжо ён спіць? Ён спіць, ды вечным сном!
Валяецца завала побач з ім.
І рот, і пальцы сцяты назусім.
На валасах сівенькай барады
Застыла кроў старэчы назаўжды.
Прыбегла купка баязлівых слуг.
З адчаем і бяздзейнасцю наўкруг
Вартаўніка, што згінуў без віны,
Паўсталі нерухомыя яны.
І кожны спачуваннем палымнеў.
Ды хто забойца? На каго свой гнеў
Абрынуць, аніхто не ведаў з іх,
Бо сведкам стаць не змог падзей начных.
Чыя не здрыганулася рука
Над сэрцам хілага вартаўніка?
Хто ў двор спусціў з высокага акна
Вузенькую палоску палатна?
Чый пояс затаптаны і чыёй
Маленькаю жаночаю нагой?
Вандроўнікі падзеліся куды?
Астылі Клары, як і іх, сляды!

**15**

Амаль да вечара Арсеню, што
Ўцякла ліцвінка, не казаў ніхто.
Ды ў рэшце рэшт сказалі: ён маўчаў,
Хацеў устаць, ды нерухомым стаў.
Як ідал мармуровы той ці як
З вачамі незакрытымі мярцвяк,
У крэсле нерухома ён сядзеў,
Халодным позіркам кудысь глядзеў.
Затым самкнулася яго рука
І люты гнеў сарваўся з языка.
Яго прамова клятваю была,
Аднак уразіць дворню не змагла.
Хоць ён яе на роднай мове даў,
Ды як далёкі гром прагрукатаў.

**16**

Змарнеў Арсень зусім, ды з цягам дзён
Зноў бачыць, чуць і разумець стаў ён,
Але душа ягоная, журбой

Працятая, была ўжо нежывой.
Ён пратураў з яе сваю любоў,
Але яна яго вяртала зноў
Да тых мінулых незваротных дзён,
Калі такі быў закаханы ён.
Якая ўлада можа ад душы
Пакутлівую частку адсячы?
Хоць з ночы той нямала дзён прайшло,
Было нязменным воіна чало.
І навальніца нават не магла
На колер паўплываць яго чала.
Не ведаючы, як адвесці, знёс
Ён мужна ўдар, які суровы лёс
Яму нанёс. Не выдаваў і твар,
Які ён лёсу атрымаў удар.
Ды язве той, якою пагарджаў,
На жаль, дагэтуль рады ён не даў,
Бо Клару перажыць ён, далібог,
Так, як і здрадзіць ёй, ужо не мог.
Хоць ён людзьмі заўсёды пагарджаў,
Як збегла Клара, ён вар'ятам стаў.
Разумны, смелы, з сэрцам агнявым —
Ці ж мой герой зрабіцца мог другім?

**17**

Ёсць прыцемкі душы, адбіткі зла,
Калі няма ў ёй змроку ні святла,
Калі яна не можа зразумець,
Што лепей для яе — жыццё ці смерць.
Не трэба спаганяць на небе злосць,
Бо ўсюды ёсць журба і весялосць,
Бо шмат імгненняў дзіўных і пакут
Спазнаюць нашы душы там і тут,
Пакуль сусвет наўкол не гляне так,
Нібы на смерць асуджаны бядак,
Што з жалем азіраецца назад,
Пакуль яму пятлю рыхтуе кат.
Аднак у бездані марской вады
Губляюцца і грозных хваль сляды.
Апалы ліст не заквітнее зноў!
Ёсць дэман, што не прызнае асноў
Жыцця людзей, іх радасцей зямных
І дорыць нам іх на якісьці міг,
Каб лёсу ўдар нас паразіў хутчэй.
Як вораг ісціны і ўсіх людзей,
Наш дух слабы больш жорсткім робіць ён,
Пакуль не знікнуць беды ўсе, як сон,
Усё, што мы шануем толькі раз,
І ўсё, за што ён ненавідзіць нас.

**18**

Вялікі князь зноў у паход пайшоў.
Яго дружыны пагражаюць зноў
Дубровам і палям краіны той,
Якая называецца Літвой.
Абараняючы свае правы,
За вольнасць б'юцца воіны Літвы.
І дзюбы птушак і клыкі ваўкоў
Слізгочуць па касцях яе сыноў.

**19**

І ў рускі стан асеннім шэрым днём
Прыйшоў адзін, без слуг сваіх, пяшком
Негаварлівы і зацяты вой,
Вядомы дзёрзкай храбрасцю сваёй.
Ужо даўно ён шчыт свой і шалом
Не паднімаў. Ды з чым — з дабром ці злом —
З'явіўся ён? Не край радзімы свой
Хацеў рукой абараніць той вой.
З варожых сэрцаў марыў ён даўно
Сваёй рукою паразіць адно.

**20**

Уздоўж рачных пакатых берагоў
Шум і выццё разносіць вецер зноў!
На полі ратным цвет сваіх дружын
Звялі сягоння рускі і ліцвін.
І неба купал ад блакітных ніў
Усход барвовай рысай аддзяліў.
Цямнее і чарнее небасхіл,
Разносіць вецер і пясок, і пыл.
Бой не сціхае. Гнецца рускі строй,
Акружаны нястрымнаю гурмой.
Ды з поля бою ён не сігануў,
Бо крыкам вой яго назад вярнуў,
Абгорнуты малінавым плашчом,
Шчыта не меў ён і згубіў шалом.
Узброены сякераю адной,
Але затое вострай і стальной,
Ён нечакана ўзнік — і ворагі
Зноў валяцца. Вось першы, вось другі
Ўпаў побач з ім з крывёю на губах.
Сыноў Літвы абняў таемны страх.
І пешы вой, і той, хто на кані,
Не верацъ больш ужо ў сябе ані.
Хацелі перамогу атрымаць,

Але цяпер прымушаны ўцякаць.
Аднак, і азірнуўшыся назад,
Яны цяжкіх удараў сыплюць град.

**21**

Арсень быў смелы і рашучы вой
І вырашыў у рэшце рэшт крывёй
Агонь, што ўспыхнуў у грудзях, заліць.
Ён ненавідзіць свет, каб не любіць
Адно стварэнне! Кучы мерцвякоў
Валяюцца навокал без шчытоў.
І шчасцем бліскае пагляд яго:
Ён зрыне злосць на ворага свайго!
Арсень ішоў наперадзе сваіх,
Як метэор між аблачын начных;
Калі ж заўважыў ён, што быў адзін
Сярод варожых — не сваіх — дружын,
Было ўжо позна! — «Бачу, час настаў!» —
Падумаў ён, і меч яго шукаў
Апошнюю ахвяру. «Гэта ён!» —
Пачулася за ім, нібы праклён.
Арсень зірнуў назад і ўжо хацеў
Праклянцце вымавіць, ды не паспеў.
За ім стаяла Клара ў шышаку,
Узняўшы ўгору з шабляю руку.
За Клараю стаялі юнакі.
Паглядамі і рухамі рукі
Яна даваць загады ім магла
І лёсам іх, здавалася, была.
Калі Арсеня ўбачыла пагляд,
Яна вачэй не адвяла назад
І нават не збялела ў момант той.
Яна ўзмахнула белаю рукой
І загадала ваярам: «Надзей
Не будзе ў нас, пакуль пралюбадзей
Не згіне і на ўцёкі перад ім,
Як баязліўцы, мы не пабяжым.
Хто першы мне яго пакажа кроў,
Таму мая рука, мая любоў!»

**22**

Арсень пагляд пыхлівы адвярнуў,
Калі суровы прыгавор пачуў.
«І ты супроць мяне?» — ускрыкнуў ён.
Прысуд быў гэты, як жахлівы сон.
Як быццам сэрца лепшую струну
Хтось раптам абарваў. І не адну.

Пагардліва расстаўшыся з мячом,
Марудна абгарнуўся ён плашчом,
Каб аніхто пасля не мог пасмець
Сказаць, што ён сустрэў, збялелы, смерць.
Тры дзіды пракалолі ваяра,
Якому адпачыць было пара
І ў кім бароліся дабро і зло,
Але нарэшце зло перамагло.
Як цар дубровы, горда ён упаў,
Не ўздрыгнуў, не зірнуў, не закрычаў.
Нікому ён не выказаў дакор —
Дастойна, горда знёс свой прыгавор.
Не памаліўся нават, бо душой
Ён апярэдзіў век шчаслівы свой,
Бо ў сэрцы і ў душы яго жылі
І неспакой, і боль за лёс зямлі.
І рай, і пекла тут ён адшукаў
І ні за што свой лёс не папракаў.

**23**

І апусцеў яго высокі дом.
Нікога не частуюць там віном.
Там двор зарос зялёнаю травой,
І пыл пакрыў пялёнкаю густой
Іконы, стол дубовы, дываны.
Нікому не патрэбны больш яны.
Падлога ў ім не рыпне пад нагой
Красуні хітраватай, маладой.
І меч, што ў срэбных ножнах на сцяне
Вісеў, ніколі ўжо не бліскане,
Як і шалом. Цяпер яны ляжаць
У полі тым, дзе раць ішла на раць.
Затое ў спальні Клары ля акна
Ўсё тая ж лютня, і адна струна
Вакол яе абвіта, як тады,
У тыя невясёлыя гады.
На мяккім крэсле, быццам дзень назад,
Ляжаць яе сукенка і халат.
І гэтак, як калісьці, уначы
Гуляе вецер з полагам з парчы,
Калі нясціплы месяц малады
Заглядвае праз кісяю сюды.

**24**

Царква ў манастыры ёсць, у якой
На тыдні раз за вечны супакой
Малітвы чуюцца. І ў гэты дзень

Там памінаецца ваяр Арсень.
Там труны ёсць з выявамі гербоў
Яго бацькоў славутых і дзядоў.
Але павек не будзе паміж іх
Труны таго, з кім род славуты знік.
Ні дзёран і ні пышны маўзалей
Не абцяжарваюць яго касцей.
Яго аплаквае цяпер адна
Манашка маладая. Хто яна?
Чаму аплакваецца ёю той,
Хто пры жыцці прынёс шмат гора ёй?
Ён не кахаў яе, не шкадаваў.
Ён нават быць каханым не жадаў.
Ён шмат ёй гора і пакут прынёс.
Але ж ці лепей паступіў з ім лёс?
Ды як не плакаць ёй па ім, калі
Яго так бессардэчна правялі?
Тут недарэчы ганьба і праклён,
Хоць і, на шчасце, не ўваскрэсне ён,
Бо разлюбіць не можа смерць сваю
Уладу неабмежаваную.
У трэшчыне развалін іншы раз
Расце бярозка, быццам напаказ,
І шэры неабчэсаны граніт
З бярозкай гэтай мае лепшы від.
І той, хто любіць тут адпачываць,
На жаль, не можа ёй не спачуваць.
Адданая бязлітасным вятрам,
У рэшце рэшт яна завяне там.
Але ні дождж, ні ветраныя дні
Бярозкі не аголяць карані.
І пыльны ліст світальнаю парой
Трапеча на галінцы маладой.

***Пераклад з рускай***
***Уладзіміра СКАРЫНКІНА.***



**Уладзімір ЛІПСКІ**

# СОНЦА НАД ГАЛАВОЙ

*Лісты да ўнука[1]*
*(год чацвёрты)*

**105**

Едзем з табой на «асіпедзе».

Як едзем?

Ты закідваеш нагу, я падцягваю цябе да сядзення. Ты пакручваеш ручку, як бы заводзіш, уключаеш газ. Фыркаеш, я пачынаю папіхаць, і веласіпед набірае хуткасць.

Раптам ты падаеш каманду:

— Стой, дзедуська!..

Прыпыняемся.

Ты борздзенька саскочыў з веліка, утаропіўся ў высокую траву. Узіраюся і я туды. Лётае там блакітны матылёк, нібы вялікая, рухомая незабудка.

Што ведаю, расказваю табе пра матылька, а ты не зводзіш вачэй з яго. Убачыў упершыню прыроднага вандроўніка. Відаць, дзівішся і зайздросціш, што ён, маленькі, а ўмее лятаць, умее сядзець на кветачцы. О, зусім блізенька падруліў да цябе, кружыць наўкол. І яму цікава, што гэта за хлопчык аб'явіўся каля яго кветак.

Пацешыліся сустрэчай з мытыльком, можам ехаць далей. Але ты прыкмеціў у лужыне дажджавога чарвяка. Ружовы шнурочак, як на тваіх чаравіках, ды жывы. Поўзае, звіваецца, фокуснічае ў вадзе. Ты нахіліўся, каб яго злавіць, а ён лоўка ратуецца, уцякае ад цябе.

---

*__Ліпскі Уладзімір Сцяпанавіч__ нарадзіўся 6 мая 1940 года ў вёсцы Шоўкавічы Рэчыцкага раёна Гомельскай вобласці. Скончыў Мінскі тэхнікум харчовай прамысловасці (1960) і завочнае аддзяленне факультэта журналістыкі БДУ (1966). Працаваў на Гарадзейскім цукровым заводзе, у рэдакцыі нясвіжскай раённай газеты «Чырвоны сцяг», у апараце ЦК ЛКСМБ, у Саюзе пісьменнікаў Беларусі. З 1978 года — галоўны рэдактар часопіса «Вясёлка». З'яўляецца старшынёй праўлення Беларускага дзіцячага фонду.*

*Аўтар звыш сарака кніг для дарослых і дзяцей: «Я. Праўдзівы аповед пра твой і мой радавод» (1998), «Мама. Малітва сына» (1999), «Каралева белых прынцэс» (2000), «Бацька» (2004), «Аўцюкоўцы» (1995, 2000, 2003), «Мы» (2006) і інш.*

*Лаўрэат літаратурных прэмій імя Янкі Маўра і імя Аляксандра Грына, Дзяржаўнай прэміі Беларусі (2000).*

[1] Працяг. Пачатак у № 5, 2010 г., № 1—2, 2012 г.

Забавіліся мы каля той дажджавой лужыны, бо пасля ты захацеў яшчэ й праехаць па ёй на сваім транспарце.

Пазней мы назіралі за птушкай сітаўкай, якая лавіла мошак. Цябе здзівіла, што яна вельмі ж хутка бегала па раллі.

І ты зусім быў ашаломлены, калі ўбачыў, як ластаўкі купаліся ў нашай сажалцы. Яны пікіравалі з-за хаты і на ўсёй хуткасці дачыркваліся грудкай да вады. На азярцы заставаліся кругі, як бы пляснуўся карась, а птушкі і след прастываў.

Дарагі Толік, усё, што мы адкрылі з табой тым летнім поўднем, адбывалася пад высокім сонцам. Яно быццам застыла на сваім троне і ўсмешліва цешылася з нас.

З табой я прыгадаў сваё дзяцінства. Дні былі доўгія-доўгія, а сонца высокае-высокае, над саменькай галавой. І было мноства адкрыццяў, як у нас сёння з табой. Дзякуй, Толюсь, што вярнуў мяне ў чароўную казку дзяцінства!

*Застаюся заўсёды твой дзядуля Валодзя.*
*6.07.2008 г. (нядзеля)*

**106**

Мілы мой Толік!

Мне даручылі каравуліць твой сон. Набегаўся. Нашчабятаўся. Насоўгаўся на сваіх машынах. Надапамагаўся дарослым. Стаміўся.

Спіш соладка.

А над табой, пад дахам дачнай хаты, вісіць высокае сонца. На ім учора было зацьменне. Рэдкая з'ява! Ды я прапусціў яе, як, напэўна, і ты. Не хочацца нам з табой, каб сонца засцілала чорнае покрыва. На тое яно і свяціла, каб свяціць, саграваць, абнадзейваць усіх нас.

Спі, мой хлопчык, налівайся, каласок, а я паспрабую скласці табе сваю малітву:

«Навучы, Божа, нашага Толіка не баяцца грому, пчол, камароў, сабак. Ад іх можна і схавацца, і ўратавацца.

Навучы, Божа, каб наш Толік баяўся хлусні, падману, гультайства, абжорства, распусты. Яны як іржа раз'ядаюць душу і цела.

Навучы, Божа, каб нашаму Толіку заўсёды хацелася бачыць матылька на кветачцы, ластаўку ў палёце, расіцу на траве, агонь у печы, вясёлку на небе. Хай усе адкрыцці не расчароўваюць яго, а радуюць, загартоўваюць, акрыляюць.

Навучы, Божа, каб наш Толік не пераймаў звычкі ў тых, хто спакусіўся тытунём, наркотай, гарэліцай, лёгкім жыццём, махлярствам, іншым дурманам, якія мосцяць чалавеку прамую дарогу ў пекла.

Навучы, Божа, нашага Толіка не паліць свае жыццёвыя клеткі абы-як і абы-калі, берагчы нос у мароз, вушы — ад брыдоты, рукі — ад ляноты. Хай усё, што дадзена Табой, Божа, наш Толік скарыстае з розумам, на дабро сабе, сям'і, роду і зямельцы, якая яго натхняе пазнаць чароўны свет жывых. Амінь».

Толік, ты ў дзённым сне раптам рэзка павярнуўся на падушцы, скінуў рукамі коўдру з сябе і закрычаў: «Не!.. Не!.. Не!..» Што прыснілася табе? З кім ты не пагаджаўся? Каго адганяў ад сябе? А можа, нейкімі таямнічымі імпульсамі дайшла да цябе мая малітва і ты адказаў мне: «Дзядуля! Не бойся за мяне!.. Не хвалюйся!.. Не падвяду цябе ніколі!..»

Ты зноў соладка заснуў.

А я ляжу з адкрытымі вачыма і перадумваю сваё жыццё. Ох, Толік, мне здалося, што я толькі-толькі адчуў увесь смак і асалоду зямнога гасцявання. Прашу Бога, каб адтэрмінаваў білет на Неба на далёкія гады. Багата чаго хочацца яшчэ зрабіць, багата што пабачыць, багата чым наталіцца.

Спі, мой каток, а пад акном нас чакаюць твае самакаты. На іх мы зноў паедзем з табой, бадзёрым, адкрываць зямныя цуды пад высокім сонцам.

*Твой дабрадзей.*
*2.08.2008г. (субота)*

**107**

Раскажу табе, Толік, адну крыўду.

Ехалі мы з маім сябрам-паэтам Валянцінам Лукшам на дачу. Маршруткі перапоўнены, і мы вырашылі дабірацца на перакладных. Даехалі аўтобусам да скрыжавання дарог. Адтуль да нашых домікаў — пяць кіламетраў. Ісці спякотай і далекавата, і цяжкавата, і лянотна. Давай галасаваць на папуткі.

І што ж ты думаеш, Толік, трыццаць машын праскочылі міма нас, і ніхто не прыпыніўся. Едуць у сваіх легкавіках паражняком, іншыя з цыгаркай у роце, з гучна ўключанай музыкай. Камфортна ім у легкавушках, а падабраць, падвезці двух пажылых людзей не хапае і мудрасці, і жадання.

Няўжо і ты такім будзеш?

Не верыцца.

Але адзін факцік шрапнеллю ўпіўся ў маю памяць. Мы гулялі з табой на машыне. Прыпыніліся, каб разгледзець жука, які перапаўзаў з адной травінкі на другую. Ды раптам пырхнуў і паляцеў.

У гэты час да нас падышла жанчына з дзяўчынкай. Малая пацягнулася ручкамі да тваёй машынкі. Хацела ці то патрымацца за руль, ці то палашчыць яе, ці то праехаць на ёй. А ты адштурхнуў ручку дзяўчынкі ад сваёй тэхнікі, сказаў, як адкалоў:

— Не дам!..

— Хадзем адсюль, — ціха прамовіла жанчына і сілком адвяла малую ад нас. Яе спакойныя словы балюча кальнулі маё сэрца.

Дзе ж ты, мой хлопчык, у каго з нас навучыўся быць скнарам, скупярдзяем, грубіянчыкам? Чаму ж не зразумеў аднагодку? Навошта адпрэчыў ад сябе кампаньёнку?

Я не стаў пры чужых людзях павучаць цябе. А калі жанчына з дзяўчынкай адышлі ад нас, паспрабаваў даказаць табе, што ты зрабіў брыдка. Ты ж нязменна стаяў на сваім:

— Мая машына!..

Вось так, Талян, двойчы паранены я сёння: няўважлівымі шафёрамі на дарозе і табой, маім улюбёнцам.

На дарозе мяне з паэтам усё-такі падабраў адзін чалавек. Ехаў ён на просценькай машыне. Тармазнуў і з прыветлівай усмешкай запрасіў прысесці да яго. Нават грошай за праезд не хацеў браць.

Пакінь, Толік, надзею, што і ты будзеш спагадлівым да людзей. На гэтай ноце і заканчваю чарговае пасланне да цябе.

*Твой дзядуля.*
*8.09.2008 г. (панядзелак)*

## 108

Мой шустрык!

Прысядзь і паслухай. Раскажу табе пра возера Свіцязь. Як вырасцеш, садзіся ў аўтобус ці сам рулюй і едзь па магістралі Мінск—Брэст. За Стоўбцамі, ад якіх недалёка радзіма народнага паэта Беларусі Якуба Коласа, павернеш направа. Шаша выведзе да Мірскага замка. Праедзеш вуліцамі старажытнага Міра, перад табой адкрыюцца ўраджайныя палеткі. За імі — Карэлічы, раённы цэнтр. А там ужо недалёка і Навагрудак, у якім некалі жылі-былі Міндоўг, Ягайла, Адам Міцкевіч...

Ад Навагрудка хвілін дваццаць язды, і ты — на возеры Свіцязь. Яно — як люстэрка, акаймавана зелянінай дрэў, вялікім блакітным вокам узіраецца ў космас. Мне падалося возера жывой істотай. Здаецца, яно бачыць загадкавую вышыню. Яно ахоўвае наваколле, лашчыць і лечыць людзей, хто давярае сваё цела яго гаючай вадзе. Першае, што я зрабіў ля Свіцязі, абмыў рукі і твар. Свежай даўніной дыхнула на мяне бурштынавая вільгаць.

Уяўляеш, Толік, Свіцязь знаходзіцца на вышыні 242 метры над узроўнем мора. Яго «вока», што ўдаўжыню, што ўшыркі — амаль аднолькава, крыху болей за паўтара кіламетра. Ёсць мясціны глыбінёй да 15 метраў. Там водзяцца шчупакі. А можа, і чароўныя русалкі?

Пра русалак тут ходзяць розныя легенды. Нібыта яны з'яўляюцца ноччу на беразе з доўгімі зялёнымі валасамі. Спрабаваў гуляць ноччу — не сустрэў русалак. Аб'ехаў на лодцы ўсю Свіцязь. Бачыў на глыбіні толькі доўгія зялёныя водарасці. А мо то і былі валасы русалак? Мо яны адпачывалі пасля начных гуляў?

Так гэта ці не, але адну русалку бачыў і любаваўся ёй амаль месяц. Яна, бронзавая, стаіць у вадзе, каля берага і прыгожа ўзіраецца на старажытныя дубы, бярозы і на нас, людзей. Ёй як бы хочацца нешта паведаць нам, вось толькі голас яна пакінула на дне азёрным.

Кажуць, на сподзе Свіцязі ляжыць цэлы горад з жанчынамі. Іх мужы некалі пайшлі бараніць свой край ад чужынцаў. Усе загінулі за Айчыну. А жанчыны так плакалі, што з іх слёз утварылася цэлае возера. І горад з жанчынамі аказаўся на яго дне.

Сяджу, цешуся Свіцяззю. У ёй як бы купаюцца сонца, воблакі, верхавіны дрэў. Па ёй плаваюць дзікія качкі. Яны амаль ручныя, падплываюць да саменькай мелі, чакаюць ад людзей спагады і ласункаў. А два гарадскія хлапчукі кідаюць камяні ў даверлівых, свіцязанскіх качак. Спыняю іх:

— Кідайце не злом, а дабром.

— Як гэта? — дзівяцца.

— Не камянямі цэльцеся ў птушак, а пачастуйце іх хлебам...

Суцішыліся. Задумаліся.

Адзін з іх усё-такі яшчэ раз шпурлянуў камень у возера. Не ў качак кінуў, быццам у мяне. Бач, зазлаваў, што перашкодзіў яму буяніць на Міцкевічавай Свіцязі.

Мой Толік, зразумей, і Свіцязь, і ўся Беларусь — гэта твая спадчына, твая душа. А ва ўсё гэта хіба можна кідаць камянямі?

Шчасце сядзіць у табе пушыстым кацянём. Не пакрыўдзі яго. Не напалохай. Не пашкодзь.

*Дзед-павучальнік, але не твой начальнік.*
*16.10.2008 г. (аўторак)*

## 109

Дарагі Толік!

Твой дзед-яздок нядаўна пабываў у Расіі. Хуткі экспрэс вёз мяне да Масквы 12 гадзін і яшчэ 14 гадзін з Масквы ў глыбінку вялізнай рускай дзяржавы. Так я апынуўся ў горадзе Кіраве, які раней і цяпер называецца Вяткай. Уяўляеш, у тую Вятку некалі сілком ссылалі людзей. Туды ў свой час былі выгнаны Герцэн, Салтыкоў-Шчадрын, многія беларусы, удзельнікі паўстання Кастуся Каліноўскага. Сярод іх — і бацька будучага, сусветна вядомага пісьменніка-рамантыка Аляксандра Грына.

А я, Толік, прыехаў на вяцкую зямлю, каб атрымаць расійскую літаратурную прэмію імя Аляксандра Грына. Ён шмат напісаў кніжак, а дзве асабліва прызнаныя і любімыя чытачамі — «Пунсовыя ветразі» і «Бягучая па хвалях». Іх я чытаў у юнацтве. Перачытваў зусім нядаўна. І кожным разам хмялеў у хвалях высокага кахання, чыстай духоўнасці іх герояў. Толік, прызнаюся табе, не магу паверыць, што мая творчасць, мая праца ацэнена нібы самім Грынам.

У дыпломе адзначана, што прэмію я атрымаў за свае дакументальныя аповесці «Мама. Малітва сына» і «Бацька. Пісьмы на неба». А таксама за шматгадовае служэнне дзіцячай літаратуры і Дзяцінству. Як бы мне цяпер хацелася паслаць тэлеграму на Неба сваім дарагім Маме і Тату. Яны б знайшлі для мяне словы ўцехі, ушанавання і радасці.

Мой курносік, ведаю, ты бязмежна любіш сваіх бацькоў — Марыну і Лёню. Не растраць, не згубі з гадамі гэтае пачуццё. Хай яно мацнее, акрыляецца, каб некалі табе захацелася стварыць ім свой помнік. І каб на ім ты пажадаў выбіць словы Эўрыпіда:

«Той варты зайздрасці,
хто дзецьмі праслаўлены быў».

Хай жа пад гэтымі прарочымі словамі захочуць падпісацца твае дзеці і дзеці тваіх дзяцей.

*З любоўю — Уладзімір Ліпскі.*
*23.10.2008 г. (чацвер)*

## 110

Талюха!

Ну ты й сказануў! На кожным тваім кроку даеш мне «харч» для роздуму і пацехі.

Мама папрасіла, каб я з табой вывучыў вершык. Яго задала дзетсадаўская выхавальніца. Вось ён (па-руску, безумоўна):

Что ты рано, осень,
В гости к нам пришла?
Ещё просит сердце
Света и тепла.

Гуляемся з машынкамі. Я на легкавой катаюся, ты — на самазвале возіш пясок. У час перадыху паміж рэйсамі я нагадваю табе радкі верша. Слухаеш, маўчыш, а я і не патрабую, каб ты паўтараў. Я і так ведаю, што ты ўводзіш у свой «камп’ютар» усе мае словы.

Праз нейкі час занепакоена звяртаюся да цябе:

— Во, Толік, я забыўся, як жа пачынаецца вершык...

Ты здзіўлена пазіраеш на мяне, спачувальна ўсміхаешся і ціха гаворыш на сваёй мове:

— Дзедуська, «сьто ты яна, осень...»

І я ўспрымаю твае словы як дакор свайму бяспамяцтву і таму, што рана прыйшла да мяне жыццёвая восень.

Так вось без павучання і націску мы вывучылі вершык. Калі ты быў гатовы паўтарыць усе радкі на памяць, я сабраў «народ» — Машу і бабулю Ніну. Аб'явіў:

— А зараз выступіць артыст Анатоль Ліпскі. Ён прачытае верш «Восень».

Ты раптам пабег у суседні пакой. Вярнуўся са старым часопісам. Адгарнуў нейкую патрэбную табе старонку і пачаў «чытаць» верш. Толькі цяпер я даўмеў, што аб'явіў цябе няправільна. Трэба было сказаць не «прачытае», а «раскажа» верш.

Яшчэ ты нас усіх здзівіў сваім малюнкам. Упершыню «наваяў» чалавека. Я толькі падказваў табе, што за чым трэба маляваць: галаву, два вокі, нос, рот, два вухі, валасы, шыю, пузік, ногі, рукі! Вось і атрымаўся партрэт.

— Каго ты намаляваў? — пытаюся.

— Дзедуську...

Тваё прызнанне лекавым бальзамам легла на душу.

А калі мы з табой паспалі ўдзень, ты прачнуўся і першым чынам абняў мяне, прытуліўся і прызнаўся:

— Дзедуська, я любу цябе.

Мой слаўны чалавечак, і я ж цябе «любу» шчыра. І хачу, каб гэта Божае пачуццё асвячала тваю жыццёвую зорку, каб табе захацелася назваць яе Зоркай Кахання, Любові.

*Твой назаўжды — Уладзімір Ліпскі.*
*26.10.2008 г. (нядзеля)*

## 111

Дарагі Толік!

Пра цябе Мікола Маляўка склаў вершык. Я паказаў яму тваё фота, якое зрабілі ў садку. Ты — у форме лётчыка: шапка з зоркай, кіцель з пагонамі, гальштук. Тварык натхнёны і сур'ёзны.

Запомні паэтава прысвячэнне. Яно надрукавана ў «Вясёлцы» пад рубрыкай «Фота-ўсмешка».

Толю сняцца самалёты.
Ён спявае: «Мы — пілоты!»
Тры гадкі яму, а ў сад
Ходзіць ён, як на парад.

*Уладзімір Ліпскі.*
*14.11.2008 г. (пятніца)*

## 112

Пішу табе, Толік, позна ноччу. Спіць Мінск, спіш ты, «спяць» і твае любімыя агні над цыркам. А мяне сон яшчэ не звальвае. Я паклаў перад сабой чысты аркуш паперы. Хачу засведчыць некалькі момантаў.

Сядзім з табой за сталом на кухні, хрумстаем твае любімыя вафелькі. І ты раптам прызнаешся:

— Як вырасту, буду татам.

Я не распытваў, якім ты будзеш татам, што будзеш рабіць. Мне было прыемна, дружок, што ты пачынаеш думаць-раздумваць, і ў цябе сур'ёзныя намеры на жыццё.

Выкарыстоўваю твой настрой і прашу што-небудзь намаляваць. Ты гэта робіш ахвотна.

На першым малюнку — чалавек. Галава прадаўгаватая, эліпсам, як кабачок. На ёй — усё, што трэба. Вось толькі вушы нібыта антэны. Дык яны для таго і прыдатныя. А ў вачах ты чамусьці надзюбаў фламастарам нейкія кропкі-зігзагі. Можа, яны ўяўляюцца табе экранамі тэлевізара, на якіх заўсёды павінна нешта мігаць?

На другім малюнку — зялёная машына. Мне яна вельмі ўпадабалася. Незвычайны дызайн, як рыбіна на колах. Імклівая. Элегантная. Можа, табе бачыцца такое аўто ў будучым? Можа, такім хочаш руляваць?

Чыталі кніжку дзеда Васіля, Васіля Віткі — «Чытанка-маляванка». Не ўсё табе, відаць, было зразумелым па-беларуску, але адчувалася, спадабалася рытміка верша — простая, напеўная, займальная. Дзякуй, што ўважліва слухаў. А пасля — ціха заснуў, закалыханы родным словам.

А як прачнуўся, папрасіў, каб я напісаў Дзеду Марозу пісьмо.

— Што хочаш папрасіць у яго?

Ты на секунду задумаўся і адказаў:

— Давай, дзедуська, папросім у яго вялікага каня, мячык, шарык, матацыкл і поезд з вагонамі...

Для чаго табе ўсё гэта?

Ну, раз просіш, значыць, трэба. Без тых рэчаў аніяк не пражыць табе.

Мяне ж кранула крыху іншае. Ты просіш падарункі не ў мяне, твайго дзеда, а ў Дзеда Мароза. Ён у тваім уяўленні больш стары, з барадой, і ў яго абавязак — разносіць падарункі. А я, дзед, патрэбен табе для іншай справы. Ты прапануеш будаваць гараж для машын, тваёй і маёй. Мы вывальваем на дыван будаўнічы матэрыял — даміно, шашкі, шахматы. Пачынаецца займальная гульня...

Стрэлкі гадзінніка, Толік, паказваюць пачатак новага дня, апошняга дня восені.

*Спакойнай ночы, дружок! Твой дзядуля-незаснуля.*
*30.11.2008 г. (нядзеля, 0-43)*

## 113

Толік!

Табе, канешне, усё роўна, што ў свеце пачаўся фінансавы крызіс. Ліхаманяць курсы валют. Нафта стала таннейшай, здабываць яе як бы стала невялікая выгода. А трэба, бо як жыць людзям без нафты.

У цябе свая філасофія.

Хочаш цукерку, але ведаеш, што табе нельга яе есці. Ты выбіраеш з кулька некалькі ласункаў з вясёлымі абгорткамі і гуляешся з імі. Нельга есці, затое можна іх пералічыць, загрузіць на машыну, завезці бабулі гасцінец.

Кажу табе:

— На вуліцы мароз, зіма.

А ты ўдакладняеш, тлумачыш мне:

— Мароз — гэта Новы год. А зіма — гэта снег.

І ты правільна размысліў. А як мне патлумачыць табе, што зімовы месяц снежань не прынёс снегу?

Даю табе фарбы, пэндзлік, шклянку з вадой. Расказваю, як трэба маляваць. Ты пералічваеш кубікі з фарбамі, іх восем, розных адценняў. Ну, здаецца, мастак гатовы. Пытаюся:

— Што ўмееш маляваць?

— Умею «ісюць» машыну, матацыкл, маму...

— А зіму можаш намаляваць?

— Магу!..

Ты макаеш пэндзлік у ваду, наквэцваеш на яго чырвоную фарбу. На белай паперы ўзнікае як бы сонца. І раптам ты пачынаеш вакол яго мазаць чорнай фарбай. Нарабіў чарнаты на ўвесь аркуш. Ад сонца застаўся толькі маленькі акрайчык...

Ё-маё, дык ты ж, Талян, правільна намаляваў зіму. Чорныя халодныя хмары закрылі сонца, і стала марозна на зямлі.

Аказваецца, у сусветны фінансавы крызіс дзеці не перастаюць здзіўляць нас. Растуць, гадуюцца, з цікавасцю адкрываюць таямніцы наваколля. У цябе, Толік, свой крызіс. Нельга часова есці шакаладныя цукеркі. Не можаш пакуль вымавіць літары «л» і «р». Не кожны дзень ходзіш у дзетсад, бо падкрадваецца да цябе кашаль, тэмпература.

Давай, Толік, будзем верыць у лепшае. І мы абавязкова адолеем крызіс: і дзіцячы, і дарослы.

*Твой верны дзядуля Ваёдзя.*
*7.12.2008 г. (нядзеля)*

**114**

Нагадваю, Толік, што стукаецца да нас новы, 2009 год. Па ўсходнім календары — год Бычка. А ў нас — Год роднай зямлі.

Табе пакуль-што ўсё роўна, як называецца год. Ты чакаеш Дзеда Мароза з падарункамі. І гэта галоўнае!

Кажаш мне:

— Калі Дзед Мароз падорыць мне машыну з кнопачкай, каб сама ездзіла, то я табе дам з ёй пагуляць.

Ну і хітрун! Тонкі намёк на тое, калі загадкавы дзед заблудзіцца ці забудзецца прынесці жаданы падарунак, то ты «дзедуська» Валодзя падары яго свайму Толіку, калі хочаш пагуляць з кнопачнай машынкай. Ну і аўцючок, ну і мудрэц!

Мяне цешыць тваё выказванне:

— Я падумаю...

Можа, ты да канца і не разумееш сэнс сказанага, але мне вельмі прыемна, што ты задумваешся, не спяшаешся з адказам і ацэнкай. Усё гэта імпануе народнай мудрасці: сем разоў адмерай, адзін раз адрэж.

Адным словам, ты рухаешся ў той бок, у якім па прагнозах ААН свет будзе старэць. У 2050 годзе, кажуць, пятая частка насельніцтва Зямлі будзе ва ўзросце 60 гадоў і старэй. Цяпер гэта лічба складае толькі 11 працэнтаў. І гэта пры тым, што к таму часу колькасць жыхароў Расіі скароціцца на 33 мільёны чалавек, Японіі — на 25 мільёнаў, Украіны — на 15 мільёнаў, Германіі — на

8,4 мільёна. У гэтых прагнозах, аб'яўленых у газетах, адсутнічае наша Беларусь. А каб мы не зменшыліся, трэба каб было шмат здаровых дзяцей. У тым, прагназіруемым, 2050 годзе, табе, Анатоль Леанідавіч, стукне ўжо сорак пяць гадоў. Хай жа ты будзеш к таму часу шматдзетным бацькам!

Гэтага жадае табе дзядуля, які сам быў ў сям'і шостым дзіцём.

*Твой Уладзімір Ліпскі.*
*28.12.2008 г. (нядзеля)*

**115**

Вось і яшчэ адзін год узляцеў на зямную арбіту. Мы з табой весела адзначаем яго: падарункі, смачны абед, у зборы — уся блізкая радня. Чым не свята?

А я ўжо, як прагматык, думаю, чым, якім апусціцца гэты год у гісторыю тваю, маю, нашу?

Вельмі ж трывожна ў свеце. То грузіны пачынаюць страляць у абхазцаў, то ў Інгушэціі тэрарысты ўздыбліваюць горад, то самалійскія піраты калашмацяць замежныя караблі, то ўкраінцам адключаюць газ...

У зямным доме ўсё не слава Богу. І хочацца, каб у нашых сем'ях былі спакой, надзейнасць, вера, любоў. Але ж і ў асобна ўзятай «ячэйцы» жыве трывога. Каб вы, унукі, не кашлялі, каб Антон знайшоў сябе. Каб Маша ўзялася за розум. Малю Бога для сябе, каб даў сіл і часу напісаць задуманае. А планаў вельмі шмат. Хачу напісаць кнігу для дзяцей пра сваю малую радзіму — Рэчыцкі раён. Даўно выношваю аповесць пра хлопчыка, якому сумна на Зямлі. Мару стварыць раман жыцця «Цялец». Трэба закончыць цыкл апавяданняў «Цунамі над намі». Хачу доўга-доўга пісаць табе пісьмы...

Цяпер, Толік, пішу для дзяцей пра Навагрудчыну. Гэта адзін з раёнаў Беларусі, а колькі тут нашай непазнанай гісторыі! У Навагрудку каранавалі Міндоўга, і ён стаў першым кіраўніком Вялікага Княства Літоўскага, а Навагрудак — сталіцай тагачаснай нашай дзяржавы. Праявіў сябе і яго сын Войшалк, як воін, абаронца і... манах. Гэта зямля нарадзіла паэта-генія Адама Міцкевіча, яго паплечнікаў Яна Чачота, Ігната Дамейку. Гэты край мог бы славіцца адным возерам Свіцяззю, пра якое складзены легенды, казкі, былі.

Карацей, Толік, к таму часу, калі ты пачнеш чытаць, свет убачыць маю кніжку «Свіцязянская русалка». Хачу, каб такія кніжкі для дзяцей былі па ўсіх раёнах нашай Беларусі. Пакуль жа вяду рубрыку ў «Вясёлцы», якая называецца «Я тут жыву». Запрашаю сваіх чытачоў у вандроўкі па Бераставіцы, Лідзе, Карэлічах, Слоніме, Ашмянах...

Новы год заманьвае ўсіх нас на сваё свята. І трэба быць апошнім дурнем, каб не пачуць гэты покліч. На жаль, Толік, дурняў на зямлі хапае. Вельмі б хацелася, каб ты не трапіў у іх шарэнгі. Трымайся высокіх арбіт!

*Твой зычлівец — Уладзімір Ліпскі.*
*3.01.2009 г. (субота)*

**116**

Дарагі Толік!

Пішу табе з бальніцы. Пра многае думаецца, калі ляжыш у палаце, пазіраеш у акно. Праз нейкі час заходзіць сястрычка, прыкатвае кропельніцу, дае таблеткі, зробіць укол, мерае тэмпературу. Тут свой рэжым і рытм.

А ў калідоры можна сустрэць знаёмага. Ён зусім не такі, як на волі. Бледны, з патухлымі вачыма. Адзін з палачкай-падтрымалачкай. Другога вязуць на каталцы з аперацыйнай. Ай, Талян, як кажуць, не дай Бог такое бачыць, не дай Бог трапляць у такія лякарні.

Найлепей дома!

Як бы мне хацелася цяпер аказацца побач з табой. Мы б тут жа арганізавалі якую-небудзь гульню. Цябе можна мігам уключыць у любую афёру.

Убачылі аднаго разу з табой, як самазвал загружалі будаўніча-рамонтным грузам. Ты зацікавіўся гэтым працэсам. Трактар сыпле з каўша ў кузаў цэглу, каменне, штукатурку. Грукат. Пыл. І самазвал вязе некуды гэта «дабро».

— Ну што, паглядзелі, — пайшлі гуляць у шахматы, — прапаную я.

А ты не адыходзіш ад акна, кажаш мне:

— Давай пачакаем, самазвал зараз вернецца і яго зноў будуць загружаць...

І што ж ты думаеш, мы з паўгадзіны чакалі тую машыну. І падкаравулілі. Вярнуўся самазвал па новы груз. Мы з табой, Талян, маглі б служыць сапраўднымі кантралёрамі.

Ды мы з табой кім хочаш можам быць. Маша ўключыла музыку — мы танцоры. Бабуля пакліча на абед — мы ядуны. Тата бярэцца нешта рамантаваць — мы памочнікі. Мама вяжа — і мы «вязуны», можам ніткі матаць, падаваць.

За маім бальнічным акном, у нябеснай прасторы праляцелі адразу голуб і варона. Падумаў: «Іх дзеці будуць падобныя да сваіх бацькоў. І галоўны клопат птушак, каб дзеці апярыліся і паляцелі. Далей бацькі за сваіх галубят і варанят не нясуць адказнасці. Мы ж, людзі, маральна адказваем за ўвесь свой род. І баімся, каб хто-небудзь з блізкай радні не абняславіў прозвішча.

Гуляй, Толік, ды ведай пра гэту трывогу.

А пакуль што — будзь здаровы і не «кашляй».

*Твой дзядуля — Уладзімір Ліпскі.*
*23.01.2009 г. (пятніца)*

**117**

Толік залаты!

Як жа я люблю твае вочы!

Вялізныя, махнатыя, вішнёвыя. А галоўнае — адкрытыя, каб у іх зазірнуць. І здзіўленыя, даверліва ўпускаюць у свой космас усю зямную яву.

Мама пытаецца ў цябе:

— Адкуль ты, Анатолій, з’явіўся?

— З зямлі, — не маргнуўшы, — адказваеш.

— Як гэта?

— Экскаватар выкапаў...

У цябе неймаверны інтарэс да машын. Доўга і з цікавасцю разглядаў мой падарунак: трыццаць тры паштоўкі з featured рознымі маркамі трактароў. Ведаеш назвы многіх машын. Вельмі спадабалася фура, якую я падарыў табе. Чырвоная, элегантная машына вязе сок у дзіцячы сад. Гэта я так табе патлумачыў. А ты доўга разглядваў новую тэхніку, як бы чытаў рэкламу на ёй, напісаную па-англійску. І раптам кажаш:

— Не, дзедуська, яна вязе піва.

І толькі цяпер я заўважыў, што ў ражку фуры намаляваны бутэлькі з эцікеткамі, але не ад соку. Правакацыя замежнікаў абярнулася маім падманам. Даруй!

Падчас майго няньчання з табой, я падсунуў табе фотаальбом пра Беларусь. Там — чароўныя краявіды нашай Радзімы: лясы, лугі, рэчкі, азёры. Ты перагарнуў кніжку два разы, а я пры гэтым не дыхаў. Мне бальзамам на душу было тое, што табе спадабалася прыгажосць нашай зямлі.

Палюбі, унучак, гэты кавалачак Божай спадчыны, дадзенай нам, беларусам. Пазнай усё, што тут было, ёсць. Хачу гэтага!

На чарговым уроку малявання ты здзівіў мяне сваімі новымі ведамі мастацтва. Правёў роўныя чатыры лініі, дзве вертыкальна, дзве — гарызантальна, злучыў іх і аб’явіў:

— Вось, дзедуська, шкаф намаляваў!

Я толькі паказаў, што ў ім не хапае ручак і завесаў. І ты пачаў іх прымайстроўваць. А я цешыўся тваімі ўмелымі ручкамі.

Як прыкметна ты расцеш, Талян. Не бачыліся якіх два тыдні, а ты столькі новага пазнаў. Гэтым ты і цікавы, не раўня многім дарослым. Яны, бывае, застываюць у сваім развіцці, аднолькавыя дзень пры дні, «зімой і летам — адным цветам». Ніколі не будзь такім.

Цікавым будзь заўжды!

*Твой навекі — Уладзімір Ліпскі.*
*28.02.2009 г. (субота)*

**118**

Толік Ліпскі!

Ты ліпкі пацан. Гулялі з табой. У нас — дзве гоначныя машыны. У цябе — чырвоная, у мяне — белая. Я прыдумаў уз’язджаць на крутую горку — на спінку канапы. Ох, якая ж цяжкая праца!

Трэба умець руліць, гудзець і не перакуліцца. Я табе ўсё гэта патлумачыў, і ты, мой партнёр, вельмі ж хутка ўсё зразумеў. Мы лоўка пераадольвалі высокую гару. Як жа з табой проста і цікава гуляць!

Пасля разам абедалі. Ты акуратна відэльцам натырkваў кавалачкі катлеты і бульбіны і са смакам еў. Няма ўжо з табой праблем, Талян, і гэта цешыць.

Будавалі гараж для машын. І тут ты праявуляў кемлівасць: як сцены зладзіць, дзе вароты змайстраваць, як машыну загнаць у гараж.

Прыехала мама па цябе. Збіраем цацкі. Я кажу табе:

— Забірай, Толік, свае машыны.

— Не, хай у цябе будуць, — сказаў ты, крыху падумаў і дадаў: — А можна, я цябе, дзедуська, забяру дадому?..

Харошы мой, ты прызнаў мяне сваім добрым іграком. Ты ўсцешыў мяне да слёз. Дзякуй табе за шчырасць. Я люблю цябе, мой нашчадак.

*Твой сябар — Уладзімір Ліпскі.*
*8.03.2009 г. (нядзеля)*

**119**

Сёння, Толік, была з табой такая размова.

Ты складваеш з канструктара нейкі казачны палац, з вокнамі, дзвярыма, балконамі.

А я заварыў каву, з асалодаю пацягваю духмяны напой. Ты зірнуў на мяне, а я кажу:

— Выбачай, Толік, я б і табе зварыў кавы, але ж табе нельга.

— Мне і піва нельга, — адзначыў ты сур'ёзна і дзелавіта прадаўжаў будаваць палац.

Я ледзь не папярхнуўся ад твайго прызнання.

Ну і аўцючок жа ты!

А мо гэта быў не жарт, а спачуванне самому сабе?

Сёння ты мяне наўздзіўляў.

Я не мог уключыць дыск у музычным цэнтры, і ты мне паказаў усе патрэбныя кнопачкі.

Паказаў часопіс «Вясёлку», дзе твой здымак у лётчыцкай форме, а ты кажаш: «Гэта я — ліхтарыкавец».

Пачалі падбіраць табе штанцы, каб адзець пасля піжамнага касцюма. Ты гаспадарліва давёў мне:

— Гэтыя для садзіка. Гэтыя — на вуліцу. А гэтыя — дома, пасля сну.

Во які ты сёння!

*Твой нянь.*
*23.03.2009 г. (панядзелак)*

**120**

Заўтра — Вялікдзень.

Мы гуляем з табой, гаворым. І ты неўпрыкмет даеш мне інтэрв'ю:

— Для чаго табе валасы?

— Каб мама іх мыла.

— Для чаго рукі?

— Каб руляваць машынай.

— Для чаго ногі?

— Каб хадзіць і стаяць.

— Для чаго нос?

— Каб уперадзе быў, каб соплі насіць.

— Для чаго зубы?

— Каб есці.

— Для чаго вушы?

— Каб да галавы прыстаўляліся.

Вельмі зацікавіла цябе свята Вялікадня. Як мог, давёў табе пра веліч заўтрашняга дня. Запрасіў цябе ў госці, сказаў, хто будзе ў нас. І дадаў:

— Сам Божанька прыйдзе да нас у госці.

Ты, Толік, крыху падумаў і паправіў мяне:

— Не, дзедуська, Божанька не зможа да нас прыйсці.

— Чаму?

— Таму што ён усіхні...

Гэта той выпадак, калі ні дабавіць, ні ўбавіць.

Бывай, мой кемлівец!

*Твой дзядуля — Уладзімір Ліпскі.*
*18.04.2009 г. (субота)*

## 121

— Толік, дзе жыве карова? — нечакана спытаў я ў цябе.

— У лесе, — нечакана для мяне адказаў ты, і мне падалося, што ты быў у гэтым перакананы.

— Чым харчуецца карова?

— Лесам.

— А што яна п'е?

— Малако.

— Хто табе дае малако?

— Магазін...

Хай гэтым інтэрв'ю запомніцца дзень 26 красавіка 2009 года. Дваццаць тры гады наму назад у гэты дзень адбылася Чарнобыльская атамная трагедыя. Быў такі ж сонечны, ласкавы дзень. У прыродзе буяла веснавая зяляніна. Людзі радаваліся цяплу...

Мы з табой сёння былі ў дзіцячым парку сталіцы. Праехалі на цягнічку за 2,5 тысячы рублёў і тры хвіліны за 4 тысячы рублёў, ты руляваў дзіцячай машынай. А яшчэ за 3,5 тысячы рублёў мы купілі табе экскаватар. Дорага абыходзяцца прагулкі з дзецьмі па парку. Дык гэта ж мы з табой яшчэ не каталіся на арэлях, не елі піражкоў і марожанага, не плылі на параходзе па Свіслачы...

Ты сёння моцна спаў. Ажно чатыры гадзіны. Ручка ляжала пад шчочкай, а ножка высунулася з-пад коўдры. Відаць, ты бачыў добрыя, спакойныя сны. І хай жа так будзе заўжды!

*Вартаўнік твайго дзённага адпачынку — Уладзімір Ліпскі.*
*26.04.2009 г. (нядзеля)*

## 122

Талян!

Ты — цікавы суразмоўца!

Я зноў твой нянь. Гуляем па парку. Захацелася табе праехаць на цягнічку, які зроблены і размаляваны пад вусеня. Пайшлі браць білет. Даў табе грошы, і ты сам падаў іх у акенца.

— Паявоз! — дзелавіта аб'явіў касірцы.

Атрымаў білецік, і радасці — вышэй чубчыка. Я падсадзіў цябе ў седала. Загрузіўся «вусень» дзятвой, і рушыў па рэйках незвычайны цягнік. Калі твой вагончык раўняўся са мной, ты, шчаслівы, махаў мне рукой, я тым жа адказваў табе. А ў душы, Толік, сядзела шчымлівая трывога. Думаў вось пра што: вельмі ж хутка надыдзе час, і ты ўсім нам памахаеш рукой, пойдзеш СВАЁЙ дарогай у жыцці. Яна будзе не такой рэйкавай, надзейнай, як вось у гэтага цягнічка. Ты будзеш пракладваць тую дарогу па-свойму. Закон жыцця такі: у кожнага свой лёс і свая сцяжына да яго.

Ты злез з вагончыка. Ідзём па шумлівай, люднай алеі, і ты раптам кажаш:

— Дзедуська, а мой паявозік дома не едзе.

— Што такое?.. Зламаўся?..

— Не, дзедуська, у яго батаейкі селі...

Я прыпыніўся і аслупянеў. Божа мой, ты ўжо ведаеш, што «батаейкі селі» ў цацачным цягніку.

Ты мяне ашарашваў сёння яшчэ некалькі разоў.

Рыхтую табе чай. І ты раптам цікавішся:

— А цукай сіпаў?

Дарагі мой, ты запомніў, што азначае па-беларуску «цукар». Слава тваёй памяці, якая напаіла мяне бальзамам радасці.

А перад сном ты адчыніў шафу з кнігамі. Доўга корпаўся там. Узяў фотаальбом «Зямля пад белымі крыламі».

— Пацітаем, — дзелавіта сказаў, паклаў кнігу на падушку.

Мы старанна перагарнулі ўсе старонкі альбома. І не я табе, а ты мне «чытаў»:

— Во, дзедуська, вада, там — ібкі жывуць... Во — лес, там — ліса жыве... Во — т'явка, а там — сонейка...

У тваёй аўры дагарэў майскі халодны дзень. Для мяне ён стаў прывабным і памятным.

*Твой — Уладзімір Ліпскі.*
*3.05.2009 г. (нядзеля)*

## 123

Анатолій!

Не паверыш, адкрываю газету «Советская Беларусь» за 14 мая і пад рубрыкай «Памяць» чытаю пра сустрэчу палкоўніка Анатолія Ліпскага з спецназаўцамі вайсковай часці 3214. Вось ён ва ўсёй красе, твой аднафамілец і твой цёзка.

Газетны Анатолій Ліпскі жыў да вайны таксама ў Мінску. Вучыўся, хадзіў у спартыўную секцыю, займаўся барацьбой. Вайна разбурыла ўсе яго мары. Курс маладого байца прайшоў на вуліцах акупаванага Мінска. Хлапчук хадзіў па горадзе, збіраў звесткі для партызан. Потым і сам пайшоў да іх. У Мінск вярнуўся вызваліцелем на танкавай брані. Далей — барацьба з бандытызмам, служба ў аператыўным палку, вайсковай часці 3214.

Анатолій Максімавіч Ліпскі любіць паэзію. Мужны, баявы палкоўнік. Жывы, а не «музейны экспанат». З ім цікава было сустракацца маладым салдатам.

Пазіраю ў ясныя, чыстыя вочы ветэрана і зноў думаю пра цябе, мой унук Анатолій Ліпскі: кім вырасцеш, якім будзеш, што раскажаш пра свайго дзеда, дзяцінства якога адабрала вайна?

*Уладзімір Ліпскі.*
*15.05.2009 г. (пятніца)*

## 124

Па гараскопе, Толік, твой дзядуля ў мінулым жыцці быў у Новай Зеландыі. Каб жа ты ведаў, як я хачу пабываць там цяпер, збіраю любую інфармацыю пра сваю далёкую, акіянскую краіну. Уяўляеш, яна складваецца з двух вялікіх астравоў, а яшчэ ў яе ўваходзяць 700 астраўкоў. Толькі некалькі з іх людныя. На некаторых жывуць адны птушкі, растуць толькі расліны. А вакол — бязмежныя прасторы Ціхага акіяна. Глыбіня вады — да пяці кіламетраў. Глядзі — не аступіся!

У Новай Зеландыі жылі маоры. Мо назва іх ад «мора», якое наўкол? Адкрыў іх галандскі мораплавальнік Тасман у 1642 годзе. Яго імем там

названы вялікі востраў. А Галандыя, браце Толік, не так ужо далёка ад Беларусі. Прозвішча Ліпскія пайшло з Мазовіі, а гэта зусім недалёка ад радзімы адкрывальніка Акіяніі. Так вось я і перабраўся ў Еўропу, у яе цэнтр, дзе ты нарадзіўся і развіваешся.

Калі вырасцеш і надумаеш ехаць у Новую Зеландыю, няспешна пабудзь там і прыгледзься да абарыгенаў, можа, знойдзеш падобнага на твайго дзядулю. І не толькі знешне, а каб ён быў добрым, усмешлівым па-аўцюкоўску і шчодрым душой. А мо такога сустрэнеш сярод англічан, якія там правяць баль ужо два стагоддзі, з таго часу, калі іх зямляк Джэймс Кук упершыню абследаваў астравы. Так з 1840 года англічане навязалі Маарыйскім племянным правадырам дагавор, па якім тыя ўступілі англійскай каралеве ўсе правы і паўнамоцтвы суверэнітэту.

Адзінае, Толік, я дакладна не ведаю, калі я жыў у Новай Зеландыі: пры маорах ці ўжо пры англічанах? Можа, ты пра гэта даведаешся? Прашу цябе, адкрый тайну майго жыцця ў мінулым. А магчыма, гэта табе прыдасца для твайго будучага жыцця.

Як ехаць у тую Новую Зеландыю, ты даведаешся сам. Я думаю, трэба ляцець праз усю Расію, яе Сахалін, адтуль — на Японію, далей — у Аўстралію, а там ужо якіх пару тысяч кіламетраў праз Тасманава мора — і будзе табе дзедава радзіма. Пачынай са сталіцы Уэлінгтон. Толькі будзь вельмі асцярожны, бо там часта бываюць землятрусы, часта вулканы выдыхаюць з сябе рызыкоўную лаву. Там сустрэнеш самую старажытную фаўну ў свеце: султанскіх курыц, ківі, савіных папугаеў, пастушак, гатарэй, лятучых мышэй. Там раслін — 1800 відаў, матылькоў — звыш тысячы. Там растуць дрэвы-папаратнікі. Можа, на іх ёсць кветкі шчасця. Адшукай тыя жаданыя кветкі і будзь шчаслівы ўсё жыццё.

А пакуль мы з табой едзем на дачу, на Лысую Гару. Ты сядзіш на каленях у бацькі Лёні, і ён давярае табе руляваць па прасёлачнай дарозе.

Добры дзень, жоўта-зялены домік!

*Твой летапісец — Уладзімір Ліпскі.*
*1.06.2009 г. Міжнародны дзень абароны дзяцей.*

**125**

Адчуваю, Толік, вінаватасць перад табой. Рэдка пішу пісьмы. Не паверыш, заняты ўсе дваццаць чатыры гадзіны ў суткі. І толькі так паспяваю нешта зрабіць. Ноччу пішу кнігу пра акадэміка Парфёнава «Пакланіся травінцы». Перачытваю навуковыя кніжкі па батаніцы. Іх у мяне сотні. Праслухваю дзясяткі касет — інтэрв’ю. Каб сказаць сваё слова пра героя аповесці, трэба пражыць самому яго жыццё. Гэта нялёгка, складана, таму і мала сярод пісьменнікаў дакументалістаў. А мне падабаецца гэты жанр!

У светлавы дзень — мора клопатаў у «Вясёлцы», у Дзіцячым фондзе. Выступаю ў школах, бываю ў выдавецтвах, на розных нарадах, сустракаюся з сябрамі, чыноўнікамі. За пяць месяцаў гэтага года (2009) выступіў перад слухачамі 35 разоў. Пабываў у гарадах Рэчыца, Дзяржынск, Старыя Дарогі, Слуцк, у вёсках Ліцвяны, Залужжа, Зялёная Дуброва, Шоўкавічы, Вузнаж, Дабужа.

Ох, братка, усюды хочацца быць, усё хочацца ведаць.

Сто лет проживу я —
Всё будет мне мало,
Всё будет казаться,
Что это начало...

Не паверыш, у вольную хвілінку сёння раздумваў над глыбінным зместам крылатай народнай мудрасці. Я і для цябе хачу пакінуць некалькі загадак. Калі за розум возмешся ўсур’ёз, падумай, што б гэта азначала:

высока падняў, а знізу не падпёр;
высокія парогі — не на нашы ногі;
дай бог нашаму цяляці ваўка спаймаці;
гавары, ды не ўсё дагары;
дзеду міла, а ўнуку гніла.

Хацелася б, Толік, каб усё тое, што міла маёй душы, успрыняла і твая душа. Павер, ад гэтага не сапсуешся. А мне — радасць і ўцеха.

Што ж, на гэтым і заканчваю сваё маленькае пісьмо свайму маленькаму ўнуку.

*Бывай, не забывай!*
*Твой — Уладзімір Ліпскі.*
*7.06.2009 г. («Узгор’е-2»)*

**126**

Каторы дзень плача неба.

Мые сваімі слязьмі людзей, дрэвы, лугі, пасевы. Сіноптыкі кажуць, што даўно не было такой вады ў чэрвені.

Чым яшчэ ўсхваляваў першы летні месяц?

Ты кашляў і не хадзіў у сад.

Бабуля Ніна пасля аперацыі ніяк не можа вылечыць вока.

Маша не можа дачакацца, пакуль закончыцца працоўны лагер у гімназіі.

А ў свеце што?

Іранцы выбралі прэзідэнта. Апазіцыя не згодна з гэтым.

У Амерыцы памёр вядомы спявак Майкл Джэксан. Плачуць яго куміры.

Расія забараніла купляць малако ў Беларусі. Паліваем адзін аднаго славеснай сыраквашай.

Ай, Толік, лепш не ведаць усяго гэтага. Давай думаць пра вечнае — пра нашу душу. Яна, кажуць, жыве і пасля нас. Мне яна ўяўляецца як біятокі, аўра, нешта накшталт азона вакол планеты, вада вакол рыб, промні вакол сонца. Карацей, тое, без чаго нельга жыць, што ахоўвае нас і робіць людзьмі.

А калі сабраць усе душы разам? Уяўляеш, якая энергія? Калі гэта энергія — адмоўная? Вось табе — і Чарнобыль, і цунамі — усё разбуральнае, шкоднае. Хіба думаем пра гэта?

Нешта, Толік, панесла мяне сёння на філасофскую хвалю.

Ты хочаш змяніць мой настрой і клічаш у парк на прагулку.

Ідзём да помніка Янку Купалу, пасля — да купалінак, якія ў фантане пускаюць вянкі. Расказваю табе пра нашага паэта-генія, народнага песняра, чытаю яго верш «Хлопчык і лётчык». Ты ў захапленні. Ты таксама хочаш лятаць і ўжо ляціш па паркавай сцяжынцы. Во, знайшоў сукаваты дручок і апіраешся на яго, як і бронзавы Купала.

Божа, як з табой добранька гуляць!

*Твой гулявы — Уладзімір Ліпскі.*
*25.06.2009 г. (чацвер)*

## 127

— Ты — плахой! — кажаш мне ў парыве гневу.

Пры гэтым, стаіш ці сядзіш, абавязкова ў гэты міг нізка апускаеш галаву, каб не бачны былі твае вочы, і рэзка махаеш рукой. Маўляў, адыдзі, я з табой сябраваць не буду.

Што цікава, пад «гарачую» тваю руку могуць патрапіць самыя дарагія табе людзі — бацька, маці, дзядуля, бабуля.

Яшчэ дзівіць мяне, што такі твой настрой наступае нечакана, рэзка, катэгарычна. Але твая злосць караткахвалевая. Закіпеў і тут жа астыў. Наляцеў вятрыска і растварыўся ў наваколлі.

Прычыны для такіх тваіх паводзін бываюць самыя розныя. Нехта ў нечым не паслухаўся цябе, не зразумеў твае жаданні. Можа, просьбы дарослых не спадабаліся табе.

Ведай, Талян, я рады, што ў цябе ёсць такая рэакцыя. Значыць, фарміруеш характар, прынцыпы, погляды. І гэта добра.

У нас, дарослых, усё больш складана. Таму і жыве здаўна між намі прымаўка: «Хочаш страціць сябра, скажы праўду».

Вось і лавіруюць дарослыя паміж праўдай і маной, адкрытасцю і маскіроўкай. Гавораць адно ў вочы, іншае — за вочы. Адсюль і нараджаюцца плёткі, няшчырасць, здрада.

Ведай, Толік, для мяне самае страшнае, калі падманьваюць мяне і хлусяць мне. Я гатоў зразумець і вытрымаць горкую, балючую праўду, толькі не падман. З-за яго я страціў некалі свайго найлепшага сябра.

Можаш не паверыць, але я рашуча выкрасліў яго са свайго сэрца, так выкінуў, што цяпер ужо не помню яго дзень нараджэння і дакладны адрас кватэры, хаця бываў у яго безліч разоў.

Не магу даравацьнікому, хто са мной паступае подла, несправядліва, пахамску.

— Ты — плахой! — чую ад цябе. І мне хочацца зразумець, чаму ты гэта сказаў. Мне хочацца стаць лепшым для цябе.

Дзякуй, Толік, за ўрок праўды!

*Твой вучань — Уладзімір Ліпскі.*
*28.06.2009 г. (нядзеля)*

## 128

Неўпрыкмет, Толік, да цябе стукаецца новы год. Табе вось-вось — чатыры!

І першае, пра што я думаю: дзе мае чатыры годзікі, які́м я быў тады, чым адметным быў той час?

Рэспубліка наша збіраецца адзначыць 65-годдзе свайго вызвалення ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Свята адбудзецца 3 ліпеня, а тваё жыццёвае свята — 2 ліпеня. Так шчасліва атрымалася, што дзень твайго нараджэння амаль супаў з юбілейнай датай нашай Беларусі. У гонар вас — салют! Лепш і не прыдумаеш.

Што я помню са сваіх чатырох гадкоў? Які́м быў час?

1944 год. Беларусь вызвалена, а вайна прадаўжаецца. Брат Пятро ляжыць у ваенным шпіталі ва Уфе, а ў Шоўкавічы прыйшла тэлеграма: «Загінуў, паха-

ваны...» Сёстры Клава і Люба працуюць у франтавым шпіталі ў Польшчы. Ліда замужам, у яе два сыны Міша і Шура.

Атрымліваецца, мы з братам Колем — каля бацькоў. Колю — 12, мне — 4. Год назад вярнуліся з лясных зямлянак на папялішча. Усю ж вёску Шоўкавічы і нашу хату спалілі карнікі. Бацька збудаваў часовае жыллё. Здаецца, і цяпер бачу гэту хатку. Адным акенцам яна пазірала ў лес, а другім — на хлевушок, дзе стаяла наша карова-карміцелька. Яе падарылі нам партызаны.

У хатцы, помню, стаяла печ, ад яе, уздоўж сцяны, — палаці. На іх мы спалі. Справа, у куце — самаробны стол і падвясная палічка з посудам.

Як толькі сышоў снег, мы з братам бегалі па бульбяніку і шукалі ў зямлі падмёрзлыя бульбіны. З іх мама пякла аладкі. З жалудовай мукі вырабляла блінцы. З лебяды, шчаўя, крапівы варыла супы.

Аднойчы, Толік, зімою мой бацька прывёў у хатку нашу карову, а з ёй — яшчэ мокрае цялятка, якое толькі што нарадзілася. Бацька нёс яго на руках. На вуліцы стаялі вялікія маразы, і наша карміцелька з дзіцём маглі замерзнуць.

Мама дала нам з Колем па кварце малодзіва. Мы хлябталі той каровін далікатэс, а яна пазірала на нас вялізнымі вачыма і цяжка сапла. Хіба забудзеш такое?!

Да твайго ж чатырохгоддзя, Толік, бацькі купілі самакат. Мы з бабуляй — палатачны домік, дзядзька Ігар — самазвал на колах.

Ананасавыя, бананавыя сокі, скрыня чарэшні, абрыкосы, пячэнне, цукеркі, розныя мясныя, рыбныя прысмакі — з усім гэтым дабром паедзем за горад, каб адзначыць твой дзень.

Які ж ты ўлюбёнец лёсу, Толік. Вось толькі ідзеш, бывае, не пазіраеш пад ногі, чапляешся за нешта, падаеш. Каленкі ў сіняках. Як я перажываю за кожную тваю драпінку. Адзінае, што суцяшае, ты сам не вельмі перажываеш за свае балячкі.

— Як справы, Толік?

— Намальна, — адказваеш ты і ўсміхаешся.

Як цябе такога не любіць!

Мы ўсе радуемся, што ты расцеш кемлівым, дасціпным і, здаецца, не гультаём. Усім гатовы падмагчы. Пра ўсё табе хочацца ведаць, пра ўсё распытаць.

Сонца стаіць над тваёй галавой. Яно высвечвае твае сцяжынкі. Яно люляе цябе ў сваёй касмічнай калысцы.

*Гэта сведчу я, твой летапісец — Уладзімір Лінскі.*
*30.06.2009 г. (аўторак)*

***Працяг будзе.***

Тамара НУЖДЗІНА

# СПОВЕДЗЬ СЭРЦА, СПОВЕДЗЬ ВЕКУ (па старонках дзённікаў, запісных кніжак Пімена Панчанкі)

***Паэты жыццё не страхуюць,***
***Таму у вяках і жывуць.***
П. ПАНЧАНКА

Свет паэзіі Пімена Панчанкі аб'ёмны, незвычайна трапяткі, дынамічны. Узвышаны і бязлітасна шчыры, праўдзівы, іранічна-з'едлівы... І гэта далёка не поўны пералік тых адметных якасцей і асаблівасцей, якія вызначаюць творчае аблічча гэтай па-свойму ўнікальнай Постаці. Заўважым, што У. Гніламёдаў, напрыклад, свае назіранні над зместам, мастацкай сутнасцю лірыкі П. Панчанкі абагуліў наступным чынам: «Паэтычная спадчына П. Панчанкі — праўдзівая энцыклапедыя нашага духоўнага жыцця, люстэрка, у якім бачым і пазнаём сябе» [1, с. 573]. А вось Н. Гілевіч, прызнаючыся ў сваёй вялікай прыязнасці, нават любові, да ўсяго, што належыць пяру П. Панчанкі, адчуў найперш «душу і сэрца майстра» [2, с. 439], які сярод самых выдатных беларускіх паэтаў савецкай эпохі — «найбольш эмацыянальны, пачуццёва адкрыты» [2, с. 441], паэт, у якога — «найбольш высокая ступень непасрэднасці ў размове з чытачом» [2, с. 441] і «зайздросна высокая культура паэтычнага слова» [2, с. 444].

Лірычны герой П. Панчанкі — асоба. У яго неспакойнае сэрца, абвостраная рэакцыя на ўсе праявы і парадоксы нашага жыцця. Максімальна сумленны, ён не церпіць хамства, крывадушша, подласці, здрады. За ўсім гэтым, зразумела, бачыцца постаць самога паэта. Аднак лірычны герой і аўтар — з'явы далёка не ідэнтычныя.

Пры самым шчырым жаданні паэт быў жорстка абмежаваны ў сваім праве на свабоду выяўлення дум і пачуццяў. Часта бывала і так, што пільнае вока цэнзуры не прапускала на старонкі перыядычных выданняў ці асобных зборнікаў яго вершы. Здаралася, мянялі асобныя радкі і нават назвы твораў. Цікавыя на гэты конт дзённікавыя запісы Міхала Дубянецкага. Гэта аб'ектыўнае сведчанне таго, якую павышаную ўвагу ідэалагічных службаў выклікала творчасць мастака, які меў душу, пазіцыю і не прыручанае ўладай сваё праўдзівае паэтычнае слова: *«Трапіў, напрыклад, у Галоўліт «на кантроль» зборнік вершаў Пімена Панчанкі «Маўклівая малітва». Цэлы тыдзень ішла барацьба за чатыры вершы. Аўтар у гэты час хварэў. Ды і не захацеў звязвацца з той арганізацыяй, бо за доўгі час сваёй творчай дзейнасці пераканаўся, што гэта будзе не на карысць яму»* [3, с. 170]. Запіс ад 5 студзеня 1982 года.

І далей дырэктар вядомага выдавецтва «Мастацкая літаратура» падрабязна (а гэта не адна старонка друкаванага тэксту) расказвае пра тое, колькі спатрэбілася яму вытрымкі, настойлівасці, умення, каб доказна, аргументавана весці дыялог з чыноўнікамі-цэнзарамі розных пасад і званняў, каб адваяваць права заняць сваё месца ў зборніку такім вершам, як «Схема жыцця», «Спагада», «Пазарасталі ўсе траншэі...», «То ў надзеях, то ў скрусе...». І калі запісы Дубянецкага выяўляюць характар узаемаадносін рэдактараў, выдаўцоў з адпаведнымі ідэалагічнымі службамі, то дзённікі П. Панчанкі — гэта і споведзь, і пошук адной канкрэтнай

душы. Душы няўрымслівай, шчырай і шчодрай, сумленнай, з развітым пачуццём справядлівасці, пякучым адчуваннем няёмкасці за чужыя грахі.

Дарэчы, слушна, з веданнем справы казаў Дубянецкі пра тое, што сам Панчанка «не захацеў звязвацца з той арганізацыяй». У дзённікавых запісах паэта ад 3 сакавіка 1976 года знаходзім інфармацыю наконт выдання зборніка «Крык сойкі»: *«Званок ад Ткачова. Паехаў у выдавецтва. Цэнзура і аддзел прапаганды знялі некалькі вершаў, у тым ліку «То ў надзеях, то ў скрусе...», «Мала вар'яцтва ў нашай паэзіі...», «Я гаварыў занадта гучна...», «Замоўкнуў жураўліны скрып калысак...». Хацелі зняць і назву зборніка, і такі ж верш, і яшчэ некаторыя. Коля кажа, што адстаяў. А наогул непрыемна»* [4, № 6, с. 216]. Дарэчы, ніводзін са згаданых вершаў так і не трапіў на старонкі гэтага зборніка.

Рэакцыя на дыктат цэнзуры, як бачым, стрыманая. Для яго асабіста падобная з'ява ўсяго толькі звыклая, чарговая непрыемнасць, якую можна і трэба перажыць. Рыхтуючы ў гэты час да выдання кнігу публіцыстыкі «На паэтычным небасхіле», прыпомніць і свой пасляваенны творчы крызіс, калі і начальства, і сябры былі ім незадаволеныя. Магчыма, гэта быў канец саракавых: вядома, што ў лютым 1948 года браў удзел у рэспубліканскім сходзе пісьменнікаў, які быў прысвечаны абмеркаванню твораў беларускай літаратуры, А. Фадзееў, пра якога з такой цеплынёй успамінае П. Панчанка. Можна толькі здагадвацца, што адчуў, што перажыў у той час паэт. Пра свой душэўна-псіхалагічны і літаратурна-творчы дыскамфорт аўтар нататкаў адкрыта не гаворыць. Аднак і месца «на адным з задніх радоў, у кутку», і чаканне «калі ўсе выйдуць» — усё падкрэслівае непрытульны стан паэта. І дзённікавыя запісы, і мемуарныя нататкі, і асобныя вершы («Памяці М. Святлова», «Зямля бацькоў» і інш.) гавораць пра тое, як умеў цаніць П. Панчанка прыязнае слова, падтрымку ў складанай жыццёвай сітуацыі. Якой жа дарагой для пісьменніка ў той крызісны час была ўвага рускага літаратара: *«Праз залу да выхаду кіраваўся Фадзееў. І раптам ён заўважыў мяне, ускінуў галаву і гучна, на ўсю залу сказаў:*

*— Здравствуй, Пимен. Как живешь? — паздароўкаўся і з усмешкай дадаў: — Назло врагам?*

*Тыя, хто быў з ім, вымушаны былі таксама павітацца са мною»* [5, с. 175].

А далей лаканічны, строгі, але такі значны каментарый сітуацыі беларускім паэтам: *«Такое мог зрабіць толькі Фадзееў»* [5, с. 176].

Заўважым, П. Панчанка ніколі не акцэнтаваў увагу на асабістых цяжкасцях ці непрыемнасцях. Бяда ў тым, што літаратура шмат трацiла ад тэндэнцыйных, часта абмежавана непрафесійных абвінавачванняў, патрабаванняў, якія прад'яўлялі ідэалагічна-цэнзарскія структуры да творчай асобы. Так і не ўвайшлі ў зборнікі «Крык сойкі» і «Маўклівая малітва» вершы «Замоўкнуў жураўліны скрып калысак...» і «Мала вар'яцтва ў нашай паэзіі...», а за верш «То ў надзеях, то ў скрусе...» барацьба паміж выдавецтвам і Галоўлітам, па словах М. Дубянецкага, *«была страшэнна ўпартая. Перамагло ўсё-такі выдавецтва»* [3, с. 163].

Асуджаны цэнзурай на небыццё верш «То ў надзеях, то ў скрусе …» атрымаў права на прапіску ў зборніку «Маўклівая малітва». Як на сённяшні розум і літаратурную дасведчанасць, то гэта надзвычай таленавіты, філасофска-трагічнага гучання верш, які падводзіў пэўную рысу ў творчай біяграфіі паэта і яго лірычнага героя:

Мы штодня сабе хлусім...
Ну, а ісціна дзе ж?
Нібы конь той, па крузе
Ўсё ідзеш і ідзеш.

Дні імчацца імкліва,
Не шкадуючы сіл,
За апошні маўклівы
Свой зямны небасхіл.

Я не веру у цуды,
І туга не грызе...
Я развеяны ўсюды
Па шматку, па слязе [6, с. 56].

Агульны тон, настрой верша, вядома, далёка не пафасны. Але ж творца мае права на выяўленне розных аспектаў быцця лірычнага героя. Тым больш, што надараюцца моманты не толькі катарсіснага захаплення жыццём, падзеямі, людзьмі, але і трагічнага разладу з часам, навакольным светам і самім сабой, моманты адчайнага пратэсту супраць суцэльнага падману і фанфарнага афіцыёзу. Чыноўнікам ад літаратуры ў вершы П. Панчанкі якраз і не хапіла звыклай порцыі казённага аптымізму, на які, дарэчы, паэт не хварэў.

У дзённікавых запісах ад 4 жніўня 1981 года дырэктар выдавецтва «Мастацкая літаратура» адзначыць і тое, што верш *«Пазарасталі ўсе траншэі...» «пойдзе ў кнізе* [«Маўклівая малітва». — **Т. Н.**] *скалечаным другі ўжо раз. Першы раз для публікацыі ў часопісе «Полымя» цэнзар запатрабаваў хірургічнае аперацыі, якую рэдакцыя і зрабіла»* [3, с. 163]. Сам жа паэт наступным чынам пракаменціруе цэнзурныя «вольнасці» і рэакцыю на многія яго творы ў тагачасным літаратурным асяроддзі (запіс у дзённіку ад 18 красавіка 1976 года): *«У апошніх кнігах для мяне галоўная тэма — наша мараль, духоўнасць. А некаторыя рэдактары і крытыкі за гэта нават упікаюць мяне. А той-сёй і вершы здымае»* [4, № 6 с. 219].

Праўда, усю віну паэт ускладае на дробных чыноўнікаў-кар'ерыстаў, не разумеючы пакуль усёй сутнасці дзяржаўна-палітычнай сістэмы 60—70-х гадоў, яе свядомай арыентацыі на ўніфікацыю мыслення. Таму і вырываецца ў запісах ад 3 красавіка 1976 года скарга-непаразуменне, скарга-пратэст да канкрэтных людзей, а не самой ідэалагічнай устаноўкі: *«Бяздарную агульшчыну друкуюць ахвотна, хоць яе ніхто не чытае. А тут усюды нешта мроіцца, нешта іх палохае. Ах, гэтыя дробныя чыноўнікі-кар'ерысты! Літаратуры ад іх няўтульна. І каб жа мы не былі камуністамі, патрыётамі!»* [4, № 6, с. 216].

Дзённікі Панчанкі адкрываюць нам працяглы ў часе адрэзак жыцця. Першы запіс датуецца 1961 годам, апошні — 5-м сакавіка 1993 года. Тут прачытаем тое, што не магло трапіць у паэтычны радок, бо думка пісьменніка абганяла свой час, часта была небяспечнай з пункту гледжання афіцыйнай ідэалогіі або несла вельмі асабістую, пазбаўленую ўсялякай дыпламатыі і кампрамісу характарыстыку канкрэтнага твора канкрэтнай творчай асобы ці нават дзейнасці ўсяго Саюза пісьменнікаў Беларусі.

Вядома, што істотна адрозніваецца, скажам, паэтычны радок Панчанкі пра многаступеньчатых дурняў і дэмагогаў усіх масцей ад такой вось рэзкай, ярыстай і зусім канкрэтнай (з імёнамі) ацэнкі творчага стану, патэнцыялу і маральнага аблічча беларускай навуковай і літаратурнай эліты: *«А глянеш на нашых тупых вучоных і пісьменнікаў, якія задзіраюць нос, і моташна робіцца. Некультурныя, грубыя, амаральныя, а думаюць, што яны пуп зямлі. Вядома, не ўсе. Ёсць і Сцяпанаў, Яругін, Платонаў, Спрынджук, і дзесяткі іншых выдатных вучоных.*

*Але ў гуманітарных навуках за рэдкім выключэннем (Адамовіч, Навуменка, Каваленка, Бугаёў і яшчэ чалавек з пяць) — заслужаныя дубы, Буслаўы ды Марцэлевы. Слухаў я і эканамістаў, і географаў, і гісторыкаў (па тэлебачанні, для завочнікаў) — прымітыўнасць, непісьменнасць і, наогул, навуковы жах»* [4, № 6, с. 219].

Бывае, даецца ў дзённіках ацэнка, поўная эмацыянальна-экспрэсіўнага негатыву, той альбо іншай грамадска-палітычнай, ідэалагічнай, эканамічна-гаспадарчай акцыі ці кампаніі. І тады паўстае перад намі не толькі апантаны творчасцю, паэзіяй, словам мастак, але і разумны, занепакоены, дасціпны дзяржаўны дзеяч, кіраўнік, гаспадар, які мысліць дбайна, цвяроза, крытычна аналізуючы ўчарашні і сённяшні дзень, прадчуваючы трывожнае і няпэўнае заўтра. Вось запіс з гэтай нагоды: *«Калі крычым пра космас, б'ём у літаўры, трымаем вахту перад святам, пішам грозныя ноты, праводзім нарады на «вышэйшым узроўні» — усё гэта гаворыць пра нашу няўпэўненасць і трывогу»* [4, № 5, с. 17].

Здаецца, не лішне было б не толькі ў далёкім 1962 годзе кіраўнікам розных рангаў прыслухацца да такой вось дужа дэмакратычнай парады: *«Жонка сакратара райкама, жонка сакратара абкама, жонка сакратара ЦК, паедзьце ў сяло, дапамажыце выбіраць бульбу, павойкайце разам з бабамі, палайце сваіх мужоў — во пойдзе кіраўніцтва»* [4, № 5, с. 13]. Так думаў, так успрымаў, так рэагаваў на праявы жыцця пісьменнік у 1966 годзе. Між іншым дзённікавыя запісы П. Панчанкі з 1961 па 1971 год не вызначаюцца дакладнай і паслядоўнай «пашпартызацыяй» часу, як назіраем тое ў дзённіках М. Танка ці В. Адамчыка. Да слова, напрыклад, за 1966 год паэтам зроблена 36 запісаў. Кожны з чырвонага радка — і ніводнай канкрэтнай даты. Цяжка меркаваць, што абазначана такім чынам. Кожны раз новая думка, якая ўзнікала ў ланцужковай паслядоўнасці? Рух часу, што будзіў новыя пачуцці, прымушаў па-іншаму бачыць свет і шукаць адказы на праблемы, прадыктаваныя жыццём? Запісы лаканічныя, часта ўсяго 1—2 сказы: «*На моры раскідана пена, як гурбы снегу»; «Севастопаль, у асноўным, шэры»; «Жывём на касцях, жывём мы на магілах, скачам на чарапах і сатлелых вачах»* [7, с. 16—17]. Гэта хутчэй штрыхі, знакі, дэталі, якія звычайна заносяцца ў запісныя кніжкі, блакноты. Гэта яшчэ не ўласна дзённік. Прыгаданыя запісы вельмі блізкія стылістыкай, характарам занатовак да тых, якія знаходзім на старонках запісных кніжак паэта пад назвай «Няспісанае сэрца».

І запісныя кніжкі, і дзённікі, — далучымся да слоў М. Арнаудава, балгарскага даследчыка такой далікатнай і загадкавай сферы як псіхалогія літаратурнай творчасці, — гэта верны сродак «супраць магчымага забыцця таго, што было ўбачана, пачута, заўважана і аднойчы можа аказацца вельмі важным» [8, с. 134]. Сапраўды, не зафіксаванае пісьменнікам імгненне, рэч, дэталь, настрой, слова, думка, пачуццё за часам могуць знікнуць з памяці, а занатаваныя — калі не зараз, то па часе — абавязкова абзавуцца, уваскрэснуць. Магчыма, у новай якасці: у мастацкім творы самога аўтара ці ў навуковай канцэпцыі даследчыка, якому падобны літаратурна-мастацкі дакумент адкрывае вялікія магчымасці для разумення логікі мыслення, псіхалогіі творчага працэсу, асаблівасцей быцця Творцы ў рэальным часе. І зноў не лішне прыгадаць М. Арнаудава, які лічыць, што пісьменніцкія дзённікі, запісныя кніжкі «з’яўляюцца дакладным люстэркам тых настрояў і душэўных праяў, з якіх вырастаюць паэтычныя творы; яны ўтрымліваюць вялікую долю сырога матэрыялу, выкарыстанага для вершаў, яны ўказваюць і на жыццёвыя абставіны, якія спадарожнічаюць літаратурнай працы» [8, с. 139].

Вельмі характэрна, як нам здаецца, названы дзённікі і запісныя кніжкі — «Думаю, думаю...» і «Няспісанае сэрца». У загаловак вынесены словы, якія можна лічыць ключавымі і ў паэтычнай творчасці, і ў дзённіках, і ў сістэме жыццёвых ідэалаў і перакананняў пісьменніка. Ведалі, безумоўна, у «Полымі», што трэба вылучыць, рыхтуючы да публікацыі гэтыя «дакументы веку». Акцэнт зроблены на глыбінна адметным у індывідуальным абліччы такога майстра паэтычнага радка, як П. Панчанка. Увага чытача адразу скіравана на мыслярска-аналітычны стрыжань мастакоўскага «я», на магутны патэнцыял эмацыянальна экспрэсіўнай рэакцыі на жыццёвыя супярэчнасці, на невычэрпную энергетыку душы і сэрца Творцы. Пра здольнасць паэта да глыбокага роздуму, аналітызму сведчаць многія запісы. У 1980 годзе — пару паэтычнай сталасці і жыццёвай мудрасці — П. Панчанка прызнаваўся: *«Цяжка жыць ды яшчэ і думаць»* [4, № 8, с. 143]. Аднак сам паэт думаў і думаў. Пастаянна. Чытаў і запісваў свае думкі, уражанні ад прачытанага. Спрачаўся. Захапляўся. Абураўся. Згаджаўся. Словам, думаў. Хацелася, каб і другія думалі. Асабліва свой брат, пісьменнік. Яшчэ ў 1961 годзе, устрывожаны стэрэатыпным узроўнем мастацкага мыслення калег па пяры, спрабуе акрэсліць прычыны маруднага абнаўлення тагачаснага літаратурнага працэсу. Адна з іх, на думку паэта, у тым, што многа гаворыцца, а мала пазнаецца і выяўляецца праўда жыцця з яго драматызмам і супярэчнасцямі: *«Саюз пісьменнікаў наносіць вялікую шкоду пісьменнікам, увесь час і ўсе гавораць аб адным і тым жа і амаль аднымі і тымі ж словамі. А пісьменнікаў трэба разганяць, каб шукалі свае тэмы і словы,*

*радзей сустракаліся з сабою і часцей з людзьмі, думалі і пісалі індывідуальна»* [4, № 5, с. 8]. Аказваецца, думаць — гэта не толькі пакутлівая, цяжкая работа, але яна можа прыносіць і вялікую эстэтычную радасць: *«...блізкі мне свет думкі і красы, канкрэтнага гора і абстрактнай радасці»* [4, № 6, с. 193].

Дзённікавыя запісы П. Панчанкі не толькі адкрываюць свет душы і думкі канкрэтнай асобы, чалавека, мастака, але даюць грамадска-палітычны, эмацыянальны, псіхалагічны, філасофскі і маральна-этычны партрэт пэўнага часу, канкрэтнага асяроддзя, творчай эліты. Дарэчы, часта ідзе размова пра характар адносін, маральны клімат у пісьменніцкім асяроддзі. Шмат вострых, па-мужчынску рэзкіх, па-салдацку прамых і адкрытых ацэнак, штрыхоў і дэталей з жыцця, чалавечых кантактаў, стасункаў з начальствам і ўладай беларускага творчага асяроддзя 60—70-х гадоў пакінуў Пімен Емяльянавіч на старонках дзённікаў. Вось, да прыкладу, як даецца агульная характарыстыка кіруючым літаратурным вярхам. І не толькі літаратурным. На гэтым зроблены спецыяльны акцэнт-удакладненне, заключанае ў дужкі. *«Усе кіраўнікі (Саюза пісьменнікаў і г.д.) галоўным лічаць свой поспех, свой дабрабыт, спакой, здароўе, кар'еру, ганарар, каціроўку ў Маскве, а не поспех народа, літаратуры роднай, поспех пісьменнікаў. А таму галоўнае: умела і хлёстка сказаць прамову на пленуме, сходзе і г. д. Усе кажуць: «От здорава! Ну і прамоўца!» Выступленне* ***для начальства*** *і такіх жа рыцараў паказухі (абы ціха і ўсё добра)»* [4, № 5, с. 11].

Такая суцэльная хлусня была непрымальнай для паэта, агіднай і немагчымай у яго жыццёвай сферы. Зноў і зноў вяртаецца ў сваіх запісках да гэтай небяспечнай хваробы, якая так часта разбурае чалавека, губіць талент творцы. Так, у 1972 годзе П. Панчанка зробіць запіс аб тым, што на фронце марылася і думалася пра іншае: пасля вялікай бяды, агульнага гора ўсе будуць лепшымі. Адбітак гэтых дум і настрояў адчуваем і ў многіх вершах паэта («Капайце ў сэрцы маім магілу», «Сумленне», «Роздум», «Паэма майго лёсу», «Жыццё маё» і інш.). І, вядома, у шматпакутным вершы «Пазарасталі ўсе траншэі…», дзе праблема абазначана ў глабальных маштабах. Рэальнасць мірнага жыцця разбіла — і вельмі хутка — падобныя меркаванні і спадзяванні: *«А пасля пачалося... Чыны, пасады, ордэны, выданні, сталінскія прэміі, кватэры і г.д. Сваркі, п'янкі, плёткі, суцэльныя «коварство и любовь». Але любві заставалася ўсё меней і меней. А хітрасці і каварства — усё болей і болей»* [4, № 5, с. 24]. І калі вельмі дапякала ўсялякая гнюснасць, паэт занатуе яе ў дзённіках у зусім канкрэтных праяўленнях — сцэнах, эпізодах, сітуацыях. Абазначаюцца і канкрэтныя ўдзельнікі той альбо іншай гнюснасці. Праўда, імя часам схавае за крыптонім, але абставіць яго такімі рэаліямі, што, бадай, беспамылкова пазнаецца яго носьбіт. Чытаем, напрыклад: «*Ён сам бы выйшаў замуж за Макаёнка, каб быў дзяўчынай. Такі прагны да грошай (пра Ш.)*» [4, № 6, с. 200].

Часта звяртаецца П. Панчанка да сваіх літаратурных паплечнікаў і зусім адкрытым тэкстам называе сапраўдныя імёны і прозвішча тых, чые паводзіны, учынкі дужа далёкія ад маральнага эталона і высокай духоўнасці. Пры гэтым ніколі не абмінаецца і тое добрае, што было ці ёсць у сабрата па пяры, таго альбо іншага дзяржаўнага чыноўніка ці палітыка. Да месца будзе прыгадаць запісы пра М. Танка, П. Броўку ці А. Куляшова. У такіх меркаваннях, ацэнках аўтар імкнецца быць аб'ектыўным, акцэнтуючы ўвагу на супярэчлівасці чалавечай натуры: *«Броўка — разумны чалавек, бачыць усё навылёт, прабіўны і хітры. І «божы дар», які так ясна быў бачны ў кнізе «Шляхамі баравымі» і зноў ажыў у позніх кнігах, ён сам растраціў у пагоні за славай, уладай і іншымі ўяўнымі каштоўнасцямі»* [4, № 5, с. 24]. Такія ацэнкі звязаны, як правіла, з пэўнымі ўчынкамі, паводзінамі чалавека ў канкрэтных абставінах, жыццёвых сітуацыях, якія падаюцца аўтарам запісаў і каменціруюцца адпаведна яго маральна-этычных поглядаў і перакананняў. Заўсёды пры гэтым аддаецца належнае таму, што называецца талентам, творчай удачай ці мастацкім адкрыццём. Прынамсі, невыпадкова таму ж П. Броўку пазней (зборнікі «Снежань» — 1972, «Маўклівая малітва» — 1981)

П. Панчанка прысвяціў два вершы — «Наша энцыклапедыя», дзе адзначана роля паэта ў арганізацыі выдання і «Петрусю Броўку», у якім радаснае ўспрыняцце новых змен у творчым абліччы пісьменніка. І найперш — шчырае захапленне вяртаннем паэта з Ушаччыны да прыроднай сутнасці таленту, што так хораша праявілася ў кнігах паэзіі «Калі ласка» (1972), «І ў дзень, і ўночы» (1974).

Сапраўдным талентам П. Панчанка ўмее шчыра захапляцца. Не баіцца прызнацца, што вучыцца ў таленавітага майстра. І не толькі ў прызнаных класікаў ці старэйшых літаратурных сучаснікаў, але і ў тых, хто быў амаль яго равеснікам: *«Аркадзя Куляшова я заўсёды любіў. Але яго закруціла, замуціла «світа». Паэзія і грошы. Здаецца, несумяшчальна. А ў яго неяк сумяшчаецца. А паэт — выдатны. Мы ледзь не равеснікі, а я ў яго многаму навучыўся»* [4, № 5, с. 24].

Разам з тым, з дзённікаў вынікае, што Панчанка ўмеў не толькі радавацца — адкрыта, захоплена — чужому майстэрству, мастацкаму адкрыццю кожнага, хто праўдзіва служыў паэтычнаму слову, але знаходзіў час і душэўнае цяпло, каб выказаць свае пачуцці, свае адносіны таму, хто здольны стварыць вялікі цуд, прыносячы гэтым радасць многім. Ведаючы па сваім уласным лёсе і творчым вопыце, які нялёгкі, няпросты шлях да сапраўднай мастацкай удачы, як часта творца бывае ў сваіх пошуках, сумненнях адзінокі, не заўсёды заўважаны і зразумелы, паэт спяшаўся выказаць сваю прыязнасць, стараўся быць уважлівым, адкрыта-эмацыянальным, хоць па-мужчынску лаканічным, дакладным. Рабіў гэта па-рознаму. Непасрэдна пры сустрэчы, званіў па тэлефоне, пасылаў тэлеграму ці ліст. Вось адно з такіх праяўленняў панчанкаўскай далікатнасці, чалавечнасці. 18 лістапада 1989 года запісаў наступнае: *«За апошні час атрымаў добрыя цікавыя кнігі В. Бечыка «Выбранае», Валі Куляшовай «Лясному рэху праўду раскажу...». Паслаў лісты маці Бечыка (Л. Л. Кароткай) і Валі Куляшовай»* [4, № 9, с. 145]. І гэта пры тым, што пісаць пасля інсульту было няпроста ды пастаянна непакоіў зламаны пазваночнік.

Заўсёды, пры любым выпадку, пры любой нагодзе знаходзіць П. Панчанка магчымасць сказаць добрае слова не толькі пра талент ці творчую ўдачу, але і чалавечнасць, маральныя якасці таго, з кім собіла яму сустракацца, жыць, працаваць, сябраваць, разумецца. Паэт праяўляецца тут усюды: ва ўменні выказацца вычарпальна, арыгінальна, у межах двух сказаў. Успомніць, напрыклад, гісторыю з публікацыяй аповесці У. Караткевіча «Дзікае паляванне караля Стаха». Аўтару твора, агаломшанаму загадам разабраць набор кнігі, прапанаваў надрукаваць аповесць у часопісе «Маладосць», рэдактарам якога быў у той час. І тут жа захоплена выкажа сваю думку наконт прафесійных і маральных якасцей Веры Сямёнаўны Палтаран, якая рыхтавала апальны твор да публікацыі: *«Прачытаў я і Вера Сямёнаўна Палтаран (вечная ёй памяць! Залаты быў чалавек. І ў дадатак — разумны). Надрукавалі, вялікі поспех»* [4, № 9, с. 128]. Вось так незнарок, неназойліва, натуральна і чалавечна загучала характарыстыка і пісьменніцы, і рэдактара аддзела крытыкі часопіса «Маладосць», і проста разумнай жанчыны.

Чытаеш дзённікі П. Панчанкі, яго запісныя кніжкі і ўяўляеш шчырае, сапраўды няспісанае сэрца, якое ўмела жыць і хваляваацца за ўсё і ўсіх. Асаблівай трывогай і болем поўнілася яно за лёс, становішча беларускай культуры, беларускай мовы. Адчайнымі і балючымі былі думкі паэта пра стан і гістарычны лёс беларускай мовы. Як бачна з паэтычных зборнікаў і дзённікавых запісаў, думкі пра беларускую мову пачалі хваляваць П. Панчанку даўно і не пакідалі да апошніх дзён. Гэта і ягоны боль, і ягоная радасць, смутак і захапленне. У вершах пра беларускую мову паэт раскрываецца кожны раз па-новаму. Адкрыўшы для сябе гэты найвялікшы цуд і скарб, лірычны герой П. Панчанкі імкнецца падзяліцца ім з чытачом, абудзіць у яго душы такое ж пачуццё захаплення беларускім словам, якое ўласціва яму. Высокім святлом азорана беларускае слова ў вершах «Родная мова» і «Хлебныя словы».

Выдатна, напрыклад, удаецца паэту адкрыць хараство прыродных з’яў праз беларускія назвы месяцаў, такія родныя, блізкія, зразумелыя сваёй унутранай

сутнасцю, а яшчэ прапануе свайму чытачу спасцігнуць вялікую навуку адчуваць душой багацце нашай лексікі, улоўліваць самыя розныя адценні слоў. Так, верш «Хлебныя словы» заснаваны на вобразна-паэтычным увасабленні акрэсленага на пачатку твора ланцужка слоў-сінонімаў — *скарынка, скіба, луста, акраец, каравай*. І далей — страфа за страфой — пранікнёна, афарыстычна, гістарычна канкрэтна паэт разгортвае карціны быцця беларуса. Быцця ў горы і радасці, працы і змаганні, у будні і святы, быцця ў прасторы і часе.

Мяккасць, сардэчнасць, мілагучнасць беларускага слова, лічыць пісьменнік, не можа не закрануць душу чытача, варта толькі адкрыць яму таямніцы гэтага слова. Менавіта такі прыём барацьбы за мову, яе прапіску ў душы беларуса і абраў мастак. Ён пакуль што верыць у здольнасць нацыі да яе духоўнага абуджэння. Але ў дзённікавых запісах 1962 года па той жа праблеме паэт выказваецца рэзка, публіцыстычна завострана, бадай, так, як у вершах «Беларуская мова» і «Развітанне», напісаных у канцы 80-х: *«Мова. Цябе зацікавілі тыраны, калечылі вучоныя, забаранялі акупанты, паскудзілі вершаплёты, выклікалі сорам, а пасля нянавісць да цябе ў моладзі, садзілі за краты, а ты ўсё жывеш...»* [4, № 5, с. 11].

Нельга не звярнуць увагу і на тое, як і калі ў лірыцы П. Панчанкі ўзнікае думка пра гістарычную наканаванасць беларускага слова: *«На гэтай мове не размаўлялі цары, на гэтай мове не загадвалі расстрэльваць і вешаць»* [7, с. 141]. Запіс інфармацыйна-лаканічны, але дае ключ да разумення мастацкай акрэсленасці старажытных вытокаў беларускага слова, якая бачыцца ў першых радках верша «Беларуская мова». Нутром адчуваеш той глыбінны падтэкст, якім напоўнены і дзённікавыя запісы, і радкі верша: адчуваеш аўтарскі гонар за беларускае слова:

Ільняная і жытнёвая. Сялянская.
Баравая ў казачнай красе.
Старажытная. Ты самая славянская.
Светлая, як травы у расе.
Вобразная, вольная, пявучая,
Мова беларуская мая! [9, с. 21].

Пачатак названага твора сваім сэнсам, інтанацыяй звязаны з вершам «Родная мова». У цэлым жа праступіла ў паэтычным радку і тое балюча-супярэчлівае стаўленне паэта да сваёй краіны і народа, якое хвалявала мастака на пачатку 60-х. У дзённіку чытаем: *«Я люблю цябе, Беларусь, за... А часам і ненавіджу за...»* [4, № 5, с. 5]. Шмат схавана за падобным шматкроп'ем. Пазней, у вершах «Беларуская мова» і «Развітанне», паэт назаве сваімі імёнамі ўсё, што ненавідзіць у чалавеку, народзе, краіне: халуйства, здрадніцтва, абыякавасць да духоўных ідэалаў і нават сваёй будучыні. Нездарма і сам паэт, і яго лірычны герой жывуць паміж вялікай любові і вялікай нянавісці:

Я хацеў, нашчадкі, вас праклясці,
Ды люблю сваю зямлю... і не магу [9, с. 21].

Гэтая любоў і абумоўлівае рух думкі, дынаміку пошуку, характар барацьбы паэта за агульначалавечыя ідэалы. Свае перакананні, творчыя арыентацыі паэт часта правяраў праўдай жыцця, шукаў доказы правільнасці сваіх поглядаў і пазіцый у думках, выказваннях сусветна вядомых літаратурных геніяў і проста аўтарытэтаў (навукоўцаў, палітыкаў, дзеячаў). Часта згадваюцца імёны А. Чэхава, І. Буніна, А. Камю, М. Святлова, Ж. Амаду, К. Паустоўскага. Цалкам, без усялякіх каментарыяў выпісваецца, напрыклад, з «Паэзіі праўды» К. Паустоўскага наступная цытата: *«Истинная любовь к своей стране немыслима без любви к своему языку. Человек, равнодушный к родному языку, — дикарь. Он вредоносен по самой своей сути потому, что безразличие к языку объясняется полнейшим безразличием к прошлому, настоящему и будущему своего народа»* [4, № 6, с. 211].

У сваім імкненні абараніць ідэалы красы — думкі, мовы, дзяцінства, жаночага характва, сапраўднасці і велічнасці прыроднага свету — паэт паўстае нястомным рыцарам, якому так часта не хапала падтрымкі і вытрымкі, а то і звычайных фізічных сіл. Дарэчы, у сваіх лірычных зборніках П. Панчанка ніколі не скардзіўся на фізічныя пакуты — бясконцыя хваробы, лекі, бальніцы, аперацыі. Ён, які так любіў рух, быў прыкаваны да сваёй кватэры. Адмаўляліся служыць ногі. Чытаеш трапяткую, напружаную, дынамічную паэзію П. Панчанкі і ніколі не падумаеш пра тое, як пакутаваў яшчэ і фізічна мастак. Не мог, лічыў не вартым мужчыны скардзіцца людзям на тое, як хваробы літаральна знясільвалі цела. Толькі скупыя дзённікавыя запісы дазваляюць убачыць кардыяграму невыноснага фізічнага болю: у 1972 годзе П. Панчанка запісаў пра выключна асабістае скупа. Адным сказам: *«А здароўе пайшло, паляцела пад адхон»* [4, № 5, с. 24]. І гэта тады гаворыцца, калі паэт шукае прычыны, як ён гаворыць, сваёй творчай бесхрыбетнасці. Запісаў пра фізічны боль, хваробы ў дзённіках сустрэнеш нямала, але ўсе яны вызначаюцца лаканізмам і стрыманасцю. Відаць, што і гэтыя ўдары лёсу паэт прымаў, як салдат, без скаргі і нарокаў. Знаходзіў сілы бачыць смешнае, адгукацца жартам на бальнічную рэальнасць: *«Хірургічнае аддзяленне: «Отделение коммунистического труда». Як разумець?»* [4, № 6, с. 194]. Вось так з гумарам каменціруе аўтар недарэчную з яго пункту гледжання характарыстыку да назвы аддзялення. Дапаўняе аблічча паэта і вось гэтая іранічна зарыфмаваная фраза адносна свайго няпэўнага становішча хворага, у якога, магчыма, зусім невылечная хвароба веку: *«Вось, небарак, і ты нажыў рак»* [4, № 6, с. 196]. Пра свой фізічны стан у вершаваных творах мастак стараецца не гаварыць. Толькі аднойчы прарвецца ў зборніку «Крык сойкі» (1976) роспачнае маленне-зварот да Бога:

Не дай мне, Божа, стаць ілжывым,
Зайздросным, злосным і старым [10, с. 127].

Зразумела, што любому цярпенню і вытрымцы можа наступіць канец. У запісных кніжках «Няспісанае сэрца» душа паэта пратэстуе супраць усіх інструкцый, забаронаў, парад, патрабаванняў, усялякіх рэгламентацый у творчай справе: *«Каб усё па інструкцыях, пастановах і крытычных артыкулах пісалася — літаратура прапала б!»* [7, с. 131]. Вось і вырвецца набалелае спачатку як крык душы ў запісах: *«Даволі вытрымкі! Хачу хоць раз узарвацца!»* [7, с. 141], а потым непасрэдна ў творчасці паэта канца 80—90-х гадоў. Колькі патрэбна было паэту мужнасці, каб на схіле жыцця зразумець і прызнацца, што пад адхон пайшло не толькі здароўе, але і многія ісціны, якія спавядаў пісьменнік. Дзённікі адкрываюць вялікую работу душы і розуму пісьменніка, накіраваную на пошук праўды. А гэта, па словах Э. Хэмінгуэя, якія выпісаў у свой дзённік П. Панчанка, асноўная задача літаратара. Яна *«...всегда в том, чтобы писать правдиво и, поняв, в чём правда, выразить её так, чтобы она вошла в сознание читателя частью его собственного опыта. Нет ничего труднее этого...»* [4, № 8, с. 150]. Пошук паэтам праўды пра наш час выразна адбіўся ў аб'ёмных дзённікавых запісах 80-х — пач. 90-х гадоў. Хворы паэт, які не заўсёды мог рашыцца на прагулку каля дома, нястомна, апантана працуе над кнігамі, часопісамі, газетнымі матэрыяламі. Прыходзіць разуменне і сваіх памылак, і памылак на ўзроўні вялікай палітыкі. І як вынік гэтай работы — жаданне напісаць раман і назваць яго «Споведзь дурня». Сілы хапіла толькі на «Паэму сораму і гневу», дзе лірычны герой прызнаецца, што рос бяздумным дурнем, як і ўсе. За бяздумнасць давялося плаціць дарагой цаной: трагедыяй зламаных чалавечых лёсаў і расчараваннем. Зразумеўшы віну не толькі палітыкаў, савецкіх лідараў, але і ўсёй літаратуры (і сваю асабістую ў першую чаргу), П. Панчанка знайшоў мужнасць прызнацца ў грахах і пакаяцца. За ўсіх.

Разам з тым дзённікавыя запісы канца 80-х гадоў з'яўляюцца цудоўным сведчаннем тых істотных змен, якія адбываліся ў свядомасці нашага грамадства, аса-

бліва яго інтэлектуальнай эліты. Народ, у першую чаргу інтэлігенцыя, дзякуючы патокам новай інфармацыі, што доўгі час была недаступнай шырокай чытацкай аўдыторыі, пачынаў вучыцца мысліць, аналізаваць, шукаць ісціну, выракацца былых ідэалагічных штампаў і выдуманых ідэалаў. Бадай, ніколі так не цікавіліся людзі палітыкай, не чыталі столькі перыядычных выданняў. Бачым, з якім інтарэсам чытае і П. Панчанка самыя папулярныя на той час выданні — «Огонёк», «Литературная газета», «Неделя», «Новый мир», «Известия», «Полымя», «ЛіМ» і інш. Чытае прагна, робячы пастаянныя выпіскі, цытуючы найбольш цікавых палітыкаў, міжнародных аглядальнікаў, гісторыкаў, эканамістаў, гаспадарнікаў. У сваім імкненні разабрацца ў нядаўнім гістарычным мінулым і з перспектывамі на будучае пісьменнік у 80—90-я гады зусім рэдка звяртаецца да літаратурных спраў і з’яў.

Вызваленне душы і свядомасці творцы ад камуністычнай ідэалогіі, ад ленінізму-сталінізму ішло не проста, ішло доўга і супярэчліва. Барацьба з бюракратызмам, «энергіяй хлусні» — гэта адно, а партыя, «ідэі Ільіча» — зусім іншае. Святое. І так было аж да канца 80-х. У 1976 годзе П. Панчанка так шчыра верыў гэтым ідэям, што патрабаваў і раіў: *«Пра камуністаў, пра партыю трэба пісаць толькі выдатна, з усёй аддачай душы, калі ты ў справу Леніна верыш глыбока»* [4, № 6, с. 216]. І нават тады, калі цэнзурай, аддзелам прапаганды здымаліся вершы са зборніка «Крык сойкі», калі прапаноўвалася памяняць назву зборніка і выключыць аднайменны верш, ён па-ранейшаму верыў у камуністычную ідэалогію, партыю, а вінаваціў ва ўсім літаратурных чыноўнікаў-кар’ерыстаў. І толькі перабудовачны час, паток новай, свежай інфармацыі ў значнай ступені зменіць палітычныя, ідэалагічныя арыенціры паэта: *«Многа далі розуму, душы, сэрцу артыкулы філосафаў і эканамістаў, аграрнікаў і іншых вучоных-публіцыстаў»* [4, № с. 54]. Сапраўды, відаць, далі, бо ўсяго праз месяц упершыню напіша пра сваю бяздумную веру не толькі Сталіну, але і Леніну: *«Божа мой, як мы верылі Леніну, а пасля Сталіну. А Сталін — злачынца, і ўсе яго памагатыя (члены ЦК, сакратары) — злачынцы»* [4, № 8, с. 158].

Асабліва балюча ўдарыла паэта, — дзённікі не раз гэта засведчаць, — вырашэнне пытання дзяржаўнасці беларускай мовы і стаўлення народа да гэтага пытання. І саміх літаратараў у прыватнасці. Многія запісы 1989 года выяўляюць душэўны стан пісьменніка, маральны стан самога грамадства, умовы, абставіны, у якіх выспявала задума верша «Развітанне»: *«Не буду больш агітаваць ні за беларускую мову, ні за беларускую паэзію. Нікому яны не патрэбны. Горка. Змяніўся народ: быў працавіты, сумленны, цярплівы, гераічны. А зараз, пасля гібелі лепшых на вайне, — выраслі беларускія лайдакі, кар’ерысты, манюкі і баязліўцы!»* [4, № 8, с. 167]. Весці далей паядынак з самім сабой, літаратурнымі прыстасаванцамі і народам, які не можа, нават не спрабуе пазбавіцца сваёй лакейскай бесхрыбетнасці, не ставала сіл.

А напісаць хацеў пра многае. Дзённікі даюць магчымасць убачыць і яшчэ адну цікавую для разумення характару пісьменніка і псіхалогіі яго творчасці адметнасць: як і з чаго нараджаліся вершы паэта? Калі, пад уздзеяннем чаго ажываў той кволы голас-парастак думкі-пачуцця і праз колькі часу «клаўся» ў адпаведную эмацыянальна-вобразную, жанрава і стылёва аформленую і завершаную карціну жыцця.

Найбольш часта, як вынікае з запісаў, пытанні майстэрства, вобразна-паэтычнага, рытміка-меладычнага самавыяўлення хвалявалі мастака ў 60—70-я гады: прыйшоў вялікі вопыт, сталасць, адчуванне сваёй улады над словам, яго музыкай, мелодыяй. Нездарма нібы гуляючы, забаўляючыся, аўтар рыфмуе арыгінальна, нечакана, а таму эфектна, запамінальна. Накшталт вось гэтых, напрыклад: «Д*ыялектыкі — электрыкі»* [7, с. 121], *«Міністры — маністы», «Схопіць — копаць»* [7, с. 125].

Такіх знаходак творца пакінуў безліч. Поруч з гэтым напаткаем і асобныя строфы, і нават міні-вершы, якія маглі б зажыць сваім асобным жыццём. Са

скрухай гаворыць паэт і пра трагічны лёс мастака, што мае гонар быць асобаю, мысліць нестандартна, а гэта заўсёды вядзе да канфліктных адносін з афіцыйнымі ўстаноўкамі і патрабаваннямі.

Сяброў закапалі,
Мяне — не міне.
Забілі Купалу,
Заб'юць і мяне [7, с. 112—113].

Паколькі ў запісных кніжках даты адсутнічаюць, то можна толькі прыблізна меркаваць аб часе напісання прыведзеных радкоў. Відаць, другая палова 50-х гадоў. Запіс пададзены на фоне ўражанняў паэта ад паездкі ў Амерыку ў складзе беларускай дэлегацыі для ўдзелу ў рабоце XIII сесіі Генеральнай асамблеі ААН (верасень, 1958).

Даводзіцца пашкадаваць і адносна таго, што засталіся нерэалізаванымі мары паэта напісаць паэму пра Мінск, раман пра дзяцінства і вайну. А як жа хацелася гэта зрабіць. Вось адно з пажаданняў паэта ў самы пярэдадзень Новага (1981) года. Пры гэтым упершыню падаецца такое дакладнае вызначэнне часу — 31/XII. 17 г. 45 хв.: *«Каб Бог дапамог мне напісаць прозу: пра дзяцінства і раман пра вайну»* [4, № 8, с. 144]. Успомнім, што ў запісных кніжках «Няспісанае сэрца» была і яшчэ адна мара пісьменніка: *«Мне хочацца напісаць раман і назваць яго “Споведзь дурня”»* [7, с. 140].

Так і засталося да канца «няспісаным сэрца» Паэта, якое ўмела любіць і ненавідзець, гневацца і быць літасцівым, жыць, адчуваючы радасць адкрыцця і гаркоту страт, расчараванняў. І яшчэ. Варта зрабіць акцэнт і на тым, як сэрца паэта ўмела быць удзячным кожнаму, хто быў здольны на праяўленне чалавечнасці, маральнай прыстойнасці ў жыцці і літаратурнай справе. Пра гэта не стамляўся П. Панчанка гаварыць не толькі ў дзённіках, але і ў сваіх літаратурных творах.

## Спіс літаратуры

1. Гніламёдаў, У. В. Пімен Панчанка/ У. В. Гніламёдаў // Гісторыя беларускай літаратуры XX стагоддзя: Нац. акад. навук Беларусі. Ін-т літ. імя Я. Купалы. У 4 т. — Мінск: Бел. навука, 2001. — Т. 3. — С. 521—573.

2. Гілевіч, Н. Збор твораў. У 23 т. / Н. Гілевіч. — Мінск: ТДА «Пантограф», 2009. — Т. 16.: Паэты і пісьменнікі Беларусі: эсэ, штрыхі да партрэтаў, эцюды, успаміны. — С. 439—449.

3. Дубянецкі, М. «Трэба рызыкаваць...» / М. Дубянецкі // Полымя. — 2001. — № 10. — С. 150—194.

4. Панчанка, П. Думаю, думаю...: дзённікі / П. Панчанка // Полымя. — 1998. — № 5. — С. 3—34; № 6. — С. 193—221; № 7. — С. 159—210; № 8. — С. 140—171; № 9. — С. 125—156.

5. Панчанка, П. На паэтычным небасхіле: публіцыстыка / П. Панчанка. — Мінск: Маст. літ., 1977. — 208 с.

6. Панчанка, П. Маўклівая малітва: вершы / П. Панчанка. — Мінск: Маст. літ., 1981. — 93 с.

7. Панчанка, П. Няспісанае сэрца: з запісных кніжак / П. Панчанка // Полымя. — 2000. — № 8. — С. 110—159.

8. Арнаудов, М. Психология литературного творчества / М. Арнаудов. — М.: Прогресс, 1970. — 654 с.

9. Панчанка, П. Горкі жолуд: вершы / П. Панчанка. — Мінск: Маст. літ., 1988. — 63 с.

10. Панчанка, П. Крык сойкі: вершы / П. Панчанка. — Мінск: Маст. літ., 1976. — 136 с.

Артыкул паступіў у рэдакцыю 10 студзеня 2012 года.

## Тамара Нуждзіна
## Споведзь сэрца, споведзь веку
## (па старонках дзённікаў, запісных кніжак Пімена Панчанкі)

### Рэзюмэ

Артыкул прысвечаны выяўленню паэтычнай і духоўна-эстэтычнай адметнасці творчага аблічча П. Панчанкі праз асэнсаванне аўтарскіх характарыстык эпохі, логікі мыслення, псіхалогіі быцця творцы ў часе і літаратурным асяроддзі, выказаных на старонках такой мастацка-дакументальнай літаратуры, як дзённікі, запісныя кніжкі.

## Tamara Nuzhdzina
## Heart's Confession, Time's Confession
## (Pimien Panchanka's Diaries and Sketch-Books)

### Summary

The article is devoted to the identification of the poetic and spiritual-aesthetic originality of P. Panchanka's creative aspect, that is examined fhrough the author's characteristics of the epoch thinking and existence psychology of the author in his time and literary ambience, expressed in the pages of such a semidocumentary literature, as diaries and sketch-books.

Пятро МАЛЯЎКА

# ТВОРЧАЯ ІНДЫВІДУАЛЬНАСЦЬ ПАЭТА

Сапраўдная паэзія — гэта заўсёды нешта загадкавае, таямнічае, што мкне да сябе з сілаю зямнога прыцягнення, прымушае супыніцца і задумацца, уразіцца надоўга нават раўнадушна-чэрствых, абыякавых да акаляючага нас свету, да жыцця. А сапраўдны паэт — гэта не толькі сын сваёй зямлі, свайго народа, гэта не толькі творца прыгожай мастацкасці, пазбаўленай шэрых колераў, а гэта, без сумніву, майстра мастацкага слова, хто ад нараджэння надзелены талентам — Божым дарам — слухаць час, наперад як бы прадбачыць і прадказваць, што нас чакае заўтра, якімі мы будзем, прарастаючы ў дзецях, унуках, праўнуках. Менавіта такога творцу мы бачым у асобе Станіслава Валодзькі, паэзія якога сталая на думку, на майстэрства, цесна знітаваная з родным словам, роднай культурай і гісторыяй.

Самы першы верш «Вілія», дакладней чатырохрадкоўе, было надрукавана ў газеце «Астравецкая праўда», калі будучы паэт заканчваў дзясяты клас у Падольскай СШ. Поўнасцю ён убычыў свет у штогодніку «Галасы» (Гродна, 2002, № 1 — укладальнік Юрка Голуб). Як дэвіз і наканаванне працаваць сумленна і дбайна з самых першых крокаў на паэтычнай ніве сталіся для С. Валодзькі і «святы агонь паэзіі Міцкевіча», і «шчыраванне» мастацкім словам старога Уласа і Купалы:

Дзе шчыравалі
СпадарУласаў,
Спадар Купала.
Дзе іх пасевы
Ураджай давалі.
І мы на дзіва
Жылі б шчасліва,
Каб так радзіла
Тут наша ніва,
Каб перад светам
І тым, і гэтым
Воч не адводзіць
Нам сарамліва…[1, с. 28]

Так сур’ёзна заявіць на самым пачатку жыццёвай дарогі, каб кожным наступным крокам, кожным наступным творам пацвярджаць існасць сваіх жаданняў і ўчынкаў сумленным служэннем і працай свайму народу, Радзіме. З такімі важкімі намерамі і прыцягальным паэтычным голасам заставацца незаўважаным не даводзіцца. Паколькі нават у арміі не перарываўся працэс служэння мастацкаму слову. Першыя публікацыі ў рэспубліканскім друку з’явіліся пасля вяртання з войска. Спачатку ў газеце «Чырвоная змена» ў прадмове Юрась Свірка пажадаў С. Валодзьку добрага шляху, папярэджваючы, што наперадзе будуць «і асфальт, і брук, і каляіны».

Праз некаторы час з’явіліся падборкі ў часопісах «Беларусь» і «Маладосць» з благаславення Аляксея Русецкага і Міколы Аўрамчыка. Хутка прыйшло запрашэнне прыняць удзел у перадачы Рэспубліканскага тэлебачання «Спявайце,

юныя паэты», якую вёў Кастусь Цвірка. Вельмі добразычліва паставіўся да паэта старэйшы калега па пяры, ягоны зямляк з Астравеччыны Адам Мальдзіс, які ў газеце «Астравецкая праўда» змясціў нататкі «Маладая рунь Астравеччыны» і вельмі цёпла адгукнуўся аб паэтычных спробах С. Валодзькі.

Неўзабаве з'явіліся вершы паэта ў газеце «Літаратура і мастацтва» і ў часопісе «Нёман». Акрыліла яго, падахвоціла ў працы з мастацкім словам выказванне Васіля Быкава ў зборніку твораў літаратараў Гродзеншчыны «Краю мой Нёман». Са сказанага вышэй адзначым, што «хрысцілі» паэта вядомыя мастакі слова. Аднак да сваёй першай кніжкі ішоў С. Валодзька вельмі няпроста. Добрую выдавецкую рэцэнзію на рукапіс першага зборніка напісала Вера Вярба. Каб паскорыць працэс выдання, па прапанове рэдактара Рыгора Барадуліна ўвайшоў у калектыўную кнігу «Сцяжына» (1983 г.) з вялікай падборкай пад назвай «На хвалях хвалявання». Пад адной вокладкай былі змешчаны таксама вершы Навума Гальпяровіча, Галіны Булыкі, Валерыя Маслюка. Вельмі добра адгукнулася на зборнік Данута Бічэль, змясціўшы ў «ЛіМе» рэцэнзію «У вялікі свет». І хоць ён выйшаў у серыі «Першая кніга паэта», але гэтая публікацыя не сталася «зялёнай вуліцай на літаратурны Парнас». І толькі, калі праз трынаццаць гадоў часопіс «Маладосць» у сваёй серыі (дадатку) выпусціў яго зборнік «У вачах Айчыны» (1996), С. Валодзька быў прыняты ў Саюз пісьменнікаў Беларусі.

У прадмове да яго першай кнігі Сяргей Панізнік пазначыў: *«...**аўтар вольна і па-гаспадарску кемна*** (тут і далей выдзелена мною. — **П. М.**) *пачувае сябе ў традыцыйным рэчышчы літаратуры, і яго не спакушаюць настырна-мадэрнавыя ўзвівы. І яму ўдаецца ўзбагаціць чытача запаветнай надзеяй паэзіі»* [2, с. 3]. Старэйшы калега, паэт і літаратуразнаўца, улавіў і засведчыў самае вартаснае і запамінальнае ў першай кнізе С. Валодзькі: непарыўную сувязь напісанага з роднай зямлёй, з Астравеччынай, з непаўторным і самабытным краем Гродзеншчыны, у якім «*у мурожных лугах, зялёных лясах ці на ціхіх местачковых вуліцах чэрпаў ён своё натхненне*» [3, с. 4], каб пазней, як «убярэцца» ў сілу, выказаць сваю бязмежную любоў да роднага краю.

Лёсам паэту было наканавана жыць па-за межамі сваёй Радзімы — у Латвіі. І яму не абыякава (пра гэта варта памятаць кожнаму з нас заўжды і ўсюды), якім паўстане ён у вачах Айчыны здалёку і ў час кароткіх спатканняў з вамі — любячым, уважлівым сынам ці рэдкім, мімалётным госцем, дбайным працаўніком, руплівіцам на ніве беларушчыны ці добраахвотным эмігрантам, якому чужы хлеб нашмат саладзейшы. **Не, далёка не, бо ніколі не забываўся: сынам якой зямлі і якога народа ён з'яўляецца.** Аддаючы належную даніну павагі латышскай зямлі, што прыняла гасцінна яго з сям'ёй, дапамагла звіць утульнае гняздо, паэт усім сэрцам любіць зямлю родную, беларускую, якая ўзгадавала, напоўніла жыватворнымі сокамі ягоныя радзінныя карані, з матуліным малаком, з яе пяшчотнай калыханкай назаўсёды «прышчапіла» ген памяці і вернасці Радзіме, народу, роднай мове. Што гэта не гучныя словы, пераконваюць нас вершаваныя радкі «У вачах Айчыны».

Радзіма для С. Валодзькі — найперш бацькоўская хата, у якую хацелася б наведвацца часцей, нават цяпер, калі апусцела яна, калі выстыла без жыхароў. Але святы дух продкаў лунае ў знаёмых да драбніц сценах і заклікае помніць свой род, сваю зямлю:

Запыталася хата:
Што так доўга не быў,
Што ты маме і тату
Пакланіцца забыў?! [2, с. 12]

Родны парог у сэрцы паэта (хочацца верыць, што не толькі ў сэрцы аднаго С. Валодзькі) заўсёды будзе адгукацца болем і шкадаваннем і выкрасаць такія прачулыя словы, якія заўжды, як кажуць у такіх выпадках, **«будуць браць за жывое»**.

З гэтых радкоў, у якіх высвецілася ў бязмежжы сваім самая-самая характарызуючая духоўную моц і вернасць народнай традыцыі, вынікае: мы, калі пакінулі нас і сумленне, і памяць пра радавае дрэва сваё, не маем аніякага права называцца людзьмі. І гэты боль, які прачнуўся ў сэрцы паэта, выразным знакам у добрым накірунку праявіўся і вершаванымі радкамі, і наяве:

Запыталася хата:
Што так доўга не быў,
Што, ўваходзячы, раптам
Гуз на лобе набіў?! [2, с. 3]

І да чаго не дакраналася б слова паэта («родная хата», «бацькаўскі кут», «матуліны вочы», «Вязынка», «Вільня», «дзеці», «ластаўкі над акном» і ўвогуле Божы сусвет), яно абавязкова праходзіць маральную загартоўку праз духоўную прызму народнага светабачання і сумленнасці, падвышаючыся з часам бязмежнай адказнасцю за цэлы свет і сусвет. Галоўнае ў тым, што на зробленае таленавітым майстрам слова будуць глядзець вочы планеты, вочы Радзімы, але найперш і заўсёды — вочы матулі, перад якімі не схаваецца нават самая дробязная, мізэраная хлусня і прыфарбаванасць, бо гэта:

Маёй матулі вочы
Узіраюцца мне услед [2, с. 32].

А вочы — гэта складаемыя душы і сэрца, а ў дадзеным выпадку: душы і сэрца самага дарагога чалавека на свеце, здрада якому, абачлівае стаўленне да якога — гэта здрада ўсяму роднаму і святому: радаваму дрэву, народу, традыцыям і звычаям, **роднай матчынай мове**.

У моўным шматгалоссі сярод колераў астравецкай вясёлкі паэтычны голас С. Валодзькі лучыцца ўсімі фарбамі і адценнямі беларускага слова.

Вельмі шчыра і пераканаўча, як запавет для ўсіх нас пра сваю духоўную крыніцу, нагадвае паэт у вершы «Бог пачуў — і чуе родны краю»:

Бог пачуў — і чуе родны краю,
Дудка беларуская тут грае!
Каб без мовы наскай не сканалі,
Каб жыццё з радзімай ладкавалі, —
Пад чужую дудку не скакалі,
Пад сваю жалейку смуткавалі [3, с. 28].

У вершы невыпадкова згадваецца «жалейка», паколькі праз яе вядзе нас аўтар да прарочага купалаўскага «людзьмі звацца!!!», вядзе нас да свайго духоўнага павадыра — Купалы, каб яшчэ і яшчэ раз прызнацца ў вялікай павазе да яго і яго жывучага мастацкага слова, але ўжо ў вершы «Бацькаўскі кут»:

І на Купалле, быццам знічка ўпала,
Найпрыгажэй тут папараць цвіце! [3, с. 31]

А далей болей… Бо схіліўшыся ў пашане перад пракорам беларускага слова, Купалам, паэт палічыў патрэбным яшчэ раз прызнацца ў сваёй любові да роднага краю. Але як прызнацца?! Якія знайшоў словы?! Учытаемся і ўслухаемся… Яны гэтага вартыя:

І сонца тут ярчэй і поўня свеціць,
І бліскавіц бліжэй няма, чым тут.
Спакон найдаражэйшы у сусвеце
Асвечаны дажджом бацькоўскі кут.

Як да сябе вяртанне я святкую,
Мне босым, як малому, добра йсці,
І найдаўжэй зязюлька тут кукуе —
Нідзе такой зычлівай не знайсці [3, с. 32].

Настолькі прачула і настолькі ўзвышана, з такой бязмежнай любоўю і замілаваннем, з такой шчырасцю і цеплынёй пра самы блізкі і дарагі сэрцу куточак, што перахоплівае дыханне! Нарадзіліся гэтыя радкі па-за межамі роднай старонкі. І рэдкія наезды — вяртанні ў бацькоўскі кут — успрымаюцца паэтам Валодзькам як «свята». А інакш і не можа быць у сапраўднага творцы, так як памяць яшчэ з дзяцінства ўвабрала самыя цікавыя і запамінальныя, уражлівыя і пяшчотныя, вялікасныя і дробязныя праявы і малюнкі радзімага краю, якія па-за межамі яго ўспрымаюцца вельмі абвострана, настальгічна-пачуццёва… Паэт не замыкаецца ў памяці, а амаль у кожным сваім зборніку: «У вачах Айчыны» (1996), «Зварот да сэрца» (1998), «Памяці гаючая трава» (2002), «Зялёнае лета» (2007, у сааўтарстве), падборкамі вершаў у часопісах «Полымя», «Нёман», «Маладосць», штотодніку «Галасы», газетах раённага і рэспубліканскага маштабу дае ёй магчымасць выказацца ў бязмежнай любові і вернасці Бацькаўшчыне.

Праз колавую кампазіцыю верша «Ластаўкі над акном» С. Валодзька прызнаецца ў сваёй сынавай адданасці родным мясцінам. А каб запала ў сэрцы, абірае стрыжнявым вобразам твора «**ластавак**», якія заўсёды вяртаюцца да сваіх гнёздаў. Абірае гэтых прыгожых верных птушак, спадзеючыся, што і мы будзем такімі заўсёды:

Ды не вярнуць гадоў.
Зараз ляцім таксама
З выраю ў родны дом
Ластаўкамі мы самі.
Бачым наш дом гняздом
Па-над акном азерца…
Як і ў маленстве, зноў
Радасць шчабеча ў сэрцы [4, с. 39].

Апошні радок каго заўгодна ўзрушыць і ў памяці абудзіць светлыя імгненні дзяцінства, якія, бы тыя ластаўкі, лічы — не лічы гады, «радасцю ў сэрцы шчабечуць».

А колькі велічы і таемнай загадкавасці ў купальскай ночы?! Колькі эмацыйна-гарэзлівай настраёвасці ў перадачы маладосці, непрыхаванага шчасця, цнатлівай закаханасці і адначасова — заканамерных жыццёвых крокаў да запытальна-прыцягальнага, жаданага, ад чаго «**так і дзявочае сэрца трапеча**», «**вусенкі прагныя вусны шукаюць**».

І як вынік — гарэзліва-шчыры адвечны «прысуд»:

Ой, дзяўчыночка —
Купальская ночка!
Ранак надыдзе, а ты — жанчыночка.
Кветачкай шчасця —
Купальская ночка!
Зараз дачушку чакай ці сыночка! [4, с. 40]

Колькі ў гэтых радках чароўнай прыгожасці, як і ў самой купальскай ночы, якая па Боскім жаданні апусцілася на зямлю беларускую, каб здзейснілася адвечнае, неўміручае: не перарвалася нітачка жыцця. Своеасаблівае чаргаванне — спалучэнне вершаваных радкоў выявілася незвычайным патлумачэннем народнай легенды, што, менавіта, у купальскую ноч расцвітае папараць-кветачка шчасця, што ніхто яшчэ ніколі яе адзін не адшукаў, бо пад сілу гэта толькі дваім, шчыразакаханым і верным.

Магчыма, і так… Аднак С. Валодзька аддае на наш суд сваё тлумачэнне, сваю разгадку, якая музыкаю радасці, замілавання перапаўняе і душу паэта, і кожнага з нас: «**дзяўчыночка — Купальская ночка! Жанчыночка — Купальская ночка! Кветачкай шчасця чакай сыночка**»!

А якой лірычнай настраёвасцю і пяшчотаю, чуласцю і непадробнай зацікаўленасцю засвеціцца душа, неабыякавая да сур'ёзнага, непадробнага, высокага чалавечага пачуцця ў вершы «На дарогу», які моцна пераклікаецца з папярэднім творам аўтара:

Мне праясніцца праз сум
Касавіца. Ветру млосна
Ты расчэсваеш касу
Пад бярозай высакоснай.
Золкай раніцаю той
Зноўку высветліцца раптам
Залаты, зусім як твой,
У касы тваёй характар.
Растае туману сум,
Пад касатаю бярозай
Ты расчэсваеш касу
Мне прысніцца на даро-огу! [3, с. 32]

Як працяг купальскай ночы, якая «**праясніцца золкай раніцай**» сваім непаўторным харастовам, убачыцца любая, каханая, каб «прысніцца на даро-огу» лірычнаму герою «**высакоснаю, касатаю бярозай**», а паэту на ўсё жыццё — самайсамай, што «**пяром не апісаць**».

Вершы С. Валодзькі прыцягваюць да сябе не толькі малюнкавасцю з'явыпраявы, нейкага жыццёвага здарэння ці факта, а неабыякавасцю, жаданнем аўтара патлумачыць і сур'ёзна, і з гумарам кожнае імгненне быцця і свайго, і свету.

І ўжо не схаваешся ад шчымліва-праўдзівых радкоў з верша «Зіма» пра нялёгкае жыццё састарэлых бацькоў, ад якіх адмовіліся, а праўдзівей, — «выракліся» іх крывіначкі:

Дзесьці дзеці ў многіх з іх ёсць,
А нібыта зусім іх няма [3, с. 42].

Зусім іншыя эмоцыі ў вершы, у якім і радасць бацькоўства, і спадзяванне на шчаслівы лёс дзіцяці:

Дзіця маё, мой хлопчык, мой сыночак,
Глядзімся мы адзін другому ў вочы,
З мальбою заглядаю небу ў вочы,
Каб мой **сынок** не зведаў слёз сірочых [3, с. 41].

Сюды ж верш «Суніцы для Багдановіча», які змешчаны амаль на адной старонцы з папярэднімі двума. Ён як бы асвечаны непазбыўнай памяццю пра слыннага сына зямлі беларускай. Аднак нас найбольш уражвае радок удзячнасці самаго Станіслава гаспадыні «у белым доме ля сіняй бухты», якая выканала апошнюю просьбу Максіма. І толькі за гэта (вось яна адвечная нашая духоўная шчырасць і падзяка) ***«няхай яе рай на тым свеце абдыме»*** [3, с. 41].

Рэальнае пераплялося з абстрактным, канкрэтнае з бязмежным, задушэўнае з філасафічным, як спеў, як плач, а яшчэ больш як надзея і вера на працяг жыцця, мар і спадзяванняў, на доўгую памяць пакаленняў народа нашага пра таленавітага сына «**светлай краіны**».

Пацвярджэнне — аптымістычныя радкі з верша:

І словы сунічныя спеляць тут людзі.
Нямала яшчэ для Максіма іх будзе [3, 41].

Быць паэтам — гэта значыць быць адказным за праўдзівасць альбо памылковасць шляхоў сваёй душы, бо яна застаецца ў вершаваных радках памяццю і надзеяй, верай і спадзяваннем. Любоўю, вернасцю і вечнасцю прасякнуты амаль усе вершы С. Валодзькі, пазначаныя гэтымі выразнымі апазнавальнымі знакамі — своеасаблівымі носьбітамі паэтавай думкі, настрою, справядлівасці.

Чытаючы і перачытваючы напісанае С. Валодзькам, адчуваем, што амаль кожны твор паэта зараджаны зайздросным аптымізмам. І што вельмі важна: гэты аптымізм не з гучным эфектам, не з крыкліва-прымусовай учэпістасцю, не з назойлівай зададзенасцю. Наадварот, у кожным вершы належная зместавая глыбіня, а таму кожны радок гучыць цалкам натуральна і з той спрадвечнай вясковай

упэўненасцю, якая, памылкі не будзе, скразная ва ўсіх кнігах паэта. Сведчаць за тое шматлікія вершы з канкрэтна-адраснай і імяннoй пазнакамі: «На кургане Адама Міцкевіча ў Навагрудку», «У Міхалішках», «Вязынка», «Памяці Паўліны Мядзёлкі», «Брату Фрэдзю», «Памяці Казіміра Сваяка», «Край дарогі» і іншыя.

Апошні з пералічаных, прысвечаны знакамітаму земляку Адаму Мальдзісу, якраз і вызначае скіраванасць паэтычнай сцяжыны С. Валодзькі і нават яе выключную акрэсленасць, прадузятасць, бо вядзе яна туды,

Дзе нашы жывуць карані
І б'е дабрыня з глыбіні [5, с. 11].

Асаблівая, насамрэч шчаслівая і невычарпальная ва ўсёй творчасці паэта, не скажаш нават тэма, а нешта большае, што не мае межаў, — **матуля**, **мама**. І беспамылкова ўпэўніваемся: лепшае ва ўсім напісаным Станіславам Валодзькам — **ёй і для яе**. А інакш і не можа быць. Яна ўдыхнула ў яго жыццё спрадвечным прыродным правам. І кожны зварот сына да самага дарагога чалавека на свеце ў вершах «Вяртанне», «О, дзяцінства маё», «Шышкі», «Матуліны вочы», «Запыталася хата», «Кветкі для маці», «Залаташвачка», відаць, не варта злоўжываць далей з пералікам, выклікае неад'емнае ад радка верша «Памяці гаючая трава» суперажыванне з адначасова выключна спачувальным і запрашальным не спыняцца, бо

На дзяцінцы нашым
Мама засвітала ў вачах [5, с. 27].

Яна ўжо ў другім вымярэнні, аднак святло яе душы і сэрца «**высвечвае** ў **вачах**» для сына паэта правільны накірунак па жыцці.

Пра гэта надзвычай пераканаўча і праўдзіва ў вершы «Слова на дарогу», як запавет ад матулі: быць чалавекам заўсёды.

Прыйшоў твой час адказваць:
Ты хто, чаго ты варты?
Прыйшоў твой час даказваць,
Што ў добры бок ты ўпарты.
З надзеяй зноў вясновай
Ствараць свой свет прымайся
І, дадзенае слова
Трымаючы,
Трымайся!!! [5, с. 37]

Станіслаў Валодзька аднойчы зазначыў: «*Паэзія — Божы дар, Яго іскра, што даецца чалавеку невядома за што, незалежна ні ад якіх колаў, і можа быць пагашана Усявышнім, калі паэт не будзе паводзіць сябе па-людску…*» [6, с. 12]. Па яго разуменні: быць паэтам — г. зн. быць звышчулым, звышранімым чалавекам на нашай зямлі, дзе часам толькі вера і розум могуць ўратаваць ад адчаю. Быць паэтам — г. зн. плаціць за свой талент і здароўем, і лёсам, і нялёгкімі выпрабаваннямі, і часам нават жыццём.

Але ці пагадзіўся б С. Валодзька памяняць свой паэтычны лёс на які-небудзь іншы? Вядома ж — не. І хоць ён не гаворыць аб гэтым прама, але пра тое сведчаць яго захапленне таленавітымі сынамі і дочкамі Беларусі, якія ахвяравалі сваё жыццё кнігам, творчасці, веры ў Бога, у людзей («Суніцы для Багдановіча», «Цётцы», «Вера Казіміра Сваяка», «Адаму Міцкевічу», «Адаму Мальдзісу» і інш.). У напісаным ім заўважаем, што паэт пастаянна задаецца пытаннем, чаму мы так моцна імкнёмся да змен і перамен у прыродзе і так мала «напружваемся» да змен у саміх сабе. Чаму чалавеку не дадзена ведаць нашмат болей, чым ён ведае пра жыццё на зямлі наогул і пра сваё асабістае ў прыватнасці? З гэтай нагоды ён бясконца памыляецца, выпраўляць хібы найчасцей бывае позна. Што ж тады рабіць? Розум паэта засяроджвае нашую ўвагу на недасканаласцях зямнога жыцця, бо не навучыліся або развучыліся людзі сёння цярпеннем і даравannем адказваць на зямны боль і ўжо, не саромеючыся глядзець у вочы, хлусяць на «такой сур'ёзнай ноце», што нават Богу становіцца не па сабе. Разважаючы,

перабіраючы ў памяці, супастаўляючы з сучаснасцю, С. Валодзька прыходзіць да стварэння вершаў і ў кожным з іх імкнецца пакінуць своеасаблівы след у сэрцах нераўнадушных, не пазбаўленых болю і радасці, крыку і смеху, маленькіх і вялікіх чалавекаў.

Да яго мастацкага слова немагчыма паставіцца абыякава, паколькі вершы творцы не крыклівыя і шабуршастыя, не бадзёрыста-заліхвацкія, а спакойныя, разважлівыя, мякка-лірычныя. Паэту чужое спрошчанае ўспрыманне жыцця, таму і не сустрэнем сярод яго герояў сухіх схем, загадзя спланаваных па ўсіх самых дробных рысах характару. Чытаць яго вершы цікава. Колькі ў іх лёгкасці і песеннасці, колькі аўтарскіх адкрыццяў — метафар, эпітэтаў?! Колькі ўзнёсласці ў клічных, клічна-запытальных сказах!? Яны хвалююць, уражваюць шчырасцю пачуццяў, трапнасцю і пранікнёнасцю вобразаў і здольны закрануць кожную ўспрымальную душу, якая яшчэ не паспела зачарсцвець ад нягод жыцця. Такі ён, Станіслаў Валодзька, — пісьменнік шырокага дыяпазону мыслення, мудры дарадца і выхаваўца словам, жывым, праўдзівым, крынічным…

## Спіс літаратуры

1. Галасы, — 2002, № 1, — С. 28. — укладальнік Юрка Голуб.

2. *Валодзька, С.* У вачах Айчыны / С. Валодзька. — Мінск: «Полымя». — 1996. — С. 3.

3. Астравецкай зямлі галасы // укладальнік Н. А. Рыбік. — Мінск, 2008. — С. 4

4. Галасы — 2003, № 2, — С. 39. — укладальнік Юрка Голуб.

5. *Валодзька*, *С.* Памяці гаючая трава / С. Валодзька. — 2001, Даўгаўпілс, — С. 11.

6. *Спасюк*, *А.* Станіслаў Валодзька — паэт, які стварыў беларускі дом / А. Спасюк // Голас Радзімы. — 2006. — 7 снежня. — С. 12.

Артыкул паступіў у рэдакцыю 15 ліпеня 2011 года.

## Пятро Маляўка
## «Творчая індывідуальнасць паэта»

## Рэзюмэ

У артыкуле акцэнтуецца ўвага на жанрава-стылёвай адметнасці беларускага паэта Станіслава Валодзькі. Праз прызму ідэйна-тэматычнага і мастацка-эстэтычнага прачытання яго зборнікаў робіцца крок да характарыстыкі індывідуальнага стылю таленавітага аўтара.

## Piatro Maliauka

## The Poet’s Creativity

## Summary

**The article focuses on the genre-stylistic originality of the Belarusian poet Stanislau Valodzka. The characteristics of the individual style of the talented author are represented through the conceptually-thematic and aesthetically-artistic interpretation of his poetry.**

Зінаіда ДРАЗДОВА

# «ЛІТАРАТУРА ПАТРЭБНА ЧАЛАВЕКУ ЗАЎСЁДЫ»

## Агляд прозы за 2011 год*

Алена Брава праўдзіва передае псіхічны стан Ларысы, змену яе думак, пачуццяў, перажыванняў. Часам рэфлексіі гераіні ўзнаўляюцца вельмі грунтоўна, яна аналізуе сваё мінулае і сённяшняе жыццё, пачынае шкадаваць сябе. Рэтраспектыўны ўнутраны маналог дапамагае разам з гераіняй перажыць падзеі яе ранейшага, таксама пакутніцкага жыцця, якое навучыла цярпенню і змірэнню. Вучоба ў ВНУ, пакойчык у інтэрнаце, пасля — замужжа, муж-п'яніца, які, прайграўшыся блатным, «павесіўся на дзязе на трубе батарэі ацяплення ў іх пустой, хоць у футбол гуляй, аднапакаёвай кватэры». Пакуты навучылі Ларысу цярпенню, самаахвярнасці. Неаднойчы зловіць яна сябе на думцы, што прывязваецца сэрцам да гэтага немца, які праходзіў службу па абароне Рэйха ад ворагаў, а значыць, быў ворагам і яе народа. І сэрца свёкра, ведае яна, адкрываецца для яе, яна адчувае яго сімпатыю і давер. Ральф без асабістых ваганняў згадзіўся здаць бацьку ў дом састарэлых. Хвароба Альцгеймера вельмі распаўсюджана ў Германіі, і многія яго знаёмыя здалі сваіх хворых бацькоў, спасылаючыся на тое, што там добры догляд. Аднак Ларыса робіць гэта з вялікім сардэчным непакоем, адчуваючы віну і шкадаванне. Ёй, беларусцы, шмат чаго незразумела і здаецца непрымальным у адносінах дзяцей да бацькоў і наогул у сваяцкіх адносінах у Германіі. Старэйшая і малодшая сёстры Ральфа даўно не падтрымліваюць ніякіх адносін з бацькам і братам. У свой час паміж імі адбылася сапраўдная вайна за дом. Нягледзячы на тое, што ў замужніх сясцёр даўно ўжо былі свае дамы, яны патрабавалі ад бацькі і Ральфа выплаціць ім іхнюю частку. Старэйшая адхапіла яшчэ і палову ўчастка, дзе пабудавала з бацькавай дапамогай дом. І хоць яны суседзі і дачка, хатняя гаспадыня, мае багата вольнага часу, аднак наведвае яна бацьку адзін раз у год — на дзень яго нараджэння прыносіць пачак пячэння. Малодшая ж, якая жыве далей, не прыязджае да бацькі нават у дзень нараджэння. Яна лічыць больш патрэбным любіць людзей невядомых. Займаецца дабрачыннасцю, кіруе грамадскай арганізацыяй, якая збірае адзенне для сірот з былых сацыялістычных краін, раздае інтэрв'ю газетам.

Дзеці Ганса падпісалі дамову аб тым, што за бацьку адказвае Ральф і нясе ўсе выдаткі, у тым ліку лячэнне, знаходжанне ў доме састарэлых, пахаванне і догляд за магілай. У дамове дакладна агаворана і тое, хто павінен высаджваць кветкі на магіле маці. «Цывілізаванае, юрыдычна ўзаконенае свінства», — такое кароткае вызначэнне вырываецца з душы Ларысы.

Вобраз Ганса раскрываецца паступова, па меры дабаўлення звестак пра яго жыццё. Дзённік героя выдае ў ім чалавека абаяльнай душы. Ганс вельмі любіў сваю маці, а ў Беларусі, дзе праходзіў службу, закахаўся ў прыгожую беларуску Зосю. Рызыкуючы жыццём, ўратаваў каханую і людзей яе вёскі, папярэдзіўшы аб прыбыцці туды карнага паліцэйскага батальёна. Ганс радуецца, што яго сын

* Працяг. Пачатак у № 7, 2012.

Ральф ажаніўся на жанчыне з той краіны, адкуль была Зося. Ларыса падабаецца яму яшчэ і тым, што проста неверагодна падобная да Зосі. Ён давярае нявестцы, якая з непадробным спачуваннем ставіцца да яго, усяляк стараецца аблегчыць яго фізічны і псіхічны стан, хоць нібыта і марыць здаць яго ў багадзельню. Здзейсніўшы гэта, яна не можа знайсці спакою: «уключыла матор, каб сагрэцца. А потым зразумела, што калоціць яе не ад холаду, а ад адчування віны...»

Адчуванне віны — гэта стан чалавека глыбокага сумлення. Правініўшыся, такі чалавек стараецца як мага хутчэй загладзіць сваю віну. Фінал аповесці паказвае нам гераіню, якая імчыць да Ганса, каб забраць яго з гэтага страшнага месца, дзе яго пакінулі паміраць: «Па калідоры ўжо ішоў дзяжурны ўрач з маскай ветлівага здзіўлення на твары.

Зараз ён выслухае яе і не стане пярэчыць. Удваіх яны падымуцца да старога — у гэты час ён звычайна не спіць. «Паедзем дамоў», — скажа яна Гансу, скажа на сваёй мове.

Заключная фраза канцэнтруе ў сабе багаты змест. Гераіня збіраецца запрасіць Ганса паехаць дамоў, у дом Ганса, які стаў і яе домам, але сказаць хоча «на сваёй мове», мове, якая не чужая і Гансу, які ратаваў яе родных, яе нацыю. Людзі розных нацыянальнасцей паядналіся духам, духам Любові.

Алене Брава ўласціва тонкае адчуванне жаночай душы. Душы жанчыны-беларускі — моцнай, цярплівай, жаласлівай, няздольнай хавацца ад цяжкасцей, здраджваць. Жанчыны, якой дасталася вельмі горкая доля і якая нясе на сваіх плячах вельмі цяжкую ношу сваіх і чужых праблем. Якая ўсведамляе сябе часткаю беларускага народа, не баіцца сведчыць пра Беларусь і ў далёкай Германіі.

Паказальна, што калі немцы папракаюць гераіню ў «рускай эмацыянальнасці», то яна ўдакладняе: «Я з Беларусі. Гэта не тое ж самае!»

Глыбокае ўражанне зрабіў раман Уладзіміра Хількевіча «Люди божьи собаки», надрукаваны ў восьмым нумары часопіса «Нёман», у якім таксама даследуецца беларускі жаночы характар. Уразіў перш за ўсё выхапленымі з самога жыцця характарамі — галоўнай гераіні твора бабулі Таццяны і яе дзяцей, іх няпростымі драматычнымі лёсамі, той праўдзівай філасофіяй, якую вынесла старая з пражытага жыцця, ідучы цярністым шляхам крыжанашэння, не выбіраючы больш лёгкага жыцця. Раман пачынаецца дакладным апісаннем мясцовасці, у якой жыве галоўная гераіня: «Если ехать Варшавкой — старым шляхом, который пересекает всю Белую Русь с востока на запад, то сразу за славным городом Слуцком, за двумя речушками, тихо и неприметно текущими в широких полях — Случью и Веселкой, можно увидеть в стороне от шоссе обсаженную березами деревеньку хат на сто, а на ее улице, будними днями почти пустынной, одинокую старуху в фиолетовой засаленной телогрейке, привычно сидящую на скамейке у железных, поставленных сельсоветом, ворот. Деревушку над мелким голым яром так и зовут — сельцо с бабою, хотя есть у нее и настоящее имя — Красная Сторонка, приобретенное в пору великих перемен вместо архаичного Яковина Гряда». Аўтар рамана адразу падкрэслівае арганічную злітнасць, неад'емнасць старой ад някідкага, сціплага хараства беларускага краю. І амаль тут жа дае яе партрэт, у якім асабліва звяртае на сябе ўвагу праставатая Ямелюшкіна ўсмешка і «нечакана ясныя вочы, якія не пагаслі, свецяцца пад рэдкімі ў нашых краях узнятымі ўверх здзіўленымі бровамі», што так рэзка кантрастуе з яе састарэлым, сагнутым целам. Гераіня рамана стаіць ужо на самым краі жыцця, аднак усімі сіламі душы імкнецца трымацца за яго. Нягледзячы на ўзрост, гэта беларуская жанчына захавала вялікую жыццярадаснасць, любоў да ўсяго жывога, лірычна-рамантычныя адносіны да прыроды.

Акцэнтуючы ўвагу на ўсмешцы гераіні, як неад'емным «атрыбуце» яе партрэта, раманіст адзначае перамены ў ёй за апошнія гады: «что-то просительное появилось в рисунке женских губ», пераводзячы выраз гэтай усмешкі на словы, агучваючы яе семантыку: «Погоди, торопливая жизнь. Не спеши забирать ключи от своего зеленого дома. Я привыкла к нему за все отпущенные мне годы и

считаю своим… Дай надышаться хоть пылью неедкой, мягкой, наглядеться на утренние росы — ты же знаешь, раньше и дышала через раз, не до того было. Все думала: «Потом поживу, после вдоволь наживуся, опосля, ага…»

Пастаянная ўсмешка на твары па-рознаму ўспрымаецца людзьмі: «Нет, не все понимали смысл ее извечной улыбки, но все помнили ее именно с улыбкой на лице. Всегда с улыбкой на лице. Непонятно было снимает ли она улыбку на ночь. Люди говорили: «Порода такая разеватая».

В ее жизни было немало потрясений. Но улыбка, так часто освещавшая лицо еще в детстве, навсегда утвердилась после самого, пожалуй, раннего».

І аўтар раскажа чытачу гісторыю ўзнікнення гэтай усмешкі. Дзядзя Грышан, горача і безнадзейна закаханы некалі ў Таццяніну маці, раптам перакінуў гэта пачуццё на яе юную, прыгожую дачку, што аднойчы выявіў перад людзьмі. І дзяўчына зразумела, што адзіная ёй цяпер абарона — усмешка. І ёю яна адгарадзіла і сябе, і Грышана ад людзей і адчувала, што выручыла абаіх. Людзі заўсміхаліся, нязлосна жартуючы. Усмешкай яна ратавала сябе ад бацькавага дубца, да ўсмешкі прывучыла яе маці, абяцаючы «паказаць нештачка». І яна навучылася ўспрымаць жыццё як цуд.

Усмешка гераіні не дзяжурная, «амерыканская». За ёй — цеплыня яе душы, якая прыцягвала да сябе, абяцала сагрэць, сведчыла, што да яе можна падступіцца.

Шмат горкага зведала ў сваім жыцці галоўная гераіня У. Хількевіча. Перажыла і час, калі страшна гайсаў «варанок» па начах, і ваеннае ліхалецце. І цяжкі, цалкам складзены з гнятлівай, бесперапыннай працы пасляваенны час, калі не знаходзілася і хвілінкі, каб прылашчыць, абняць дзяцей: «Знай мать наверняка, что ее работа, которая была сродни дурнопьяну и валила с ног так, что она не успевала слова путного сказать старшим, а младших хотя бы обнять, приласкать — отказалась бы от нее во имя детей? Лучше стоять полоске жита несжатой, чем головке младшего оставаться непоглаженной. Одно во имя другого, и одно исключало другое».

«А может, душонки их зыбкие хотели, чтобы она чаще садила их вокруг себя, обнимала за плечи ближних и начинала сказывать, как иногда сказывала:

— Как во славном городе Киеве жил себе Владимир-князь, он во доме благочинном, своей каменной палате, и имел двенадцать чадов…

А где взять было для этого время, а силы?»

У сваіх думах пра дзяцей (менавіта «думамі» можна назваць раманныя раздзелы пра кожнага з пяцярых дзяцей, бо яны сваім пафасам чымсьці нагадваюць ліра-эпічныя народныя песні гістарычна-бытавога зместу) гераіня, асэнсоўваючы іх няўдалыя лёсы, іх далёка не ўзорныя, а часам і амаральныя паводзіны, канстатуючы, што не выраслі яны ў духоўным плане ва ўвесь чалавечы рост, будзе шукаць акалічнасці, якія змякчаюць іх віну. Будзе апраўдваць іх і ўласным недаглядам, і вайной, ад якой, на яе погляд, усе беды: «Знала, догадывалась мать, что беды на семью — от войны. Не будь ее — и Федор, глядишь, нашелся бы. Не утерпел бы, вернулся. И детям душонки хисткие никто бы не отравил, вырастила б их людьми, нашла время и ума горсточку.

Война ей и внуков попортила — от больных, психованных детей нездоровые родились внуки, ох нездоровые. Издерганные, нервные».

А часам і задасць сабе пытанне: ці не ўнаследаваў той ці іншы з дзяцей і нейкую цёмную, не вельмі прывабную частку яе мужа Фёдара?

Раман «Люди божьи собаки» ўяўляе сабой гарачую і праўдзівую споведзь галоўнай гераіні, якая як бы зноўку перажывае ўсе цяжкія падзеі свайго ўласнага жыцця і сваіх пяцярых дзяцей. І не проста перажывае, а па-філасофску асэнсоўвае іх з пазіцый дня сённяшняга, калі рыхтуецца паўстаць перад Усявышнім. Але перш за ўсё хоча дачакацца мужа і даць за дзяцей справаздачу яму. Чаканне старой Таццянай мужа здаецца чытачу спачатку проста дзівацтвам. «И она стала его ждать. И прождала совсем недолго — одну бабью жизнь», — гаворыць пісьменнік пра хуткаплыннасць жыцця.

Аўтар рамана ўмее будаваць сюжэт, умее трымаць увагу чытача. Якім бы глупствам ні здавалася чаканне спачатку самога мужа, а пасля ліста ад яго, чытач на працягу ўсяго твора не адкідвае варыянт, што ён жывы. Толькі ў фінале зразумее, што чаканне Таццяны не было марным, яна атрымлівае ад мужа ліст з далёкай Амерыкі і знаходзіць адказы на пытанні, якія яе цікавілі адносна лёсу мужа. Сэрца падказвала ёй, што муж жывы. Так яно і атрымалася.

Вобраз старой беларускай сялянкі Таццяны напісаны без паблажлівай ідэалізацыі і падсалоджвання. Яна не святая, але валодае, можа, самым высокім майстэрствам у жыцці — майстэрствам жыць, дзейнічаць правільна ў любых абставінах, у любой сітуацыі, з любым чалавекам. Умее пастаяць за сябе, не даць у крыўду дзяцей, шчыра паспачуваць чалавеку ў бядзе. У экстрэмальных выпадках здзіўляе вынаходлівасцю і мудрасцю ўчынкаў. Што можна было прыдумаць больш дзейснае ў сітуацыі, калі яе дачку Вольгачку і Сілу Марозава, у якога дзеці такія, як яна, засталі ў жыце, і людзі па-звярынаму жорстка збівалі яе на матчыных вачах, і ніякія крыкі не дапамагалі, як не тое, што зрабіла Таццянка, напусціўшы на аднавяскоўцаў пчол. Надоўга запомніўся жыхарам Краснай Старонкі гэты выпадак!

Жыццё не песціла ні яе, ні дзяцей. Гісторыя кожнага з іх — па-свойму ўнікальная, адметная, непаўторная, хоць і мае падабенства з гісторыямі многіх гаротных «дзяцей вайны».

Можна гаварыць пра майстэрства кампазіцыі, пра вобразнасць і сакавітасць мовы пісьменніка, пра ўдалае выкарыстанне ім сюжэтнай сімволікі, народных прыкмет нядобрага, майстэрства мастацкай дэталі. Бо раман, безумоўна, удача Уладзіміра Хількевіча. Можна таксама і папракнуць любімую гераіню аўтара ў прымхлівасці, забабоннасці, нават чарадзействе (зноў жа, што не зробіць часам маці дзеля дзяцей!), аднак і гэта суровая праўда пра чалавека савецкага часу, калі панаваў атэізм, а ў выніку былі нядобрыя ўхілы ў язычніцтва. Аднак уся практыка жыцця гэтай беларускай сялянкі гаворыць пра тое, што яна цвёрда засвоіла хрысціянскае вучэнне аб цярпенні смутку, пакут, хвароб, выпрабаванняў, усялякага роду неўладкаванасцей у імя Бога, у імя выратавання душы.

Таццяна жыве сэрцам, і яно падказвае ёй, што яе муж жывы. Таму яна верыць і прыкметам: «Вот видите, свечка Федору в церкви сразу и погасла. А никого близко не было. А погасла так, как будто дунули. И она сразу поняла, что он — живой». Верыць і цыганцы, якая сказала, што ён жыве і прышле ёй ліст, але няхутка. Доўгімі начамі яна шмат гадоў вяла размовы з мужам, верачы, што ён адчувае яе гэтак жа, як і яна яго. Ведае, што чакае яго ліста: «Напрасно, что ли, долгими ночами она вела с ним беседы, совета просила, бедой делилась. С ним сначала, потом с Богом. На Бога она больше надеялась», — гаворыць аўтар пра сувязь гераіні з Небам. Гэта сувязь і дапамагае ёй спасцігнуць самыя важныя духоўныя законы, аб якіх можна прачытаць у святаайцоўскіх працах і якія так проста, сваімі словамі, выкладзены ў няўласна-аўтарскай мове ў рамане: «Как-то сын сказал ей: кого ждут, те возвращаются. Это было перед самым его уходом в армию. Может, он имел в виду не только себя?

Да, она знала тот закон жизни, по которому беды и несчастья настигают человека, когда от него отворачиваются или изменяют близкие ему люди, перестают за него бояться и каждую минуту думать о нем. И если до той поры их любовь хранила, то их равнодушие или измена открывают ворота напастям, и чем дольше он остается один, без своих, даже если они рядом, тем больше напастей.

Память, каждодневная и чистая память о родном человеке, даже если он с тобой, и предчувствие боли от возможной утраты — вот что хранит наших близких. На один только день, на один только час забудьте о них, измените, и они отойдут от вас, отдалятся, иногда так далеко — туда, откуда возврата нет. Не обрекайте близких на забвение даже на час, вы обрекаете их на страшное. Думайте о них и тревожьтесь за них. Не мстите, потому что рано или поздно придет раскаяние, и оно будет мучить вас, пока не сведет в могилу…»

Усяго восем гадоў пражыла гераіня Хількевіча з мужам, а вернай яму была ўсё жыццё. Жыццё Таццяны — узор вернасці, цярплівасці, працавітасці і чысціні. Толькі аднойчы за ўсё бязмужжа быў у яе грэх, і то не па яе віне. Размаўляючы ціха з Фёдарам пасля прачытання яго ліста, яна тлумачыла яму, чаму больш не выйшла замуж: «И тебя не могла забыть. Думаешь, легко с новым человеком снюхаться, к его поту и дыханию привыкнуть? Я к твоему привыкла. Ты был для меня мужем, хозяином, никто больше. Когда думала о тебе, а о тебе я думала всегда, то вспоминала первую нашу ночь, на Щедреца, в санях…»

У сітуацыі з лістом з Амерыкі, калі дзеці даведваюцца пра амерыканскіх дзяцей і жонку Фёдара і далікатна маўчаць, пазіраючы на яе, яна адазвалася добрым словам пра новую жонку іх бацькі — і ўсім стала цёпла на душы.

Створаны раманістам партрэт галоўнай гераіні рэзка выдзяляецца на фоне партрэтаў сучасных распусных гераінь, у якіх выпуклена сексуальнасць. Выдзяляецца цнатлівасцю і мудрасцю, праведнасцю, святасцю. Аўтар падкрэслівае гэту святасць згадкай аб тым, што ў яе дома свеціцца ікона. І тым, што памірае яна на Тройцу. «Если на Троицу померла — значит святая», — сказаў яе сын Аляксей. І ніхто не запярэчыў яму, бо кожны ўпэўнены быў у правільнасці сказанага. Не словамі, а прыкладам свайго жыцця выхоўвала іх маці, тып і аснову характару якой яны ўсё ж захавалі: «Друг за другом, по старшинству, как были приучены ею, они переступили узкую планку порога и вошли в чистую комнату к ней.

Понимая, что ей скоро держать ответ перед Богом, встали на колени. Не все, только Алексей и Катя, Ледик и Мышка остались стоять.

В углу светилась икона. Лик Господа был печален».

Пісьменнікаў усіх часоў і народаў цікавіла ідэя шчаслівага і справядлівага ўладкавання грамадства, ідэя дасягнення чалавечай бессмяротнасці ў ім. Марыць пра такое райскае існаванне на зямлі і сучасная пісьменніца Зінаіда Дудзюк у сваёй аповесці «Аднарог». Аднарог у міфалогіі — сімвал чысціні і цнатлівасці, валодае вялікай гаючай сілай. Знешне выглядае як жарабя, бык або казёл, мае адзін доўгі прамы рог на лбе. Менавіта праз яго трапляе адзін з герояў аповесці Дудзюк у будучыню, пайшоўшы за ім следам у надзеі злавіць. Твор напісаны жывою мовай, чытаецца з цікавасцю і лёгка.

У пачатку аповесці пісьменнік знаёміць нас з паміраючай вёскай Вырай, дзе жывуць галоўныя героі хлапчук-інвалід Уладзік і стары дзед Карней. Вяскоўцы чакаюць аўталаўку. Уладзік, у доме якога «ані крошкі хлеба», просіць дзеда пазычыць яму грошай, абяцаючы аддаць са сваёй пенсіі па інваліднасці. Маці з сястрычкай яшчэ не вярнуліся з горада, апошняя цяжка захварэла. Ногі хлопчыка нерухомыя, але ён абслугоўвае сябе самастойна, прыстасаваўшыся рухацца на інваліднай калясцы. Дактары лічаць, што становішча можна паправіць, зрабіўшы аперацыю. Але для гэтага патрэбны грошы. Маці двойчы везла яго ў сталіцу, сабраўшы патрэбную суму, але так і не давезла. То тлумачыла, што грошы ўкралі, то — што сама згубіла. Уладзік — чалавек самастойны, ён не губляе надзеі. Ён верыць і любіць маці, хоць усе называюць яе п’яніцаю і кажуць, што сабраныя грошы яна прапіла і што сама вінавата ў тым, што ледзь не загубіла дачушку. Маці сапраўды моцна запіла, звязаўшыся з п’яніцаю і злодзеем і вельмі злым чалавекам, які заблукаў у іх вёску — Іванам Прыблудным. Прыблуднага ў вёсцы не любяць, бо ён нелюдзь і прыбірае да рук усё, што дрэнна ляжыць.

Цёплымі, сардэчнымі фарбамі намаляваны Уладзік, дзед Карней і іншыя апошнія жыхары вёскі, якія трымаюцца разам, прыязна ставяцца адзін да аднаго. Загадкавае знікненне старога Карнея, які пайшоў у чарніцы і вярнуўся толькі на трэці дзень, ускалыхнула вёску. Тым больш, што вярнуўся ён з прыгожым жарабком з прамым доўгім рогам, якога нікому з вяскоўцаў раней не даводзілася бачыць. Свой сакрэт Карней вырашыў паказаць маленькаму сябру — Уладзіку, паабяцаўшы, што там яго і вылечаць.

Шмат чаму давялося падзівіцца Уладзіку з дзедам Карнеем у ідэальным будучым, якое паўстала перад імі. Першага там паставілі на ногі, а другога вылечылі

ад старасці, зрабілі маладым. Там усе маладыя, няма хворых і старых. І кожны пры жаданні можа жыць вечна. У вёсцы будучага (той жа вёсцы Вырай) няма ні п'яніц, ні распуснікаў. Людзі з павагаю ставяцца да сваіх каранёў, да ўсяго нацыянальнага. Усе гавораць на роднай мове. «— Вы цудоўна размаўляеце па-беларуску, — пахваліў Гарыславу Карней. — І доктар, што мяне лячыў — таксама. — Мы ж беларусы! Дзіва! Як жа можна іначай? У нас усе толькі так і размаўляюць!»

У будучыні, дзе ўсё не такое, як у сучаснасці, — і ежа, і адзенне, і мараль — вельмі няўтульна жыць людзям, падобным да амаральнага тыпа Івана Прыблуднага: «Вось трапіў дык трапіў! Тут гарэлкі не прадаюць, віно і тое мензуркамі мераюць, а калі трохі перабраў — зноў у цэнтр, на чыстку. Яны мне прапаноўваюць вечнае жыццё, а на які хрэн яно мне? Мусіць павешуся...», — скардзіцца ён.

Зінаіда Дудзюк адвяргае матэрыялістычны тэзіс аб вызначальнай сіле абставін пры стварэнні чалавечага характару. Усталяванне справядлівасці, парадку, матэрыяльнага дабрабыту, спрыяльных умоў для жыцця, сцвярджае аўтарка ўсім вобразным ладам твора, зусім не азначае, што ўсе людзі стануць добрымі і наступіць рай на зямлі.

Спыняючы размову з Іванам Прыблудным, дзед Карней, абураючыся яго незадаволенасцю, робіць заключэнне: «П'яніцу хоць побач з Богам пасадзі, яму ўсё роўна будзе блага».

Аднак і Уладзіка разам з дзедам Карнеем не вельмі спакушае ідэя вечнага жыцця без блізкіх і родных. Наведаўшы вясковы музей, хлопчык пазнае сярод навукоўцаў вёскі сябе. Ён праславіцца як астраном, адкрые новыя зоркі і таямніцы Сусвету.

У аснове аповесці, бясспрэчна, ляжыць дапушчэнне аб магчымасці збудавання на Зямлі дасканалага, гарманічнага грамадства чалавечымі сіламі. Аднак, каб чалавеку было там добра, яму трэба дбаць пра ўласную дасканаласць. «Аднарог» — не ўтопія, хоць па-свойму будуе мадэль лепшага жыцця, твор пазбаўлены характэрнага для ўтопіі рэвалюцыйнага зместу. Утапізм выкарыстоўваецца як заклік да сур'ёзнага вырашэння некаторых нацыянальных праблем, у прыватнасці, моўнай.

У пяці нумарах часопіса «Полымя» (1, 2, 3, 6, 7) надрукавана дакументальная аповесць Уладзіміра Ліпскага «Мужык». Гэта пісьменнік, на мой погляд, паспяхова адраджае ў сучаснай беларускай прозе жанр дабрадзейнай біяграфіі, вельмі папулярны ў рускай духоўнай літаратуры XVIII — XIX стагоддзяў, што ўяўляў сабой жыццеапісанне выдатнай асобы (ёю магла быць асоба непраслаўленага царквой пустэльніка, вядомага дзяржаўнага дзеяча і г. д.), якая сваім прыкладам магла б абудзіць у чытача гарачы энтузіязм, жаданне жыць творча і самаахвярна.

У цэнтры аповесці — наш сучаснік, «гаспадар вялізнага кааператыва, які навідавоку ўсяе Беларусі перакройвае аблічча сельскіх паселішчаў, які ўдыхае ў іх жыхароў купалаўскую веру: «Я буду жыць, бо я мужык!» Імя гэтага астрамечаўскага старшыні, пра якога гавораць: «от бы такога старшыню ды ў кожную сельскую гаспадарку Беларусі, дык мы б сапраўды дагналі б хвалёнае замежжа», — Аляксей Скакун.

Аповесць напісана жывою, сакавітаю моваю, змяшчае ў сабе светлую канструктыўную энергію. Яна накіроўвае чытача на вырашэнне вельмі важных сёння праблем, звязаных з развіццём сельскай гаспадаркі, з разумным гаспадараннем на зямлі. Эпіграфам да яе ўзяты словы самога «садоўніка» Скакуна: «Настаў час, калі трэба разбудзіць у кожным з нас «спячую пупышку», каб яна стрэльнула жыватворным парасткам. Селянін — кармілец дзяржавы, корань нацыі, яе плоць і ядро душы. Дык дайце ж волю селяніну, мужыку. Хай вольна, творча працуе і дастойна, па заслугах атрымлівае за сваю гаспадарчую развваротлівасць».

Твор Ліпскага цікавы не толькі тым, што малюе партрэт адоранага мужыка, фундаментальнага гаспадара, які выдатна засвоіў навуку мудрай працы на зямлі і глядзіць на працу селяніна як на працу творчую, благаславёную Богам, але і

ўвагаю да адной з цэнтральных праблем сучаснай беларускай прозы (ды і паэзіі таксама) — праблему «карані і крона». Пісьменніку давялося нямала папрацаваць над архіўнымі дакументамі, перабраць розныя версіі прозвішча Скакуноў, паразважаць над іх радаводным дрэвам, каб даведацца пра далёкіх родзічаў героя аповесці.

Усе раздзелы суправаджаюцца цытатамі з Фёдара Дастаеўскага. Аўтар тлумачыць гэта тым, што «карані Дастаеўскіх і Скакуноў з аднаго палетка — беларускага, палескага, дастоеўскага». І праз увесь твор праходзіць думка аб тым, што і праца яго героя па-свойму вельмі вартая, патрэбная людзям, мае сваё харាство, сваю паэзію. Аповесць заклікае чалавека адчуць сваю важнасць на зямлі, палюбіць яе. Яна апявае простых людзей, людзей працы, абуджае патрыятычныя пачуцці, веру ў Беларусь, што, думаецца, вельмі неабходна цяпер, калі развялося шмат пісьменнікаў-ныцікаў.

Праблема мастака і мадэлі, партрэта ў мастацтве, узаемаадносіны копіі і натуры, прыгожага і агіднага сур'ёзна ставіцца ў аповесці Алега Ждана «Гений» (Нёман, № 9). Галоўны герой яе — мастак Трышка, надзелены талентам, але пазбаўлены любові і спачування да людзей. Ён уявіў сябе геніем, знаўцам чалавечай душы. І, як відаць, пераймае манеру вядомага мастака Сярова, хоча быць партрэтыстам, у якога «небяспечна пісацца». Яму даручылі напісаць партрэты перадавікоў для Алеі Працоўнай славы. Трышка нефармальна падышоў да даручанай працы. Доўга хадзіў, звяраў фотакарткі з натурай, рабіў эскізы. Нарэшце праца закончана: «В лицах был и смысл, и правда, а все вместе они — вполне бессмысленная человеческая жизнь», — падводзіць вынікі сваёй працы Трышка. Агульнапрынятую думку аб яго творчасці выказвае яго прыяцель: «Сочувствовать надо, а ты издеваешься над людьми». Трышка з гэтым нязгодны. Ва ўсякім разе на словах: «Издевался? Нисколько. Просто показывал, что нельзя скрыть тайные намерения и страсти. Сторожкие уши выдадут истинное назначение доверчивых глаз, нос перечеркнет ласковую улыбку, щедрый блеск зубов выдаст корысть и алчность.

«Человек заслуживает уважения и сочувствия».

Тришка расхохотался. Человек заслуживает? История это не подтвердила. Не говоря уже о том, что не подтвердила его, Тришкина, личная жизнь».

Трышка імкнецца знайсці ў твары сваёй мадэлі тыя канкрэтныя штрыхі, якія заключаюць яе непаўторнасць, выяўляюць сутнасць, г. зн. дабіваецца праўдзівасці. Аднак вачыма нянавісці нельга ўбачыць праўду. Яна дае скажонае паняцце пра чалавека. Трышка хварэе тою ж хваробай, што і большасць сучасных людзей — нарцысізмам, безлюбоўным, грэбліва-іранічным стаўленнем да бліжняга, гордасцю, разам з тым баязлівасцю. Нават самы блізкі яму чалавек — маці — і тая выклікае ў ім непрыемныя пачуцці, увесь яе выгляд і паводзіны раздражняюць яго: «Вдруг сообразил, что ни разу не рисовал мать. Быстро, не задумываясь, сделал углем набросок. Рассмеялся: интересно, как она отнеслась бы к нему. В лице, как у старой зайчихи, вечный испуг, как у собаки — готовность служить. Лицо, однако, не передавало сущность. Нужна ее тощая фигура, длинные руки и ноги, сутулые плечи. Но и этого мало. Вот что: сковородку ей в руки и — посреди двери. Я не помешаю тебе, Тришенька? Съешь картошечки, голубчик. Знает, что помешала, что есть не станет, что Тришка заслуженно обругает, а все ж стоит».

Як бачым, пісьменнік ставіць падобныя праблемы, што і рускі класік Мікалай Гогаль у аповесці «Партрэт» — праблемы, звязаныя з сутнасцю і сэнсам мастацтва. Гогаль у сваім творы ў вобразе старца-іканапісца адлюстраваў ідэал мастака, які, толькі ачысціўшы душу строгім постам і малітвай, узяўся за напісанне карціны аб нараджэнні Ісуса Хрыста. Галоўны герой Ждана паступова пачынае разумець, чаму ад партрэтаў, створаных яго пэндзлем, адварочваюцца людзі. І што ён ніякі не геній, а «маленький невезучий человечек, мечтавший выцарапаться из нищеты и безвестности, спасти свою ничтожную, но единственную жизнь». Што ў яго карцінах закладзены ўсе непрывабныя якасці яго душы. І што чалавек заслугоўвае спачування.

Хочацца адзначыць, што і некаторыя іншыя рускамоўныя празаічныя творы, надрукаваныя ў «Нёмане», робяць добрае ўражанне, напрыклад, аповесць Наталіі Касцючэнкі «Предательство» (№ 10). Дарэчы, летась выйшла і новая кніга гэтай пісьменніцы «Верба над омутом». У ёй аповесць «Предательство» ўваходзіць у склад рамана «Верба над омутом». У кнізе апроч названага рамана прадстаўлены яшчэ нарысы і артыкулы аўтаркі.

У рамане Касцючэнка прызнаецца, што паклікана была на пісьменніцкую працу ў сне нейкім патаемным голасам, які даваў ёй наказ напісаць кнігу і патлумачыць, якой яна павінна быць і аб чым: «Форма и идея книги, — піша аўтарка, — меня смутили. Книгу-исповедь, книгу-самоанализ, книгу-признание обо всем, что было несовершенного в моих чувствах, мыслях и поступках — вот что предлагалось мне написать». Канешне, не адразу і не без ваганняў узялася яна за выкананне пастаўленай перад ёю задачы («Да и как можно писать такую книгу? Разве это нормально — придавать огласке плохое в себе?»)

Гісторыя літаратуры, як мы помнім, ведае ўжо прыклад падобнай споведзі. У свой час Русо ў славутай «Споведзі» гаварыў, што ён распачынае «справу беспрыкладную», якая «не знойдзе пераймальнікаў», бо выстаўляе на ўсеагульны агляд уласную душу. Рэфлексія і самааналіз, біяграфізм, уласцівыя «Споведзі» Русо, характэрны і для беларускай пісьменніцы Касцючэнкі.

У рамане «Верба над омутом» аўтарка не толькі імкнецца зразумець сутнасць сваёй душы, яе прызванне, але і душ блізкіх ёй людзей. Цёплымі, задушэўнамі фарбамі намаляваны ў ім вобразы бабулі Хрысціны, у якой яна, унучка, гадавалася ў раннім дзяцінстве, праводзіла кожныя школьныя канікулы, бабулі Наталкі, якая вывела ў людзі яе маці з братам, яе каханага Фёдара — людзей унікальнага духоўнага свету. Н. Касцючэнка паказала сябе глыбокім аналітыкам чалавека, свету яго пачуццяў, загадак яго душы. Тонкая назіральнасць, захапленне «очарованием человека» (Шолахаў), веры ў тое, што душа яго схільная да дабра, выразны этычны пафас — вось тое, што адразу кідаецца ў вочы пры чытанні твора. Раман адрозніваецца глыбокім псіхалагізмам, сардэчнай шчырасцю і лірызмам.

Побач з тэмай здрады вельмі важнай тэмай аповесці «Предательство» з'яўляецца тэма чалавечнасці, маральнасці, прыстойнасці асобы. «Что, порядочные не нравятся? Непорядочные будут морду бить», — папракае галоўную гераіню сябра яе мужа, маючы на ўвазе яе пачуцці да людзей са складанымі лёсамі — Фёдара, Валодзі і рашучае адмаўленне ад сувязі са знешне прыстойнымі адукаванымі людзьмі, тыпу мужа Паўла. Агульнапрынятай з'яўляецца думка пра тое, што прыстойны чалавек — гэта чалавек, які атрымаў вышэйшую адукацыю, мае добрую пасаду, немалыя грошы, не п'е, не курыць, не мае судзімасці, мае добрых бацькоў. У Фёдара нічога з гэтых «атрыбутаў» прыстойнасці няма, але ёсць жаданне стаць лепшым, цягнуцца ўгору, ёсць добрае сэрца, гатовае да самаахвярнасці, адданасць у каханні, схільнасць да дабра. Не могуць не кранаць яго адносіны да Наталіі, да сястры. І асабліва кранаюць яго намаганні, якія ён робіць для таго, каб кінуць піць, яго далікатнасць, павага і пяшчотны клопат пра каханую, паяўленне ў ім новых якасцей душы, выкліканых любоўю.

Аповесць «Предательство» — адзін з найбольш прыгожых твораў аб першым каханні, якія давялося чытаць у апошні час. Чыстым, крыху старамодным каханні, пададзеным на фоне цудоўных прыродных карцін, напісаных проста і разам з тым шырока, свабодна ў лірыка-рамантычным ключы.

У рамане «Верба над омутом» з вялікай любоўю намалявана вёска, палеская глыбінка, дзе прайшло ранняе дзяцінства гераіні, яе чароўная прырода: «И я, как и каждый человек, что-то в этой жизни любила, и в особенности неприметную обветшалую хату в деревне, ту единственную хату на свете, где когда-то в детстве была по-настоящему спокойна и счастлива. И в этой хате естественно, по привычке, не задумывалась о том, внимала знакомым звукам и знакомой тишине».

Пісьменніца ўмее данесці непаўторную вобразную, сакавітую гаворку людзей гэтага роднага ёй краю, а праз яе іх характар і псіхалагічны стан. Дыяло-

гаў у разглядваемым рамане не так і многа, знешне яны вельмі традыцыйныя, але ў нешматлікіх рэпліках ярка выяўляецца жывая чалавечая душа. Н. Касцючэнка, дарэчы, заўсёды найлепшым чынам вырашае, якую сцэну падаць у дыялозе, якую ў аўтарскім апавяданні ці ў іншых недыялагічных формах.

Творы напоўнены добрым хрысціянскім пачуццём удзячнасці жыццю за тое, якое яно ёсць, пачуццём гармоніі ў душы, што, згодна з апосталам Паўлам, з'яўляецца вялікім набыткам чалавека.

У першым і другім нумарах «Полымя» друкуецца заканчэнне чацвёртага рамана маштабнай гістарычнай эпапеі Уладзіміра Гніламёдава, які называецца «Валошкі на мяжы», прысвечанага жыццю працоўных Заходняй Беларусі ўжо пры Саветах у самым канцы 1930-х — пачатку 1941года, калі набліжалася Вялікая Айчынная вайна. Расказваецца пра далейшыя лёсы галоўных герояў Лявона і Фёклы, іх цяпер ужо жанатага сына Васіля і яго жонкі Просі, сына Валодзі, а таксама, знаёмых чытачу Цімошы, Косці, Якава Арыстархавіча, былой прастытуткі Амеліі Канстанцінаўны, якая вярнулася ў Пруску, і іншых, пра першыя арышты, учыненыя новай уладай.

Пра эпапею Гніламёдава ўжо заслужана сказана ў друку многа добрых слоў. Новы раман напісаны не менш моцна, чым папярэднія, аўтар і тут дэманструе вялікую культуру псіхалагічнага аналізу, робячы, як і ў класічным эпасе, асноўным носьбітам псіхалагічнага зместу вобраза знешняе дзеянне (паводзіны, учынкі, жэсты, рухі, словы), пакідаючы ў «падводнай плыні» ўнутранае жыццё чалавека, але адначасова і пашыраючы магчымасці псіхалагічнага адлюстравання шляхам агалення ўнутранага свету.

Заслугай раманіста з'яўляецца тое, што ён адкрывае чытачу шмат новага, невядомага з жыцця «заходнікаў», дае асабістую ацэнку вядомым дзяржаўным дзеячам і падзеям першай паловы XX стагоддзя, псіхалогіі эпохі.

Сучасная літаратура адкрыта і непасрэдна выказвае сваю суб'ектыўнасць. Гэта тэндэнцыя адкрыта выражаецца ў творчасці і Андрэя Федарэнкі (раман-эсэ «Межы»), і ў творчасці У. Гніламёдава (раман-дзённік «Сем гадоў у ЦК»), і інш. У свой час Чэхаў рэзка выступаў супраць суб'ектыўнай прозы. «Суб'ектыўнасць, — пісаў ён, — жахлівая рэч. Яна нядобрая ўжо тым, што выдае беднага аўтара з рукамі і нагамі». Аднак сёння чытачу якраз і хочацца суб'ектыўнасці, хочацца ведаць, што пісьменнік «думае аб свеце», каб ён выдаў сябе «з рукамі і нагамі», дапамог зразумець сэнс падзей і змен, што адбываюцца ў грамадстве, растлумачыць з'явы свету, падзей далёкай і недалёкай гісторыі, пачуць пісьменніцкае слова пра самога сябе.

Гэтым патрабаванням шмат у чым адпавядае раман-дзённік акадэміка Нацыянальнай акадэміі навук, доктара філалагічных навук Гніламёдава «Сем гадоў у ЦК», які расказвае аб яго працы ў апараце ЦК КПБ. Твор, як можна меркаваць па шматлікіх вусных водгуках, з'явіўся адметнай з'явай у беларускай літаратуры, выклікаў глыбокую цікавасць чытачоў. Ён насычаны свежай інфармацыяй не толькі аб тых, з кім давялося працаваць сем гадоў, але і аб пісьменніках, крытыках, аб літаратурным жыцці Беларусі, Савецкага Саюза. Роздумам аб часе, чалавеку, грамадскім ладзе, людскіх узаемаадносінах, важнейшых падзеях у свеце. Дзённік паказвае шырыню поглядаў аўтара, разнастайнасць інтарэсаў, яго далікатнасць і шчырасць у апавяданні пра таго ці іншага чалавека, апісанні ўражанняў пра яго. Разам з тым раман-дзённік змяшчае цікавыя звесткі пра аўтара, яго сям'ю, яго род. Калі ў гістарычнай тэтралогіі (раманы «Уліс з Прускі», «Расія», «Вяртанне», «Валошкі на мяжы»), Гніламёдаў утрымліваецца на пазіцыях чыста аб'ектыўнай творчасці, то раман-дзённік ставіць пісьменніка нярэдка і ў ролю «суддзі», які імкнецца судзіць чалавека паблажліва і добразычліва. Аўтарскае стаўленне да той ці іншай асобы, той ці іншай падзеі адначасова вельмі прынцыповае і неабыякавае. Апавядальныя інтанацыі рамана-дзённіка вельмі разнастайныя — сур'ёзна-філасофскія, жартоўна-гумарыстычныя, лірычныя, але амаль нідзе не знойдзеш тут зняважлівых інтанацый у адносінах да чалавека. Створана багатая

галерэя партрэтаў не выдуманых персанажаў, а жывых, рэальных людзей, многіх з якіх мы ведалі, некаторыя з якіх і цяпер жывуць. Твор выдатна даносіць дух яшчэ нядаўняга і такога знаёмага нам мінулага, але адначасова ўжо такога далёкага і чужога па светапоглядзе.

Высокімі мастацкімі вартасцямі адрозніваецца дзённік Уладзіміра Сцяпана «Мінулае лета» (Маладосць, № 9). Майстэрства гэтага твора праяўляецца, здаецца, у кожнай клетачцы. Жыва, свежа расказана пра норавы, звычаі, вераванні людзей вёскі, іх адносіны да жыцця і смерці, іх здзіўленне перад хараством прыроды. Пісьменнік валодае ўменнем дакладна перадаць лірычны стан прыроды, залежнасць унутранага стану чалавека ад «настрою» прыроды, уздзеянне яе каляровых і светлавых вобразаў на чалавека. Хочацца прывесці адну з лірычных мініяцюр вясковага дзённіка: «Сонца села. Вечар заліў зямлю неверагодным святлом. На небе спыніліся вялізныя ружова-залатыя аблокі. Сусед вёў з поплаву карову. Убачыў мяне і закрычаў, але не нервова, а здзіўлена: «Паслухай, Валодзя, што гэта такое? Глянуў на свае рукі і здзівіўся — яны такія жоўтыя! Ніколі такога не бачыў. Можа, ты ведаеш, як такое атрымліваецца?»

Я паспрабаваў растлумачыць суседу пра вечаровае чырвонае сонца, нізкія белыя аблокі, поўныя вільгаці, пра адлюстраванне і рэфлексы сонечнага святла, пра аптычны эфект...

Гаварыў і сам разумеў, што словамі цяжка вытлумачыць хараство. Змоўк. Мы здзіўлена глядзелі адзін на аднаго. І позірк суседа, і мой гаварылі пра неверагоднае хараство больш, чым самыя дакладныя словы. Потым калі развіталіся, то я згадаў пра «несказанный свет», і яшчэ доўга стаяў на ганку, пакуль не сцямнела».

Чытанне названага твора робіць светлае ўражанне, хоць з'явы, якія закрануты ў ім — п'янства, алкагалізм, знахарства, шэпты — з'явы, мякка кажучы, не вельмі прыемныя. Міжволі прыгадваеш словы, сказаныя «прыгожым, амаль божым старцам» у аповесці М. Гогаля «Партрэт» аб тым, што для мастака-творцы і ў агідным ужо «няма агіднага, бо праглядвае нябачна праз яго прыгожая душа стваральніка і нікчэмнае ўжо атрымала высокае выказванне, бо працякло праз чысцілішча яго душы». Задумаемся над гэтымі мудрымі словамі, якія ўклаў Гогаль у вусны старца. Праз творчасць пісьменніка «праглядвае нябачна... душа стваральніка»! Гэта значыць, што, чытаючы мастацкі твор, мы звязваемся з душой пісьменніка, яго духам. Зараджаемся той энергіяй, тым настроем, які хваляваў аўтара ў працэсе пісьма. Перажываем тыя пачуцці, якія перажываў аўтар, яго героі. Чуем «песню» аўтара, якая паводле Левітана, павінна гучаць у кожным творы мастацтва. Індывідуальнасць аўтарскага бачання, суб'ектыўнасць яго ў аб'ектыўным паказе карціны свету, інтэрпрэтацыі жыцця — гэта і ёсць «песня», аб якой ідзе гаворка.

Гэту «песню» можна пачуць і ў вялікім эпічным творы, і ў малым апавядальным жанры. Выразна чуецца яна і ў абразках «Зялёныя пацеркі» Паўла Саковіча, якія не толькі ўзбагачаюць эмацыянальны вопыт чытача, заклікаючы любіць і берагчы ўсё жывое, але і выпрабоўваюць чалавека на чалавечнасць праз адносіны да жывёльнага свету.

Добра зарэкамендаваў сябе малады аўтар Міхась Зізюк у аповесці «Аднакласнікі» (Маладосць, № 4). Аповесць расказвае аб сустрэчы аднакласнікаў праз дваццаць гадоў пасля заканчэння школы. Галоўнай гераіні твора Ганне, загадчыцы дзіцячай паліклінікі, тэлефануе некалі закаханы ў яе аднакласнік з просьбаю сабраць клас, абяцаючы «накрыць паляну», рэстаран за яго кошт. Прыехаўшы ў родную вёску да бацькоў, яна абыходзіць аднакласнікаў, якія засталіся жыць у ёй, тэлефануе тым, хто асталяваўся ў іншым месцы. І натуральна, што сустрэчы і званкі будзяць успаміны. Рэтраспектыўны ўнутраны маналог гераіні змяшчае «прадгісторыі» персанажаў. Мастацкі час у аповесці павялічваецца, дзякуючы маналогу-ўспаміну. Карыстаючыся вядомым у літаратуры прыёмам часавай дыстанцыі, пісьменнік даводзіць, што чалавек мала мяняецца з часоў маленства (такую думку адстойваў, дарэчы, і Дастаеўскі). Нават там, дзе, здавалася б,

на першы погляд, нехта моцна змяніўся, усё зусім не так. Чужым, незнаёмым падаўся Ганне адзін з аднакласнікаў, у якога яна была закахана ў школе, чымі маральнымі якасцямі захаплялася. Цяпер жа гэта быў закончаны эгаіст, абыякавы да аднакласнікаў, бацькоў і ўсіх іншых людзей. Экскурс у мінулае дазволіў Ганне зразумець, што гэтыя непрывабныя рысы характару, якія так здзівілі сёння, аказваецца, былі ў персанажа і раней, толькі заставаліся ў ценю, як бы схаваныя. Цяпер жа выявіліся на поўную моц.

Аўтар добра валодае псіхааналізам, умее зрабіць дакладны разбор і аналіз пачуццяў і ўчынкаў сваіх герояў. Аповесць праўдзіва паказвае жыццё сённяшняй вёскі і яе людзей, не затушоўваючы такія адмоўныя з’явы ў ёй, як п’янства, адсутнасць культуры.

Празаічныя творы 2011 года, як і ранейшых гадоў, сведчаць пра змаганне ў сучаснай літаратуры эксперыментальных і традыцыйных тэндэнцый, пошукі аўтарамі новых сродкаў выразнасці і плённае выкарыстанне старых, абноўленых напаўненнем іншым зместам. У творах пісьменнікаў-эксперыментатараў назіраецца адмаўленне ад псіхалагізму, ігнараванне прычынна-выніковых сувязей, адмаўленне ад ідэі гуманізму і прызнання ўнікальнасці чалавека. І як вынік — расчараванне ў ім, песімістычны погляд на яго. Твораў, дзе адлюстраваны трагізм асобы, кахання, сяброўства, татальнае адзіноцтва, «тыранія банальнасці», з’явілася нямала. Сучасныя беларускія шукальнікі новых форм адлюстравання чалавека і свету свядома пакідаюць у ценю сацыяльнае ў чалавеку, пазбягаюць гаворкі аб індывідуальна-псіхічным у ім, акцэнтуючы ўвагу на яго абязлічанасці, хоць нярэдка ўказваецца імя, пол і ўзрост чалавека.

Сітуацыя знікнення, ізаляванасці, страты ўласнага «я», адзіноцтва характэрна для аповесці Таццяны Няфёдавай «Исцеление Лилит» (Нёман, № 7). У цэнтры твора — адзінаццацігадовая Танечка, цяжкахворая бранхіяльнай астмай, і яе ўрач Ліля. Пра хваробу Танечкі ў творы сказана так: «Она почти не спит ночами, а борется за свое дыхание. У нее аллергия на сотни вещей, запахов, эмоций и ассоциаций — любой контакт с одним из аллергенов вызывает у нее приступ удушья».

Сваім пафасам, настроем, духам аповесць Няфёдавай блізкая да твораў французскіх пісьменнікаў-мінімалістаў. «Чалавек без уласцівасцей» — у француза Эшноза і чалавек «без апазнавальных знакаў» — у Няфёдавай... У першага «чалавек без уласцівасцей» сімвалізуе чалавецтва, якое страціла гуманістычныя каштоўнасці, у другой — чалавецтва, якое цалкам страціла любоў.

Урач аддзялення дзіцячай бальніцы — Ліля, якая лечыць Танечку, аказваецца яшчэ больш хворай, чым Танечка. Праўда, яе хвароба носіць зусім іншы характар: «Кажется, я потерялась, Танечка. Потеряла своё место и время. Я сама не знаю, какая я, уж точно не такая, как я о себе думала. Всё так быстро меняется и меняет меня, что я уже не помню, какой я должна быть. И не понимаю, почему я должна быть кем-то. Я знаю, что так надо, надо обозначить себя для других опознавательными знаками: жила-была Лиля, она работала тем-то, увлекалась горными лыжами, домашними цветами и самоанализом, в меру интересовалась событиями в мире и политической обстановкой в стране, вышла замуж, родила, оставила след после себя в памяти потомков».

Ліля шукае істотных адрозненняў сябе ад іншых людзей і не знаходзіць. Стандартны набор заняткаў: работа, адпачынак, зносіны з іншымі людзьмі, вандроўкі, спорт, чытанне — усё, як і ў іншых. Імкненні — поспех, прызнанне, сям’я, дзеці, здароўе — і гэта ёсць ва ўсіх. Спынілася яна на страху — боязі цемры, нечай таемнай прысутнасці ў ёй, боязі нечага ледзь адчувальнага дыхання ў твар, каробачнасці чатырохсценнага жыцця. Гераіня не можа спасцігнуць межы ўласнага «я», адчуць сваю ўнікальнасць, знайсці матывацыю сваім учынкам.

Вобразы зімы, марозу, снегу, ільду, холаду з’яўляюцца сімваламі «глабальнай эпідэміі» — духоўнай прастуды, людской нелюбові, адчужэння, адзіноты, абсалютнай ізаляванасці чалавека ў сучасным свеце. Мова аповесці вельмі

метафарычная, іншасказальная, прычым нярэдка мы маем справу з разгорнутай метафарай. Знікненне любові азначае, паводле аўтаркі, узнікненне зімы, марозу. Шчаслівае сямейнае жыццё ў выніку нетрываласці кахання перарастае ў лёд і холад: «Но снова пришла зима, и всё замерзло. В их новом доме лед нарастал кристаллами, покрывая мебель и пол тонкой ледяной корочкой, отчего передвигаться стало очень опасно. И тогда она уехала».

Сутнасць духоўнага стану сучаснага чалавека французскі пісьменнік Мішэль Уэльбэк вызначае словам «горыч». Беларуская ж пісьменніца, аўтарка аповесці «Исцеление Лилит», выбірае слова «холад» і яго сінонімы: «Она села за стол, включила ноутбук и начала поиск. Ее интересовало все о холоде, который, она поняла, распространялся в мире, подобно простуде. Она не была единственной, кому холод мешал найти свое место в существующем порядке вещей и устроиться в жизни. У нее не получалось устроиться, заземлиться, прижиться <...> Подмораживать начало давно. Она заметила, что холод влияет странным образом на память, обездвиживая ее. <...> Простуженные также теряли способность осмысливать происходящее. Смысл вымерзал, как вода в ведре, оставленном на морозе, и потому понимать жизнь, случающуюся вокруг и рядом, становилось сложнее».

Зусім юная гераіня аповесці Танечка глядзіць на свет дарослых не па-дзіцячы сур'ёзнымі вачыма, вельмі спецыфічна характарызуючы магчымыя каузальныя сувязі паміж прадметамі і з'явамі. Адносна сваёй хваробы і матчынага пытання, што ёй рабіць, дзяўчынка адказвае: « — Ты не любіш папу!»

Адносна імя Ліліт у творы дадзена тлумачэнне: «Юноши и девушки-лилиту-демоны, в имени которых заключена игра слов из разных языков. По-шумерски лиль означает «воздух, ветер, дух, призрак», по-аккадски лилу — «ночь». І крыху далей прыводзіцца цытата з В. Емяльянава ў прадмове да «Асірыйскай магіі» Шарля Фасэ: «Вполне возможно, что люди, превратившиеся в духов лилу, при жизни были безбрачны и не оставили потомства».

Дэман нелюбові носіць гераіню аповесці Няфёдавай «Исцеление Лилит» з аднаго месца ў іншае, не даючы знайсці супакаення, прымушаючы змяняць імя. «Как тебя теперь зовут?» — пытаюцца ў гераіні. І яна сама задумваецца — «Танечка или Лиля?»

У фінале аповесці мы бачым гераіню ўсё з тым жа ўнутраным разладам і духоўнай раскіданасцю, што і на пачатку.

Уменнем вельмі элегантна зіхнуць «кулінарнай» лексікай, прадэманстраваць яе багацце адрозніваецца аповесць А. Камароўскага «Смаката» (Полымя, № 3), якая вельмі своеасабліва развівае рэнесансныя традыцыі, перадаючы «лірыку страўніка» і плоцевых уцех. Грунтоўнасць у паказе разнастайнасці страў, ежы і піцця прымушае ўспомніць Франсуа Рабле з яго выклікам аскетызму і ўстрыманню.

Тэме мінулага нашага народа прысвечаны аповесць вядомага пісьменніка Васіля Гігевіча «Страчанае шчасце», (Полымя, № 4), якая адносіць нас у часы першабытнасці, арыгінальна і захоплена расказвае пра жыццё племені, яго рамантыку і праблемы, а таксама раман малавядомай, але, бясспрэчна, таленавітай Надзеі Статкевіч «Папялішча» (Маладосць, № 5, 6, 7), які апавядае пра людзей васямнаццатага стагоддзя. Пэўным недахопам апошняга з названых твораў з'яўляецца яго залішняя дыялагічнасць. Ёсць у творы прыгожыя замалёўкі прыроды, удалыя партрэты. Аднак цэнтральнае месца займаюць дыялогі. Асноўная нагрузка на раскрыццё светапогляду, маральных крытэрыяў, унутранага свету героя падае ў Статкевіч менавіта на іх. Яны ў тым ліку амаль цалкам рухаюць і сюжэт.

Інтрыгуючая аповесць Ягора Конева «Новыя палескія рабінзоны» напісана ў прыгодніцкім жанры, пачынальнікам якога ў беларускай літаратуры быў Янка Маўр. На сувязь з маўраўскімі «Палескімі рабінзонамі» і ўказвае назва твора сучаснага празаіка. І не толькі назва, але і гісторыя, якая адбываецца з юнымі героямі. Займальнасць, напружаныя сюжэтныя калізіі, пазнавальнасць, патрыятычны пафас збліжаюць яе і з многімі іншымі прыгодніцкімі творамі сусветнай

літаратуры, у тым ліку і з выдатнымі «Трыма талерамі» Федарэнкі, на што ўказваюць і самі героі ў фінале.

У даным артыкуле больш увагі ўдзялялася творам буйнога эпічнага жанру — раману, аповесці, даследавалася і апавяданне, якое, канешне ж, заслугоўвае больш сур'ёзнай гаворкі, але памеры артыкула не дазваляюць шырокага разгляду гэтага «малога жанру».

З апавяданнямі ў перыядычным друку 2011 года выступілі М. Адам, Я. Галубовіч, Н. Гальпяровіч, Т. Гарэлікава, У. Гаўрыловіч, У. Дамашэвіч, І. Кананові, В. Шабалтас, С. Календа, У. Ліпскі, Н. Навіцкая, Ф. Палякоў, У. Садоўскі, К. Фядотава, С. Шумскі, А. Янкоўскі, Ю. Сідарук і іншыя.

Як вядома, ад апавядання чакаюць завершанасці вобразаў, ёмкасці і цэльнасці, паўнаты лёсаў: «Між тым у добрым апавяданні чытачу нічога больш не трэба ведаць аб героях: ён даведаўся пра іх усё. Хіба хочацца вам ведаць штонебудзь аб цудоўнай «даме з сабачкам»? Хай драма жыцця засталася незавершанай, але пісьменніку сапраўды нечага больш дадаць, а чытачу — ведаць», — адзначае Ю. Нагібін. Сапраўды, што можна дадаць, напрыклад, Федарэнку да Сыча (апавяданне «Сыч»), да бабуль Антолі і Евы (апавяданне «Памарак»), да Снарскага і Галі (апавяданне «Галя»), да Івана Аляксеевіча (апавяданне «Куда идти в лесу?»), да Ветра (апавяданне «Вецер») або да Фелікса і Галубоўскага (апавяданне «Лёд»). Або што б мы хацелі пра іх ведаць больш, чым тое, аб чым нам паведаміў аўтар. А вось Берасевіч (апавяданне «Уночы») не атрымаў такой паўнаты характарыстыкі, як гэтыя героі, ён, кажучы словамі таго ж Нагібіна, «бачны быццам праз залітае дажджом акно». І вінаваты тут не аўтар апавядання, справа ў самім героі, у сімптомах яго хваробы. Аўтар жа з'яўляецца ўважлівым псіхапатолагам, ён прадстаўляе «героя», захопленага страшнай дэпрэсіяй, унутранай паралізацыяй, азмрочанага многімі сучаснымі фобіямі, неверааемна стомленага ад жыцця. Звернем увагу на апісанне гэтай хваробы пісьменнікам: «Ён пачынаў востра, без аніякай, здавалася б, прычыны баяцца і ненавідзець людзей. Не ўсё чалавецтва, а менавіта бліжняга свайго, які абганяў яго на аўтамабілі, ехаў побач у метро, выступаў па тэлевізары, ішоў па тратуары.

Палохалі, і ад гэтага ледзь не да якогась агрэсіўнага памутнення розуму даводзілі абрыўкі чужых размоў на вуліцы, стук лыжак і відэльцаў і чаўканне чужых ратоў у кавярні, чэргі ля касаў у магазінах, чужыя твары, чужая вопратка».

Пра матывацыю ўчынкаў падобных персанажаў гаворкі весці, відаць, нельга. З той жа «оперы» і персанаж выдатнага апавядання Уладзіміра Дамашэвіча «Хмельнае прозвішча» (Полымя, № 11) Сева Хмель, які пасылае жонку купіць пляшку чарніла, бо «душа гарыць, трэба патушыць пажар». Вось жонка назірае за яго паводзінамі: «...стаў піць віно проста з рыла, ажно захлынаючыся ад асалоды. Потым закашляўся, выцер далонню вусны, падбародак, аддыхаўся і зноў стаў піць — нібы сапраўды ў яго гарэў пякельны агонь у сярэдзіне і ён стараўся яго заліць.

Сабіна глядзела на яго і думала сама сабе: вось чалавек, які ўжо не валодае сабою, віно для яго важней за ўсё на свеце, з-за яго ён можа забіць жонку, дзіця і каго хочаш, каб толькі пахмяліцца, каб ачмурыць галаву.

А Хмель, дапіўшы сваё чарніла — усё так жа, з рыла ў рыла, як кажуць аматары выпіўкі, пайшоў не зусім цвёрдым крокам у спальню, распрануўся і заваліўся спаць».

Пасля сну Хмель робіць шэраг дзікіх учынкаў: крадзе ў жонкі грошы на спіртное, пасля нейчы матацыкл, страляе ў п'янага міліцыянера, пастаўленага вартаваць яго, які, раздобрыўшыся, павёў Хмеля на паветра, зняў кайданы і даў пісталет пастраляць вераб'ёў. Вось тут і падступае да героя нячысцік, затуманьваючы свядомасць, цалкам пазбаўляючы кантролю: «І тут на Хмеля нешта як найшло, накацілася на яго нейкая цёмная вялізная хваля, ён страціў свядомасць ці адчуў сябе ў нейкім новым вымярэнні, і ўжо не чалавекам, а нейкім дзіўным стварэннем, якое не падпарадкоўваецца ранейшым паняццям дабра і зла, а жыве

па нейкіх сваіх, толькі яму аднаму вядомых мерках... Вось у яго руцэ пісталет, гэта ўжо сіла, якая дапаможа яму вырвацца на волю, пазбавіцца вось гэтага міль-тона, які сёння раздобрыўся і нават даў яму пастраляць па вераб'ях. Дзякуй табе, даражэнькі! Ты сам будзеш вераб'ём, ты сам, і ён, Хмель, не прамажа».

Застрэліўшы міліцыянера, Хмель, стараючыся схаваць сляды, спыняе легкавую машыну, робіць яшчэ адно забойства, а пасля, ад'ехаўшыся на пэўную дыстанцыю, з прыемнасцю частуецца багатымі прыпасамі гаспадара машыны.

Далейшыя дзеянні Хмеля прадыктаваны зноў жа злым духам. Заўважыўшы, што яго даганяе міліцэйская машына, герой рэагуе неадэкватна: «І тут Хмель, нібы ў ім прачнуўся які звер ці д'ябал, пайшоў на абгон міліцэйскае «Волгі»...»

Фінал апавядання, вядома ж, прадказальны: украдзеная Хмелем машына перавярнулася. Жыццё яго, як паведамляецца ў заключнай фразе, «вісела на валаску».

Добрае ўражанне зрабілі надрукаваныя апавяданні Жанны Капусты «Расчараванне, альбо Каханне, якога не было» (Маладосць, № 12), Ліны Кот «Сом» (Маладосць, № 2), М. Пазнякова «Ліст дадому» (Полымя, № 6), Яўгена Каршукова «Судьба» (Нёман, № 6), Кацярыны Мядзведзевай «Рыпучая хацінка» (Маладосць, № 9) і іншыя. Апошняе з названых — фантастычнае — проста зачароўвае. Думаецца, Кацярына Мядзведзева з поспехам магла б працаваць у галіне фантастыкі, галіне, слаба развітай у нашай нацыянальнай літаратуры. Удалымі атрымаліся апавяданні Юры Несцярэнкі «Сага пра школу музыкі» (Маладосць, № 6), маленькія, але змястоўныя апавяданні Таццяны Стадольнік (Маладосць, № 5), «Старыцкія замалёўкі» Святланы Дзянісавай (Маладосць, № 6), цікавыя тым, што ўяўляюць сабой жывыя ўспаміны пра родную вёску пісьменніцы, адлюстроўваюць яе рэаліі, гаворку і лад мыслення яе жыхароў.

Вельмі прыемна адзначыць, што творы А. Казлова, А. Федарэнкі, В. Гапеева і многіх іншых сучасных пісьменнікаў заклікаюць чалавека не да знешняй прыстойнасці, пад якой хаваецца нярэдка самалюбаванне, самазадаволенасць, абыякавасць або нават пагарда ў адносінах да іншых, а да радыкальнай змены жыцця, да змены сваёй эгаістычнай прыроды і да жыцця па законах любові. Праўда, жаданне духоўнай прыгажосці, гатоўнасць на выпраўленне характару ўзнікаюць у іх герояў толькі ў экстрэмальнай сітуацыі, калі паўстае небяспека страціць жыццё, або згубіць нешта сапраўды каштоўнае, важнае.

Герой апавядання Федарэнкі «Куда идти в лесу?» вадзіцель «МАЗа» Іван Аляксеевіч, якому раптам стала вельмі кепска ў перапоўненай электрычцы і якому ніхто не дапамог, ці не ўпершыню сур'ёзна задумаўся над уласным жыццём. Аналізуючы яго, герой знайшоў у ім толькі адну сапраўдную добрую справу, калі ён дапамог жанчыне ў тралейбусе. Гэта было ўжо гадоў дваццаць таму. Не старая яшчэ жанчына папрасіла ўступіць ёй месца, ён неахвотна, але ўступіў. І яна, удзячная, прызналася, што хоча скончыць жыццё самагубствам, а ён «хутчэй з агідаю, чым са шкадаваннем, абы адчапілася ад яго і ні ў што не ўблытвала, выціснуў з сябе: «Нашто ж адразу на рэйкі? Трэба жыць». Яго ўразіла тады, што яго сухія, халодныя словы яна ўспрыняла як «голас Божы», жанчына ажыла, пасвятлела і заплакала ад радасці».

Жыццё сваё герой пражыў без праблем, бо кіраваўся прывычным правілам ні ў што не ўлазіць. І на гэты раз, перад тым, як сесці ў электрычку, Іван Аляксеевіч прабег каля чужой бяды, не дапамог незнаёмай дзяўчынцы, што заблудзілася каля самай станцыі і істэрычна крычала «Куда идти в лесу?», заспакоіўшы сябе тым, што гэта, відаць, нейкая вар'ятка, п'яніца або наркаманка.

У электрычцы ж, як толькі стала крыху лепш, ён адчуў сваю віну перад гэтай дзяўчынкай і вырашыў перасесці на стрэчную электрычку, давесці «вар'ятку-блудніцу» куды трэба. Але правіла «вы мяне ў гэта не ўблытвайце!» спрацавала і тут. Герой не стаў шукаць дзяўчынку, ён вяртаецца дамоў, пацярпеўшы ў выніку сваіх маральных хістанняў пэўную страту — забывае кошык з грыбамі (дзеля якіх уласна і ездзіў).

Прыгадаем аналагічныя выпадкі з класічнай літаратуры. Чычыкаў з «Мёртвых душ» Гогаля таксама задумваўся, і не раз, аб «рамонце» ўласнай душы. І тут жа рабіў уцёкі з выратавальнага боку на супрацьлеглы, згубны. На пытанне, ці выправіцца Чычыкаў, рускі класік адказваў: «Калі захоча». Мяркуючы па асобных выказваннях Гогаля, ён, паказаўшы падзенне сваіх герояў, у наступных тамах хацеў не толькі ажывіць іх, але і падаць гісторыю духоўнага ператварэння некаторых з іх, чаго, на жаль, не змог ажыццявіць. Гогаль хацеў давесці, што з Хрыстом для чалавека няма нічога непапраўнага.

Твораў, якія б расказвалі пра подзвіг глыбокага хрысціянскага пакаяння, сучасная беларуская проза пакуль не дае. Адзіным такім творам з'яўляецца ў ёй толькі раман-жыціе Валянціны Коўтун «Пакліканыя» пра прападобную Еўфрасінню Полацкую, надрукаваны некалькі гадоў таму. Аднак важна адзначыць, што ўзор жаночай святасці проза 2011 года нам прадстаўляе, хоць і ў выглядзе перакладу. У «Полымі» надрукаваны выдатны раман вядомай сербскай пісьменніцы Ліляны Хаб'янавіч-Джуравіч «Параскева: крыж у пустыні» (пераклад Івана Чароты). Раман уяўляе сабой жыціе святой прападобнай Параскевы-Петкі, якая жыла ў адзінаццатым стагоддзі. Твор малюе рэальны, канкрэтна-гістарычны вобраз святой Божай, перадае ўзвышаны лад яе душы, глыбіню і сканцэнтраванасць духоўнай работы і барацьбу за чысціню ўласнага сэрца. Канешне, узнавіць, паказаць схаванае ад людзей і бачнае толькі Богу ўнутранае жыццё праведніцы, яе пачуцці і памкненні — задача не з лёгкіх. Ліляна Хаб'янавіч-Джуравіч бярэцца за яе, даючы слова самой святой апякунцы Сербіі, г. зн., абіраючы нязвыклую для твораў пра святых «я» форму. Вядомыя жыційныя эпізоды, коратка выкладзеныя ў «Жыціі» святой, абрастаюць падрабязнасцямі, цікавымі дэталямі, нярэдка, падаецца, прыдуманымі, аднак так арганічна ўключанымі ў аповед, што ў праўдзівасці іх чытач не сумняваецца.

У апавядальную плынь рамана ўведзены і маналогі іншых людзей, у тым ліку і вядомай усяму свету святой Марыі Егіпецкай (VI стагоддзе), якія даносяць непаўторнае і важкае слова пра святасць Параскевы, яе адрознасць ад іншых людзей, выключнасць паводзін. Раман пашырае тэматычны дыяпазон беларускай прозы за 2011 год, дае ўзор строгага і дакладнага духоўнага аналізу глыбокіх таямніц сэрца.

У партрэце Параскевы акцэнт робіцца на цнатлівасці, чысціні розуму і сэрца, даверлівасці, дзіцячасці, светласці.

У рамане нядрэнна перададзены дух XI стагоддзя, духоўная атмасфера, у якой жыла і тварыла добрыя справы сербская падзвіжніца. Ён па-свойму ліквідуе прабел у сучаснай беларускай прозе, у якой адсутнічаюць творы, скіраваныя да ідэалу. Таму хацелася б сказаць слова вялікай удзячнасці Івану Чароту, намаганнямі якога твор набыў сваё жыццё ў беларускай літаратуры.

У 2011 годзе надрукаваны і такія значныя творы як аповесці Л. Багданавай «Черемуховые страдания» (Нёман, № 1), А. Бензерука «Я цябе бачу» (Маладосць, № 8), эсэ Я. Сіпакова «Мая бібліятэка» (Маладосць № 1, 2), Леаніда Дранько-Майсюка «У Вільні і больш нідзе» (Дзеяслоў, № 3, 4), К. Камейшы «Паміж кубкам і вуснамі» (Полымя, № 1), нізка апавяданняў Віктара Казько, прыпавесці Галіны Каржанеўскай, Сяргея Календы, Ігара Сідарука, навелы Алеся Гізуна, згадкі Алеся Усені і іншыя.

Падсумоўваючы сказанае, адзначым, што беларуская проза за мінулы год мае свае добрыя набыткі. Няма падстаў папракаць яе ні ў беднасці сюжэтамі, ні ў жанрава-стылёвай аднастайнасці, ні ў тым, што яна не нясе ісціну і прыгажосць. Ні тым больш гаварыць аб яе непатрэбнасці.

Рускі пісьменнік Юрый Бондараў у адным з інтэрв'ю справядліва зазначаў: «Літаратура патрэбна чалавеку заўсёды.

Чалавек, на жаль, ужо прызвычаены парушаць Божыя запаведзі, але дзе межы парушэння? І гэта таксама вызначае літаратура. Калі ёй не паверачь і пяройдуць усе межы парушэнняў — канец. Фініш!»

**Васіль СТАРЫЧОНАК**

# «О РОДНАЯ ЗЯМЛЯ! ТЫ — КНІГА ВЕЧНАГА ЖЫЦЦЯ»

*(метафары ў паэтычным дыскурсе Максіма Танка)*

Паэзія народнага паэта Беларусі Максіма Танка сагрэта дабрынёй і даверам да чалавека. Яна выхоўвае ў чытачоў душэўную прыгажосць, высокую інтэлектуальнасць, заклікае да філасофскіх роздумаў аб жыцці, аб чалавецтве. У ягонай творчасці, якую можна смела разглядаць як люстэрка жыцця беларускага народа другой паловы XX стагоддзя, люстэрка нашай рэальнасці, арганічна спалучыліся вечныя і агульначалавечыя тэмы радзімы, роднага краю, беларускага народа, яго гісторыі і мовы, тэмы мастацтва і мастака, паэта і паэзіі, дабра і зла, любові і нянавісці, ісціны, веры, сумлення, дабра...

Максім Танк імкнуўся як рэалістычна апісаць пэўныя факты і з'явы, перадаць змест пэўных падзей, так і выбраць такія словы і формы, якія б дапамаглі чытачу не толькі «паглынуць» гэты змест, але і ўбачыць глыбінны падтэкст, адчуць яго разгалінаваную асацыятыўнасць, умоўную вобразнасць. Невыпадкова паэт шырока выкарыстоўвае як традыцыйныя, так і новыя формы і жанры (паэмы, вершы, балады, легенды, санеты, оды, прытчы, дыялогі, верлібры, вершы-мініяцюры, алюзіі і інш.).

Адной з адметных рыс творчай манеры Максіма Танка, ягонага стылю з'яўляецца ўмелае выкарыстанне вобразна-выяўленчых сродкаў, якія выступаюць у якасці спецыфічнага сродку рэалізацыі чалавекам яго пазнавальных адносін да акаляючага свету, спасціжэння ім межаў гэтага свету і разумення свайго месца ў неабмежаванай у часе і працягласці прасторы.

Максім Танк яскрава абыгрывае сэнсавыя магчымасці кожнага слова, закладзены ў ім вобразны патэнцыял. Таму ў яго творах часта гучаць шматлікія фальклорныя выразы і азначэнні, традыцыйныя і нетрадыцыйныя асацыятыўныя спалучэннні тыпу *залатое юнацтва, шэрая восень, сварлівае лета, панурая ноч, маўклівы камень, палыновы сум, гуллівая рэчка, плакучыя бярозы, крыштальныя вочы, непакорныя кручы* і інш. Паэт можа многа расказаць пра *вандроўніцу-вясну, бярозаньку-сястрыцу, красу-дзяўчыну, вочы-праменні, зязюльку-варажбітку, вайну-навальніцу, хмары-навалы, віхуры-вятры, агні-журавіны, смыкі-бароны, мары-сны, сляды-каляіны, нівы-разлогі* і інш. Ён здатны гадзінамі весці аповед пра вецер, які можа *шумець, шаптаць, свістаць, галасіць, голасна тужыць, стагнаць, ныць, выць, плакаць, спяваць,* а таксама *«ткаць узорамі сінія думы», «прабягаць каласістымі грывамі», гасіць запалкі, замятаць сляды, «расчыняць па-гаспадарску ўсе дзверы насцеж», біцца птушкай у вокны, іграць на жалейцы, гнаць раннюю зару, цалаваць рукі і твар, прыносіць весткі з далёкіх гоняў і далін, хваляваць жыта, хістаць прысады* і інш. Падслухаў, як *«спяваюць жытнія разлогі», «звоняць сінія рэкі», «пяе разгневаны буран», «за дубровай пакашлівае навальніца», «азвярэла стогне мора», «плача хмара без жалю», «абложны дождж шуміць, булькоча, хлюпае».* Ён назіраў, як *«дрэмле чарада бяроз плакучых», «мяцеліца заснула на звонкіх струнах соснаў, ёлак», «вясенні першы дождж заплакаў», «бор плюшчыць вочы», «шэры дождж шыбы аконныя ліжа».*

Сярод усіх вобразна-выяўленчых сродкаў у паэтычных творах найбольш пашыраныя субстантыўныя метафары (яны выражаюцца назоўнікамі), якія ў многім абумоўлены карцінай свету носьбітаў мовы, той народнай сімволікай і

традыцыйнымі жывымі ўяўленнямі аб рэаліях, прыметах і дзеяннях. Метафара выступае ў якасці найбольш прадуктыўнага сродку другаснай апасродкаванай намінацыі, універсальнага спосабу пазнання і канцэптуалізацыі свету. Яе называюць крыніцай і асновай усіх важнейшых феноменаў чалавечай культуры. Метафара паспяхова выконвае ролю своеасаблівай прызмы (лінзы), праз якую паэт успрымае, інтэрпрэтуе і катэгарызуе навакольную рэчаіснасць. Чалавек не толькі выражае свае думкі пры дапамозе метафар, але і мысліць метафарамі. Менавіта ў метафары і яе падсістэмах утрымліваецца імпліцытнае проціпастаўленне звычайнага бачання свету (яно адапавядае навуковым класіфікацыям і лагічнай ягонай карціне) і незвычайнага ўспрымання, якое выяўляе індывідуальную сутнасць прадмета, яго спецыфіку. У выніку метафарычнага выкарыстання слова акрэсліваюцца новыя межы значэння, якія перасякаюцца з ужо вядомымі ці ўтвараюць важныя семантычныя падкласы, для абазначэння якіх не існуе простых і зразумелых адпаведнікаў.

Метафара адлюстроўвае аб’ектыўную рэчаіснасць ва ўсіх яе праяўленнях, у цеснай сувязі і абумоўленасці ўсіх яе інгрэдыентаў і грунтуецца на падабенстве зрокавых і слыхавых успрыняццяў, эмацыянальна-псіхалагічных і смакавых уяўленняў, унутраных біялагічных асаблівасцей, колькасных і метрычных уласцівасцей (памераў, працягласці), на падабенстве вонкавага выгляду, формы, размяшчэння ў прасторы, функцыі і інш. У паэтычных творах Максіма Танка выкарыстоўваюцца самыя розныя тыпы метафар, якія класіфікуюцца ў залежнасці ад прыналежнасці зыходнага і выніковага лексіка-семантычных варыянтаў (у далейшым ЛСВ), зыходнай паняційнай сферы (крыніцы матывацыі) і выніковай паняційнай сферы (выніку метафарычнай экспансіі). Найбольш прадстаўнічыя ў творах наступныя метафары: вонкавападабенчыя, лакатыўныя, акцыянальныя, кваліатыўныя, экзістэнцыяльныя, псіхалагічныя, гукавыя, квантытатыўныя, анімістычныя, зоамарфічныя, зоасемічныя, персаніфікаваныя, індывідуальна-аўтарскія і розныя іх камбінацыі.

1. Метафарычныя пераасэнсаванні па вонкавым падабенстве лічацца даволі рэгулярнымі, лёгка ўзнаўляльнымі і правільна зразумелымі ва ўмовах мінімальных кантэкставых сітуацый. Сфера-крыніца такіх метафар — практычна бясконцы свет ва ўсіх яго выявах і праяўленнях, дзе носьбіты мовы знаходзяць пэўныя асацыяцыі і падабенствы з практычна неабмежаванай колькасцю прадметаў і з’яў рэчаіснасці.

Накіраванасць метафарычнай асацыятыўнасці па вонкавым падабентве не носіць строгай рэгламентацыі, з’яўляецца даволі неаднастайнай, шматбаковай, бо адлюстроўвае вельмі шырокі і мнагастайны спектр падабенстваў прадметаў. У ім спектры можна выдзеліць некалькі сэнсавых цэнтраў, якія актуалізуюцца ў працэсе метафарызацыі:

а) выцягнутасць, прадаўгаватасць: *А* ***вуліц*** *новыя* ***стужкі*** *Уплятаюцца чырванню ў бурны бясконцы паток;* ***Стужка зары*** *дагарае над садам*; *Зрэбны* ***дарогі ручнік*** *Сцелецца ў даль пад гару;* ***Пасмы дыму*** *ўюцца над бацькавай хатай*; *Расцелюць нам нівы узорны* ***настольнік;***

б) лінейнасць, роўнасць: ***Струны вуліц і мастоў*** *Штодзённым наліліся гулам; Дзе ні пойдзеш:* ***струны сонца;*** ***Струны рэк*** *гараць і ззяюць;* ***Пугі маланак*** *свішчукць Праз гул навальніцы; Кожная з гэтых галінаў [дрэва] — зялёны* ***прамень;*** *Цягнецца вырай крыклівым* ***шнурам;*** *Дарога — шэрая бясконцая* ***нітка*** *З вузламі памяці;*

в) акругласць: *Месяц надламаным* ***абаранкам*** *На сяле сабаку дражніць лустай*; *Раз дваццаць ворагі сціскалі Сваё смяротнае* ***кальцо;***

г) дугападобнасць: *Пад* ***дугой маладзіка*** *Пяюць скрыпучыя палоззі; Спіць вёска нарачанская Пад месяца* ***дугой;*** *Жар-птушка ўспырхнула з* ***дугі*** *трамвая;*

д) сеткавасць: *Шэрая* ***сетка хмар*** *захад імжой зацягнула; Зацягнула скалы* ***сеткай дажджавою;*** *Гэта песня прайшла праз гады і муры,* ***Павуцінне*** *парваўшы калючых* ***дратоў;***

е) кудзельнасць, кужэльнасць: *Азёры... забялелі. І думы кладуцца узорам на снежнай **кудзелі**; Вецер снежнага **кужалю** туга навіў;*

ё) пеністасць: *А за вакном кудлатая мяцеліца Белай **пенай**, белай хмарай звонка сцелецца; Шалее буры снежны **накіп***;

ж) маршчыністасць: ***Маршчыны** зямлі; Прывет, пяціглавы Бештау! Ты бачыў нямала — Стагоддзі **маршчынамі** ўкрылі Чало тваіх скалаў;*

з) высачыня : *Люблю стаяць пад цяглай сасной — Пад звонкай **мачтай** залатой;*

і) звілістасць, ланцуговасць: *Першых заячых слядоў Глухія **петлі** забялелі; А побач — Роўныя два **ланцужкі** слядоў;*

к) лысаватасць: *Прыгрэтыя сонцам лысіны зямлі;*

л) чубатасць: *Ты [вёска] звесіш чупрыну саламяных стрэх.*

У працэс пераасэнсавання могуць уключацца самыя разнастайныя найменні рэалій, вонкавая форма якіх паслужыла асновай для метафарычных пераносаў. Нагадаем некаторыя з іх: **скіба** «луста хлеба» → «пласт узаранай зямлі». *Трэба ўзараць ніву чорную, скібы ўзнятыя горкія ў засуху потам паліць; І прабівалася з-пад мокрых скіб Чырвоная падзольная іржа;* **невад** «вялікая рыбалоўная сетка» → «павуціна». *На ракіце звіняць невады павуціння;* **грэбень** «пласцінка з зубамі для расчэсвання валасоў» → «верхні край, вяршаліна дрэў». *Зачапіўшыся за сасновы грэбень, калышацца сіняе неба; Залатога бору грэбень Пахне шышкамі, смалой; Грэбень дрымучых лясоў;* **ручай** «невялікі натуральны вадзяны паток, які цячэ струменем» → «пясчаная дарога». *А ручаі пясчаныя дарог Плывуць, губляюцца за дальнім небасхілам;* **свечка** «палачка з тлушчавага рэчыва з кнотам усярэдзіне, якая служыць для асвятлення» → «тое, што па форме нагадвае свечку». *Свечкі гараць таполі Пад узлятаючай зарою; Свечкамі гараць бярозы У памінальны лістапад;* **палатно** «гладкая льняная тканіна» → «поле». *Зрэбныя ніваў палотны;* **сузор'е** «участак зорнага неба» → «тое, што нагадвае сузор'е». *Пасінелі, зашумелі хвалі, І лілей сузор'і паўсплывалі; Успыхнулі сузор'і журавін.*

Пэўныя аналогіі прасочваюцца ў структурах полісемантаў з першаснымі лексіка-семантычнымі варыянтамі найменняў галаўных убораў, посуду, прадметаў хатняга ўжытку і іншых тэматычных груп: *Падасінавікаў у чырвоных **берэтах** Пад старою асінай знайшоў; У баравіка пад лён зязюльчын нават **шапкі** колер; А як настала ночанька, **Серп** месяца заззяў; Блішчыць у небе месяца **нарог**; Шторм цягне з сабой цемру волакам, Разбіўшы **пасудзіну** месяца На рыфах грымотнага воблака; Аблокі паблісквваючы **падковамі** маланак*; *Усё тут было, нібы казачны сон: Каменні, і людзі, і горад, І вытканы ў зоры **нябёс парасон**; Пад аблокі **іскраў сноп** З громам паляцеў.*

Найменні ўпрыгожанняў і каштоўных камянёў выступаюць у якасці крыніцы метафарычных ЛСВ, адрасанты якіх семантычныя палі «кропля расы, вады», «зорнае свяціла»: *Гоніць вецер галасы — коціць пацеркі расы; Ты чуйна слухаеш, прынік, Як звоняць перлы вадзяныя*; *Ты на беразе сядзела ціха над ракой, Перлы зор перасыпала на падол рукой.*

Распаўсюджаны ў творах Максіма Танка саматычныя пераасэнсаванні, якія ўключаюцца ў агульную мадэль па вонкавым падабенстве і ажыццяўляюцца ў кірунку ад назваў частак цела жывёл і чалавечага арганізма на разнастайныя прадметы. *Ён [вятрак] нястомна махае Драўлянымі **крыламі**; І рвуцца, палаючы, **крылы сцягоў** у прастор; **Крыло** белай **хусцінкі***; *А вокны з-пад **броваў** кудлатых Глядзяць з-пад завеяных стрэх; Таму я толькі не загінуў, Што на скалістых на **хрыбтах**, Як раіў праваднік, адкінуў Сваю няўпэўненасць і страх; Піў на сустрэчах, на заручынах Віно з біклагаў і **рагоў**. З **рога** **м**есяца лілася цішыня; Ляцелі... з **грывай агню** цягнікі; Хмар звісаючыя **грывы**; Нёман з пены кудлатую **грыву** завіў; Стрэх саламяныя **грывы;** Аж гнуцца тундравыя хвоі Ды асядаюць **плечы гор.***

Многія пераносныя ЛСВ развіваюцца ў кірунку батанічнай наменклатуры, звязанай з атаясамліваннем саматызмаў са ствалом і галінкамі дрэў, лістамі і сцяблінамі раслін, пялёсткамі і інш.: *А покуль я твой [бярозы] **стан** высокі Рукою*

*пешчу, не шкадуй І веснавым бруістым сокам За нашу дружбу пачастуй; Узышло сонца — Раскрыла **вочы** кветка; Раптам зашасталі **хвояў** дрымучыя **лапы**; У сваe вузлаватыя **пальцы сукоў** свішча дуб; Але ж там перашум яго [ветру] застаўся, што сееццa праз **пальцы веццяя**; **Лычамі** расхінуўшы зяленіва заслон, Загараюць гарбузы з гуркамі.*

Па адваротнай метафарычнай мадэлі (ад назваў розных прадметаў побыту на галаву чалавека) развіліся значэнні ў полісемантаў *качан* і *цэбар*. Такія пераносы характарызуюцца асаблівай канататыўнай насычанасцю з адценнем неадабральнасці, насмешлівасці: *Крычаў, вылазячы з-пад тапчана, баўтрук, схаваўшы галаву — сівы качан: Улан у хаце Баўтрука сядзеў, Падпёршы п'яны цэбар-галаву*.

Афарыстычны характар набыў выраз Максіма Танка з удала выкарыстанай метафараў *джала*: *Пакуль не ступілася джала разца І рукі ад працы не морацца, Я мушу пакінуць адбітак жыцця На камні, жалезе і золаце.*

У некаторых творах назіраецца паслядоўнае нанізванне вонкавападабенчых метафар, што дазваляе аўтару стварыць шматгранны і ўсебаковы малюнак, у якім увага акцэнтуецца на неабходных і важных у дадзеным кантэксце адценнях і гранях аб'екта апісання: *А ў садзе ўсё ападаюць і ападаюць **Яблыкі грому, бомы расы І кроплі маланак;** Сярод **модніц** Нарачанскае краіны Хто зраўняецца З **красуняю-рабінай**? То ў вясковай Белай **квецені — хусцінцы,** То ўся летам У **зялёных завушніцах***. Па-мастацку ўмела выкарыстоўваецца прыём нанізвання метафар у вершы «Каля мора». У першых яго сямі радках спалучаюцца пераносныя ЛСВ полісемантаў *вадаспад, золата, казка, шнур, вясёлка,* генітыўныя дапаўненні *каса, каралі* і эпітэты *крылаты, залацісты: На каленях маіх **Вадаспад** тваіх кос. Не магу сабраць гэтага **золата**, Асушыць кроплі рос На крылатых брывах маёй **казкі**. І зайзрошчу **шнуру** залацістых караль, Што **вясёлкай** абвіў яе шыю.*

2. Лакатыўныя метафары (лац. *locativus* «мясцовасць») рэалізуюць рэцыпіентныя значэнні «размяшчэнне ў канкрэтных прасторавых фрагментах». Сема «размяшчэнне зверху» аб'ядноўвае першасны і другасны ЛСВ назоўніка *страха*: *Часам месяц, бяздомны бадзяга, забярэцца на **стрэхі** дзіравыя **хмар.*** У сэнсавай структуры полісеманта *скляпенне,* фіксуецца лакатыўны ЛСВ «купал неба; небасхіл»: *Сабралася людскіх трагедый столькі, што не змясціў бы іх і пад скляпеннем неба.*

У структуры полісемантаў можа ўказвацца пэўнае месца незалежна ад яго размяшчэння ў прасторы. Пры гэтым прыводзяцца розныя характаралагічныя прыметы гэтага месца, больш поўнае ці павярхоўнае яго апісанне з розных пунктаў гледжання: **пекла** «паводле рэлігійных уяўленняў, месца, дзе церпяць вечныя пакуты душы памёршых грэшнікаў» → «месца, дзе адбываюцца небяспечныя, жахлівыя падзеі. *І мы прайшлі праз пекла барацьбы;* **лабірынт** «будынак з складанымі, заблытанымі хадамі» → «вельмі складанае, заблытанае месца». *У гэтым горным лабірынце Шмат можа нечаканасцей таіцца; І мы ўрываемся ў лабірынты каналаў; І часам, заблудзіўшы У лабірынце хвой, Знаходзілі сябе Па адгалосках рэха.*

Па традыцыйнай формуле «жыллё птушак, насякомых, паўзуноў» → «бацькоўскі дом, месца жыхарства» развіваецца метафарычны ЛСВ у слова гняздо: *Яны вярталіся да родных гнёзд, дамоў.*

Значную па колькасці групу складаюць лакатыўныя метафары з рэцыпіентным значэннем «покрыва (звычайна снежнае)», «тое, што пакрывае, ахутвае сабой што-небудзь». Ужыванне іх метафар у лакатыўным тыпе даволі ўмоўнае, бо прыметы «размяшчэнне зверху», «ахутванне», «ахінанне», «агортванне» актуалізуюцца не ў чыстым выглядзе, а ў спалучэнні з семамі «вонкавае падабенства», «падабенства па колеры» і інш. Па гэтай прычыне такія метафары могуць уключацца ў іншыя класіфікацыйныя тыпы (напрыклад, квалітатыўны, вонкавападабенчы і інш.). У якасці сферы-крыніцы такіх метафар Максім Танк выкарыстоўвае найменні адзення, тканых вырабаў, прасцін і інш. (*абрус, дыван, кашуля, світка, папаха, саван, столка, завеса*): *Палямі, лясамі — зялёным **абрусам**, Сярэбранымі рэкамі, песнямі жней Квітнееш ты наша зямля Беларусі; Сонца залатой пагодай*

***дываны*** *жытоў абмыла; Зялёнай руні* ***дываны****;* ***Дываны*** *сенажацяў і сініх азёр; Шырокія* ***дываны*** *палёў; У белай кужэльнай* ***кашулі*** *сосны і ёлкі стаяць, нівы пад снегам заснулі — іскрыцца снежная гладзь; Накрыла ноч мяне сваёй* ***світкай****; Прыкрыў[ Бештау] галаву сваю Цёмнай* ***папахаю*** *хмары; Калі ж варожыя палкі Прыйшлі таптаць маю радзіму, — Іх ахінуў ты ў* ***саван*** *дыму І кінуў мёртвыя пяскі На іх бясслаўныя магілы*; *Хмары развеялі* ***Грываў*** *чорныя столкі; Сонца ўздымае туману* ***завесу****.*

3. Акцыянальныя метафары (лац. *aktio* «дзеянне») заснаваны на аднолькавасці функцый, падабенстве дзеянняў, утвораных рознымі прадметамі. Функцыянальнае прызначэнне прадметаў і з'яў аб'ектыўнай рэчаіснасці, іх ролевая нагрузка служыць, з аднаго боку, сродкам іх дыферэнцыяцыі, а з другога — інтэграцыі. Па аднолькавых (ці падобных) дзеяннях і функцыях у адзін клас аб'ядноўваюцца самыя разнастайныя рэаліі (як падобныя па вонкавым выглядзе, так і абсалютна розныя). Менавіта таму інварыянтныя семы, якія служаць сэнсавай звязкай зыходных і вытворных ЛСВ, знаходзяцца не на паверхні, а ў глыбіні сэнсавых структур полісемантаў. У працэсе метафарызацыі звычайна актуалізуюцца тыя дзеянні, якія ў пэўнай ступені адносяцца да чалавека, з'яўляючыся крытэрыем выражэння пэўных каштоўнасцей і пэўных адносін паміж людзьмі. Большасць такіх метафар у тлумачальных слоўніках суправаджаецца функцыянальнымі ўказаннямі тыпу *«тое, што...»*. Праілюструем гэта некалькімі прыкладамі: а) «непаразуменне, тое, што раз'ядноўвае, раздзяляе каго-небудзь з кім-небудзь»: *Ты схавалася за* ***сценамі маўчання****. І я не магу іх разбурыць Нават песняй;* б) «тое, што злучае, аб'ядноўвае каго-, што-небудзь» *І сёння* ***мост дружбы****, Нібы небазвод, Трымаем на спінах апорных.*

Функцыі «адмыканне, замыканне замка» і «магчымасць для разгадкі, разумення каго- ці чаго-небудзь, для авалодання чым-небудзь» суіснуюць у межах структуры полісеманта *ключ*: *А можа, там прыдбаю і* ***ключы****, Якія ты закінула ўначы,* ***Ключы*** *ад шчасця, мар маіх і сноў, Каб да цябе яшчэ раз не прыйшоў; Я табе прынёс як дар Ад Скарыны-бацькі кнігу — Беларускі лемантар. Гэта —* ***ключ*** *ад скарбаў нашай Мовы матчынай...* Прыкладна такая ж семантычная скіраванасць назіраецца ў полісеманта кн*і*га: «друкаванае (рукапіснае) выданне, твор» → «тое, з чаго можна атрымаць якія-небудзь звесткі (пра пушчу)». *Люблю я заглыбляцца ў нашу пушчу — Спрадвечна зелянеючую кнігу.*

Вялікая па колькасным складзе — група са значэннем празмернасці, бурнасці праяўлення прыродных з'яў. Акцыянальнасць у ёй носіць сінкрэтычны характар, і яе асноўныя інгрэдыенты «інтэнсіўнасць», «імклівасць», «бурнасць», «моц», «вялікая сіла» выяўляюцца ў спалучэнні з семамі «агульнае знешняе падабенства», «квалітатыўнасць». Менавіта па гэтай прычыне многія з ЛСВ пазначаюцца двумя-трыма маркерамі і ўключаюцца ў розныя тыпы метафар. У якасці сферы-крыніцы «прыродных» метафар выступаюць кампаненты тых семантычных палёў, у якіх прама ці ўскосна закладзена акцыянальная сема. Метафарызацыі падвяргаюцца кампаненты наступных тэматычных груп:

а) псіхічны стан чалавека, ахопленага буянствам ці вялікім гневам *(шал, шаленства): Месяц* ***шалу*** *веснавога і квітнення Папараці перад першымі пеўнямі; Бушавала буйнай зелені* ***шаленства****; І колер хустак і спадніц З барвовасцю прысадаў Імпрэсіянісцкім зіхаціць* ***Шаленствам*** *лістапада;*

б) завея, мяцеліца (*мяцель*): *З балот крынічыў вецер-сухавей, З-пад сініх зор па стрэхах, па траве Вішнёвую ўздымаючы* ***мяцель****;*

в) лавіна снегу, лёду (*лавіна*): *І ажылі стагоднія дубы і хвоі, Што на плячах сваіх трымалі неба З* ***лавінамі*** *грымот і бліскавіц;*

г) нашэсце ворага (*навала): Але* ***навалу*** *хмар цяжкіх Стрымалі, выгнуўшыся, хвоі*; *Дзень новы без хмарнай* ***навалы****; Калісьці, узлятаючы на крылах, я Стараўся праз* ***навалу*** *хмар прабіцца.*

4. Квалітатыўныя метафары (лац. *qualitas* «якасць») высвятляюць істотную пэўнасць, адметнасць прадмета, указваюць на характэрныя адзнакі, найбольш

значныя прыметы, якімі адрозніваецца адзін прадмет (асоба) ад другога. Асновай для ўтварэння такіх метафар могуць служыць самыя розныя якасці і ўласцівасці прадмета, падабенства якіх выяўляецца ва ўзаемадзеянні з іншымі прадметамі. Пры метафарызацыі ў пераважнай большасці ўвага засяроджваецца на храматычных колерах (колерах вясёлкі), якія характарызуюцца насычанасцю і яркасцю. Дакладнаму выражэнню шырокай колеравай палітры ў многім садзейнічае прыцягненне розных тэматычных груп, з кампанентамі якіх атаясамліваюцца каларатывы. Часцей за ўсё метафарычныя колеранайменні назіраюцца ў групе найменняў каштоўных камянёў, сплаваў, мінералаў (*золата, пазалота, серабро, аквамарын, бронза*): *Пераліваецца **золата** ніў З сінявою азёраў; Шчырае **золата** нашых хлябоў; Цяжкое **золата** калоссяў; Я іду і жменяй Гладжу каласы свежага ячменю ў **золаце** расы; Яно [юнацтва] вяртаецца, бы ў час вясенні вырай, яно на кожнай вуліцы ўстае, гарыць у вераснёвай **пазалоце**; Як доўга не гасне вячэрняй парой Зары веснавой **пазалота**; Праз люк палюбаваўся Нябёсаў **пазалотай**; І тонуць рыбацкія сеткі Ў жывое азёр **серабро**; Восень… кусты і травы прыбрала **Серабром** павуціння; [Сонца] … плыве і, як вугаль распалены, гіне У хваль закіпаючым **аквамарыне.***

У асобных тэкставых фрагментах ужываецца некалькі колеравых метафар, якія ў сукупнасці ствараюць яркую дынамічную карціну з паслядоўным апісаннем, пералічэннем пэўных падзей і фактаў (часцей за ўсё прыродных): *Сонца палае, Плавіць хваль **серабро**, Плавіць **золата** пляжа; А вятры шпуляюць з Захаду на ўсход Чаўнакі з утокамі Шэрых дажджоў, **Золатам** лістоў, **Серабром** павуціння І прымаразкаў*; *Пісьмёны дрэў… пісалі дажджы, Снягі, вятры На **серабры** Бярозавай кары, На **бронзе** сосен…*

Чырвоная афарбоўка гарызонта пры захадзе сонца, а таксама чырвань пладоў, кветак, лістоты актуалізуюцца ў структуры назоўнікаў *вогнішча, агонь, полымя: Пры вогнішчы вячэрняе зары Я на ўзбярэжжы Буга іх чакаю Вогнішча спелай рабіны; Вогнішчы рабін; Вогнішча, якім палае мак; Восень агонь распаліла з асенняга лісця; А ён [бэз] расцвіў, агнём гарыць; Полымя вячэрняе зары; Дзесь голуб хукае на полымя зары; І вось загарэлася полымя кветак; Полымя рабін; Чырвонае полымя сцягоў; Адгарнуў чупрыну музыкант З полымем вячэрняга загару.*

Максім Танк удала выкарыстоўвае каларатывы *снег, шэрань*, якія ўказваюць на бель, сівізну валасоў: *На власах — сівы снег, як на сасне маладой; Прыпарушыла скроні ўжэ шэранню Штармавых перажытых гадоў.*

У працэсе метафарызацыі могуць актуалізавацца наступныя квалітатыўныя прыметы:

а) звязнасць, адзінства, цэльнасць: *Бо гэта люстэрка, што сёння прынёс, Адліў я з цудоўнага **сплаву**: З крынічных пясчынак, блакіту нябёс, З кахання, і мары, і славы; Смерць можа развязаць Усе **вузлы** жыцця; Мы звязаны з табой **Вузламі** ўсіх дарог;*

б) спакойнасць, гладкасць паверхні вады: *Вячэрняе **люстра** вады Распырскалася пад вяслом; Балотныя жылі тут цені У люстры дрэмлючай ракі; У **люстры** хваль адбіліся жыты; Дзяўчына ж крылатаю чайкай з тых год… над **люстрам** азёраў, прасторамі вод, шукаючы мілага, кружыць;*

в) дабрата, сардэчнасць, душэўная цеплыня: *Мы пазналі за гэты час многа: поле бітвы, паўночную сцюжу, **цяпло** братняй спагады і дружбы*; ***Святло** ў ягоным сэрцы;*

г) незвычайнасць, дзівоснасць, цуд: *Ноч ткала **казку** з перлаў чорных З далёкіх слоў ў мазаікі узор.*

Асобныя ЛСВ квалітатыўнага тыпу адлюстроўваюць адмоўныя з'явы, рысы, уласцівасці. Актуалізавацца ў працэсе метафарызацыі могуць такія пейратыўныя прыметы, як адсталасць, невуцтва, заскарузласць: *Народ пранясе цябе, родная мова, праз **цемру** і годы змаганняў суровых*; *Мы яшчэ ўсіх шляхоў не апелі, Не змялі з жыцця нашага **плесняў**; Глушэц-рэцэнзент, які праз цытаты, пакрытыя **плесняй**, Глядзіць на людзей, на падзеі, на свет.* Навязванне неабгрунтаванай

шаблоннасці выражаецца ў структуры назоўніка *ярлык*: *Свіны кароль ці туз фабрычны Ярлык на творчасці налепіць І над табой паставіць клічнік.*

У некаторых выпадках метафары ўказваюць на вышэйшую ступень развіцця, праяўлення чаго-небудзь: *Зараз высіцца Перада мной Неабсяжная і найцяжэйшая З прыжыццёвых* ***вяршынь***.

5. Экзістэнцыяльныя метафары (лац. *exsistentia* «існаванне») атрымліваюць сваё выражэнне ў катэгорыях быцця і суіснавання, якія дыферэнцуюцца па часавай, прасторавай і семантычнай прымеце. Яны арыентаваны на выяўленне разнастайных аспектаў быцця чалавека, яго дзейнасці, асаблівасцей успрымання, разумення і ацэньвання асобай жыцця і навакольнай рэчаіснасці. Асноўны змест такіх метафар — духоўныя асновы быцця, месца чалавека ў светабудове, яго непарыўныя сувязі з навакольным светам.

Поле, арэну дзейнасці Максім Танк параўноўвае са сцэнай, а пэўны перыяд, этап у жыцці чалавека — са старонкай: *Сыграў на сцэне жыцця многія ролі; Гартаючы Жыцця свайго старонкі , Шмат бачу Дат, падзей, імён; Старонкі дзіўныя яе жыцця яшчэ не ўсвядомлены.*

На фоне ўсіх экзістэнцыяльных метафар рэльефна вылучаецца група філасофскага кірунку, метафарычныя пераасэнсаванні ў якой звязаны з сімвалізацыяй жыццёвага шляху чалавека, яго долі, лёсу, адлюстраваннем жыццёвых выпрабаванняў, нягод, складаных і цяжкіх сітуацый, з якімі даводзіцца сустракацца, з канстатацыяй апошняга шляху чалавека, яго смерці, пагібелі. І гэта зразумела. Філасофскія пытанні жыцця і смерці заўсёды хвалявалі чалавека. Як маленькая часцінка бясконцага ў часе і прасторы сусвету, ён заўсёды імкнуўся адказаць на самыя разнастайныя пытанні існасці: *Хто мы такія, і адкуль бярэ пачатак род чалавечы? З'яўляемся мы сапраўднымі гаспадарамі ўласнага жыцця ці абраннікамі лёсу? Можам змяніць жыццёвую каляю ці ідзём па вызначаным Богам шляху? Ці ёсць сэнс жыцця, і што будзе ў самым канцы?* На гэтыя і іншыя пытанні спрабуе адказаць і Максім Танк.

Асацыяцыі жыцця чалавека з рэаліямі, па якіх яму прыходзіцца хадзіць і ездзіць, лічацца традыцыйнымі. У парадыгме такіх рэалій лідзіруе дарога. Субстантывы *дарога, сцежка, шлях*, *гасцінец, каляіна* Максім Танк ужывае ў традыцыйным значэнні «жыццёвы шлях»: *Эх вы,* ***дарогі*** *жыцця; Пайшлі у жыццё непрацёртай* ***дарогай****; Шмат сёння пройдзена* ***Дарог*** *жыццёвых; Здаецца, ўсё ў жыццёвую* ***дарогу*** *З сабой узяў, каб не трывожыць Бога; Каб яшчэ раз на* ***сцежкі*** *глянуць жыцця мінулага свайго; На* ***шляху*** *жыцця страчаў я шмат людзей; Прайсці* ***шлях*** *жыццёвы, бясконцы; Лічы, што недарма прайшлі Твае* ***гасцінцы*** *на зямлі; Пойдзеш у жыццё* ***каляінай*** *няроўнаю; Шляхоў юнацкіх* ***каляіны****, з якіх пайшоў я ваяваць.* У паэтычным дыскурсе Максіма Танка нярэдка ўжываецца некалькі сінанімічных метафар, якія ў сукупнасці падкрэсліваюць складанасць жыцця, смеласць і адвагу чалавека, яго гатоўнасць прайсці праз любыя нягоды: *Сустрэнемся, можа, Яшчэ мы з табой На гэтых* ***шляхах****, На бясконцых* ***этапах*** *Шчасліваю, лепшай парой; Няхай сабе па* ***прыгарку*** *крутым, Па* ***кручах сцежка*** *павядзе мая, Але не толькі ты, ніхто ў жыцці Мяне не змусіць век з яе сысці.*

Жыццё чалавека, як вядома, складаецца не толькі з сонечных і шчаслівых дзён. Няшчасце ў пэўнай ступені загартоўвае людзей, робіць іх моцнымі, адкрывае ў іх невядомыя раней сілы. Цяжкія выпрабаванні даволі часта асацыіруюцца з бурай, сцюжай, навальніцай: *Не страшны нам* ***буры****, ліхія нягоды; Не любіў перад* ***бурай*** *схіляцца; Плылі, сціраліся гадзіны ў жыццёвых* ***бурах*** *на зямлі; Толькі я, зведаўшы ўсё:* ***сцюжу****, няволю, астрогі.., быць чалавекам я рад; Там і не знаў я зморы, стомы У* ***навальніцах****, барацьбе; На нівах батрачых не век панаваць* ***навальніцам*** *зімы.* Прыкладна ў гэтым жа значэнні ў Максіма Танка ўжываюцца назоўнікі *цяжар, груз*: *Таму ніколі не дзялюся* ***Цяжарам*** *тых гадоў сваіх; Я ўпершыню адчуў Увесь* ***цяжар*** *жыцця І марнасць усялякай пісаніны; Думаў так і я, дарэчы, Покуль* ***груз*** *жыцця і смерці Каменем не лёг на плечы;*

Празрыстыя сэнсавыя сувязі прамога і пераноснага ЛСВ полісемантаў *пута і аковы, ярмо, хамут* лёгка ўкладваюцца ў мадэль семантычнай дэрывацыі з другаснымі ЛСВ «тое, што прыгнятае, пазбаўляе волі, творчай дзейнасці»: *Тапары і косы адвайстрыць ізноў нам, Каб з зямлі гаротнай **путы** пазрываць; Чуюць, што даўно пара ім людзьмі звацца, Векавыя **путы** разрываць пара; Мы першыя знішчылі **путы** няволі; Векавыя апалі **аковы**; Крывасмокі-ворагі заганяць у **ярмо**; Увесь час Толькі і чую: — Ты абавязаны!.. — Ты ў даўгу!.. — Ты мусіш!..— Ты абавязаны… І ніхто не бачыць, Што ад гэтага **хамута** Ўсе абмулены Плечы.*

З вясной у большасці пісьменнікаў звязана ўяўленне пра маладосць, светлую пару жыцця, творчы ўздым. Такі вобраз вясны трывала замацаваўся ў літаратуры, адназначна ўспрымаецца носьбітамі мовы і лічыцца узуальным. У падобным значэнні гэта назва пары года (як і іншых пор года) ужываецца ў вершах Максіма Танка: *Адкувалі мае вёсны недзе, А шляхі перакрыў снегапад; І калі адгасцяваць паспелі Мае вёсны, леты, весені і зімы!*

Сталасць — перыяд, калі чалавек «ажыццявіўся», «здзейсніўся», выхаваў дзяцей і ўжо не чакае ад жыцця ніякіх карэнных змен, — гэта вечар, змярканне жыцця: *І ўсё ж рад я гэтай стрэчы, Што ўспаміны абудзіла, Веснім сонцам азарыла Мой асенні позні вечар.* Старасць, на думку паэта, не дазваляе чалавеку расслабіцца, а, наадварот, ускладае шэраг абавязкаў і спраў: *Старасць — час, калі не маеш права, Апроч сну, адпачынку, спакою, Ні на дзень адкласці свае справы, Стрэчы з радасцю або з бядою, Незакончанай спрэчкі з сябрамі, Незасеянай нівы весняй, Недапітай чаркі з гасцямі, Недапетай песні.*Са сталай парой жыцця асацыіруецца слова *схіл*: *Што сваёй Музе рупнай, працавітай Я падару на **схіле** сваіх лет?*

Да ліку індывідуальна-аўтарскіх небходна аднесці назоўнікі *паняверка* і *схоў*, ужытыя ў значэннях «цяжкае жыццё», «смерць»: *Жыццё наша — жыццё-**паняверка**. Вечна мазоль на руках, а без хлеба*; *Асуджаюць, што ты выбраў смерць — Апошні **схоў** ад жыццёвых нягод, Быццам іх нельга было перажыць.*

6. Псіхалагічныя метафары апасродкавана выражаюць унутраны стан чалавека, яго эмоцыі, пачуцці, перажыванні, асаблівасці характару і духоўнага складу асобы, яе тэмперамент, паводзіны, уклад жыцця, адносіны да іншых людзей і мн. інш. Такі тып метафар адлюстроўвае пазнавальную, матывацыйна-афектыўную, аперацыйную і іншыя праяўленні псіхікі чалавека, абумоўленыя прычынамі біялагічнага і сацыяльнага характару. Пераносныя ЛСВ субстантываў *жар, пажар* выражаюць запал, натхненне, захапленне: *У поглядзе — **жар** залаты; **Жар** вуснаў ніяк пагасіць не магла ты; Толькі боль не сціхае ў грудзях, быццам вогнішча, дыхае **жарам**. Як і чым гэты **жар** пагасіць; І каханне **пажары** час зацепліць у сэрцы.* Пераасэнванне ў структуры назоўніка *прыліў* ажыццяўляецца ў кірунку ад назвы перыядычнага пад'ёму ўзроўню мора, акіяна: *І ў сэрцы маладым **прыліў** магутных сіл.*

Значэнне «маладзецкі запал, уздым» фіксуецца ў структуры слоў *золак*, *гімн*: *Эх, весела з рэхам вясеннім спаткацца І гулка адклікнуцца песняй вясёлай, Калі маеш вёсен адных толькі дваццаць І ў сэрцы гарачы вішнёвы іх **золак**; Грае няхай маладосць у крыві **Гімнамі** новага дня!*

У сэнсавай сруктуры полісеманта *палон* фіксуеца ЛСВ «стан залежнасці, падпарадкавання каму-небудзь, звязаны з любоўным пачуццём»: *Казала, на далонях ты Чытаеш лёс любога. А як жа трапіла тады Ты ў мой **палон**, нябога?* Назоўнік *шрам* паэт выкарыстоўвае ў пераносным значэнні «душэўная рана»: *Усё вішнёвым снегам занясло, Застаўся ў памяці балючы **шрам**.*

У межах адной сінтаксічнай канструкцыі часам спалучаюцца антонімы, дзякуючы якім удаецца стварыць яркі энантыясемічны малюнак: *Мы пазналі за гэты час многа: поле бітвы, **паўночную сцюжу**, **цяпло** братняй **спагады і дружбы;** Абрыдла ўсё ў вандроўцы дальняй — Чужая соль і хлеб чужы, І **штыль, і шторм** дзесяцібальны, З якім нялёгка падружыць.*

7. Метафарычныя пераасэнсаванні гукавога тыпу характарызуюцца антрапамарфізмам і звычайна ажыццяўляюцца ў кірунку ад гукаў чалавека на падобныя ў нечым шум дрэў і ветру, грукат грому, журчанне вады, усплёск хваль, спеў і шчабятанне птушак (*мова, песня, спеў, напеў, гоман, гамонка, спрэчка, усхліп, плач, стогн): Неўміручая **мова** маіх лясоў, азёр і траў; Гэта было ў тую восень, Шчодрую на грыбы, на журавіны, На развітальныя **песні** журавоў; І паплылі дні, быццам журавы Над свежымі пакосамі травы, У звоне камарыных **песняў**, кос; Ды аддаляецца, звініць **Спеў** палазоў і глухне недзе; **Спеў** родных рэк, палёў, вятроў і дрэў; **Спеў** цвыркуна сіратлівы; З тых дзён, поўных чараў казкі, Пад **напеў** дарожных лоз, Стаў я песняром сялянскім Гэтых сцежак і бяроз*; *Лавілі мы ўсходняга ветру **напеў; Гоман** птушак сціх; **Гамонка** празрыстых крыніц; Чуецца **гамонка** ручая; Настаў вушы на цішу, На **гамонку** лясоў, На лугоў перагуды; Пад снежныя **ўсхліпы** мяцеліцы на варце стаіш; Як толькі на альховыя сукі Навесіць дзень зару, цецерукі Падымуць **спрэчку** п'яную і шум; Пачуўся шум у сасняку, Шум бароў і **плач** птушыны; Часамі вецер з плёсаў прынясе **плач** кнігавак; Пачуеш **стогн** паднёманскіх бароў; **Стогны** чаек.*

Птушыны спеў, шум ветру, шэлест лістоты і інш. у многіх выпадках асацыіруюцца з меладычнасцю і музыкальнасцю гукаў, выкананнем пэўнай мелодыі, песні, музычнага твора. У якасці крыніцы матывацыі для выражэння такіх гукаў выступаюць першасныя ЛСВ полісемантаў *рэчытатыў, рэквіем, хор, канцэрт, частушка, накцюрн, кантата, сімфонія: І вось над намі сосны хорам Свой пачалі **рэчытатыў**; І вятры з журавамі **Рэквіем** пратрубілі; Хвалюе радасны птушыны **хор**; Птушак **хор** многагалосы; І салаўі па вечарах Даюць свае **канцэрты**; У лесе птушыны **канцэрт**; Пад сасновыя **частушкі** п'яны вецер завірыў; У запечку знаёмы **накцюрн** цвіркуноў*; *І слухаю праз шапаценне лісця… **кантату** ахрыплага пеўня; Мінск устае ў **сімфоніі** гудкоў.*

У пераносных ЛСВ полісемантаў *гром, скарга* ўвага засяроджваецца на гучанні музычных інструментаў (цымбалаў, скрыпкі, літаўраў): *Хутчэй давайце, скрыпачы, Чырвоны **гром** сваім цымбалам! **Гром** цымбалаў кінуў п'яны музыкант; **Скарга** самотная скрыпкі;*

Гукавыя метафарычныя пераасэнсаванні найбольш пашыраны ў творах Максіма Танка. Даволі часта ён выкарыстоўвае прыём ланцужковасці метафар, які дазваляе стварыць насычаную гукавую «палітру» з акцэнтацыяй увагі на гуках рознай ступені і вышыні гучання, на паслядоўнасці пералічэння якіх-небудзь аднародных гукаў (прыродных, жывёльных, музычных і інш.): *Дзень быў перагружан навалам падзей: то **смех** салаўіны, то **ўсхліпы**, То жаб **пераклічка** ў траве і вадзе; Настаў вушы на цішу, На **гамонку** лясоў, На лугоў **перагуды**, На крыніц **перазвоны**; І раптам — Выклікoвы **звон** гітары,Заманлівы **смех** скрыпкі, Раўнівы **бой** бубна; Пад **воплескі** літаўраў, Пад **крык** трамбонаў, Захапленне скрыпак… выбіраюць Каралеву Прыгажосці; Мінск устае з заслоны ночы хмарнай, Мінск устае ў **сімфоніі гудкоў,** У **пераклічцы** цягнікоў таварных.*

Верш «У кожнай расліны адменная мова», які складаецца з 10 радкоў, цалкам пабудаваны на метафарычных вобразах, азначэннях і атаясамліваннях гукавога тыпу. Асноўную сэнсавую нагрузку нясе метафара-назоўнік *мова* (паўтараецца тройчы) і шматлікія азначэнні-эпітэты *цяністы, духмяны, гаючы, шумлівы* і мн. інш.:

У кожнай расліны адменная мова:
Іначай гавораць сасняк і бярэзнік,
Алешнік і ельнік, дубняк і ляшчэўнік,
Лазняк і лімоннік, каліннік, маліннік.

Я часта прыходжу да іх у гасціны,
Каб мову сваю асвяжыць і папоўніць
Іх мовай цяністай, духмянай, гаючай,

Шумлівай, грымучай, стозвоннай,
шматзорнай,
Часамі — вясёлай, шалёнай, як травень,
Часамі — тужлівай, барвовай, дажджлівай.

8. Квантытатыўныя метафары (лац. *quantitativus* «колькасны») заснаваны на падабенстве фізічных параметраў прадметных сутнасцей, іх колькасці, памеры, велічыні, аб'ёме, глыбіні і інш. Часцей за ўсё выкарыстоўваюцца метафары з недакладным (прыблізным) колькасным зместам. У якасці крыніцы для метафар з актуалізаванымі семамі «многа, вялікая колькасць чаго-, каго-небудзь», «што-небудзь неабсяжнае, неабдымнае» даволі часта выступаюць кампаненты тэматычных груп, што характарызуюць сілу і магутнасць прыродных з'яў, іх стыхійнасць і неабмежаваныя магчымасці. Эпіцэнтрам у гэтай падгрупе з'яўляюцца назоўнікі *мора, акіян: Калышацца снежнае мора На крылах мяцеліцы; Вецер гладзіць хмараў цені, мора жыта; Хвалявалася мора сцягоў і людзей; І пахіснулася мора людское; Мора вогненных рэклам; Васіль успомніў мора каласоў, жніво; Плешча мора людскіх галасоў; Акіян траў.*

Пераносныя ЛСВ полісеманта *рака* могуць характарызавацца гіпербалізацыяй, вялікай ступенню перабольшвання: ***Рэкі слёзаў*** *няўцешных, гарачых;* ***Рэкі смутку і радасці*** *Я пераходзіў не раз.*

У субстантыва *паводка* квантытатыўныя метафарычныя ЛСВ утвараюцца па формуле «часовае падняцце вады ў вадаёмаў у выніку раставання снегу або вялікіх дажджоў» → «вялікая прастора, паласа чаго-небудзь». *Сінее высокі абрыў. На кручы стагоднія дрэвы. Над імі* ***паводка*** *зары, Вятроў несціханых напевы.*

Сярод полісемантаў з неакрэсленым колькасным зместам сустракаюцца назоўнікі, пераасэнсаванні ў якіх развіваюцца па мадэлі «статак, чарада, зграя (жывёл, птушак) → гурт, натоўп (людзей, прадметаў)»: *І расселася шляхта, кулакі і магнаты З* ***саранчою*** *асаднікаў, катаў, шпікоў; На калгасных палях —* ***табуны*** *трактароў; Куль партызанскіх гарачы* ***рой****.*

Другасныя ЛСВ полісемантаў *капэла, талака, сейм* вылучаюць на першы план значэнні «гурт птушак, насякомых, група якіх-небудзь аднародных прадметаў»: *І тады пайшла* ***капэла****: Заліліся жаўрукі, На ўсе галасы запелі, Жабы, кані, кулікі;* ***Капэла*** *камароў ды лесуноў-рагатуноў; Пад навальніцай веснавой запела Бярозаў прыдарожная* ***капэла****; З камарынай* ***талакою*** *звонкай Салаўі спрачаюцца ўначы;* ***Талакі*** *камарынай плыве пераззвон;* ***Сейм*** *буслінны збіраецца Восеньскай раніцай; Буслы збіраюцца на* ***сейм*** *перад сваім адлётам.*

Асновай для квантытатыўных пераасэнсаванняў могуць служыць найменні атмасферных ападкаў, а таксама завеі, завірухі, хмары (*дождж, лівень, град, хмара, пурга*): *І сняцца нівы, пералескі, Ды непралазныя кусты Лістом завеяныя сцежкі І сініх зораў* ***дождж*** *густы; Прайшлі праз свінцовыя* ***ліўні****; Хлешча зор сініх* ***лівень****; Дрэвы пасечаны* ***градам*** *куль; Спатыкалі дзяўчаты і* ***хмары*** *касцоў; Рыбы ходзяць* ***хмарамі*** *густымі; Зноў* ***хмара*** *конскіх грыў Уздыбілася, узняўшы клубы дыму*; *Я помню, калі пад свінцовай* ***пургой****, Прыпаўшы грудзьмі да зямлі, быў зямлёй.*

Прыметы «вялікая колькасць, мноства чаго-небудзь», «вялікая плошча чаго-небудзь» акцэнтуюцца ў субстантывах з першаснымі ЛСВ «войска», «масавая народная гульня», «узгорак», «масіў зямлі, зарослы дрэвамі»: *Цэлая* ***армія*** *Рэдактараў, стылістаў, Карэктараў Правярае кожнае слова; Сцежкай адною заходзіць месяц і зор* ***карагод****; Калыша* ***лес*** *зялёнай асакі; Першаю сцежкаю ўсходзіць Сонца і зор* ***карагод.***

Менш распаўсюджанымі полісеманты, квантытатыўныя ЛСВ якіх развіваюцца ў напрамку «малы памер», «невялікая колькасць чаго-небудзь». Сема «малая, нязначная колькасць каго-, чаго-небудзь» вылучаецца на першы план у полісеманта *жменя: Туліцца каля платоў* ***жменя*** *худых цялят; «Лепей* ***жменя*** *дружбы, Як бочка золата», —- часта паўтараў Вясковы сталяр Марка.* Квантытатыўныя ЛСВ полісемантаў *крошка, глыток* ужываюцца ў адным метафарызаваным кан-

тэксце і скіраваны на выяўленне ўнутранага стану чалавека: *Я з малых дзён прывык, Калі дзялюся з кім Шчадротамі ўспамінаў,* ***Глыткамі радасці****, турбот, Ці* ***крошкамі надзей,*** *— Глядзець у вочы субяседніка...*

9. Анімістычныя метафары (грэч. *anima* «душа», *animatio* «адушаўлёнасць») скіраваны на чалавека і адлюстроўваюць шырокія і разнастайныя сувязі аб'ектыўнай рэчаіснасці з быццём чалавека. Вытокі такіх метафар лёгка праглядваюцца ў анімізме, адухаўленні першабытным чалавекам прадметаў, сіл і з'яў прыроды. Безумоўна, сённяшнія анімістычныя метафары ніяк не атаясамліваюцца з анімістычнымі ўяўленнямі нашых далёкіх продкаў, а з'яўляюцца вобразнымі характарыстыкамі людзей. У паэзіі Максіма Танка анімістычныя метафары не маюць шырокага пашырэння і, як правіла, адрасуюцца каханай, любімай дзяўчыне. Зыходнай базай для ўтварэння такіх метафар служаць найменні нябесных цел, а таксама суквеццяў злакаў і раслін (*заранка, зорка, колас): Далонь, мне на якой Збіралася паваражыць, Сказаўшы мне, што ты —* ***заранка****, Што без цябе мне нельга жыць; Голас мілага: «****Зорка*** *ты мая...»; З іх адна ёсць такая, станам гібкая —* ***колас****, Ажно сэрца іграе, яе чуючы голас.*

10. Антрапамарфічныя метафары (грэч. *anthropos* «чалавек», *morphe* «форма») утвараюцца па мадэлі «чалавек → птушкі, жывёлы, дрэвы, расліны, нябесныя целы, прыродныя з'явы і інш.». Надзяленне чалавечымі рысамі і якасцямі прадметаў жывой і нежывой прыроды (персаніфікацыя) мае доўгую гісторыю і сваімі каранямі ўзыходзіць да старажытных рэлігійных уяўленняў, веры людзей у магічную сілу слова. Старажытнае табу — забарона ўжываць назвы жывёл у час палявання, іх замена сінонімамі і семантычнымі адпаведнікамі — было адным з важнейшых фактараў развіцця антрапамарфічных метафар. Сёння гэты тып метафар шырока выкарыстоўваецца ў розных жанрах вуснай народнай творчасці, байках, а таксама паэтычных творах. У ідыястылі Максіма Танка антрапамарфічныя метафары развіваюцца ў наступных кірунках:

а) «чалавек» → «птушка» (*госць, жыхар, саліст, сям'я*): *І доўга я слухаў, пра што гаварылі Крылатыя госці на мове сваёй; Стары жыхар імшараў — цецярук; Шмат пісалі паэты і я Пра салістаў Нашых сцэн, нашых ніў, Пералескаў цяністых...; Уся птушыная сям'я вітае гул вясны; У сям'і крылатай згода;*

б) «брат (сястра)» → 1. «хто-небудзь блізкі, роднасны»: *Вам, браты дарагія, прывет шле мой край; Заўжды квітней, зямля Тараса, Зямля маіх сясцёр, братоў!* → 2. «рака, якая ўліваецца ў возера, акіян». *Енісей — родны брат акіяна.* → 3.» грыб, што расце ў пары з іншым грыбам». *Схаваліся між траў Падасінавік стары, Дзве ваўнянaчкі-сястры;*

в) «непаседлівы чалавек» → «сцябло расліны ў самым пачатку яго развіцця з насення»: *Вы бачылі, Як жыта калосіцца? Перш выплыве адзін З найбольш важных Непаседа-колас, Разгладзіцца, Расой прамыўшы вочы..;*

г) «бяздомны, не заняты працай чалавек, які ўвесь час бадзяецца, мяняе месца жыхарства» → «месяц». *Часамі месяц, бяздомны бадзяга, забярэцца на стрэшкі дзіравых хмар;*

д) «жанчына, якая вандруе, падарожнічае» → «вясна». *Прывет табе, вандроўніца-вясна!*

е) «спявачка» → «жалейка». *Прыносіў ёй розныя забаўкі ён: То нейкае дзіва лясное, То часам пявунню-жалейку, як звон, І нават люстэрка жывое;*

ё) «музыкант, які іграе на бандуры» → «стары дуб». *На Украіне, дзе Дняпро Ля кручы пеніцца бруісты, Гудуць вячэрняю парой Дубы — старыя бандурысты.*

11. Зоамарфічныя метафары (грэч. *zoon* «жывёла», *morphe* «форма») шырока прадстаўлены ў большасці моў свету, што тлумачыцца генетычнай блізкасцю духоўнай і матэрыяльнай культур многіх народаў, тыпалогіяй разумовай дзейнасці чалавека, здольнасцю такога разраду слоў да рэгулярных пераносаў. Мадэль «жывёла → чалавек» характарызуецца рэгулярнасцю і прадуктыўнасцю сваіх тыпаў і грунтуецца на шматлікіх асацыятыўных сувязях жывёлы і чалавека.

У якасці зыходнай базы для зоамарфізмаў у ідыястылі Максіма Танка выступаюць заонімы (найменні жывёл) і арнітонімы (найменні птушак). Зоамарфізмы выконваюць у мове экспрэсіўную функцыю і характарызуюцца высокай канататыўнай насычанасцю. Яны не столькі называюць чалавека, колькі вобразна, экспрэсіўна і ацэначна характарызуюць яго (як са станоўчага, так і адмоўнага боку). Сема «абмежаванасць, неразумнасць, някемлівасць» акцэнтуецца ў структуры полісеманта *баран*: *Адзін з іх толькі швагер Мітрафан, На лаве стоячы, крычаў: «Баран! Нашто на сцены лезеш п'яным лбом!»*. Трывала замацаваліся асацыяцыі драпежных жывёл з ворагамі, чужынцамі, захопнікамі, небяспечнымі людзьмі *(гад, гадзіна, звер, шакал, псіна*): *Сягоння гад прыпоўз у новай скуры, Лепш вырвіце з зубоў яму язык; Будзем вешаць гадаў хітрых На высокіх на асінах; Гора вам, гора! Калі вы... не растопчаце лютую гадзіну ў час; Яшчэ удар па полчышчах варожых, Адкінут звер ад новых рубяжоў; І як мала мы ведаем гэтага звера; Я чую стогн Афрыкі Каланіяльнай, Выццё ў эфіры Шакалаў паганых; Не чакаючы зораў, даў ходу у бомбасховішча. Ведае, псіна, што ад зораў ён гэтых загіне.*

Асновай для зоамарфічнай метафары можа служыць падабенства эмацыянальных адносін. Вытворныя ЛСВ у такіх выпадках дэсемантызуюцца і не столькі характарызуюць асобу, колькі ў абагульняльнай форме выражаюць ласку, сімпатыю, павагу да чалавека, акцэнтуюць увагу на яго смеласці, адважнасці, прыгажосці *(сокал, арол, ластаўка, жаваранак, зязюленька, птушка): Сярод ніў і каласоў Гэткі **сокал** хіба не зблудзіў; Сінявокі **сокал**, што з табой; Успомні паўшых ты **арлоў** і як змагаліся яны; А ты, **арол**, глядзі — дзяўчыны ў рыбакоў не забяры; Што ж, **ластаўка мая**, ты скажаш?; Дык не ўцякай, няма спяшаць куды, Мой ранні жаваранак залаты; Не плач, не бойся, **жаваранак** мой; Яно напамінае **Зязюленьку** тую, З якой я расстаўся даўно, Па якой я сумую; Як вырвацца **птушцы** на волю ізноў?*

12. У якасці сферы-крыніцы для зоасемічных метафар (грэч. *zoon* «жывёла», *sema* «знак, значэнне») выступаюць найменні жывёл. Рэцыпіентныя ЛСВ прадстаўлены ў Максіма Танка невялічкай групай транспартных сродкаў: *Спыняюць ходу **мурашы** гарадскія — трамваі, таксі і аўтобусы; Бачыш сам: фашысцкія **сцярвятнікі** няспынна ў небе кружаць.*

13. Персаніфікаваны тып метафар (лац. *persona* «маска, твар», *facere* «рабіць») адносіцца да ліку ўнутранай полісеміі, дзе пераносы ажыццяўляюцца ад чалавека і на чалавека. Пры найменнях асобы практычна не адбываецца трансфармацыі дэнататыўнай суаднесенасці, назіраецца толькі замена канататыўных сутнасцей. Менавіта таму многія ЛСВ нясуць на сабе адбітак суб'ектыўнага пачатку, гіпатэтычнага домыслу, што абумоўлена наяўнасцю ў семантычнай структуры слова ідыяэтнічнага і рэляцыйнага кампанентаў, якія ўплываюць на кірунак сэнсавых мадыфікацый.

У працэс утварэння танкаўскіх другасных намінацый уключаюцца найменні міфічных і фантастычных асоб, казачных герояў. Знешні выгляд такіх герояў, іх дзеянні і ўчынкі суадносяцца з чалавекам, які, як правіла, характарызуецца са станоўчага боку (*багіня, анёл, чараўніца*): *Я шмат **багінь** спакуслівых І ласкавых страчаў, Але табе, паэзія, Ніколі не здраджаў; А зараз На каралеўскай Шпітальнай пасцелі, І пад аховай **анёлаў** У белых халатах; Штодзень даяркі — белыя **анёлы** — На стойбішча прыходзяць грамадой; Разбудзіла мяне сцюардэса — **Анёл** з мятнымі цукеркамі; Ах, **чараўніца** ты мая!* Такія рысы характару, як хлуслівасць, падман актуалізуюцца пры ўтварэнні другаснага ЛСВ полісеманта *пярэварацень*: *Не верце Ні словам, сказаным за чаркай, Ні абяцанням і прамовам Тыранаў Ці захапленням нейчай Беспамылкавасці, Ні клятвам **пярэваратняў**.*

14. Многія з танкаўскіх метафар лічацца аказіянальнымі, індывідуальнааўтарскімі. Яны паглыбляюць разуменне пачуццёвага ўспрымання рэальнасці, апелююць да ўяўленняў і фантазій і праз іх да разумення жыцця і сутнасці з'яў. Значэнне такіх метафар найчасцей раскрываецца ў канструкцыях, дзе важную ролю адыгрывае характар спалучальнасці слоў (звычайна нестандартны) і семан-

тычная напоўненасць кожнага слова: *Вясенняя **зораў сяўба** Расой ападае на верас; Ля грэблі **Вада закіпае** Ад зораў, што ночка З **мяхоў** высыпае; Горкі **попел прамоў** Угрызаецца ў вочы; Усё не збяруся Прывесці ў парадак Рабочы стол, Напакаваны друзам слоўным, **Абломкамі думак;** З пачуццём нейкага суму Пакінуў Вычарпаныя **студні** Сваіх **песень**; Гэй, вольная песня, ўздымайся, ляці ты На **крылах маланак** нястрымных, агністых; Калісьці, Легкадумна заглыбіўшыся У **лабірынце** сваіх **Пошукаў Праўды**, Узяць забыўся Нітку Арыядны; Каб на кожным слове ставілі **таўро праўды**,... Напэўна, лягчэй і святлей нам жылося б на свеце; Што можа зраўняцца З гаючасцю сну, Калі ты, Набегаўшыся за атарай, За рэхам жалейкі, Зарываешся ў **космасе** Мурожнага **сена**?*

Зрэдку ў метафарызаваны кантэкст уключаюцца найменні музычных інструментаў: *Ціхай **скрыпкай** заіграе польны вецер; Доўга лес на **гуслях** граў зялёных; Галосіць пад вострым **смыком** палазоў Тугой безнадзейнай сцяжыны **струна**.*

У індывідуальна-аўтарскіх метафарах знайшла сваё выразнае выяўленне філасофская катэгорыя часу, якая адлюстроўвае працягласць існавання ўсіх з'яў рэчаіснасці, паслядоўнасць змен іх станаў. Характар і асаблівасці метафар часавага тыпу залежаць ад таго, які аспект шырокай тэмпаральнай палітры актуалізуецца ў працэсе метафарызацыі. Сам час і эпоха, калі жыў чалавек і якім ён будзе ў будучым, хвалюе паэта: *О, як лёгка ісці, Адчуваючы матчыны рукі, ачуваючы крылы юнацтва, Адчуваючы плечы каханай; Яго сэрца крыгі часу не сатруць; Смела мы ў даль жыцця Будзем ісці і пець!*

Часцей за ўсё Максім Танк падсумоўвае пэўныя жыццёвыя факты і падзеі, якія адышлі ў далёкае мінулае. Памяць і мінулае — скразная тэма многіх твораў паэта: *У **лабірынце памяці** маёй Цудоўнейшыя скарбы выяўляю; За акном снег павольна ляціць. Не парвалася б **памяці ніць**...*; *Ты мне часцей напамінай, Каб не забыў я Перакрэсліць Асабістыя ўсе крыўды, З **кішэняў памяці** павытрасаць Усе словы, што страцілі вартасць; І як цяжка цягнуцца, Ў далонях трымаючы толькі **Кульбаку ўспамінаў**; Мы сустракаемся, ветэраны, У цэнтральным сквере Нашага горада, На **скрыжаваннях** сваіх **успамінаў**; Лепш нырну я ў **бездань стагоддзяў**, Калі прашчур мой будучы скальдам Шаткаваў крыжакоў пад Грунвальдам.* Верш «Парог, вычасаны з успамінаў» пабудаваны на скразных метафарах, якія раскрываюць няспынны і незваротны ход жыцця, адыход у мінулае важных для чалавека людзей, прадметаў, прымет і і абставін:

Парог, вычасаны з успамінаў,
Астаўся за мной;
Дзверы, на завесах цвыркуновай песні,
Асталіся за мной;
Вокны, зашклёныя вачамі блізкіх,
Асталіся за мной;
Хата, пакрытая крыламі ластавак,
Асталася за мной, —
Як жа мне азірнуцца назад,
Нават калі б я застыў
Слупом солі?

У структуры паэтычных тэкстаў шырока ўжываюцца разгорнутыя метафары, якія нясуць пэўную лагічную, вобразную і эмацыянальную нагрузку. Часцей за ўсё яны ўяўляюць з сябе спалучэнні некалькіх генітыўных метафар (як правіла, яны выступаюць у ролі аднародных членаў):

● *А я іду яго [лесу] Паслухаць **спеў**, Спрадвечныя чытаць **Пісьмёны дрэў**. Пісалі іх дажджы, Снягі, вятры На **серабры** Бярозавай **кары**, На **бронзе сосен**, **Зелені лістоў**, На **саматканых Дыванах імхоў;***

● *Злучыш **спектры слоў і травы**, Злучыш **рэчышчы зораў і рэк**, — Так, як **фарбы агню і крыві** Мы злучалі ў суровы наш век;*

● *Каб лепш мог пачуць ты* ***Прыбой*** *несціханы Людскіх* ***галасоў***, ***Навальніц, Акіянаў*** *— Павінен заткнуць свае вушы;*

*Чарнее трубка тэлефонная, як шпак, На* ***ворыве*** *пісьмовага* ***стала***, *Дзе недаканчанага* ***пісьма*** *Чарнеюць першыя* ***барозны***;

● *Заўсёды былі І, відаць, заўсёды будуць Высокія* ***парогі да славы, Да любові, Да шчасця***. *Толькі як змірыцца З высокімі* ***парогамі Да праўды і Справядлівасці?***

Даволі распаўсюджаныя ў дыскурсе Максіма Танка прэдыкатыўныя метафары, якія лічацца своеасаблівымі азначэннямі, вузкімі (аднаслоўнымі) ці шырокімі (шматслоўнымі) тлумачэннямі метафарычнага ЛСВ. Звязка (часцей нулявая) у такіх ізасемічных канструкцыях аб’ядноўвае два канцэпты і выражае адносіны метафарычнай цеснасці. Дзейнік выступае ў якасці зыходнага ЛСВ, а выказнік — у якасці вытворнага метафарызаванага ЛСВ. *Бусел — вартавы вясковы; Цецярук — стары жыхар імшараў; Невялікі павучок — вяшчун добрай звесткі; Вуды — пругкія антэны; Ледзяшы — першыя ластаўкі вясны; Дарога — шэрая бясконцая нітка З вузламі памяці; Найлепшы адпачынак — праца; Вандроўніца — гэта кропля вадзіцы; Каханне наша — персцень зачараваны той.*

Праўда, прэдыкатыўныя метафары не заўсёды дазваляюць у поўным аб’ёме выразіць сэнс, усебакова ахарактарызаваць прадмет. Таму іх дэскрыпцыя часам уключае пашырэнне і далейшае развіццё тэмы, што фармальна перадаецца дадатнымі і аднароднымі членамі сказа, часткамі складаных сказаў і цэлымі сказамі. Метафарычнае апісанне слова-донара, такім чынам, становіцца больш дэталёвым, разгорнутым, мяжа якіх у радзе выпадкаў з’яўляецца даволі пашыранай, адкрытай. Сэнсавая скіраванасць і рэцыпіентны склад такіх кантэкстуальных метафар залежыць ад светабачання пісьменніка, глыбіні ўражанняў і асацыяцый, звязаных з прадметам апісання. Менавіта таму ў прэдыкатыўных канструкцыях змест дзейніка выяўляецца шляхам пільнага і скрупулёзнага падбору вялікай колькасці слоў самай рознай сэнсавай скіраванасці. Параўн.:

● *Месяц — Самотная лодка Шукальніка перлаў, Які некалі ў хвалі нырнуў І не выплыў;*

● *Зоры — раскіданая сейбітам пшаніца, Каб, летучы ў далёкі вырай позні, Было чым пералётным птахам пажывіцца, Не апускаючыся на зямлі барозны, Дзе не заўжды дадуць нат і вады напіцца Падарожным;*

● *Сонца — неабдымная мара, Якую перадаюць: Вецер — ветру, Дрэва — дрэву, Хваля — хвалі, Камень — каменю, А чалавек — чалавеку з рук у рукі*;

● *Акіян — гэта шчодрасць без краю, Дзе ў кожнай краплінцы то сонца палае, То перлы яснеюць, то хмары цямнеюць, То громы грымяць ды шумяць адысеі;*

● *Айсбергі — гэта алмазы Палярнага ззяння, Сны, што пад сіверам Сняцца грэнландскім кітам. Айсбергі — гэта застылыя Горы маўчання, Помнікі шхунам разбітым І іх маракам;*

● *Сосны — гэта не сосны, а гаротныя ўдовы, Што аднойчы прыйшлі стрэціць родных сваіх І застылі на дзюнах ды на скалах суровых, Не пабачыўшы, не дачакаўшыся іх;*

● *Стрэлкі гадзінніка — ножніцы Нястомнага краўца, Які дзень і ноч Кроіць час І шые мне з яго вопратку;*

● *Ключ жураўліны! Гэта ключ, якім адмыкаюць Веснія воды, Цёплыя подыхі ветру, Зялёныя руні, Птушыныя гнёзды, Вясёлкі і радасць;*

● *Памяць мая — Бяздонная Тонь. Я часта з яе Вылоўліваю скарбы;*

● *Словы — пух тапаліны, Перакаці-поле. Іх трэба зазямляць, Прыкрываць далонямі, Вуснамі, Сэрцам, Каб яны прараслі песнямі.*

Сярод даволі распаўсюджаных разгорнутых прэдыкатыўных метафар тэматычна вылучаюцца дыскурсы пра паэзію, яе сутнасць і прызначэнне. Яны ўклю-

чаюць у свой склад некалькі вобразна-сэнсавых фокусаў у спалучэнні з рознага кшталту семантычнымі распаўсюджвальнікамі. Параўн.: *Паэзія — гэта адвечная цяга Вяршынь да нябёс, А траваў і дрэваў — Да сонца. Паэзія — гэта вясёлкавы мост Ад сэрца людского Да мары. Паэзія — дружба Зярна і зямлі, Агню і крыві Прабуджэнне...*(«Трактат аб паэзіі»); *Паэзія — гэта тое, Міма чаго Мы праходзім штодзень, Але пра што Ні акушэры, Ні трунары Не ведаюць нічога* («Пасля бясконцых пошукаў»). У вершы «Паэзія» паэт параўноўвае паэтычную творчасць з бліскавіцай, вызваленнем з няволі, з вясновай кветкай, пацалункам, дружбай і радасцю, са следам разведчыка, скарынкай чорствага хлеба, з сокам вінаграда. Але ўсе гэтыя азначэнні, на думку аўтара, не ахопліваюць глыбіні і сутнасці паэзіі, якая для творцы нешта большае:

А ты аказалася большым:
Ты — кроў, што пульсуе па жылах,
Ты — сонца, якое
Прасторы святлом азарыла,
І без чаго, як без маці
Або без радзімы,
Ні нараджацца, ні жыць
На зямлі немагчыма!

Дыскурс Максіма Танка часта разгортваецца за кошт вобразных азначэнняў і шматлікіх канкрэтызатараў асабовых займеннікаў, якія па прычыне дэйктычнасці і ў пэўнай ступені семантычнай апустошанасці імкнуцца да пастаяннага кантэкстава-семантычнага экспліцыравання. У структурным плане такія паэтычныя тэксты складаюцца з дзвюх частак, першая з якіх прадстаўлена асабовым займеннікам, а другая — прэдыкатыўным цэнтрам, у якім закладзены практычна неабмежаваныя рэсурсы семантычных атаясамліванняў, параўнанняў, пераўвасабленняў (у лінгвістычнай літаратуры такія прэдыкатыўныя цэнтры называюцца супазітыўнымі метафарамі ці аўтаметафарамі). Напаўненне прэдыкатыўнай часткі часцей за ўсё з'яўляецца метафарычнай самаідэнтыфікацыяй, аўтарскім «я», напоўненым самымі празнымі асацыяцыямі і параўнаннямі, ланцужкамі супярэчлівых і, здавалася б, несумяшчальных сімвалаў і вобразаў:

Я — ў кожным пажары,
Я — полымя брат,
Я — ў кожным удары
Жалезных лапат.
Я — ў скаргах, я — ў слёзах
І сірат і ўдоў.
Я — ў шуме бярозаў,
У гуле вятроў.
Я — ў чорных загонах,
У скібах цяжкіх,
У кос перазвоне
Між ніў залатых.

Аўтаметафары ў сваёй большасці праліваюць пэўны свет на творчую «лабараторыю» аўтара, дзе лірычны герой хоча зблізіцца з іншымі рэаліямі, раствырыцца ў іх, выказаць свае адносіны да іншых людзей. У фокусе пэўных ацэнак і меркаванняў часцей за ўсё аказваецца жанчына, каханая дзяўчына. Паэт параўноўвае жанчыну з заранкай, веснім звонам, промнем святла, рэхам, жывым серабром: *Ты — заранка..., без цябе мне нельга жыць; Ты заўсёды няўлоўнай была: То веснім звонам Паміж радасцю і смуткам, То промнем святла Паміж быццём і небыццём, То рэхам Паміж мінулым і будучым, То жывым серабром, Што працякае Праз пальцы рук, Калі цябе абдымаю.*

У філасофскім вершы «Ты яшчэ толькі намёк на чалавека» выкарыстоўваюцца вялікія магчымасці градацыі ў спалучэнні з анафарай, што дазваляе выразна і пераканаўча акрэсліць тэму разважання, перадаць вопыт, мудрасць, скандэнсаванасць думак цэлых пакаленняў людзей.

Ты яшчэ толькі намёк на чалавека,
Калі ва ўсім спадзяешся на маці;
Ты яшчэ — чвэрць чалавека,
Калі ва ўсім спадзяешся на дружбу;
Ты толькі — паўчалавека,
Калі ва ўсім спадзяешся на любоў, —
І толькі тады становішся чалавекам,
Калі ўсе могуць спадзявацца
На цябе.

Такім чынам, арганічнае ўключэнне ў тканіну тэксту шматлікіх метафар і іх разнастайных камбінацый стварае спецыфіку ідыястылю Максіма Танка. Менавіта інтэнсіяльнасць метафары, яе больш-менш канкрэтнае значэнне раскрываецца ў межах пэўных тэкставых фрагментаў, якія дазваляюць слову маніфеставаць сваю семантыку праз суму прымет і значэнняў іншых слоў і тым самым ствараць перадумовы для розных атаясамліванняў і прыпадабненняў. У творах прадстаўлены практычна ўсе семантычныя тыпы метафар (вонкавападабенчыя, лакатыўныя, акцыянальныя, кваліатыўныя, экзістэнцыяльныя, псіхалагічныя, гукавыя, квантытатыўныя, анімістычныя, зоамарфічныя, зоасемічныя, персаніфікаваныя) і розныя іх камбінацыі. Паэтычныя тэксты наглядна дэманструюць і пацвярджаюць тэарэтычныя вывады аб тым, што цэнтрам прыцягнення метафары з'яўляецца чалавек і ўсё, што звязана з яго жыццём і дзейнасцю (ад фізічных асаблівасцей да абстрактных адносін і паняццяў). Чалавек канцэптуалізуе розныя рэаліі, абапіраючыся на свае ўласныя ўяўленні і каштоўнасныя арыентацыі, канцэнтруе вакол сябе прэдыкаты самых розных прадметаў і сам надзяляе іх сваімі прэдыкатамі.

У паэтычныя тэксты Максіма Танка арганічна ўключаюцца індывідуальна-аўтарскія метафары, якія ў пэўных кантэкставых сітуацыях мабілізуюць свой павярхоўны і глыбінны патэнцыял і ствараюць яркія, непаўторныя і запамінальныя вобразы. Сярод такіх метафар найбольш пашыраны шматкампанентныя і прэдыкатыўныя структуры, агульная семантычная скіраванасць якіх носіць апісальна-пералічальны і сентэнцыяльны характар. Спецыфіка і семантычная напоўненасць такіх метафар, безумоўна, залежыць ад светапогляду і светаўспрымання аўтара, яго жыццёвага вопыту, індывідуальных сістэм каштоўнасцей, багацця ўяўленняў і свежасці асацыяцый, а таксама ад асаблівасцей стылю і почырку выкладання фактаў і многіх іншых прычын. Шырокае выкарыстанне метафар і іншых вобразна-выяўленчых сродкаў спрыяе стварэнню адметнага, непаўторнага і запамінальнага стылю паэзіі Максіма Танка.

АЛЕСЬ ЯФІМАЎ

# МАЛЯЎНІЧЫ КУТОК ПААЗЕР’Я

## Мярэя — Міры — Мёры — Міёры




Міёры — невялікі маляўнічы гарадок, ці, як традыцыйна кажуць у Беларусі, мястэчка, на паўночным захадзе Віцебскай вобласці. Сёння гэта тыповы беларускі райцэнтр: маленькі, «аднапавярховы», утульны. Нават і не верыцца, што Міёрам ужо амаль 500 год! Сёння ў гэтым горадзе практычна нічога не нагадвае пра гісторыю ў палову тысячагоддзя. А гісторыя даволі багатая.

Назва Міёры (ці гістарычны варыянт Мёры) незвычайная і нават экзатычная для Беларусі. Паходжанне яе дакладна невядома і сёння. На гэты конт існуе некалькі легенд і версій навукоўцаў.

Самая папулярная і адна з самых рэалістычных легенд абсалютна не вылучаецца прыгажосцю і рамантыкай. Згодна з ёй раней у гэтым мястэчку здарыўся вялікі мор: ад нейкай хваробы памерла амаль усё насельніцтва. Ад гэтага і назва Мёры, ад слоў мерці, памерці.

Другая легенда распавядае, што калісьці тут, на берагах возера, жылі два розныя народы, якія ўвесь час ваявалі паміж сабою. І ад гэтых пастаянных сутычак мясцовасць зусім абязлюдзела. А тыя, хто засталіся ў жывых, дамовіліся абмераць свае ўладанні і правесці мяжу, выкапаўшы канаву ад возера да Заходняй Дзвіны. Ад слоў «мераць, адмераць» і ўтварылася назва пракапанай канавы — Мерыца, а паселішча, дзе пачынаецца рэчка-мяжа, атрымала назву Меры.

Існуе паданне і пра тое, што старажытныя людзі жылі тут доўгі час абшчынай, якая называлася «мір». І нібыта ад гэтай назвы і паходзяць Міёры-Міры. Цікава, што і сапраўды ў гістарычных крыніцах захаваўся такі варыянт, як Міры.

Таксама існуе паданне, што быццам бы жыў калісьці ў тых краях князь і была ў яго дачка-прыгажуня Мярэя, якая загінула, утапіўшыся ў возеры. У гонар яе князь і назваў мястэчка. І менавіта пад такой назвай сучасныя Міёры ўпершыню згадваюцца ў пісьмовых крыніцах у 1514 годзе.

Акрамя легенд і паданняў, якія хутчэй за ўсё былі створаныя адносна нядаўна, існуе і шэраг навуковых версій паходжання назвы. Тут таксама няма адзінага меркавання, але гэтыя варыянты абапіраюцца на рэальныя, дакладныя факты.

Так, па словах некаторых навукоўцаў, назва Міёры паходзіць ад прозвішча Маер (Меер, Маеров), якое з трансфармацыяй ператварылася ў сучасную назву горада. Сёння гэтая версія не самая папулярная, бо яна была распрацавана адносна даўно, калі яшчэ лічылася, што Міёры нашмат маладзейшыя.

Згодна з другой версіяй назва горада паходзіць ад князёў Мірскіх, з чыім родам гісторыя селішча звязана з XVI стагоддзем. Аднак тут можа быць і абсалютна адваротная сітуацыя. Некаторыя даследчыкі лічаць, што якраз-такі славуты род Мірскіх бярэ свой пачатак і сваё прозвішча ад сучасных Міёраў.

Існуе таксама версія, што назва горада ўтварылася ад назвы плямён мера. На першы погляд, версія амаль фантастычная, аднак гэтыя плямёны жылі адносна блізка — у еўрапейскай частцы сучаснай Расіі, недалёка ад Масквы. Цалкам верагодна, што калісьці яны маглі жыць і на тэрыторыі сённяшняй паўночнай Беларусі, рассяляючыся ад Балтыкі ўглыб кантынента.

Акрамя гэтага, ёсць версія, што назва горада паходзіць ад фіна-ўгорскага гідранімічнага фарманта (гэтая гіпотэза пераклікаецца з папярэдняй, бо мера таксама фіна-ўгорскае племя). На сённяшні дзень такое меркаванне найбольш абгрунтавана з навуковага пункту гледжання, бо сучасная Міёршчына ва ўсе часы (ад самага сыходу ледавіка) была густа пакрыта азёрамі і балотамі. Прынамсі, у фіна-ўгорскіх мовах словы «мора», «зыбкае балота», «багна» маюць аднолькавае значэнне. Таму верагодней за ўсё Міёры атрымалі сваё найменне ад возера, на якім стаяць і па сёння, што з'яўляецца тыповым выпадкам у паходжанні назваў населеных пунктаў. У больш шырокім значэнні, магчыма, назва ўтварылася ад агульнай назвы наваколля, што з фіна-ўгорскай мовы перакладалася прыкладна як «забалочаная мясцовасць».

У канцы XVIII стагоддзя ў новых заходніх раёнах Расійскай імперыі пачалося так званае Генеральнае межаванне. Каморнікі рыхтавалі геаметрычныя планы паветаў і разам з тым запісвалі па-руску назвы населеных пунктаў і іншых геаграфічных аб'ектаў. Не абышлі гэтыя мерапрыемствы і Міёры. Мясцовае вымаўленне назвы было — Мёры, што графічна перадавалася лацінкай (на тагачаснай пануючай польскай мове) як Miory. Аднак у рускай арфаграфіі да сярэдзіны XIX стагоддзя літара «ё» амаль не ўжывалася і замест яе выкарыстоўвалі спалучэнне дзвюх літар — «іо». Акрамя таго, не выключаецца, што расійскія «грамацеі» проста транслітарыравалі назву, не паглыбляючыся ў фанетычныя асаблівасці. І такім чынам царскія каморнікі запісалі яе менавіта як «Міоры». Падобная сітуацыя адбылася і ў XX стагоддзі, калі Міёры былі далучаны да БССР. Аднак гістарычная назва «Мёры» захавалася ў вусным маўленні і па сённяшні дзень. Дарэчы, менавіта варыянт «Мёры» афіцыйна выкарыстоўвае сёння каталіцкі Касцёл Беларусі.

## З гістарычных крыніц

Першыя селішчы на тэрыторыі сучаснай Міёршчыны з'явіліся ў эпоху мезаліту больш за дзевяць тысяч гадоў таму, калі ледавік адступіў на поўнач. Тады землі пачалі зарастаць лясамі, на тэрыторыі з'явілася шмат млекакормячых, зямля стала прыдатнай для розных раслін. У хуткім часе тэрыторыю сучаснага раёна засялілі плямёны, якія вялі вандроўны лад жыцця. Яны займаліся рыбалоўствам, паляваннем і збіральніцтвам. Будавалі прымітыўнае жытло з драўлянага каркасу і шкур жывёл. Старажытныя людзі шырока ўжывалі гліняны посуд, упрыгожаны наколкамі і ямкамі, якія мелі магічнае значэнне: яны павінны былі не прапускаць у посуд злых духаў.

Аб існаванні на месцы сучаснага горада стаянкі старажытнага чалавека гэтага перыяду сведчаць знаходкі ў Міёрах (каменная сякера, нажы, крэмніевы ўкладыш



*Новая набярэжная ў Міёрах (2003 г.).*

да сярпа і інш.). Верагодней за ўсё, самае старажытнае селішча размяшчалася пры вытоку з возера ракі Мерыца.

У пачатку бронзавага веку (канец III — пачатак II тысячагоддзя да н. э.) на тэрыторыі сучаснага раёна з'яўляюцца селішчы плямён культуры шнуравай керамікі. Прыкладна ў XI—VII стагоддзях да н.э. людзі навучыліся здабываць жалеза і вырабляць зброю, прылады для працы і ўпрыгожанні. Для гэтага імі выкарыстоўвалася балотная руда, якой было вельмі багата на сённяшняй Міёршчыне.

На тэрыторыі раёна існавалі селішчы штрыхаванай і так званай паліўнай керамікі. Асаблівасць яе ў тым, што перад абпальваннем посуд палівалі вадкай глінай. Найболей характэрнае гарадзішча і паселішча гэтай культуры выяўлена каля в. Пруднікі на беразе ракі Вята.

У VIII — XIII стагоддзях н. э., калі ў россквіце быў знакаміты шлях «з варагаў у грэкі», жыхары сённяшняга Міёрскага раёна знаходзіліся ў выгадным геаграфічным становішчы. Тагачасныя людзі займаліся «курэннем смалы»: спачатку яны палілі адмысловым спосабам у спецыяльных ямах хвойныя пароды дрэў, а потым збіралі выцеклую смалу і прадавалі яе на знаным шляху. Цікава, што гэты прадукт быў даволі папулярным: смалу набывалі купцы са Скандынавіі, Германіі, у больш позні час — з Рыгі.

У 1514 годзе Міёры ўпершыню згадваюцца ў пісьмовых крыніцах як маёнтак Мярэя Браслаўскага павета ВКЛ. Крыху больш чым праз паўстагоддзя, у попісе войска Княства Міёры фігуруюць ужо як маёнтак Меры, што належаў Р. Мірскаму. А ў пачатку XVII стагоддзя ў тастаменце Януша Пуцяты, маршалка Браслаўскага павета, мястэчка згадваецца пад назвай Міры. У 1621 годзе ўладальніца маёнтка Н. Мірская заклала тут царкву.

У 1633 годзе Мёры ўжо прыналежаць Алёне Рылле. Аднак неўзабаве яна прадае маёнтак Себасцьяну Святаполку Мірскаму, браслаўскаму земскаму суддзі, які ў 1641 годзе збудаваў там драўляны касцёл.

З дакумента «Інвентарнае апісанне Мёрскага касцёла і яго ўласнасці ад 14 мая 1825 года» нам вядома апісанне старога храма. У дакуменце напісана, што гэта быў драўляны будынак першай паловы XVII стагоддзя на падмурку з каме-

ня і цэглы. Касцёл быў пакрыты гонтай, вежы яго — меддзю. Побач дзейнічала драўляная званіца.

25 мая 1644 года Себасцьян Мірскі ўносіць значнае ахвяраванне на будаўніцтва ў Міёрах царквы і кляштара. Запіс аб гэтым, зроблены на старабеларускай мове, у перакладзе выглядае прыкладна так: «Раней я пабудаваў і заснаваў некалькі цэркваў і кляштараў у гонар і ў славу Госпада, а зараз раблю ахвяраванне на кляштар у маёнтку маім Міры ў Браслаўскім павеце». Мірскі жадаў, каб пры кляштары існавала школа, дзе вучыліся б мясцовыя дзеці. У дакументах аб ахвяраванні запісана, што кляштар і царква на вечныя часы павінны заставацца ў праваслаўнай веры і што фундатар праклінае таго, хто парушыць яго волю.

Неўзабаве кляштар пачаў сваю дзейнасць. Цікава, што ён згадваецца нават у завяшчанні вядомага Сімяона Полацкага, які ахвяраваў комплексу 600 рублёў золатам і 700 рублёў срэбрам.

Аднак воля Себасцьяна Святаполка ў хуткім часе была парушана. І не выканаў запавет мецэната не хто іншы, як яго родны сын. Вось што адзначана ў скарзе ігумена Іёвы Малочкі ад 2 студзеня 1691 года: «Пратэставалі супраць дзеянняў пана Міхася, мечніка браслаўскага, ксяндза Стэфана Дамкоўскага, плябана Друйскага, быўшых у адзінай змове, што абодва яны з вялікім натоўпам і кучай узброеных да зубоў, у тым ліку зараджанымі стрэльбамі і пісталетамі, 20 снежня 1690 года напалі спачатку на кляштар у Мёрах, у якім ажыццявілі розныя бясчынствы і шум, а менавіта ўсіх манахаў і прыслугу звязалі, білі і лаялі, а затым амаль распранутых выгналі з кляштара. Зламалі дзверы ў царкве і, уварваўшыся туды, разрабавалі яе дачыста, захапіўшы золата, срэбра і ўсе дарункі, у тым ліку і багатыя ахвяраванні заснавальніка кляштара».

Такім чынам, Міёрская царква была ўшчэнт разрабавана. Званы з яе былі зняты і прызначаліся для касцёла, але адзін з іх патануў пры перавозе праз возера. Звон гэты не знойдзены і сёння. У 1970-х гадах вадалазамі была зроблена спроба адшукаць і падняць рэліквію, але яна скончылася безвынікова.

Другі звон усё ж патрапіў да каталікоў. У 1866 годзе міравы пасрэднік Васенка, які тады працаваў у Міёрах, напісаў у «Віленскі веснік» артыкул, дзе акрамя іншага распавёў: на званіцы Міёрскага касцёла вісіць звон, на якім кірыліцай напісана, што ён належыць Міёрскай царкве «не в унии состоячей».

Пасля гэтага рабавання Міёрскі кляштар і царква засталіся, але перайшлі да уніятаў. Аб гэтым варварскім захопе згадваецца нават у лісце рускага цара Пятра І каралю Рэчы Паспалітай: «25 гадоў таму Міёрскі кляштар вераломна адняты ва ўнію і на патрэбы каталікоў аддадзены, а манахі ўсе выгнаныя прочкі».

У канцы XVIII стагоддзя кляштар з'яўляўся ўжо каталіцкім. Пасля падзей 1830—1831 гадоў, згодна з загадам улад, касцёл (ранейшая царква) і кляштар павінны былі вярнуцца пад юрысдыкцыю праваслаўнага сінода. Але, дзякуючы намаганням мясцовага ксяндза Чапулевіча, касцёл удалося адваяваць. За гэтыя намаганні міёрскі святар у 1842 годзе быў высланы ўглыб Расіі. Тым не менш загад вярнуць комплекс праваслаўнай Царкве неўзабаве быў падпісаны сумна вядомым віленскім генерал-губернатарам Мураўёвым. Але воляй лёсу склалася так, што самога Мураўёва перавялі на іншую пасаду, а загад застаўся не выкананым.

У вайну 1654—1667 гадоў паселішча было амаль поўнасцю спустошана. Неўзабаве ў Міёрах быў пабудаваны новы касцёл. Аднак трэба мець на ўвазе, што ў той час было некалькі населеных пунктаў з такой назвай, таму магчыма, што касцёлы 1641 і 1691 гадоў былі пабудаваны ў розных месцах. Так ці інакш дакладна вядома, што ў 1862 годзе новы касцёл зачынілі, бо мясцовая шляхта, збіраючыся ў храме, ладзіла там антыўрадавыя выступы і спявала забаронены польскі гімн.

Пасля другога падзелу Рэчы Паспалітай Міёры апынуліся ў складзе Расійскай імперыі. Мястэчка ў той час з'яўлялася цэнтрам валасці Дзісненскага павета Мінскай (з 1842 года — Віленскай) губерні.

З 1866 года ў Міёрах дзейнічала народная школа. Вучэльня была адчынена расійскімі ўладамі з мэтай русіфікацыі мясцовага насельніцтва. Настаўнічаць у ёй маглі толькі выхадцы з Цэнтральнай Расіі. Дакладна вядома, што ў 1878 годзе там навучаліся 32 вучні. Праз 20 год у Міёрах было ўжо 110 жыхароў, існавала валаснае праўленне. У тагачасным мястэчку мелася тры карчмы; два разы на год праводзіліся кірмашы. Праіснавала традыцыя са старажытных часоў да пачатку XX стагоддзя. Вось адзін з успамінаў пра кірмаш у Міёрах: «З далёкіх мясцін сяляне прыязджаюць у Міёры напярэдадні дня кірмашу (8 верасня), больш бліжэйшыя на сам кірмаш. На лузе, перад мястэчкам, ставяць фурманкі і коней. Іржанне коней, спевы жабракоў, размовы, шум — усё зліваецца ў адзіны базарны гуд. У мястэчку на вуліцы становяцца з аднаго боку прыехаўшыя стараверы з яблыкамі, пернікамі, булкамі; прадаюцца тут таксама крыжыкі, абразы, не так даўно тут можна было пабачыць разнастайныя польскія кніжкі, «шкоплеры» і г. д. З другога боку сядзяць жабракі, большасць з іх спявае рэлігійныя песні, «літаніі». На дзядзінцы касцёла таўкуцца багамольцы: некаторыя з іх, асабліва жанчыны-шляхцянкі, паўзуць на каленях вакол храма, іншыя спяшаюцца ўнутр паслухаць арган. Тут людзі набываюць розныя часткі чалавечага цела, зробленыя ў мініяцюры з воску: хто пакутуе на галаўны боль, купляе галаву ў спадзяванні пазбавіцца хваробы; людзі з дрэнным зрокам набываюць вочы; дзяўчыны купляюць васковыя пласціны з выявай чалавека, каб быць статнымі і прыгожымі. Усе падобныя рэчы ляжаць першапачаткова перад абразом Божай Маці, адкуль трапляюць у продаж.

З касцёла накіроўваюцца да сваіх фурманак абедаць. Потым набываюць усё неабходнае і вяртаюцца дамоў. Малым прывозяць яблыкаў і абаранкаў…» (*Чытанні ў імператарскім Таварыстве гісторыі і старажытнасцей расійскіх пры Маскоўскім універсітэце, 1871 год*).

Напачатку XX стагоддзя насельніцтва Міёраў складала 145 жыхароў. У мястэчку дзейнічалі габрэйскае вучылішча і царкоўнапрыходская школа. Праз два гады пасля таго, як да глыбінкі дайшлі звесткі пра Крывавую нядзелю, пачаліся сялянскія хваляванні. На сходзе ў Міёрах сяляне адмовіліся плаціць падаткі на ўтрыманне валаснога суда і абвінавацілі мясцовае праўленне ў прысваенні сабраных сродкаў. Натоўп нават хацеў утапіць у возеры валаснога старшыню Пашкевіча, але на дапамогу чыноўніку прыйшоў ксёндз Барадзіч — той самы, які ў гэты час ужо распачаў у мястэчку будаўніцтва касцёла.

У 1907 годзе ў Міёрах пабудаваны Успенскі касцёл, які і сёння з'яўляецца галоўнай славутасцю горада. Іншыя помнікі культуры і архітэктуры, акрамя пары дамоў шараговай гарадской забудовы канца XIX -— пачатку XX стагоддзя, на жаль, не захаваліся да нашых дзён.

Паводле Рыжскага мірнага дагавора Міёры трапляюць у склад Польшчы і становяцца цэнтрам гміны Дзісненскага павета Віленскага ваяводства. Неўзабаве ў мястэчку пражывалі ўжо 422 чалавекі. У другой палове 1920-х гадоў у Міёрах дзейнічалі 2 млыны, аптэка і 5 крам; працавала запалкавая фабрыка (да 1931 года). Крыху пазней праз мястэчка была пракладзена чыгунка Друя — Варапаева.

У 1939 годзе Міёры ўвайшлі ў склад БССР і ўжо праз год становяцца цэнтрам раёна Вілейскай вобласці.

З ліпеня 1941 года Міёры былі акупіраваны фашыстамі. Па расказах відавочцаў, немцы проста прыехалі ў мястэчка на матацыклах і машынах. Акупацыя адбылася вельмі нечакана і хутка.

У тыя часы асноўную частку насельніцтва Міёраў, як і шматлікіх іншых мястэчак Беларусі, складалі габрэі. Іх акупанты спачатку не чапалі, але потым сагналі ў гета, якое знаходзілася на сучаснай вуліцы Леніна. Летам 1942 года, раніцай, наехала шмат немцаў. Габрэяў выгналі на плошчу (сучасная плошча Загінуўшых Барацьбітоў) і раздзялілі на тры групы. Гэтымі групамі іх павялі ў

суседнюю вёску Крукаўку (сёння частка Міёраў, раён мясакамбіната). Ля вёскі ваеннапалонныя ўжо капалі для іх ямы-магілы… Калі немцы распачыналі расстрэл, непадалёку пасвіліся статкі кароў. І некаторыя габрэі, пераважна з другой і трэцяй груп, змаглі ўцячы ад ямы, хаваючыся менавіта за гэтымі каровамі. Фашысты не сталі страляць па статку...

Сярод расстраляных былі і старыя, і жанчыны, і дзеці…

Пасля расстрэлу ямы закопвалі тыя ж палонныя, якія іх і капалі. Як казалі сведкі тых жудасных падзей, кроў цякла з ямы некалькі дзён. Загадана было нават прывезці дадаткова пяску, каб засыпаць крывавыя крыніцы. Пасля ў тым жа месцы фашысты расстрэльвалі цыган… Увогуле, па афіцыйных звестках, акупанты загубілі ў Міёрах 662 чалавекі.

4 ліпеня 1944 года мястэчка было вызвалена войскамі першага Прыбалтыйскага фронту разам з партызанамі Вілейскага злучэння імя Калініна ў ходзе Полацкай аперацыі.

У пасляваенны час у Міёрах пачалі будавацца заводы, дамы; актыўна развівалася інфраструктура. У 1971 годзе (з папраўкамі і дапаўненнямі ў 1980) была зацверджана гарадская планіроўка, і колішняе мястэчка стала ператварацца ў сапраўдны горад.

З 1957 года Міёры — гарадскі пасёлак, з 1972 года — горад.

## Чырвоны касцёл над возерам

Як ужо адзначалася вышэй, галоўнай каштоўнасцю сённяшніх Міёраў з’яўляецца Успенскі касцёл. Хацелася б больш падрабязней спыніцца на гісторыі гэтага помніка.

Ідэя пабудовы новага касцёла належала ксяндзу Іосіфу Бародзічу, які ў 1905 годзе быў накіраваны на службу ў Міёры. Адразу ж ксёндз распачаў шырокую кампанію па зборы сродкаў на будаўніцтва новага храма. Бародзіч не толькі займаўся зборам грошай з мясцовых прыхаджан, але і здабываў іх сам. Ксёндз выдаў серыю лістовак «Цаглінкі на будаўніцтва касцёла» з выявай будучага храма і кароткімі звесткамі пра яго. Людзі маглі набываць гэтыя лістоўкі за пэўную цану і перадаваць такім чынам грошы на будаўніцтва. Акрамя таго, вандруючы па Польшчы, ксёндз чытаў пропаведзі, наладжваў сувязі і шукаў дадатковыя сродкі. У Варшаве, Вільні і іншых гарадах, дзякуючы Бародзічу, праводзіліся дабрачынныя канцэрты, грошы з якіх прызначаліся будучаму Міёрскаму храму. Дзякуючы такой актыўнай кампаніі ўжо праз два гады новы касцёл быў пабудаваны. Гэта сталася вялікім дасягненнем, калі ўлічваць памеры святыні і кошт цэглы, якой у Міёрах у той час увогуле не было. Хуткасць будаўніцтва абумоўлена і тым, што касцёл узводзілі «ўсім светам»: актыўны ўдзел у будаўніцтве прымалі і самі мясцовыя жыхары.

Нам вядомы фрагмент надпісу на цагліне новага касцёла: «Na miejscu 400-letniej kaplicy, której grozi ruina, z ofiar współżyjących wznosi się murowany Kościół.... Komitet Budowy Kościoła w Miorach» («На месцы 400-гадовай капліцы, якой пагражала разбурэнне, з агульных ахвяраванняў стаіць гэты мураваны Касцёл… Камітэт Будаўніцтва Касцёла ў Міёрах»).

Расійскія чыноўнікі, якія праз скрып зубоў дазволілі будаўніцтва каталіцкага храма, адпомсцілі святару. Пасля першай жа месы ў новым касцёле Іосіф Бародзіч быў арыштаваны царскімі ўладамі і высланы ў Ашмяны. Потым святар быў накіраваны спачатку ў Яраслаўль, а пазней у Рыбінск. Аднак нават у ссылцы ксёндз працягваў сваю місію і будаваў новыя храмы. У рэшце рэшт, І. Бародзіч быў сасланы ў латвійскі манастыр. Неўзабаве над ім адбыўся суд, які прыгаварыў Бародзіча да зняволення ў фартэцыі Дынабурга. Каб пазбегнуць несправядлівага



*Духоўная святыня Міёраў — Успенскі касцёл.*

пакарання, ксёндз падкупіў ахоўніка і выскачыў з цягніка, на якім святара перавозілі ў месца зняволення.

Далейшы лёс ксяндза быў таксама вельмі насычаным і цікавым. Прайшоўшы доўгі шлях прыгод і выпрабаванняў, у роднай Польшчы Бародзіч патрапіў пад абвінавачванне ў шпіянажы на карысць бальшавіцкай Расіі. І тут ксяндза выратавалі якраз жыхары Міёршчыны. Яны сабралі ў яго абарону больш за 5 тысяч подпісаў. Падпісваліся не толькі каталікі, але таксама праваслаўныя і габрэі.

Пасля вайны касцёл закрылі і выкарыстоўвалі пад амбар. Толькі ў 1956 годзе, дзякуючы намаганням ксяндза Яна Грабоўскага, былога вязня ГУЛАГа, храм быў

адроджаны. Грабоўскі, па-першае, дамогся вяртання будынка, а па-другое, самастойна правёў у ім рамонт.

У 1985 годзе пробашчам у Міёрскім касцёле стаў Уладзіслаў Пятрайціс. Гэты ксёндз быў адным з першых, хто пасля распаду Савецкага Саюза пачаў маліцца і прапаведаваць па-беларуску; сам займаўся перакладамі малітваў з польскай мовы. Пятрайціс выдаваў газету «Голас душы» — адно з першых беларускамоўных каталіцкіх выданняў. Акрамя таго, ксёндз Уладзіслаў паставіў у Мёрах помнік ненароджанаму дзіцяці. На жаль, гэты святар пайшоў з жыцця 9 мая 2011 года. Аднак сапраўднае адраджэнне касцёла пасля доўгіх гадоў атэізму, якое пачалося з сярэдзіны 1990-х гадоў, актыўна працягваецца і сёння. Пра гэта сведчыць і тое, што з 2001 года ў Міёрах штогод праходзіць фестываль калядных песень «Зорка Бэтлеема», які збірае юных выканаўцаў з парафій Віцебскай дыяцэзіі. Акрамя таго, у 2011 годзе на Каляды ў Міёрах адбылася пастаноўка Батлейкі, што таксама можа стаць добрай традыцыяй.

Трэба адзначыць, што пра Міёрскі касцёл існуе некалькі легенд. Напрыклад, лічыцца, што пад возерам ёсць падземны ход, які звязваў стары касцёл з храмам на супрацьлеглым беразе, калі яшчэ не было дамбы. А ёсць і абсалютна рэальная гісторыя пра тое, што калісьці на скрыжаванні сучасных вуліц Леніна і Кірава стаяла статуя Божай Маці, ад якой у часы сталінізму было загадана пазбавіцца. І статую проста спіхнулі бульдозерам у ваду. Што цікава, ніякіх парэшткаў скульптуры не знайшлі, хоць і патанула яна не глыбока. Мясцовыя даследчыкі тлумачаць гэта тым, што дно ў возеры глеістае, маўляў, скульптуру ўсмактала ўглыб. Так ці інакш, пасля будаўніцтва Набярэжнай у 2003 годзе шанцаў знайсці хоць фрагмент статуі амаль не засталося. Людзі кажуць, што трактарыста, які выканаў той варварскі загад, потым напаткаў жудасны лёс — быццам бы Божае пакаранне…

## Шляхамі мінулай велічы

На сучаснай Міёршчыне нямала мястэчак і вёсак, якія маюць больш старажытную і багатую гісторыю, чым сам райцэнтр. Аднак шматлікія войны, грамадзянскія ўзрушэнні, геапалітычныя змены і іншыя разбуральныя падзеі, якіх прашумела багата на Міёрскай зямлі, прывялі да таго, што старажытныя цэнтры эканомікі і культуры апынуліся ў заняпадзе, шматлюдныя паселішчы вымерлі, старажытныя помнікі гісторыі і культуры назаўжды зніклі. Сёння Міёршчына з'яўляецца фактычна глухой правінцыяй, аднак так было не заўсёды. Вось толькі невялікі спіс гістарычна адметных мясцін сучаснага Міёрскага раёна:

**Горад Дзісна.** Першыя пісьмовыя звесткі пра Дзісну датуюцца 1461 годам (больш чым на паўстагоддзя раней за Міёры). Дзякуючы выгаднаму геаграфічнаму і геапалітычнаму становішчу паселішча вельмі хутка развівалася эканамічна, культурна і дэмаграфічна.

Магутны штуршок да развіцця мястэчка атрымала пасля ўзяцця Іванам Грозным у 1563 годзе Полацка. У гэтай вострай сітуацыі знакаміты Стэфан Баторый хутка пачаў будаваць у Дзісне новы замак для абароны ўсходніх межаў дзяржавы. Неўзабаве замак быў пабудаваны. У 1566 годзе Жыгімонт Аўгуст загадаў развіваць мястэчка каля гэтага стратэгічнага аб'екта. Для больш актыўнага развіцця жыхарам даваліся разнастайныя палёгкі (напрыклад, права бяспошліннага гандлю) тэрмінам у восем год. І ўжо ў 1567 годзе Дзісна атрымала свой першы герб, а праз два гады — Магдэбургскае права. Пасля гэтага Дзісна становіцца цэнтрам староства Полацкага ваяводства.

У часы Лівонскай вайны ў 1579 годзе Дзісненскі замак зрабіўся цэнтрам збору войскаў Стэфана Баторыя перад вызваленчым паходам на Полацк.

У самым пачатку вайны з Масковіяй 1654—1667 гадоў, бурмістр Дзісны паздрадніцку здаў горад ворагам. Аднак праз шэсць год, калі да Дзісны падышло войска ВКЛ, мясцовая шляхта і казакі, што знаходзіліся ў замку, звязалі акупантаў і адчынілі браму літоўскаму войску. Здраднік бурмістр быў павешаны на замкавай браме.

Пасля другога падзелу Рэчы Паспалітай Дзісна трапляе ў склад Расіі і становіцца цэнтрам Мінскай, а з 1842 года — Віленскай губерні.

У час паўстання 1831 года народныя сілы колькасцю да 3 тысяч чалавек вызвалілі на некаторы час Дзісну з-пад расійскай улады.

Шмат разоў Дзісна пакутавала ад пажараў (1700, 1865, 1882) і паводак (1870, 1878); у 1712 годзе ў горадзе ўспыхнула эпідэмія чумы. Падчас пажараў было страчана шмат каштоўнасцей, у тым ліку старажытных будынкаў. Паказальна, што напярэдадні апошняга буйнага пажару 1882 года знакаміты расійскі вандроўнік Сямёнаў-Цян-Шанскі назваў Дзісну найлепшым месцам Віленскай губерні.

У 1910 годзе ў Дзісне адбылася першая ў краіне пастаноўка прафесійнага беларускага тэатра пад кіраўніцтвам Ігната Буйніцкага, які, дарэчы, быў ураджэнцам Дзісненшчыны.

Горад значна пацярпеў у час Вялікай Айчыннай вайны: у адрозненне ад Міёр, Дзісну бамбілі, за горад вяліся баі. У выніку пасля сябе фашысты пакінулі разбураныя будынкі і амаль чатыры тысячы забітых дзісненцаў.

Сёння Дзісна з'яўляецца самым маленькім горадам Беларусі. Насельніцтва мястэчка цяпер складае прыкладна дзве тысячы пяцьсот чалавек. І тут трэба нагадаць, што стагоддзе таму, згодна з перапісам 1904 года, у Дзісне было больш за 9 тысяч жыхароў (нават больш, чым у сучасных Міёрах).

Увогуле пра Дзісну трэба пісаць асобны артыкул, бо гісторыя гэтага паселішча вельмі цікавая і насычаная і яе аніяк нельга выкласці ў некалькіх сказах.

**Лявонпаль.** Сучасны Лявонпаль — маленькая вёска на мяжы Міёрскага раёна на Заходняй Дзвіне. Аднак некалькі стагоддзяў таму гэта быў адзін з культурных цэнтраў усяго краю.

У XVIII стагоддзі пісар вялікі літоўскі Мікалай Тадэвуш Лапацінскі набыў маёнтак Чурылавічы Полацкага ваяводства і перайменаваў яго ў Лявонпаль у гонар свайго бацькі — героя Турэцкай вайны. Мікалай Тадэвуш пачаў будаўніцтва ў маёнтку палаца ў стылі позняга барока, побач з якім разбіў французскі парк. Цікава, што для гэтай справы ў Лявонпаль быў запрошаны італьянскі архітэктар А. Гену, які і стварыў праект сядзібы. У 1750 (па іншых звестках, у 1769) годзе палац быў пабудаваны.

У новы маёнтак Лапацінскі перавёз увесь фамільны архіў, бібліятэку і старажытную галерэю. У Лявонпаль патрапілі старажытныя дыярыушы, хронікі, жыццяпісы, атласы, творы класікаў на лацінскай, італьянскай і французскай мовах, працы Андрэя-Максіміліяна Фрэдры, Франсуа Рабле, Станіслава Сташыца і іншых аўтараў.

Каля палаца былі зроблены аранжарэі, у якіх раслі ананасы, цытрусавыя, гранаты і шматлікія іншыя экзатычныя дрэвы. Апроч таго Лапацінскія адкрылі ў маёнтку друкарню, фізічную і хімічную лабараторыі.

Пасля смерці Мікалая Лапацінскага маёнтак перайшоў да яго сына Яна Нікадзіма. Нашчадак сумленна працягваў справу бацькі і актыўна папаўняў запасы культурных артэфактаў. Дзякуючы яму, у палац патрапіла шмат скульптур, кніг і карцін, сярод якіх былі нават чатыры арыгіналы карцін Рубенса.

Менавіта Яну Нікадзіму належала ідэя пабудаваць памятную калону ў гонар Канстытуцыі Рэчы Паспалітай. Справа ў тым, што ў той час ужо адбыўся першы падзел Рэчы Паспалітай, і Лявонпаль апынуўся на самай мяжы дзяржавы — на другім беразе Дзвіны была ўжо Расія. Да нашых часоў дайшоў каментар самога Яна Нікадзіма з гэтай нагоды: «Задумаў я ўвекавечыць тут, на мяжы Рэчы Паспа-



*Сучасны міёрскі гарадскі пейзаж.*

літай, перад тварам нашага грознага ворага, вялікую справу Канстытуцыі 3 мая, у якой ёсць і мая, хоць і сціплая, частка. З гэтай мэтай загадаў я вымураваць вялікі слуп паводле майго накіду на адкрытым месцы, амаль над самай Дзвіной, каб ён быў здалёк бачны нашым нешчаслівым братам за кардонам і падмацоўваў іхныя сэрцы надзеяй. На слупе я змясціў табліцу з адпаведным надпісам».

Акрамя іншага, Ян Нікадзім заснаваў у Лявонпалі адну з першых у рэгіёне ткацкіх фабрык, машыны для якой былі набыты ў Англіі. Цікава, што некаторыя льняныя вырабы, зробленыя на гэтай фабрыцы, экспартаваліся ў краіны Еўропы.

У 1772 годзе ў Лявонпалі пабудавалі драўляную ўніяцкую царкву са званіцай.

На жаль, другі сын Мікалая-Тадэвуша — Тамаш-Ігнацій Лапацінскі — неўзабаве вывез усе лявонпальскія зборы і перанёс фамільную рэзідэнцыю ў Сар'ю, нягледзячы на тое, што там не было мураванага палаца. З таго часу Сар'я сталася галоўнай сядзібай Лапацінскіх да пачатку XX стагоддзя, а палац у Лявонпалі пачаў паступова прыходзіць у заняпад.

Будынак моцна пацярпеў у час паўстання 1831 года, калі яго палілі расійскія казакі, помсцячы за ўдзел прадстаўнікоў роду Лапацінскіх у збройным чыне супраць улады. Царскія войскі поўнасцю абрабавалі сядзібу, аднак сам будынак палаца ў той час захаваўся.

У 1841 годзе мясцовыя сяляне паднялі новы бунт, на гэты раз ужо супраць пераходу з уніяцтва ў праваслаўную веру. Улады зноў перамаглі. Бунт быў падаўлены, цэрквы пераведзены ў праваслаўе, а маёнтак Лапацінскіх быў канфіскаваны. Пасля гэтых падзей комплекс прыйшоў у заняпад. Праз чатыры гады маёнтак вярнулі Лапацінскім, аднак на той час яму ўжо быў неабходны капітальны рамонт. На жаль, у шляхціцаў, якія ўжо канчаткова пераехалі ў іншыя маёнткі, сродкаў на лявонпальскі палац не знайшлося.

Ужо ў пачатку XX стагоддзя ўзнавіць былую веліч Лявонпаля падахвоціўся вядомы гісторык і калекцыянер ЯўсебіВуш Лапацінскі. Ён адрамантаваў палац, пашырыў парк, перавёз у Лявонпаль свае калекцыі. На пэўны час маёнтак зноў

стаў буйным цэнтрам краю, менавіта сюды нярэдка з'язджалася на балі і музычныя вечарыны мясцовая шляхта. Аднак хутка пачалася Першая сусветная вайна, неўзабаве — савецка-польская. Менавіта ў часы апошняй палац зноў быў моцна пашкоджаны — лінія фронту на некаторы час усталявалася на Дзвіне і Лявонпаль некалькі разоў трапляў пад абстрэлы.

Пасля вайны Лявонпаль апынуўся ў складзе Польшчы. Яўсебіўш Лапацінскі, які ў той час жыў у Вільні, ужо не мог рамантаваць палац і таму перадаў яго пад каталіцкі касцёл. На жаль, пры перабудове палаца ў храм канчаткова быў страчаны першапачатковы інтэр'ер помніка. Потым будынак яшчэ шмат разоў пераходзіў з адных рук у другія, у ім у розныя часы размяшчаліся малаказавод, тэхнікум, спецшкола і прафілакторый. Сёння палац Лапацінскіх зноў з'яўляецца каталіцкім касцёлам.

Такім чынам, некалі славуты і багаты Лявонпаль з цягам часу прыйшоў у заняпад. У 1939 годзе пасля ўключэння гэтых зямель у склад БССР статус паселішча быў нават паніжаны да вёскі.

Цікава тое, што ў Лявонпалі захаваліся цудоўныя помнікі даўніны. І палац, і царква, і калона стаяць і сёння. Гэта ўнікальны выпадак на пакутнай Міёрскай зямлі, які можна патлумачыць хіба толькі аддаленасцю Лявонпаля ад цывілізацыі і ад яе разбуральнай моцы. Аднак трэба адзначыць, што лявонпальскія помнікі знаходзяцца ў страшэнным заняпадзе (акрамя, мабыць, царквы) і разбураюцца амаль на вачах.

Таксама, распавядаючы пра гэты дзіўны куток Беларусі, трэба нагадаць, што ў Лявонпалі існуе ўнікальны музей радзімазнаўства, у якім сабраны рэдкія экспанаты даўніны. Гэты музей, а таксама народны музей «Хата бабы Ядзвінні» былі заснаваны па ініцыятыве вядомага ўраджэнца Лявонпальскай зямлі паэта Сяргея Панізніка.

Экспазіцыя музея радзімазнаўства складаецца з больш чым 3 тысяч адзінак захоўвання. Сярод іх і такія цікавыя экспанаты, як драўляны ровар, гармонік пачатку XX стагоддзя, Евангелле 1914 года, «Беларускі каляндар» 1910 года і іншыя. У памяшканні ўжо не хапае месца, і новыя экспанаты даводзіцца размяшчаць у мясцовым клубе.

Увогуле панскія сядзібы і іншыя помнікі гісторыі і архітэктуры захаваліся таксама ў Александрове, Дзедзіне, Ідолце, Каменполлі і іншых населеных пунктах Міёршчыны. Акрамя таго, Міёрскі раён багаты на цікавыя і маляўнічыя прыродныя аб'екты. Гэта і старажытная «чыстая» дубрава ў Язне, і балота Ельня — самае вялікае ў Еўропе, дзе захаваліся ўнікальныя расліны і жывёлы, занесеныя ў Чырвоную Кнігу, і вадаспад на рацэ Вята, і амаль сотня чыстых і прыгожых азёр. Такім чынам, відавочна, што зямля Міёрская займае годнае месца ў шэрагу цікавых, маляўнічых і гістарычных мясцін Беларусі.

Гісторыя Міёрскага раёна часам сумная, часам драматычная, але ж, бясспрэчна, багатая. Жыхарам Міёршчыны ёсць чым ганарыцца. А калі людзі будуць памятаць і шанаваць сваю гісторыю, свае карані, то і будучыня будзе шчаслівай і славутай.